***Каб пазбыцца душэўных аковаў,***
***Каб не страціць ні волі, ні мовы,***
***Трымайце адзін запавет:***
***Хай ваша прыгожае слова***
***Робіць прыгожым наш свет.***




***Адзін з першых нясвіжскіх пісьменнікаў Мікалай Крыштаф Радзівіл “Сіротка”***

**Нясвіжскі ўток**. Літаратурна - мастацкі зборнік № 2, 2023 г. На беларускай мове. Ліда. 319 с.

Выданне Літаратурна-музычнага аб’яднання “Валошкі” Нясвіжскага раёна.

Укладальнік: Валянціна Шчарбакова.

Рэдактар: Станіслаў Суднік.

У зборнік уключаны выняткі з творчага даробку нясвіжскіх літаратараў за 2018 - 2023 гг. Скарыстаны здымкі Святланы Польскай, Наталлі Плаксы, з сямейных архіваў аўтараў і з газеты “Нясвіжскія навіны”.

На 1-й старонцы вокладкі: замак у Нясвіжы і “замак” у Сейлавічах (2022 г.). Аўтары здымкаў не ўстаноўлены.

## Ад рэдактара

Сёлета Нясвіжу - 800 гадоў.

А летась споўнілася 460 гадоў ад моманту, як у 1562 г. беларускім гуманістам і асветнікам Сымонам Будным ў Нясвіжы былі аддрукаваны "Катэхізіс" і "Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам", у якіх перашадрукар выклаў свае рэлігійныя, палітычныя і філасофскія ідэі.

1562 год мы можам лічыць годам, калі пачалася нясвіжская літаратура.

Пазалетась споўнілася 420 гадоў ад моманту выдання ў 1601 годзе кнігі «Перагрынацыя, ці Паломніцтва ў Святую зямлю» Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі.

У 2025 годзе споўніцца 320 гадоў з дня нараджэння пісьменніцы Францішкі Уршулі Радзівіл.

У 2019 годзе споўнілася 200 гадоў з дна нараджэння Аляксандра Незабытоўска (02.10.1819, в. Смалічы Нясвіжскага раёна) беларускага пісьменніка, філосафа, гісторыка.

Сёлета споўнілася 200 гадоў (1823) з дня нараджэння Людвіка Кандратовіча (Уладзіслава Сыракомлі) і 190 гадоў (1833) ад моманту пачатку яго навучання ў павятовай школе пры дамініканскім кляштары ў Нясвіжы.

У 2025 годзе споўніцца 125 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Жылкі (27 траўня 1900, в. Макашы, цяпер Нясвіжскі раён, Мінская вобласць), беларускага паэта, перакладчыка, крытыка.

Летась споўнілася 120 гадоў, як у 1902 годзе Кастусь Міцкевіч (Якуб Колас) скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, у якой навучаўся на працягу пяці гадоў (1898-1902).

Летась споўнілася 115 гадоў, як вясной 1907 года у маёнтак Дольны Сноў прыехаў працаваць Янка Луцэвіч (Янка Купала). Тут дачакаўся ён весткі пра выданне свайго першага зборніка "Жалейка".

Пазалетась споўнілася 115 гадоў з дня нараджэння паэта, драматурга, празаіка, выдаўца і грамадскага дзеяча Сяргея Новіка-Пеюна (1906-1994).

Пазалетась было 105 гадоў, як у 1916 годзе паступіў у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю Кузьма Чорны, але скончыць яе не здолеў, бо ў 1919 годзе семінарыю зачынілі польскія ўлады.

Сёлета споўнілася 105 гадоў з дня нараджэння Паўлюка Пранузы.

Летась споўнілася 100 гадоў ад нараджэння паэта з нясвіжскіх Юшавіч Івана Гурбана, сябра СП Беларусі з 1994 года, аўтара зборнікаў "Пахі вясны," "Чубаценькі будзільнік", "Калі ветрык спачывае".

Сёлета споўнілася 85 гадоў з дня нараджэння Алеся Стадуба (нарадзіўся 24.04.1938 г. у в. Юшавічы Нясвіжскага раёна). Скончыў 10 класаў у Нясвіжы.

Гэта самы беглы агляд літаратурнага мінулага Нясвіжчыны. А гэтым зборнікам мы дадаём да нясвіжскай літаратурнай гісторыі 21 сучаснага нясвіжскага аўтара. Іх можна аднесці да розных пакаленняў, але, на жаль, моладзі вельмі мала. А хацелася б, каб яна была, каб нясвіжскія школьнікі, навучэнцы каледжа далучыліся да літаратурнага працэсу.

Не ўсе нясвіжскія творцы трапілі ў зборнік, але такой задачы і не стаяла. Праз нейкі час будзе новы. Таму, пішыце, сябры, і напісанае не толькі застанецца, але і апублікуецца.

***Станіслаў Суднік.***



# *Уладзімір Жылко*

*Нарадзіўся 30 жніўня 1945 года ў горадзе Алатыр Чувашскай АССР Расійскай Федэрацыі ў сям'і вайскова-га лётчыка, штурмана дывізіі Трафіма Андрэевіча Жылко і настаўніцы пачатковых класаў Зінаіды Андрэеўны. Перамогу над Японіяй сям'я сустрэла ў Маскве. Але цягнула на радзіму. Толькі вяртацца не было куды: родную вёску Прусы, што ў Капыльскім раёне, спалілі фашысты. Праз знаёмых даведаліся, што недалёка ад родных мясцін, у Нясвіжы, прадаецца дом. Вясной 1947 года сям'я пераехала ў Нясвіж.*

*У 1952 годзе Уладзімір стаў вучнем Рускай сярэдняй школы, якая да часу заканчэння ператварылася ў сярэднюю школу № 2. Атэстат сталасці Уладзімір Трафімавіч атрымаў у 1963 годзе. За поспехі ў вучобе ён быў узнагароджаны залатым медалём.*

*У тым жа годзе паступіў на фізічны факультэт БДУ у Мінску. Але закончыць навучанне не ўдалося: падчас спартыўнай трэніроўкі атрымаў цяжкую траўму і быў вымушаны вярнуцца дадому. Паправіўшы здароўе, працаваў грузчыкам, а затым слесарам на Нясвіжскім хлебазаводзе.*

*У 1969 годзе Уладзімір Трафімавіч быў прыняты на працу ў Нясвіжскі РАУС, а ў жніўні 1970 года паступіў на завочнае аддзяленне юрыдычнага факультэта БДУ, якое скончыў у 1976 годзе.*

*У гэты час ён працаваў юрыстам упраўлення сельскай гаспадаркі, выкон-*

*ваў абавязкі народнага суддзі, а пасля перайшоў на працу ў пракуратуру Нясвіжскага раёна, дзе працаваў да 2006 года. Прайшоў шлях ад памочніка да намесніка пракурора.*

*Вершы пачаў пісаць у апошніх класах школы.*

*Магчыма, юнацкія захапленні так і засталіся б на паперы, каб не выпадковая сустрэча з Паўлюком Пранузам і Рыгорам Барадуліным. Рыгор Барадулін сказаў, што хаваць творы ў стол нельга, трэба даносіць іх да чытача. Некалькі вершаў паэты ўзялі сабе. Калі ў газеце "Мінская праўда" ў 1980 годзе, пазней у раённай газеце "Чырвоны сцяг" з'явіліся першыя друкаваныя творы, іх аўтар вельмі здзівіўся: сам ён лічыў, што яго вершы гэтага не вартыя. Але пісаць усё ж такі не перастаў.*

…..

*У 2009 годзе У.Т. Жылко прадставіў свае творы на суд сяброў раённага літаратурна-музычнага аб'яднання "Валошкі", а крыху пазней аўтара прыхільна сустрэлі на адным з пасяджэнняў Абласнога народнага клуба "Жывіца" ў Мінску.*

*У 2010 годзе У.Т. Жылко стаў лаўрэатам раённага конкурсу "Старонкі той далёкай вайны".*

*Піша на беларускай, рускай мовах, займаецца перакладам твораў польскамоўных паэтаў-землякоў.*

*Друкаваўся ў газеце "Нясвіжскія навіны", неаднаразова прымаў удзел у літаратурных перадачах на раённым і рэспубліканскім радыё. Вершы ўвайшлі і ў абласныя зборнікі "На парозе вечнасці" і "Рамонкі цалуюць калені".*

## Прысады Нясвіжа

Тут вуліц уздоўж - старажытныя дрэвы,
Задумлівы парк паўстае…
Старой сівізны непрыкметна напевы
Ўліваюцца ў думкі твае.

Будынкі, што бачылі Багратыёна,
Дзе Будны друкарню ствараў
То цэнтр невялічкі малога раёна,
А колькі тут зроблена спраў?!

Татары і немцы, французы і шведы
Прайшлі праз цябе чарадой
Ніхто перамог над табою не зведаў -
Ты з гордай стаяў галавой!

… Вартоўная вежа чырвонае цэглы,
Да неба паднёсся касцёл,
То праца людзей у падмурак тут легла
З Нясвіжа, з ускраінных сёл…

Над паркам і возерам - замка палацы,
Ракетамі вежы стаяць.
То помнік сялян непамернае працы,
Ды сцены пра гэта маўчаць…

Пабудзь у цішы ля альбянскага дуба
Ля Вострае Брамы пастой…
Тут дрэвы, што бачылі дзядзьку Якуба,
Шумяць і шумяць над тваёй галавой.

## Гімн беларускай маці

Сядзіць пры хаце, склаўшы рукі…
Былі і дзеці, былі ўнукі.
І шчабятала наваколле,
І шчасця тут было раздолле…
Ды ўсё загінула з вайною.
Якою?
Першай,
сто другою?!

О! Колькі іх прайшло праз вас?
То не адкажа нават час…

Французы, немцы і татары
І шмат яшчэ якой пачвары
Праз вас туды-сюды хадзіла,
Ды не зламала вашу сілу!

… А вы чакалі, усё чакалі,
Хоць час і зносіў думак хвалі,
Ды з пакалення ў пакаленне
Чакалі шчасця вы з'яўлення!

## МЕСЯЦАСЛОЎ

### Студзень

Мароз - траскун, - і сонца ззяе,
Блішчыць сняжынак белізна
І цішыня стаіць глыбокая такая,
Чуваць, як птушка ў лесе пралятае,..
Ды неба блеклага навокал сівізна.

### Люты

Халодным промнем сонца асвятляе
Жыцця заснуўшага, бы ў казцы, хараство.
Мо толькі дрэва ў лесе дзе страляе,
Галодны воўк па гушчары блукае...
То - дзіўнае прыроды рамяство!

### Сакавік

Ручаі звіняць і сонца ззяе,
У лужынах шчабечуць вераб'і.
Усё вясну жывое сустракае,

З нецярпеннем радасным чакае
Каб хутчэй запелі салаўі!

## Красавік

Зямля, як дзеўка на выданне,
Чакае рук гаспадара,
Чакае першага спаткання
З ім разам - моцы атрымання...
- Пара, пара, ужо пара!

## Травень

У кветках сады,
салавейка спявае,
У зелені ўсё - зрок не кінеш куды...
Хоць і мароз зранку часам бывае,
Ён на настрой аніяк не ўплывае!
Мніцца, што так будзе далей заўжды!

## Чэрвень

Хай балюе прыроды вяселле!
Голас грому, маланка блішчыць!
Хай у градах буйнуе і зелле!
То - жыцця адраджэння вяселле.
Мусіць, так таму трэба і быць!!!

## Ліпень

Залатымі каласамі
Поле жытняе звініць,
Над палямі, над лясамі
Быццам неба галасамі
Жаўруковы звон стаіць...

## Жнівень

Часта сонейка знікае,
І салома ўжо ў стагах,
Нізка ластаўкі лятаюць,
Дождж часцей нам наклікаюць,
Халадае па-начах...

## Верасень

Дзеці - у школу, а птушкі - у вырай.
Бабы цярэбяць ужо буракі...
Часам над полем плыве павуцінне,
Неба не зззяе ўжо яркаю сінню,
Нават днём холадам цягне з ракі.

## Кастрычнік

Імжа закрыла ўсё навокал.
Зямля не можа болей піць
Дажджоў напітаная сокам...
І неяк сумна, адзінока,
- Кастрычнік на двары стаіць!..

## Лістапад

Голыя дрэвы, прамёрзшае лісце,
Сонца ўжо свеціць калі-нікалі,
Нават у лес мне не хочацца выйсці,
І на надворку не буду ўжо чысціць
Ахаладалай за восень зямлі!

## Снежань

Хмурае неба вісіць над пялямі,
Ледзь з-за сумётаў галінкі відаць.

Днём завіруха гудзе і начамі;
Поле даўно не звініць каласамі,
Лёдам скаваныя рэчкі стаяць...

**Ідзе вясна**

Сонца ззяе мне ў вочы,
Як агонь гарыць снег.
Не было быццам ночы -
Пабудзіў яе смех!

Смех вясёлы, няспынны,
Поўны паху вясны.
Па дзіцячы нястрымны,
Разагнаў мае сны.

Ранак! Ранак вясновы
З сонцам разам прыйшоў.
Снег са звонам вясёлым
З даху капае зноў.
Ужо цёпла ў зацішку
Ля драўлянай сцяны
Нават у вечары, крышку,
Чуцен подых вясны.

Выйдзі разам са мною
Распрануты, як я,
Сонца стрэнь веснавое -
У ім столькі жыцця!

Хай душа акрыяе
І як птушка ляціць,
Да вышынь узлятае .
Гэтак трэба нам жыць,

Каб у душы назаўсёды

Мецъ вясновы настрой.
Каб не ведала сэрца,
Што такое спакой!

## Шчодрасць душы

Ранкам праменчык у кроплі расы
Ззяе брыльянтам найпрыгажэйшым.
Так і прыкметы дзявочай красы
Лічыць юнацтва - найдаражэйшым.

Але к апоўдню ўжо знікне раса,
Мо застанецца дзе плямка сухая.
Знешняя так прыгажосць і краса
Нібы сняжынка ў далоні растане.

Шчодрасць душы і пяшчота яе -
Вось што ёсць вечнае, што не старэе!
Гэту красу і ўчынкі твае
Нават і час закрануць не пасмее.

## Нас пакідаюць ветэраны

Нас пакідаюць ветэраны,
Што дзень іх меней на зямлі.
Хоць час і лечыць, кажуць, раны,
Але так многа з іх - зышлі...
Зышлі ў нябыт, і ўжо не прыйдуць.
Смерць паміж намі, як сцяна!
Ніколі зноўку не падыдуць,
Штось не раскажуць нам да сна,
Лагодна з намі пасядзеўшы,
Жыцця каб памяць перадаць.
Бо груз такі на сэрцы меўшы,
Яны не здолеюць маўчаць.
        Зышлі... і з імі ўсё былое
        Мы страціць можам назаўжды,

Што забяруць яны з сабою...
Не дай нам, Божа, той бяды!
Чаму ж тады мы не заўсёды
Іх разумелі да пары,
Цанілі мала ўсе няўзгоды,
Што ў жыцці яны прайшлі?
Нажаль, то пэўна ты ўспрымаеш,
Калі між намі пройдзе смерць...
Аддаў бы ўсё, што меў і маеш
Каб лепей гэта зразумець!
І каб, шануючы здароўе,
Не перабіць, не стурбаваць.
Маўчаць...
І чуць ўсё падрадкоўе,
Што не змаглі яны сказаць.
Нас пакідаюць ветэраны,
Бяруць з сабой жыцця гады,
Але балець іх будуць раны,
У нашых сэрцах назаўжды!

## Ты мусіш крочыць!

Прыйшла зіма... і раптам знікла,
Але даўно нам гэта звыкла.
Бывае так у нас заўжды
Ва ўсе апошнія гады.

Аб гэтым, браце, не кажы,
Няма ўжо той зімы мяжы:
Бялюткі снег - і, раптам, лужы!
І, быццам, не было той сцюжы.

Ланіты толькі апякаў
Мароз, ды раптам снег растаў,
І сонца ў небе зіхаціць.
Ну, мусіць, так таму і быць!

Так і ў жыцці, - хоць бачыш шлях,
Ды апануе часам жах!
То цемра ўсцяж, а то світанне.
Дык мо міне тых бед насланне?

Ды не! - Заўсёды так вядзецца,
Хоць часам нам інакш здаецца...
За белай крочыць цемры пляма,
І будзе так бесперастанна.

Пазнаеш беды ты і гора,
І шчасця атрымаеш мора,
Калі ў жыцці сумленным будзеш,
Калі жыццё аддаў ты людзям.

Не ведаў гора - не пазнаеш,
Калі і шчасце напаткаеш.
Бо як не падаў, то не ўстанеш,
Шчасліва ўверх тады не глянеш!

Жыццё - то нам выпрабаванне.
Тут гора, шчасце і спатканне
З ўсім, што лёс нам напрарочыць...
Але ж ідзі! Ты мусіш крочыць!!!

## Сумленне

Шчасце - жыцця імгненні,
У якія здзяйсняюцца мары.
А што такое сумленне?
Яго непадзельная пара?

Мо нашым імклівым часам,
Калі матэматыка ў модзе,
Калі ўсё падлічым і ўзважым,
Яму і не месца ў прыродзе?

Не! Бо яно - аснова
І ў смутку, і ў шчасці, і ў горы,
Гэта не проста слова,
Хоць кожны.яго гаворыць.

Яно не пятак неразменны,
Заплаціш - не застанецца!
Не пастамент каменны,
Не склеіш, як разаб'ецца.

Яго не падзеліш на часткі,
Дасі, - дык усё адразу,
І не схаваеш на час дзе,
Не вымеш зноў па заказу...

Калі ж хто за кошт сумлення
Шчасце здабыць пажадае,
Той час, як якое зацьменне,
Ні раз у жыцці прыгадае.
... Існуюць ў жыцці нераздельна
У кожным яго імгненні
Шчасце тваё і сумленне
Нішто іх ніяк не падзеліць!

## Прусы

*Разам з усімі жыхарамі вёскі ў гэты дзень*
*расстраляны і спалены*
*абодва мае дзяды і дзве бабулі…*

З першых дзён вайны ў партызаны
Вы пайшлі, каб ворага караць
За Радзіму-маці, яе раны,
Каб адпор фашысцкім гадам даць.

Увосень то было сорак другога.
Помсціў вораг вам за барацьбу,
І фашысты не знайшлі другога,
Як на родных вымесціць злабу…

То не пах травы над вёскай Прусы,
То не водар ад яе садоў -
То ў агні згарэлі беларусы,
На паклон хто к катам не пайшоў.

Стрэлы перарвалі смех дзіцячы,
Сталі дымам бабкі і дзяды,
І да неба цягнуцца, бы з плачам,
Галін рукі - спалены сады.

Толькі
Коміны стаяць, падпёршы неба,
Толькі шчасця спаленага пах…
Там, дзе ўчора смачна пахла хлебам, -
Дым і попел…тут наводзяць жах…

Цяжка, калі прыйдзеш на магілкі,
Пастаіш ля памятнай сцяны…
Робяць кожны год па вас памінкі
Вашы ўнукі, дочкі і сыны.

Ды не толькі ў помніках, памінках,
У памяці вы будзеце людской.
У барацьбе за родную Айчыну
Разам з вамі сталі мы ў ваш строй.

Вы - Героі! І жыццё не дарма
Жудаснай вайне вы аддалі:
У неба ўзняліся вы пажарам, -
На зямлі ж усходы ажылі:

Зноў стаіць - жывая - вёска Прусы,
Зноў дзіцячы смех тут будзіць сны.
Не! Не зломіць вораг Беларусі,
Вечна будуць жыць яе сыны!

**Думка**

Не дарос я да Паэта,
Ды і не ставіў той я мэты.
У вершы каб была ідэя!
Вось на што мая надзея.

Каб я ўзяўся за стыло,
З розумам усё ішло.
І ніякай фанабэры,
"Беларускасці" звыш меры.

Льецца хай душа народа,
А ні звыш метафар мода!
Бо забылі аб красе,
Мова наша што нясе.

Усіх да згоды трэба клікаць,
А не розню нашай тыкаць.
З роду - хоць габрэй, паляк,
Беларус Ты! Як-ніяк.

Прэцца ж моладзь, каб стаць першым.
"Новыя" складае вершы:
"Што да нас было - не так!"
Ды пякуць не хлеб - ляпак!!!

Імкнуцца ўсе да славы, грошай.
…Хай бы верш лепш быў харошы!

**Яна**

У сям'і мужчына - гэта сіла
І ў хаце сваёй гаспадар.
Але як нас жыццё б ні насіла,
Супыніць нас Яна мае дар.

Прытрымае, як трэба, Яна!
Мо пасварыцца трохі часцей…
Калі ж гора, Яна - як сцяна -
За сям'ю, за цябе, за дзяцей!

Ну, а потым прыхіліцца - і ў слёзы!
Спачування і ласкі чакае.
Бо пялёстак пры майскім марозе,
Бо жаночая існасць такая…

То кахай жа яе, ад турбот беражы,
Стань ты ёй у нягоду аплотам.
Хай пяшчота твая не спазнае мяжы.
А астатняе вырашым потым!



# *Людміла Круглік*

*Круглік Людміла Уладзіміраўна нарадзілася 10 верасня 1949 года ў старажытным горадзе Нясвіжы. У 1974 годзе скончыла Берасцейскі педагагічны інстытут імя Пушкіна, факультэт русскай мовы і літаратуры, працавала настаўніцай малодшых класаў, член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Мае сем асабістых зборнікаў паэзіі. Дыпламант міжнародных конкурсаў, мае ўзнагароды Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

## Зямля маіх продкаў

Зямля маіх продкаў. Матуля і тата,
Вытокі жыцця і вякоў карані.
Плыве часу лодка да роднае хаты.
За белай фіранкай мінулыя дні.

Там дзённік і сшытак, старэнькая кніга,
Маўклівы гадзіннік за сэрца кране.
І час пражыты ў пакойчыку ціхім
Бабулінай казкай прымроіцца мне.

Жыцця час кароткі здабыткі і страты
Рухава хавае ў мінулія дні.
Зямля маіх продкаў, бацкоўская хата,
Вытокі жыцця і мае карані.

## Чабаровы вечар

Чабаровы вечар зорку невялічку
Ціхенька люляе ў хуценькай крынічцы.
Бесклапотны вецер шэпчацца з чаротам,
І чуваць здалёку зумканне з балота.

Недзе ў росных травах застракоча конік,
Месяц кучаравы выплыве ў бяздонне.
Кропелька-расінка скоціцца па твары,
Дзе ж тая дзяўчынка, што любіла марыць?

Праплыве і знікне зорачка дзяцінства,
Запазнёна крыкне птушка недзе блізка,
Сцішыцца на момант ветрык, быццам сонны,
Слухаю, чакаю нечага сягоння.

Можа дзён шчаслівых, некалі пражытых?
Уздыхне тужліва сцежка паміж жыта.
Можа вуснаў цёплых з подыхам кахання?
Соладам спакусы спраўджанасць чакання.

Бсклапотны ветрык шэпчацца з чаротам,
Выйшлі зоркі-свечкі. Пасумую потым.
Вечар чабаровы на зыходзе лета,
І радок чарговы з-пад рукі паэта.

## Жыццё

Жыццё, дзе вынікі, растанні.
Глядзіцца месяц у вакно…
У мроях зноў на скрыжаванні
Шляхоў, што адышлі даўно.

Там першы крок, маё каханне,
Мільгаюць вёскі, гарады,

Як на шыкоўнае спатканне
Душой спяшаюся туды.

Там п'ю ваду з лясной крыніцы,
Цяплом адораць землякі.
Час - успамін, нібы жывіца
Натуе дзень мой і шляхі.

У лумках зноў на скрыжаванні
Гляджу я ўдалеч з-пад рукі.
Мой родны кут, маё каханне,
Жыцця пачатак і бацькі.

**Мой ветрык дум**

Азёрны край з маленства мілы,
Сардэчных мрояў уладар.
Мой ветрык дум уздыме крылы,
І я лячу на хвалях мар.

Лячу туды, каб адрадзіцца,
Прайсці сцяжынкамі жыцця,
Каб сінявокае дзяцінства
Узнікла зноў з-пад забыцця.

Прайсціся паркавай алеяй,
Дзе Радзівіл калісь хадзіў…
І на душы ад дум святлее…
А ў вокны свеціць маладзік.

Малюе ён палац, ці браму,
Якую Вострай наraklі,
Ці хату, дзе ў дзяцінстве з мамай,
З бабуляй, з татам мы жылі.

Куток зямлі азёрны, сіні,
З табой душою назаўжды!

Цяпло і слодыч успамінаў
Прайшлі па сэрцы праз гады.

## На арэшыне званы…

На арэшыне званы
Праслаўляюць зранку неба.
І няма ў тым навіны -
Пахне жнівень жытнім хлебам.

Завіліся туманы
Над ракою белай стужкай,
Караванам да вясны
Падаліся ў вырай птушкі.

І схавалася ў сурдут
Водкасць ночы з прахалодай,
Зацішны знайшоўшы кут
Жнівень дасць нам з асалодай:

Дзён гарачых успамін,
Водар яблык, мёду, хлеба.
Развітальны крык з далін
Рэхам адгукнецца з неба.

Жнівень. Рэчка. Туманы.
Пахне поле жытнім хлебам.
На арэшыне званы
Праслаўляюць зранку неба.

## У лабірынтах лёсу

У лабірынтах лёсу,
Паміж сівых пракосаў
Душа ў цішы блукае
Па днях былога раю:

Сустрэчах і растаннях,
Надезях, спадзяваннях.
І раніцай ружовай
Збірае памяць словы.

Ляцяць яны лябёдкай
Ад запаветаў продкаў,
Вядуць сцяжынкай роснай
Паміж сівых пракосаў.

І шэраг розных думак
Ляціць, як птах, без суму
Па днях былога раю,
Дзе бэз квітнее ў маі.

Дзе ранак басаногі
Расою мые ногі
І вуліцай знаёмай
Вяртае час далому.

### На скрыжаванні

Жыццё не раз на скрыжаванні,
На роздуме між трох дарог,
Адказ шукае на пытанне:
Якую выбраць, выбраць з трох.

Ды выбар не такі ўжо просты,
Як ні старайся, ні круці,
Праз чорна-белыя палосы
За лёсам сцежкамі ісці.

Памылка - побач пакаранне -
Так пазнаецца сэнс быцця,
А потым шлях да пакаяння
Праз роздум, сцежкамі жыцця.

Жыццё не раз на скрыжаванні
Блукае ў думках між дарог,
Адказ шукае на пытанне,
Якую выбраць… выбар з трох.

## Родны

Як многа сэнсу ў слове "родны":
Зямля, дзе ты пачаў жыццё,
Дзе мар палёт неверагодны,
І ў кожным кроку адкрыццё.

Любоў бацькоў. А прыйдзе свята -
Духмяны бохан на стале.
Заслоніць ад нягоды хата,
Ці ты юнак, ці пасталеў.

Як многа сэнсу ў слове" родны":
Куток зямлі, бацькоўскі дом
З падтрымкаю неверагоднай,
Паразуменнем і дабром.

Жывуць бацькі - і ты багаты
На шчырасць, ласку і любоў.
З дарог заўжды чакае хата,
Дзе знойдзеш, столькі цёплых слоў.

## Шчасце

Я па жыцці шукаю шчасце,
Перабіраю думак стос,
Бывае так, што раптам гасне
Святло, што мой шануе лёс.

Я крочу ўпарта па дарозе,
Сціскаю моцна кулакі

З надзеяй: " Можа яно зойдзе,
Каб адагрэць мае дзянькі?"

Зірну навокал - б'ецца сэрца,
І я шчаслівы чалавек!
Люблю жыццё і тое месца,
З якім зраднілася навек.

Вярба схілілася там нізка,
Каб слухаць песню ручая,
А шчасце - яно побач, блізка,
Маёй душы другое "я".

Навошта лёс шукаць за морам,
Дзе грак не ходзіць па раллі,
Калі так ярка ззяюць зоры,
Дзе водар роднае зямлі.

### Вымяраю жыцця кіламетры…

З першых дзён, як глынула паветра
І адчула водар зямлі,
Вымяраю жыцця кіламетры
Па сцяжынах, дзе продкі ішлі.

Ажываюць на іх фатаздымкі
Самых яркіх і цёплых падзей.
Там усмешкі дзяцінства, абдымкі
Самых родных і блізкіх людзей.

Вымяраю жыцця кіламетры
Па сцяжынах, дзе продкі ішлі.
Водар роднай зямліцы ў паветры,
І ляцяць ад тых дзён жураўлі.



# *Лілея Мялешка*

*Лілея Віктараўна Мялешка - нарадзілася 17 кастрычніка 1948 года ў горадзе Клецку Мінскай вобласці.*

*У 1971 годзе скончыла Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў. Па адукацыі - выкладчык іспанскай і англійскай моў. Настаўнічала ў Клецкай СШ № 1, працавала старшынёй Клецкага РК прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі, выкладала сусветную мастацкую культуру. Выдатнік Народнай адукацыі БССР.*

*Вершы піша з сярэдзіны 90-х гадоў, друкавалася ў раённай газеце, у выданнях "ЛІМ", "Маладосць", "Кніжны калейдаскоп", "Настаўніцкая газета", "Мінская праўда", "Крыніца", "Культура" і іншых, у шматлікіх калектыўных зборніках паэзіі.*

*22 гады кіравала Клецкім літаратурным аб'яднаннем "Голас", з'яўляецца сябрам Мінскага абласнога народнага клуба кампазітараў і паэтаў "Жывіца". Член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Аўтар паэтычнага зборніка "Зялёная зорка" (2006).*

*Пераможца шматлікіх рэспубліканскіх і абласных конкурсаў.*

## Каханне было - неразлучнае…

*Паэтычны цыкл*

### 1. Закаханыя дрэвы

Пяюць у народзе аб дубе з рабінай,
Пра клён і бярозку, пра явар з калінай…
Няма толькі песні, на жаль, у народзе
Аб дубе з сасной на Нясвіжскай дарозе.

Бярозку той клён не схавае ад хмараў,
А явар каліну - ад студзеньскіх чараў,
Рабіну ад дуба рака аддзяляе,
А нашых каханых - сам лёс зберагае.

Зусім маладымі ствалы іх спляліся,
Раслі цесна-цесна, чуць-чуць разышліся,
Вось так і стаяць, захапленне не тоячы,
Адно з аднаго паглядаў не зводзячы.

Іх шлюб - назаўжды. Ім кахаць - не пакінуць.
А смерць калі прыйдзе - абодвум ім згінуць.
Яны - напамінак аб тых, што кахалі,
Ды смерць прынялі, а любві не спазналі.

…Турысты заезджыя іх разглядаюць,
Картэжы вясельныя іх не мінаюць.
Яны нібы сімвал любві і надзеі
Стаяць на дарозе "Нясвіж-Гарадзея".

### 2. Смерць сасны

Напэўна, свет спасцігне згуба.
Мялеюць рэчкі-раўчукі.

Распаўся шлюб сасны і дуба.
А быў, здаецца ж, на вякі.

Сасна ахвярай шматпакутнай
Стаіць як прывід над зямлёй.
За гэткім волатам магутным
Чаго б было засохнуць ёй?

Яны ж раслі - не мелі гора
І, колькі б часу не прайшло,
Ён быў - надзея і апора,
Яна - прыхільнасць ды цяпло.

Яны без крыўды на самоту
Былі прытулкам зноў і зноў:
Ён ёй - у летнюю спякоту,
Яна яму - падчас вятроў.

Іголкі мела - світку шыла,
А ён - смяяўся ды скідаў…
Употай часцяком тужыла…
Агульных дзетак бог не даў.

Няўжо ж за гэта пакарала
Прырода - знак ліхой бяды?
Як шчодра шышкі ні страсала -
А ён раскідваў жалуды…

Ушчувала зрэдку. Кронай кволай
З дакорам гойдала ў бакі,
Калі занадта быў вясёлы -
Шумела. Як і ўсе жанкі.

Ды ўсё-ткі ёй хапала гарту
На адзіноту ў час зімы,
Стаяць пры ім бяззменнай вартай,
Стан не згінаючы прамы.

Сакрэтаў ад яго не мела,
Ды ў спадзяванні на прыплод
Вясной цвіла, зімою грэла,
Дарыла зелень круглы год.

І ўсю пяшчоту аддавала…
Але душу палоніў змрок,
Бо рэўнасць сэрца ёй ірвала:
Мо, нездарма глядзіць убок?

Не раз даводзілася слухаць
Зайздросны шэпт дзяўчат-сасон
Ёй справа, злева і насупраць;
"Што там у ёй знаходзіць ён?"

"Такога хлопца падчапіла!"
"Ад корня душыць. От, брыда!"
"Прываражыла… Прысушыла…"
"Шаманка! Ведзьма! Злыбяда!"

А ён - аб здрадзе і не думаў…
Яе, як мог, аберагаў
Ад спёкі, туману і суму
І ножкі лісцем укрываў.

А ён - кахаў зімой і летам…
А што адсунуўся далей -
З адной высакароднай мэтай:
Каб толькі ёй было святлей.

Ад ветру студзеньскага гнуўся,
У дождж скрыпеў, ў мароз трашчаў,
А па вясне - абы прачнуўся, -
Ёй словы любасці шаптаў.

І сарамліва ажывалі
Хваінкі мяккія на ёй…

Ды зноў сумненні дапякалі:
Так многа шчасця? Ёй адной?

І зноў сушыла яе смага…
Але таго не ведаў дуб,
Што ўжо знікае раўнавага,
І што пайшоў на згубу шлюб,

Што ёй свет белы ўжо не мілы,
Кахання спеў і пахвалы,
І што яна губляе сілы
Слязамі светлымі смалы.

І - ссохлі крона і карэнні…
А ён - сябе не пазнае -
Тужліва ў непаразуменні
Глядзіць на мёртвую, яе.

Сяброўкі-сосны заўздыхалі:
"Туга! Туга! Бяда… Бяда…"
Журботна кронамі хіталі:
"Шкада няшчасную, шкада…"

"Дарэмна не стрымала нервы…"
"Дарэмна шэптаў не знясла…"
"Дарма згубіла ў яго веру…"
"Дарэмна сохла…" "І засхла…"

А ён - у горы ломіць голле,
Вясну страчае як зіму,
І спачувае наваколле
Цяпер, маркотнаму, яму.

…Трымцяць засохлыя іголкі.
Шуршаць і сыплюцца на дол
Кахання горкага асколкі.
…Ну што сказаць? Слабейшы пол…

## 3. Адзін

Адзін. Яе абдымкі былі ўжо нават шкоднымі.
Тугу сваю аплакаў лістападаўскай смугой,
Струменямі адліжнымі, слязамі галалёднымі,
Разводдзем сакавіцкім, навальніцай веснавой.

Адзін. Не засталося і ў глебе ні хваінкі…
Праменьчык сонца коціцца скрозь новае лісцё,
І парастачкі новыя, і новыя галінкі -
Бяспамятна-наіўныя, нібы само жыццё.

Адзін. Яна ж навечна з каханым развіталася.
Дзве раны адлюстроўвае вільготная шаша:
Адну ў тым месцы, пэўна, дзе сэрца трапятадася,
Другую - там, няйначай, дзе мела быць душа.

## 4. Пагібель

Накацілася нуда
І маркота.
Бо найгоршая бяда -
Адзінота.

У дупле яшчэ гудзе
Цёплы хтосьці.
Толькі рэдка забрыдзе
Сябра ў госці.

Днём ці ўвечар паміж спраў
Нехта прыйдзе…
Ды аднойчы ж заблукаў
Кат ці злыдзень.

Падпаліў нутро дупла -
Сэрца знішчыў.

І пакінуў рэшткі зла:
Папялішча.

Што ж, Яго як і Яе,
Спілавалі,
Цёплым ранкам па вясне
Адспявалі…

Аб іх людзі гаварыць
Не пакінуць.
Разам ім было пражыць -
Разам згінуць.

**5. Фінал**

Зялёныя хвалі мурожныя,
Як сімвал бяды немінучае.
Была тут магіла Божая,
Былі тут і згадкі балючыя.

Сосны гудуць - трывожныя.
Дубы ў задуменні - бязгучныя.
Трагедыя неперсаможная:
Каханне было - неразлучнае.

* * *

Помнік Буднаму ў Нясвіжы
Паднімае вочы ўгору
Да лістоты ўвосень рыжай,
Да нябёс - анёльскіх хораў.

Ён шукае ў небе праўду -
Пратэстант ад шчырай веры.
Ён нясе народу Кнігу -
Праўду спадчыны Скарыны.

Ён не верыў ў Бога-Сына,
У бязгрэшнае зачацце,
А яшчэ ў Святую Тройцу,
А найменш - айцам духоўным.

Не ўніят і не каталік
І тым больш не трынітарый,
Прагнуў Ісціны і Бога
Пратэстант душой і духам.

Ён пісаў с в а ё Пісанне -
Без маны і фанатызму,
Без памылак перакладаў,
Без прадажнасці манахаў.

І таму пераканана
С в о й ствараў ён Катэхізіс,
Што пісаны быў у Клецку,
Выдаваўся ж у Нясвіжы.

І таму стаіць трывала
На маленькай ціхай плошчы,
Між машын, людзей, турыстаў,
Каля Фарнага Касцёла,
Супраць слыннае друкарні,
Што яго названа імем.

…Глянь, нашчадак, цераз штору
Скрозь букецік рыжай піжмы:
Паднімае вочы ўгору
Помнік Буднаму ў Нясвіжы.

* * *

Нясвіж - то другая сталіца
Вялікага Княства Літоўскага.

Нясвіжскія Радзівілы -
Роўныя каралям,
Што мелі і ўплыў, і ўладу
Не толькі ў сябе на радзіме,
Але і ў дварах еўрапейскіх.

Маглі б яны стаць каралямі
Законна і афіцыйна,
Ды не даспадобы прыйшлася
Радні караля не прынцэса,
А Барбара з Радзівілаў -
Лагодная, адукаваная,
Прыгожая асляпляльна,
Што прад Жыгімонтам Аўгустам
Каханнем паўстала нязгасным…

І маці яго, Бона Сфорца,
Што майстрам была адмысловым
У справе інтрыг і атрутаў,
Са свету зжыла небараку.

…Дагэтуль начамі лунае
Як сімвал адчаю і болю
Бясплотная стройная постаць,
Плыве анфіладамі замка,
Шукае Каханне былое
Загубленая каралева…
То Чорная Панна Нясвіжа.

**Трыялет**

Маленькаю няяркаю вясёлкай
Лічыў сябе Максім. Ён памыляўся.
Ён шчыра, як сяброўкай, любаваўся
Маленькаю няяркаю вясёлкай.
А сам жа быў - як небакрай на золку!

Паўночным ззяннем ясна разгараўся!
Маленькаю няяркаю вясёлкай
Лічыў сябе Максім. Ён памыляўся…

## Танка

### 8

Дрэмле ў крэсле кот,
За людзьмі назірае,
За іх мітуснёй:
Чаго яны бегаюць?
Калі шчэ той сакавік?

### 35

Навошта крычаць
Пра любоў да Радзімы?
Гляньма на птушак:
Проста гадуюць дзяцей,
Проста гняздо берагуць.

* * *

Уколы, доктар, УВЧ,
Сястрычкі белым выраем…
О як павольна час цячэ…
Ляжым - і "сімуліруем".

Тут выпадковасці сустрэч
Ніхто ўжо не здзіўляецца.
Ліхія думкі гоніш прэч,
А добрых - не з'яўляецца…

Палата стогне-вохкае,
Плюе, харкае, плюхае,

А ў л ё г к і м нехта рохкае,
Пішчыць, хрыпіць і хлюпае.

Жыццё такое крохкае,
Дыханне ўсхліпам - важкае…
…Якое ж яно л ё г к а е,
Калі такое цяжкае…

## Два пагляды

* * *

Жанчына ўмела інтрыгуе
Вачыма і плячыма,
Уборам модным зачаруе -
На тое ж і жанчына.

Ды добра ведае мужчына,
У чым яна - інтрыга:
Убор - прадмова для жанчыны,
А часам - і ўся кніга.

* * *

Валасы ў колер спелай медзі,
Шарм у пластыцы і хадзе…
Мне насустрач юная лэдзі
Ну, не тое каб мне, але йдзе.

Ах, жыццё ўжо не шмат адмерала…
Скаланулася ўсё нутро!
Сівізна ў бараду мне стрэліла -
Хітры бес прыпячатаў рабро.

## Сон

*Рандэль*

Залатое пяро мне далонь апякло.
А Жар-птушка на сонечны ўсход паляцела.
У недасяжным блакіце прашамацела
Яе казачна-мройнай раскошы крыло.
Апускаю павекі, схіляю чало…
Гэта зноў зманны сон, гэта зноў яго стрэлы!
Залатое пяро мне далонь апякло,
А Жар-птушка - на сонечны ўсход паляцела.
Асцярожна трымаю пяро як стыло…
Раптам! - сон раскрыляецца аркушам белым.
Ды адзінае слова, што ў сэрцы ўзышло,
Я на аркушы тым запісаць не паспела -
Залатое пяро мне далонь апякло.

## Шлях да санета

Пульсуе ў скронях верш? Чакаць нягожа:
Дзе б ты ні быў - у офісе, бістро,
Аловак у руках, ці нават, можа,
Сапраўднае гусінае пяро -

У спадзяванні з музай на сустрэчу,
Да верша накіроўваючы крок,
Ты апусці пяро ў нябёс сінечу,
Крывёй на дол хай скоціцца радок.

Ды не спяшайся са страфою ў вырай:
Радочак адагрэй каля душы,
І воблачкам на лісцік адкапіруй,
І промнем залацістым абсушы.

Каб забруіўся з-пад пяра паэта
Чароўны строй класічнага санета.

## Шкодна

Шкодна, пераконваюць вучоныя,
Зёлкі-лекі хапаць усляпую,
Шкодна есці яблыкі зялёныя,
Шкодна плакаць, піць ваду сырую,

Шкодны спірт, бо кальцый вымывае,
Соль і цукар - шкоды цэлы клунак,
Шкодны тлушч - сасуды забівае,
Для дыхання шкодны - пацалунак!

І даводзяць нам дыеты модныя,
Новыя парады выдумляюць…
…А жыццё - наогул штука шкодная:
Ад яго, бывае, паміраюць…

## …Паміж…

Здаецца, толькі сеялі,
А вось ужо й дажынкі.
Збірае час па хвілях
Няўмольныя гады.
То першыя дажджынкі,
То першыя сняжынкі…
А ўсё, што паміж імі -
То кветкі і плады.

Імчыцца несупынна
Жыццёвая віхура!
На фоне мройных ценяў,
Што ўсталі з небыцця,
То музыка вяселляў,
То музыка хаўтураў,
А ўсё, што паміж імі -
То музыка жыцця.

* * *

Куды адплываюць стагоддзі, што нас разглядалі?
Чаму толькі пекла адсутнасць здаецца нам раем?
Аб чым гэтак светла сумуюць бязмоўныя далі?
Навошта прыходзім у свет, калі ўрэшце ўміраем?

На кронах бярозаў нямыя павіслі пытанні.
Ім сонейка золата ў косы ўплятае нясмела.
Вандроўнік-лісток, патрывожаны ветру дыханнем,
Адказ прашаптаў мне, ды я зразумець не пасмела.



# Марыя Падамацька

*Марыя Іванаўна Падамацька нарадзілася 15 лютага 1945 года ў вёсцы Аношкі Нясвіжскага раёна. З сярэбраным медалём скончыла Казлоўскую сярэднюю школу, фізіка-матэматычны факультэт педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Працавала настаўніцай фізікі у Чавускім раёне Магілёўскай вобласці, сакратаром Чавускага райкама камсамолу. З пераездам у Нясвіжскі раён працавала настаўнікам фізікі і матэматыкі ў Саскалінскай базавай школе, завучам Нясвіжскай школы-інтэрната, настаўнікам фізікі СШ № 2 г. Нясвіжа, Нясвіжскай гімназіі.*

*Паэзія - не адзінае захапленне Марыі Іванаўны. У 2011 годзе яна заняла ІІ месца на конкурсе "Лепшы падворак", у 2012 - І места на гэтым жа конкурсе. У жніўні 2011 года прыняла ўдзел у адной з перадач СТБ на беларускім тэлебачанні.*

*З лютага 2022 г. - сябра раённага літаратурна-музычнага аб'яднання "Валошкі".*

## Мая малая Радзіма

Карані мае ў вёсцы Аношкі,
Хоць і бываю там зусім трошкі.
Я сэрцам навекі прывязана там
К сваім сваякам і сваім землякам.

Там дзяцінства маё прайшло,
Сярод добрых людзей вясковых.
Там адчула я бацькоўскае цяпло.
І водар кветак вясновых.

Я дзякую табе шчыра, дзяцінства,
Што дарогу ў жыццё мне дало.
Працаваць, марыць, вучыцца
І сумленнаю быць памагло.

## Успаміны

*(Маё сапраўднае дзяцінства)*

Малая Радзіма
Ты мне снішся зноў.
Смутак нарадзіла
І ўспамін - любоў.

І з любоўю гэтай
Па жыцці я іду.
З песняй успамінаю
Я вясну сваю.

Вузенькай сцяжынкай
Бягу я ў дзяцінства.
Туды, дзе нарадзілася
У маленькай хацінцы.

Вось стаяў плоцік
К дому прыхіліўся.

А тут кусцік бэзу
Над страхой схіліўся.

Няма той дарожкі,
Лаўкі пагнілі.
Дзе ранняй вясною
Вішанькі цвілі.

Вось і палісаднік
З кветкамі кругом -
Маміны турботы,
Маміна любоў.

І любоў да кветак -
Свята пачуццё -
Мама мне навекі
Аддала ў жыццё.

Бацька мой - знаток навукі,
Хоць чатыры класы меў,
Ведаў. больш, чым з інстытута
Атрымаць сумеў.

Сам і хату збудаваў,
Нават скрыпку змайстраваў,
Кракавякі, polькі, вальсы
На той скрыпцы ён іграў.

Наша вёсачка змала
Працавітая была…
Весялосці там хватала,
Ды і талентаў нямала.

Дзядзька Костусь жыў паблізу,
Ну і башкавіты!
Розум меў матэматычны
Дый каваль быў знакаміты.

Няма больш хаціны,
Татам збудаванай.
Зараслі дарожкі
Травой мураванай.

Стаю я ў здзіўленні
І ў роспачы нават,
Няма больш той хаты,
Дзяцінства няма.

І толькі груша - цукроўка.
Стаіць на мяжы,
Счарнела, здзічэла
Ад адзіноты і тугі.

Бывай дзяцінства! Не смуткуй!
Сустрэцца зноў не зможам мы,
І толькі горыч развітання
Будзе сніцца мне да рання.

Бывай дзяцінства! Стрымай слёзы!
З табою буду я заўсёды:
Цяплом душы, і радасцю ўспамінаў,
І смуткам, і шчасліваю хвілінай.

## Вочы матулі

Мы помнім вочы матулі,
Гневам і смуткам палалі яны,
Калі адпраўляла сыночкаў
Яна ў полымя вайны.

Мы помнім вочы матулі,
Слязамі і горам гарэлі яны,
Калі не вярнуліся сыночкі
З той праклятай вайны.

Мы помнім вочы матулі,
Як пела яна калыханку
Ў люты мароз у зямлянцы
Дачушцы сваёй, немаўлянцы.

Мы помнім вочы матулі,
Калі, здзіраючы рукі, ля хаты
Бульбу капала ў мерзлай зямлі
Для галоднай сваёй дзетвары.

Мы помнім вочы матулі,
Страшней нічога на свеце няма,
Калі ў жудасным полымі Хатыні
Гарэла з дзіцем на руках, яна.

Мы помнім вочы матулі,
Калі пылала вясна ад вайны -
Загінула адзіная дачушка
Ад выбуху бомбы ў двары.

Мы помнім вочы матулі
Пасля заканчэння вайны -
Сынок не вярнуўся са школы,
Узарваўся на міне вайны.

Мы помнім вочы матулі,
Гневам гарэлі яны
"Будзьце праклятыя, вы, душагубы,
За полымя і жахі вайны:

Людзі! Помніце вочы матулі,
Беражыце ад гора і слёз,
Каб ніколі яны не адчулі
Новых ваенных пагроз.

## Званы Хатыні

Цішыня… Усе ў маўчанні стаяць,
Слёзы… Боль у застыўшых вачах.
Чуеш! Звіняць званы Хатыні,
Людзі свету ў жалобе застылі.

Жыла беларусачка-вёска гадамі,
Звычайная вёска, дзе гора не зналі,
Там шчыра кахалі, вяселлі спраўлялі,
Песні спявалі, дзяцей гадавалі.

Дружна ў полі яны працавалі,
Ураджаі добрыя збіралі,
Моладзь вечарамі гуляла,
А святам гасцей частавалі.

Марылі таксама шчаслівымі быць,
Хацелі вучыцца, ведаў набыць.
Ды не збыліся іх светлыя мары,
На краіну наляцелі чорныя хмары.

Раптоўна на вёску ўпаў страшны цень,
Там і закончыўся для іх той апошні дзень,
Карнікі - нелюдзі з пекла ўцяклі,
І вёсачку мігам сцерлі з зямлі.

Загнаўшы ў будынак усіх жыхароў
Старых і малых, усіх хлапчукоў,
Жывымі згарэлі паўтары сотні чалавек,
Іх попел застаўся ляжаць там навек.

Дзіця на руках, стрэл яму ў вочы,
Дзікі жудасны крык жаночы,
І пах гарэлы касы дзявочай,
Разносіўся доўга там дні і ночы.

І доўга там чорны дым клубіўся
На тым жудасным папялішчы.
Абвугленыя трупы старых і дзяцей
Так і стаяць у вачах людзей.

Часам зязюля пачуецца дзесьці,
Лічыць гады яна на прадвесні.
Не лічы больш зязюлька гадоў,
Ім не вярнуцца ніколі дамоў.

Звіняць, звіняць званы Хатыні
Напамінаюць нам аб тым,
Што сотні вёсак такіх як Хатынь
Ператвораны фашыстамі ў попел і дым.

Закапаны жывымі матулі з дзяцьмі,
Над сем'ямі яўрэяў выраслі курганы,
Гарэлі будынкі з жывымі людзьмі.
Помніце! Адпомсцім за гэта ўсё мы!

Чуйце, вырадкі вы ад прыроды,
Памяць людзей не знішчыць праз годы.
Мы не дазволім вам паўтарэння
Народу нашага знішчэння.

## Камары

Лета! Як цудоўна гэта,
Каб не тыя камары,
Што таўкуцца да зары.
Адпачыць не даюць у двары.

Толькі села на кацэлі,
А яны як бы здурнелі.
Шчоўк у нос, а потым - бровы
Не адпачнеш ты тут ніколі.

А ў нагу як саўгане,
Нават дрэнна стала мне.
І нідзе няма прытулку,
Каб схаваць ад іх сябе.

Нават у доме не ўсядзіш.
Цераз шчыліну малую
Пералезе, не ўглядзіш,
І ўсю ноч ён там пануе.

А як дожджык крапане,
Не схавацца болей мне.
Хмарамі яны тут ходзяць
І да слёз мянее даводзяць.

Камары, вы камары!
Не ляціце вы ў двары,
А ляціце вы ў бары,
Дзе так многа машкары.

## Народныя паэты

*Да 140-годдзя з Дня нараджэння*
*Янкі Купалы і Якуба Коласа*

Янка Купала і Якуб Колас
Праўду народам няслі,
Заўсёды гучаў іх голас
За лёс і свабоду роднай зямлі.

Выйшлі яны з народа -
Зямлі сваёй роднай сыны.
І чуецца ў творах трывога
За лёс беларускай зямлі.

"Новая зямля", "Бандароўна" -
Творы выдатныя, безумоўна.



# Вольга Жэрка

*Нарадзілася 30 кастрычніка 1940 года ў вёсцы Палікі Думініцкага раёна Калужскай вобласці. У гады Вялікай Айчыннай вайны разам з маці была эвакуявана ў Беларусь. Усё дзяцінства і большасць гадоў юнацтва прайшлі ў вёсцы Сычэва Нясвіжскага раёна.*

*Закончыла Карцэвіцкую сямігодку, затым вучылася ў Нясвіжскай сярэдняй рускай школе, у бібліятэчным тэхнікуме. Свой працоўны шлях, які складае больш за 37 гадоў, пачала рахункаводам у аддзеле сацыяльнага забеспячэння Нясвіжскага райвыканкама, затым працавала загадчыцай сектара ўліку райкама камсамолу, бібліятэкарам гарадской бібліятэкі. У 1971 годзе была выбрана сакратаром Нясвіжскага сельвыканкама, дзе працавала 25 гадоў. Зараз на пенсіі.*

*Друкавалася ў раённай газеце "Нясвіжскія навіны". Аўтар паэтычнага зборніка "Цветной звездопад".*

## ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ

* * *

Люблю мілы куточак, родны свой край,
Палеткі, разлогі, азёры і гай.
Тут нарадзілася, вырасла я,
І працавала, і лёс свой знайшла.

На жыццёвым шляху
Было многа ўсяго,
Што я шаную, чым даражу,
І за ўсё ў жыцці Богу дзякуй кажу.

### Любай вёсцы

Вёска Сычэва! З дзяцінства мая ты,
Дзе былі стрэхі з саломы на хатах,
Добрыя хлопцы, дзятва і дзяўчаты
Ўмелі гуляць і гарэлі на працы.

Цяжка пазнаць іх і ўспомніць цяпер,
Сэрца таму і ў трывозе, павер:
Бачыш, як хатка, што помнік, стаіць,
Просіць, галосіць: “Прыйдзі, паглядзі”.

Глянь у акенца юнацтва свайго,
Згадай, як многа было ў ім усяго:
Як майскі сад заглядаў у акно,
Колькі турбот у матулы было…

### Чысціня прыроды

Падарунак жанчынам - пралеску -
Прыпаднесла прырода ізноў,
Ад душы і ад чыстага сэрца,
З дабрынёй, без ніякіх умоў.

Яна добрая, мілая, шчодрая,
У любую пару з чатырох.
Зберажом чысціню тваю, родная,
Дапаможа у гэтым нам Бог.

## У кропельках водар вясны

Усё прачынаецца і ажывае,
К сонцу імкнецца трава.
Птушак чародкі ізноў прылятаюць,
Ціўкаюць звонка: вясна!
Скора падыме галоўку падснежнік,
Смелы сябрук халадоў,
Кветак паляна, як сонейка веснік,
Верне ў дзяцінства нас зноў.
Дожджык вясновы нас зачаруе,
У кропельках - водар вясны.
І хто вясною як след папрацуе,
Будзе мець дар ад зямлі.

## Шмат песень пра яе складаюць

Шмат песень пра яе спяваюць.
Усе сумныя яны. Чаму?
Яна ж, вясёлая, трывае
І ўсміхаецца дубку.
Не трэба шкадаваць рабіну,
Не трэба сумна так спяваць,
Не хіліцца яна да тыну,
Зусім не горкая на смак.
А тонкая - бо маладая,
Каханай, любай марыць быць.
Калі ёй так наканавана,
То ўжо нічога не змяніць.



# *Галіна Нупрэйчык*

*Галіна Іосіфаўна Нупрэйчык (Плакса) нарадзілася ў 1966 годзе ў вёсцы Туча Клецкага раёна Мінскай вобласці.*

*Вершы пачала пісаць у школьныя гады. Друкавалася ў раённай газеце "Да новых перамог", у газетах: "Беларуская ніва", "Літаратура і мастацтва", "Мінская праўда", у часопісах "Вожык", "Рюкзачок" і іншых перыядычных выданнях.*

*Сябра Клецкага літаратурнага аб'яднання "Голас", Мінскага народнага абласнога клуба кампазітараў і паэтаў "Жывіца", член Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Суаўтар розных калектыўных зборнікаў паэзіі, у тым ліку і міжнароднага.*

*Аўтар паэтычных зборнікаў: "Пясчынкі часу", "Вясёлкі ў расінках".*

## Нясвіжскі замак

Вежы замка ў люстэрку азёрным
У асенняй самоце застылі.
На вякі будавалі гісторыю
У Нясвіжы князі Радзівілы.

Над маёнткам няспынна імчаліся
Гістарычныя зімы і вёсны.
Пакаленні і лёсы мяняліся.
Шчодра ткала жыццё свае кросны.

Гаманлівыя залы шыкоўныя
Наталяліся музыкай баляў.
Тут кіпелі пачуцці няўлоўныя.
Тут жылі, працавалі, кахалі.

Сцены бачылі стрэлы варожыя,
Разбурэнне, агню бушаванне.
Выжыў замак - загінуць не можа ён!
З даўніной кліча ўсіх на спатканне.

Маладзее, гадам не скараецца.
За плячамі - чатыры стагоддзі…
Людна ў парку - турысты з'язджаюцца
Да князёў Радзівілаў у госці.

* * *

Водар фарбы ўвабраў ён друкарскай -
Дом гасцінны, дзе кніга жыве.
На старонках няспыннага часу
У нязведаны свет ён заве.

Тут у літарах - мудрыя думкі
Ад вытокаў вякоў і эпох.
Тут народнай культуры скарбонкі,
Сотні лёсаў, надзей і трывог.

Смак духмянага жытняга хлеба
Пераплецены з музыкай слоў.
І валошкі, і зорнае неба -
У вянках паэтычных радкоў.

Кніга - скарб, інтэлекту кладоўка,
Сувязь аўтараў і чытачоў.
Верны компас у доўгіх вандроўках
Па абшарах краін і гадоў.

Шлях-сцяжынка да бібліятэкі
Хай не знікне ў траве забыцця,
А вядзе па вяках чалавека
Да сябе. Да людзей. Да жыцця.

* * *

Бачу Радзіму такой:
Шчыраю, працавітай,
Стужкамі рэк спавітай,
Ад збажыны - залатой,
Ад васількоў - блакітнай.

Свежасць марозных начэй,
Летніх вясёлкавых росаў.
Пах лугавых пакосаў.
Позіркі светлых вачэй.
Золата русых косаў.

Край жаўрукоў і буслоў.
Пушчы, гаі, дубровы.
Водар баравіковы.
Край белавежскіх зуброў.
Край беларускай мовы.

## Бацькоўскі дом

Суквецці пунсовай герані
І фуксіі завушніцы.
Карункі бялюткіх фіранак.
Драўляныя аканіцы.

Вясёлыя вокны-вочы.
Высокая ліпа старая.
У сэрцы жыве той куточак,
Дзе болей ніхто не чакае
З палону падзей віртуальных,
Замкнёных кватэрных клетак,
Не кліча з вандровак дальніх
У мятна-мядовае лета.
Там бусел крыляе высока
Над морам зялёнай пшаніцы.
Калодзеж запросіць у спёку
Сцюдзёнай вадой наталіцца.
Там памяць пры веснічках родных
Блукае ў халодныя ночы -
І свецяцца шчыра, лагодна
Бацькоўскага дому вочы.

* * *

Паэзія - яркае штосьці, адметнае,
А слова ці мае значэнне канкрэтнае?
Здаецца, не мае, паняцце шырокае.
Паэзія - штосьці святое, высокае.
Яна - у бярозах у снежаньскай шэрані,
У ранішніх росах у сонечным чэрвені,
У золаце хлеба з валошкамі сінімі,
У велічы неба з вясёлкамі, ліўнямі.
Паэзіі песня - кліны жураўліныя,
Абшары Палесся, лугі журавінныя,
Дубы векавыя, крыніцы гаючыя,
Грыбы баравыя, суніцы бліскучыя,
Гуканне вясны і Купалле вясёлае,
Дарогі-шляхі з гарадамі і сёламі.
Баяна акорды ў суладдзі са скрыпкаю
Душу ў свет натхнення крылатага клікаюць.
Старонка радзімая шчодрая, ветлая.
Паэзія ў ёй - бела-русая, светлая.

## Малітва

Аддаю табе думкі, Божа.
Накіруй іх на сцежку святла,
Каб у словах і ў справе кожнай
Непарушная вера жыла.

Прабачай, што прашу так многа
Тваёй міласці шчодрай святой.
Нават кропля адна дапамогі,
Як крыніца вады жывой.

Дар твой, Госпадзе, шлях цярністы.
Ён - надзея, маяк уначы.
Чалавеку - адзінае выйсце,
Каб душу для жыцця зберагчы.

* * *

Вада пад камень-лежань не цячэ.
Застыў ён за сялом, не зварухнецца.
Мароз ці сонца раптам апячэ,
Ды сэрца ў хваляванні не заб'ецца.

Вось так і талент, шчодры божы дар,
Каб сілу меў, каб вольным стаў і дужым -
Жадання мала, мала светлых мар,
Што птушкамі ў аблоках лёгка кружаць.

Народзіць ніва добрыя плады -
Салёным потам кожны з іх паліты.
Вянчайце з працай таленты заўжды -
І перад вамі шлях да зор адкрыты.

## Мінулагодняе

Год у былое бяжыць з карагодамі,
Звонам крыштальным і водарам елачным,
З бляскам гірлянд і Мароза прыгодамі,
Сполахам зорным іскрыць феерверачным.

Год увайшоў у газетныя літары,
Лёг на палосы радочкамі роўнымі,
Выліўся ў відэа песнямі-кліпамі,
І наталіўся падзеямі рознымі.

І адлятае сняжынкамі белымі
У лабірынты камп'ютарнай памяці,
Што захавае з усімі адценнямі
Летнія ночы, зімовыя раніцы.

Году старога падзеі адметныя
Будуць і ў новым удзячнасцю поўніцца.
Думкі і справы прыгожыя, светлыя
Рухаюць час і нашчадкамі помняцца.

## Надыход вясны

Пралескавымі марамі
Расквечана вясна.
Шырокімі абшарамі
Ідзе да нас яна
Упэўненымі крокамі,
Хадою маладой.
Абмыта расаў кроплямі,
Бярозавай слязой.
Спляла вяночак сонечны
З вясёлых дзьмухаўцоў,
Лугі збудзіла сонныя,
Паклікала буслоў.

Пяшчотнай зелянінаю
Засыпала палі,
Руплівай гаспадыняю
Вядзе абход зямлі.

## Памяць

Ад слёз вясною мокры ўвесь пянёк.
Карэння памяць моцная якая!
Даўно няма бярозы, а ў пясок
Жыццё буйнымі кроплямі сцякае.

* * *

За лесам сонейка жыве.
Куточак той - пачатак свету.
Там кліча ў казку водар кветак,
А на паляне паліць лета
Суніц агеньчыкі ў траве.
Вясёлкі скачуць у расе.
Травінка кожная - жывая.
Дзяцінства ў лесе тым блукае.
Матуля там мяне гукае -
Лісічкі ў кошыку нясе.

## Восеньскі верш

Хмары шэрыя шэпчуць мне: "Восень",
Сыплюць літарны дождж на паперу.
Вытку слоўны пейзаж: неба просінь,
Аксаміткі… І ў шчасце паверу!
У радочках анапеста роўных
Заіскрацца на клёнах рубіны,
І пасыплюцца цёплыя промні
На агністыя гронкі рабіны.
Зарумяніцца яблычак кожны,

Свежым сонечным сокам нальецца.
З моднай стрыжкай кароценькай пожня
Будзе з лета ўспамінамі грэцца.
Пад акенцам кастрычнік сустрэне
Светлы позірк вяргіні бялюткай.
Верш на памяць падорыць натхненне,
Адляціць лёгкай птушкаю хуткай.
Сапраўды, ці то раптам здалося:
Усміхаецца радасна восень.

## Не прадказаць

*Трыялет*

Пра вечнае каханне не кажы,
Каб не зманіць і шчасце не сурочыць.
Не прадказаць пачуццяў віражы.
Пра вечнае каханне не кажы -
Не вечныя і нашы дні і ночы.
Святло душы, як зрэнку, беражы.
Пра вечнае каханне не кажы,
Каб не зманіць і шчасце не сурочыць.

## Жыццё

Уволю б наесціся мёду.
Як сонца ў бурштыне, а смак!..
Ды прыкрай яго асалоды
Усё-ткі не хопіць ніяк.

Прыходзіць нязваная горыч
Іскрысты бурштын апаліць.
І шчасце, што неба падорыць,
Удаль ручаінкай бяжыць,

Пятляе, мялее, знікае,
А побач - палын ды асцё…
Не толькі салодкім бывае
Капрызнае наша жыццё.

* * *

Няўжо выпадковасць - кароткі наш шлях
Ад першай прыступкі жыцця да апошняй?
Блуканне. Жаданне пакінуць працяг
Ці словам, ці зернем на сонечнай пожні.

Напэўна, не выпадак - лёс нас вядзе.
Да неба ўздымае, у бездань кідае.
Душу выпрабоўвае ў шчасці, бядзе,
З нябыту бярэ і ў Сусвет адпраўляе.

З пясчынкі Зямля пачынае адлік,
А з кропелькі - мораў вялікія воды.
Не выпадак просты - народзінаў крык -
Прыйшоў чалавек у сямейства народаў.

І не выпадковы куточак зямлі
З любоўю названы малою радзімай.
Адсюль каранямі мы сілу ўзялі,
Каб сеяць дабро на планеце адзінай.



# *Тамара Прыгун*

*Тамара Міхайлаўна Прыгун - музыкант, кампазітар, стваральніца некалькіх музычных калектываў на Нясвіжчыне, сябра раённага літаратурна-музычнага аб'яднання "Валошкі".*

*Тамара Міхайлаўна - карэнная несвіжанка, прадстаўніца добра вядомай у Нясвіжы музычнай дынастыі Гурыных. Свае здольнасці пераняла ад бацькоў Міхаіла Канстанцінавіча і Ірыны Вікенцьеўны Гурыных. Ад іх разам з братам Уладзімірам, зараз ён выкладчык Нясвіжскай школы мастацтваў, яны атрымалі не толькі ўрокі жыцця. Бацькі ўвялі сваіх дзяцей у чароўны свет музыкі.*

*Пасля заканчэння СШ № 2 г. Нясвіжа Тамара Міхайлаўна паступае ў Мінскае музычнае вучылішча імя Глінкі. Затым была Беларуская дзяржаўная кансерваторыя і з цягам часу кіраўнічая пасада ў дзясятай музычнай школе Мінска. У 2000 годзе разам з мужам Уладзімірам Уладзіміравічам Прыгуном пераязджае ў Нясвіж, уладкоўваецца ў Нясвіжскую музычную школу, бярэ на сябе кіраўніцтва народным ансамблем "Ліра" Нясвіжскай цэнтральнай раённай бальніцы, сноўскага народнага ансамбля песні і танцу "Вяночак", а пасля стварае на Нясвіжчыне мужчынскі народны ансамбль "Акцэнт", вакальную групу "Гармонія", дзіцячы інструментальны ансамбль "Меламаны", вакальны дзіцячы ансамбль "Пралеска". Пасля - ансамбль песні "Элегія", а зараз на дабра-*

*чынных пачатках у Высакаліпскім сельскім доме культуры - ансамбль песні "Ліпскія вытокі", маладзёжную вакальна-эстрадную групу.*

*Калі спыніцца на рэпертуары створаных Тамарай Міхайлаўнай калектываў, то вялікую яго частку складаюць яе ўласныя песні, а гэта 39 твораў, якія ўвайшлі ў песенны зборнік "І льюцца гукі па-над родным краем", што знайшоў пачэснае месца на паліцах розных бібліятэк, у тым ліку і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Усяго створана больш за сотню песень. Некаторыя з твораў ўвайшлі ў музычныя зборнікі абласнога народнага клуба кампазітараў і паэтаў "Жывіца", вершаваныя творы - у калектыўныя зборнікі раённага літаратурна-музычнага аб'яднання "Валошкі". Аўтарскія песні нашай зямлячкі радавалі слухачоў не толькі раённага, але і рэспубліканскага радыё.*

## ПЕСНІ

### Беларуская старонка

На прасторах Беларусі лясы, сенажаці.
Я заўсёды ганаруся Беларуссю-маці.

***Прыпеў:***
Край цудоўны, родная старонка,
Хай ва ўсіх тваіх мясцінах
Льюцца песні звонка.
Ўсім хай будзе добрай, шчырай доля,
Ў кожнай хаце беларускай
Будзе ўсяго ўволю.

Возьмуцца за рукі дзеці, дзеці ўсіх народаў.
Будуць хай на ўсёй планеце толькі мір і згода!

***Прыпеў.***

## **Кантата аб Радзіме**

Мой родны кут, маці мая - Радзіма,
Знішчалі цябе, шмат разоў цябе рабавалі,
Знямоглая ад ворагаў зямля,
Дзеды і ўнукі жыццё за цябе аддавалі.

***Прыпеў:***
Мы нізка схілім галовы
За тых, хто бітву адстаяў,
Хто за цябе жыццё аддаў,
Радзіма, Радзіма.

Нельга забыць жудасных тых часін,
Дзе кожны чацвёрты паў за свабоду айчыны,
І спаленую вёсачку Хатынь,
Маці, што не счакала свайго сына.

***Прыпеў.***

Час праляцеў, ўзнялася з руін краіна.
Народ беларускі мірна жыве і шчасліва.
І раны загаіліся даўно,
Стала незалежнаю наша Радзіма.

***Прыпеў:***
Квітнее наша Беларусь,
Радзіма, Радзіма, Радзіма, Радзіма.

## **Гімн Нясвіжу**

Велічча багаты стаіш у задуменні
Пад небам блакітным, у кветні садоў.
Цябе саграваюць сэрцаў прамені
І шчырая наша людская любоў.

Увысь узняліся тваe пабудовы
Ратуша, замак, палацы, масты,
Кранаюць душу гукі роднае мовы,
Якой ганарышся і славішся ты.

***Прыпеў:***
Нясвіж, Нясвіж - родная старонка,
Ты сэрцу мілы, горад дарагі,
Такім прыгожым, дзіўным цуда-краем
Цябе нашчадкі нашы збераглі.

Жыве і працуе ў гонар Радзімы
Таленавіты нясвіжскі народ.
У думках і марах, у пачуццях адзіны,
Роднай Айчыны сваёй патрыёт.

Мацней і красуйся гасцінны наш горад,
Зоркай яскравай заўсёды ты ззяй.
Маленькае сэрца вялікай Радзімы
Наш хлебаробны, велічны край.

***Прыпеў.***

## Парк Радзівілаў

Стаіць ў задуменні замак ў Нясвіжы,
Веліччу багаты і мноствам гадоў.
Навокал азёры, дрэвы-асілкі.
Цуда такое, не хопіць слоў.

***Прыпеў:***
Парк Радзівілаў, парк Радзівілаў -
Багацце і моц Нясвіжскай зямлі.
Ты сэрцу мілы, такі сэрцу мілы,
Нашчадкі тваe цябе збераглі.
Такім вось прыгожым, такім вось прыгожым,
Нашчадкі тваe цябе збераглі.

Павольна калыша вецер таполі,
Схіліліся івы да самай вады,
Дуб, нібы волат, вялікі, прыгожы,
Стаіць ганарліва, як малады.

***Прыпеў.***

Будуць ўспаміны сэрца нам поўніць
Тую славутасць мінулых гадоў.
Дзеці і ўнукі, усе будуць помніць
Чорную панну, былую любоў.

***Прыпеў.***

## Выйдзі на хвілiначку

Нада мной бярозы галавы схілілі,
І з нябёсаў поўня свеціць да відна.
Дык чаму ж сягоння я, мой любы, мілы,
Засталася з думкамі адна.

***Прыпеў:***
Выйдзі хоць на хвілiначку,
Выйдзі, каханы мой.
Мне падаруй часiначку,
Пагавары са мной.

Будзем глядзець на зорачкі,
Марыць у цішы.
Выйдзі да мяне, мой Колечка,
Будзем з табой адны.

Завітаем у госці да рэчкі-прыгажуні,
Будзем слухаць шэпат восеньскай травы
І глядзець, як івы над вадой заснулі,
Як ляцяць у вырай жураўы.

***Прыпеў.***

## Новы дзень

Як узыдзе сонейка над старонкай роднай,
Устане наваколле, сустрэўшы новы дзень,
Адгукнуцца птушкі песняй шчырай, звонкай,
І пакіне сэрца былой сумоты цень.

***Прыпеў*** *(2 разы):*
Новы дзень, новы дзень - весялосць і турбота,
Ты нясеш у сабе вельмі розны настрой.
Ці святло ў вачах, ці журбу, ці ляноту,
Адчуваем ўсё гэта мы разам з табой.

І заззяе рэчка, бегучы па схілах,
Матылёк закружыць у танцы летучы.
Гукі данясуцца ў ціхіх пералівах,
Вельмі я хачу іх у сэрцы зберагчы.

***Прыпеў*** *(2 разы).*

## Прывітальная

Прывітанне Вам, людзі добрыя,
Прывітанне, цудоўны наш край.
Табе нізкі паклон, зямля родная,
Віншаванні нашы прымай.

Хараство і багацце навокал,
Ты квітнееш, радзіма мая.
Не акінуць абшар простым вокам,
Наша родная маці зямля.

Прывітанне, Нясвіжчына родная,
Прывітанне, славуты наш край.
Табе нізкі паклон, зямля шчодрая,
Віншаванні нашы прымай.



# Алег Пракарына

*Алег Вікенцевіч Пракарына нарадзіўся 24.7.1967 г., у в. Сіняўка Клецкага р-на Мінскай вобл., Беларусь.*

*1974-1984 - вучоба ў Сноўскай СШ,*

*1984-1986 - вучоба ў Кобрынскім СПТВ-105 (разьба па дрэве).*

*1986-1988 - служба ў СА.*

*1988 - паступіў у Віцебскі педагагічны інстытут імя Кірава - МГФ.*

*Закончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага пядінстытута (1993). У мастацкіх выставах прымаў удзел з 1988 года. Лаўрэат конкурсу-выстаўкі АРТ-СЕСІЯ 1993. Таксама мае шэраг персанальных выстаў. Працуе ў розных тэхніках і жанрах - графіка, жывапіс, скульптура, аб'ект, інсталяцыя, перформанс. Жывапісная праца "Горад Сафія" знаходзіцца ў мастацкай галерэі г. Полацка, ёсць працы і ў асабістых мастацкіх калекцыях Беларусі, Расіі, Польшы, Германіі, Грэцыі, Францыі, Ізраіля, Сірыі, Японіі, США. Пастаянны ўдзельнік праекта "ПАН-ТОН", які праходзіць у час Славянскага Базару ў г. Віцебску.*

*1993-2000 - праца настаўнікам чарчэння, малявання, працы, спецпадрыхтоўкі, НВП у Пагарэльцаўскай СШ.*

*2000-2001 праца ў аддзеле дызайну г. Віцебск.*

*Член Беларускага Саюза майстроў народнай*

*творчасці (1999). З 1998 г. кожны год удзельнічае ў рэспубліканскіх і абласных пленерах разьбы па дрэве, якія праходзяць у розных гарадах Беларусі. Латвіі (2002)*

*2001-2002 - майстар-метадыст АК г. Нясвіж.*

*2003 - сталяр, Сноўскі крахмалзавод.*

*У 2003 годзе - адзін з майстроў ад Мінскага абласнога аддзела культуры ў тэхніцы разьбы па дрэве на свяце Дзён Беларусі ў Маскве.*

*Дыпламант Першага конкурсу хайку ў Расіі ў рамках Фестывалю японскай культуры 1998 г. У ліку аўтараў альманаха "Тритон" (тры выпускі: 2000-2001-2002 гг., Масква).*

*2004 - аператар ПК, РА, г. Баранавічы.*

*2004 - старшы навуковы супрацоўнік мастацкай галерэі г. Полацк.*

*2005 - карэспандэнт газеты "Нясвіжскі час" г. Нясвіж.*

*Удзельнік Другога Усебеларускага фестывалю народнага мастацтва "Беларусь - мая песня" (2004). Вершы ўвайшлі ў зборнік "Надзвінне" (2004 г., Віцебск). Друкаваўся ў газетах - "Аргументы и Факты", "Нясвіжскія навіны", "Нясвіжскі час", "Полоцкий вестник", "Культура". Член Нясвіжскага паэтычнага аб'яднання "Вострая Брама" (2006).*

* * *

На Таццяну, кажуць трэба
Выйсці ў поле на мароз,
Паскідаць абутак трэба,
Ля крыніцы стаць у снег
І студзёнае вадзіцы чарпануць сабе.
Ды з чароўнаю вымовай,
Вочы долу загарнуць
Паспытать у Таццяны долі
Цераз вецер, цераз поле

Вогнішча раздзьмуць.
Каб той вецер шчасце - долю,
Каб той агмень дужа - волю,
А таксама жонку - мужа
Ці нявестку добру, зяця,
Дапамог табе ён - браце.
Штось, калі лунае сонца
Ці ідзець маўклівы снег
Тваё гора не бясконца -
Што згарыць, а што засыпле -
Усім прыкрые грэх.
А вадою на апоўнач
Тэба змыць і твар, і цела,
І на курнік пляснуць рэшткі,
Каб як пер'е паляцела:
- Усё гора, уся зіма,
Ды на весну, як спадоба
Стала люба, стала гожа
І з Таццянай
- Дай жа Божа,
Адпіхнуўшыся ад дубу...
Пацягнуўся я да шлюбу.

*25.1.1996, Таньцы...*

## Песня Васільцы

Гэля-Гэля, дам табе каравай
Гэля-Гэля, пацалуй, абдымай
Я на покуці схаваю яго,
У Слабодку разганю ўсё дабро,
Гэтай ласкі ні адбыць - адагнаць
Ні кароўкаю з рагамі спаткаць,
Ногі скачуць, і гудуць лапаты,
Гэля-Гэля, правядзі да вады,
Усе нягоды той вадою збягуць,
Кругалямі, як агнём запякуць,

Ты каптурык і гарсэт падшнуруй
Сумны думкі абрусом адвартуй,
Гэля-Гэля, на ўзор ручніка
Воўну, лёд, і ўсе абразы жыцця,
Павукі, крывулькі, колы, крыжы
Гэля-Гэля, абдымі, памажы,
Парадзіхаю прайдзі ўсё жыццё,
Дубам-шлюбам зорным полем яго,
Строчкай-ночкай пераві-размяжы,
Лянтарыкамі-кручкамі звяжы...
Павольна:
- Гэля-Гэля,
Ты простым пераборам ...
Нараджэнні-пахаванні -
Узорам ...
Залачэнні-серабрэнні ружова ...
І ад бедаў у блуканнях
Мікола.

*7.2.1997*

* * *

Кветкі мае кветкі -
Сонечные дзеткі,
Ветрык вам каханым, змалку як калыска,
Пчолкі або птушкі вам пяюць так блізка.
Аб сваім каханні, людцы залатыя -
Перакажуць кветкам, каб казалі тыя.
Водарам цудоўным ахіналі сэрцы,
Мілавалі душу і ў маім вакенцы.
Пэўна, для жанчыны - кожна кветка люба,
Пацалуй спачатку ласкава, галуба,
Так рамонкі ў марах церабі на шчасце,
Загарні ў сонца, у ружах - твая Насця.

## Спеў...

Па нябёсах плешчуць дождж і град,
Насця ходзіць збоку...
Намалюю, пагляджу, быццам зненароку.
Так, цудоўны краявід бачым у вакенца,
Засцілае вочы сум, трэскае паленца,
Па-над рэчкаю туман усё шукае цуды,
Як знайсці чароўны дзень, калі буду любы.
Узыдзе сонейка,
Туман ападзе расою,
Будзе час, калі мы зноў
Стрэнемся з табою,
Хай абдыме, захіне, зачаруе кветкі,
Дрэвы схутае павук,
Быццам кроплі - дзеткі...
Толькі чутна недзе узбоч
Спеў старое школы:
- Насця, шчасце падары -
У тумане словы.

*31.7.02, Насці Жлобіч.*

## Балтыйская восень

Туман ці дым прыжмурвае мне вочы,
Вятрыска дыхае дажджом,
Балтыйская восень
На кожную гадзіну змяняе надвор'е,
Ды працы
На кожную гадзіну - удвая,
Работ у полі восем.
Балтыйская восень -
Цудоўныя фарбы - і ўся ты мая.
Цябе сустракаю, шаную, кахаю.
Балтыйская восень цалуе дажджом,
На ўсе мне пытанні палац расхінае,

Чаруе сжаўцелым прыгожым лістом,
Ды лiтары так, на лісце залатыя
Па кроплi ў душу срабрыста бягуць.
Балтыйская восень - спявае мне хмарка,
I ў дрэвах таксама жар-птушкі пяюць.
Балтыйская восень - жаданая збожжам,
Ды бульбаю, яблыкам - у зімку прыпас.
Заходзь калі ласка, цябе я вітаю,
Балтыйская восень,
Ты, бач - сярод нас.

*20.10.02.*



# Марына Суднік

*Марына Валянцінаўна, Суднік нарадзілася 7 кастрычніка 1991 года ў вёсцы Мядзведка Карэліцкага раёна Гарадзенскай вобласці. У Нясвіжскім дзяржаўным каледжы імя Якуба Коласа атрымала адукацыю настаўніка нямецкай мовы, па якой і працавала ў Карцэвіцкай сярэдняй школе. Завочна скончыла Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт па той жа спецыяльнасці. Працавала метадыстам ДУА "Нясвіжскі раённы вучэбна-метадычны кабінет", бібліятэкарам і педагогам-арганізатарам ДУА "Ланскі навучальна-педагагічны комплекс дзіцячы сад - сярэдняя школа".*

*Замужам, мае сына. На дадзены момант знаходзіцца ў водпуску па догляду дзіцяці да дасягнення ім узросту трох гадоў. У вольны час любіць маляваць, а калі ёсць натхненне - складаць вершы.*

### Чорны птах

Чорны птах узмахнуў у небе крылом
І пакінуў свой след над зямлёй
Там, дзе Прыпяць, Сож і Дняпро
Па Беларусі звіліся пятлёй.
Што пакінуў ты нам, чорны птах?
З чым прымусіў змагацца народ?

Чорным болем у сэрцы твой страх
Лёс чалавецтва марнуе штогод.
Чорны лёс, чорны птах, чорны боль...
На  Радзіму ўскінулі сумныя цені.
Адна назва ўсяму - Чарнобыль -
Паўтарыць бы цябе  не  хацелі...
Памяць страшную дату чаканіць,
Адбівае красавік кожны раз
Не для таго, каб ад жаху падзеі пазбавіць,
А для таго, каб вучыць жыць кожнага з нас...

## Буслы

За рэчкай буслы клекаталі
На дубе, быццам на вежы,
Буслянят да гнязда склікалі,
А ля рэчкі пахла травою свежай.

Буслы кружыліся ў небе сінім
Над маленькай царквою, ля возера.
А там, ля старога млына,
Аглядалі ўсё важным позіркам.

Узмахне белы птах чорна-белым  крылом -
Павее з лугоў асалодай:
Чаборам, канюшынай і васільком -
Водарам роднай прыроды.

## Бусляня і жабяня

Хто б падумаў, хто б прыдумаў,
Што такое  можа быць:
Бусляня і жабяня
Па-сяброўску могуць жыць.

Так задумана ў прыродзе:
Буслу жабка - на абед.
А жывуць, аднак у згодзе
І вясёлы з іх дуэт.
Калі сонца ўзыдзе ранкам,
І туман спаўзе за лог,
Бусляня ляціць з буслянкі
Ў госці к сябру на парог.
Дзе парог той? Каля рэчкі,
Там, дзе плешчацца вада,
Не сціхаюць там жа спрэчкі,
Усе гамоняць:"Ква-ква-ква!"
Сустракае свайго сябра
Ля вадзіцы жабяня,
А здалёк раскіне крылле
І клякоча бусляня.
Разам у іх забаў нямала,
Трэба ўсюды пабываць,
Жабка кожны дзень лятала
З буслам рэчкі аглядаць.
На азёрах пілі каву,
На балотах спачывалі,
А ў рамонку ў чыстым полі
Грэлі лапкі, загаралі.
Сябравалі буслік з жабкай
Добра і без спрэчак,
Бо жывуць, бывае, гладка
Супрацьлегласці, дарэчы.

## Яблык духмяны ўпаў на зямлю

Яблык духмяны ўпаў на зямлю,
У кроплях расы спаласнуўся.
Сонца прамень аблашчыў раллю -
Так восеньскі ранак прачнуўся.

Воблакі ціха па небе плывуць,
Вецер ім песні спявае.
Пчолы ў садзе больш не гудуць:
Антонаўка ўжо ападае.

Верасень паліць на дрэвах кастры,
Восень у сілу ўступае.
А пах які, водар у гэтай пары -
А ці хто яго з чым параўнае?

## **Куцця**

Каляда імчыць у хату,
Бабуля сустракае свята:
"Ушануем тут Хрыста:
Абрус белы і абраз -
Гэта дзеля хараства" .
Пад абрусам сена пахне,
І свечка сёння не зачахне.
Бабуля смачна так гатуе
І прысмакаў не шкадуе:
Капуста кіслая і кіслы агурок,
Астывае на стале куцці гаршчок,
Запраўлены ён мёдам,
Такое свята - ёсць нагода.
Красуюцца блінцы пад макам
З асобным водарам і смакам.
У місачцы блішчаць грыбкі:
Гладкія баравікі.
"А вось гарачы квас,
Даражэнькія, для вас!"
Кісель з аўсянкі звараны,
Шчупак тут ёсць падсмажаны.
Завіхаецца бабуля, з печы
Падае на стол запечаныя

Яблыкі духмяныя,
Жарам маляваныя.
Не абыйсціся тут без хлеба,
І мёд паставіць у сподку трэба.
А пара ідзе са збана:
Кампот - узвар - так званы
Бабуля ставіць ля харчоў
І кажа: "Ну, пачнём!
Дванаццаць страў мы налічылі
І ўшанаваць мы не забылі
Апосталаў усіх,
Ля Хрыста святых".
"Ойча наш" яна чытае,
Продакаў усіх паўспамінае,
Да стала запросіць ноччу:
"Няхай прыйдуць, як захочуць".
Вось так і вечар пройдзе,
Назаўтра кожны ў сэрцы знойдзе
Водбліск зоркі з Віфлеема,
Што свеціць ярка ў небе.
Хрыстос, Хрыстос, ты нарадзіўся!
І нам з Калядамі з’явіўся!

## Зноў Раство!

Зноў Раство!
Зноў анёлкі
Сыплюць з неба
Залацістыя зоркі.
Снег срабрысты ў паветры
Віхрам імчыць:
Гэта гук Раства
Ў кожнай хаце звініць.
Ціхі, тонкі ён,
Ледзьве чутны.

Пад водбліскі свечак
Такі мілагучны.
Такі цёплы,
Лёгкі, звычайны,
Ён гучыць у сэрцы
Адчайна.
Просіць гук Раства
Ўсіх прабачыць,
"Кепска" на "добра"
Перайначыць.
Зноў Раство!
Зноў анёлкі
Водзяць нябачна
Карагод каля ёлкі.

## Калыханка

Вечар спусціўся ў лагчынку -
Там будзе ён спачываць.
Ночка з нябёс паглядае,
Як дзеткі ў калысках спяць.
Месяц па небе гуляе,
А зорачкі так зіхацяць!
Праз вокны яны назіраюць,
Як дзеткі ў калысках спяць.
Казкі блукаюць па хаце,
Бавяць з цацкамі час.
Дзед Сон стаіць на парозе:
"Ну, даражэнькія, зноў я да вас!"
Ходзіць дзядуля па хаце
І кажа класціся спаць -
Задрамалі і казкі, і цацкі...
Толькі зоркі ўначы зіхацяць.



# Алена Шаблоўская

*Алена Расціславаўна Шаблоўская нарадзілася ў горадзе Стоўбцы. Гадавалася на хутары Перавалокі за Слонімам у бабулі і дзядулі, затым у дзіцячым доме ў Дзятлаве. Закончыла Іркуцкае паліграфічнае вучылішча. Год працавала ў Гродзенскай друкарні. З пераездам у Нясвіж пайшла на швейную фабрыку, пазней уладкавалася на працу ў дом быту "Фіялка". Сябра раённага літаратурна-музычнага аб'яднання "Валошкі" і абласнога народнага клуба кампазітараў і паэтаў "Жывіца". Вершы ўвайшлі ў калектыўныя і абласныя зборнікі паэзіі.*

## Калыханка

Ой, прыйшла тая гадзіна,
Нарадзіла Маці Сына.
Ой, люлі, люлі.
Ціха ў свеце. Ноч Святая.
Зорка з неба паглядае.
Ой, люлі, люлі.
А стары Іосіф плача, -
Ад расчулення, няйначай.
Ой, люлі, люлі.
Людзі соладка паснулі,
У сэрцах шчасце, мо, пачулі.
Ой, люлі, люлі.
Віфлеему слава будзе,
Бо празнаюць гэта людзі.
Ой, люлі, люлі.
Шчыра стануць праслаўляці
Ўсе Марыю, Дзеву-Маці.
Ой, люлі, люлі.
Пастушкі ад сваіх статкаў
Першымі прыйшлі Дзіцятку
Спець: "Люлі, люлі".
Зорка на ўсё неба ззяла,

Ды ў дарожаньку пазвала.
Ой, люлі, люлі.
Тры Цары, што лічаць зоры,
Праз пустыню йшлі, праз горы.
Ой, люлі, люлі.
Смірну, золата, і ладан
У дар прынесці Богу рады.
Ой, люлі, люлі.
Спеу Анёлаў не змаўкае,
На Дзіцятка паглядаюць,
Ой, люлі, люлі.
Хрыстос сёння нарадзіўся.
Бог, як Чалавек з'явіўся.
Ой, люлі, люлі.
На вякі даў людзям розум, -
У горы, у шчасці быці разам.
Ой, люлі, люлі.
Божы Сын Сусветам правіць,
Ён ад смерці нас пазбавіць.
Ой, люлі, люлі.

Слава Богу, Слава Богу!
Ёсць на Неба нам дарога!
Ой, люлі, люлі.
Ёсць на Неба нам дарога...
Ой, люлі, люлі!

**Рэканструкцыя**

Цвітуць у садзе кветкі. Хрызантэмак
Ужо бялеюць першыя макушкі.
Няма на хаце даху, - так, часова,
І ўнізе - людзі, а наверсе - птушкі.
І менавіта гэтае здарэнне
Таму, што ёсць сынок у бацькі, меншы.
Але, падрос, і вось, - здымае дахі,
А мама ўночы ціха піша вершы.
І людзям гэта - проста так, цікава.
І ў птушак, пэўна, свой на гэта погляд.
Як добра, што жыве на свеце з'ява -
Да ўсяго - мужчынскі спраўны догляд.

*16.08.18 г.*

*Прысвячаецца Дзімітрыю Леанідавічу Пятровічу*

Камячкамі - грошы на стале,
Позірк - прастадушны і яскравы.
Кніжкі ён падпісвае, але, -
Тым, каму ўвесь лёс яго цікавы.

Ён - заслаўскі хлопец, беларус,
Постаццю заметны і магутны.
А яшчэ - адметна, без прымус,
Льюцца словы, голас - добра чутны.
Вось, - настаўнікаў бы нам такіх
Па жыцці сваім сустрэць даволі!
І каб шчыра памяталі іх,
І маліліся б аб іх міжволі.
Чырванее з-пад яго пяра,
Асыпае фарбамі вясёлка...
Пачаткоўцам ён пайшоў з двара
Вёскі, дзе блішчыць раса на золку.
Людзі пройдуць міма. Прыгажосць
Не кранецца зайздраснага сэрца.
Мо, Пятра нашчадак ён. І - госць
Сёння ў нас. Гасцінна нам жывецца!
Людзі так ці гэтак бавяць час,
А паэту - проста не сядзіцца
На канапе, і каб бачыць нас,
Яму трэба ў цягнічок садзіцца.
І мінаюць вёрсты за акном,
За халоднай лютаўскаю шыбай...
Без паэтаў проста мы жывём,
З імі пачынаем бачыць свае хібы...

*21.02.19 г.*

**Роздум**

Я такою яе
Ніколі не бачыла -
У бялюткай хусцінцы,
Абвеяўшай твар,
І, калі мне сказалі :
- Яна ўжо пайшла ад нас,
Першай думкай было:
“Прапаў гэткі дар...”

А на самай-то справе
Вельмі проста ўсё сталася:
Бо, назаўтра, у Царкву, -
То памыцца пайшла,
І апошнім дыханнем
Да Хрыста прывязалася,
Чысціню, як манахіня,
Усю зрабіла сама...
Калі хочаш Настаўніка
Узяць найменне вялікае,
Прытулі нас да сэрцайка:
Усіх, дачок і сыноў.
Стане восень, і журава
Песня вечная клікае.
Мы збіраемся ў верасні,
Каб сустрэцца ізноў.
З - пад пяра, з-пад скрыпучага,
Выйшла тонкая лінія,
Напачатку дрыготкая,
Ну, а потым - раўней.
Гэта лёсу прыгожыя
Літары сінім-сінія,
І настаўнікаў клопаты,
І цяпер, і даўней.
Вось, была ты - настаўніца,
Паважаная, добрая.
А ў думках заўсёды
Ты з Богам была.
І ў малітве сваёй
Ты да Бога звярталася,
І любіла Яго,
Дзе бы ты ні жыла.
А, аднойчы, так сталася, -
Мела пэўны ў тым неспакой,
І душа загарэлася
Слаўнай думкай адной:

Каб Царкву збудаваць
Усім народам Нясвіжчыны,
І знайшліся паплечнікі
Справы добрае той.
А, яшчэ, - трэба бацюшку,
І Дабраславенне нам,
І ў Мінск, у епархію
Паімчалі затым.
І да Мітрапаліта
Філарэта звярнуліся...
- Будзе радасць вялікая!
Абвясціў пастыр ім.
...Вось - Царква на ўзгорачку.
У ёй маленне ўзносіцца,
І крыжы залатыя
Пад аблокі ўстаюць...
Ты ідзеш, і яна
Абаперціся просіцца,
Каб раўней ёй дайсці.
Там Анёлы пяюць!
Так, Царква...
Як дайсці нам да Вечнасці?
Так хадзіць да апошняга.
Хутка скончыцца час...
Яна міла ўсміхалася,
Боль свой пераадольвала.
І была зноў НАСТАУНІЦАЙ
Для любімых, для нас!

*25.02.19 г.*
*Прысвячаецца светлай памяці*
*назаўжды - настаўніцы,*
*а таксама - найстарэйшай*
*прыхаджанцы Свята-Узнясенскай Царквы*
*горада Нясвіжа,*
*Быль Алене Іосіфаўне.*
*Гады жыцця: 1927 - 2019.*

## Вершаванка

Заплаціце беднаму паэту - вершаплёту.
Дык не бедны ён!
Госпаду ён падарыў сваю душу-свяцёлку,
Шчасцем поўны ён.
І спазнаў ён Свету таямніцы.
Перад ім - Цары і Каралі.
А зямных куміраў нябыліцы
Да няшчаснай долі прывялі.
Зноў ён хлеб свой соллю прыпраўляе,
Узятаючы ад роднае зямлі.
І праз боль ён словы нараджае,
Каб да дабрыні яны вялі.
Мо, калі б жылі для Бога людзі,
У сто разоў прыбавілася б ім.
Бо казаў Гасподзь, і гэта будзе, -
Бессмяротнасць Ён падорыць людзям,
Усім - дачушкам і сынам Сваім.

*29.12.17 г. - 27.12.18 г.*

## Маміна шчасце

Шчасце цвіце медуніцамі,
Спевам птушыным узнесена,
Бавіцца з бору крыніцамі,
Ды зіхаціць смехам весела.
Шчасце звініць калыханкамі,
Матчынай мовы над дзеткамі,
Стужкамі, ды маляванкамі,
Ды, аж да зорачак, - кветкамі.
У працы штодзённай замешаны,
Хлеб паспявае да раніцы.
Пахне наўкол - свежаспечаны,
Пыхкае пад даматканіцай.
Як у жыцці поўна радасці

Кожнай хвілінкай трапетнаю!
Спеліць яно, аж да старасці,
Колас сям'і мнагадзетнае.
І, як пяшчотна ўсміхаецца
Быццам завея, сівая ўся,
Маці, бо зноў нараджаецца
У родзе вялікім, - ізноў дзіця.
Круціцца кола няспыннае
У карагодзе між зор-нябёс,
Бо мы шануем айчыннае, -
Вышыты ўзорамі дзіўны лёс.

*22.02.19 г.*

**Шчасця вам, людзі!**

Да - лу - чай - ся! Будзь беларусам!
Жыві ў шчасці, ды без спакусаў.
Толькі ведай, будзе нямала
Шчырай працы. Мо хочаш сала?..
Асірацела прымоўклі хаты
У вёсачках дзіўных.
Дзе той араты,
Што сваіх статак
Коней меу сівых,
І мо з дзесятак
Дзетак шчаслівых?
Дзеткі ў горад
З'ехалі дружна,
Не кажуць: “Трэба!"
А кажуць: “Нужно!"
Далучайся! Стань беларусам!
Мы прывыклі
Жыць пад прымусам.
Мы - не творцы, мы - дармаеды,
Мы бананы завём абедам.
Курым тытунь,

Сёрбаем піва,
Ды толькі марым
Жыці шчасліва.
Вучаць дзеці
Розныя мовы
І ўжо далёка
З'ехаць гатовы...
А ў нас - утульна!
Квітней, Радзіма!
Ёсць надзея ў бацькі на сына.
Ён адзіны, ды так падобны,
На бацькоў.
Будаўнік ён добры,
І не хоча далей вучыцца.
І гэтак добра мог прыгадзіцца.
Просіць у Бога
Жоначку толькі,
Ды і дзетак
Можа дасць колькі.
Зажывём! Мы - беларусы!
Хай сябруюць
Рыжы ды русы,
Чарнавокі ды кучаравы.
Мір вам, людзі!
І ўсім хопіць справы!..

*21.02.19 г.*




# *Валянціна Шчарбакова*

*Валянціна Шчарбакова нарадзілася 23 верасня 1974 года ў Нясвіжы. Скончыла СШ № 3, Нясвіжскае педагагічнае вучылішча (1994), філалагічны факультэт БДПУ імя Максіма Танка, Інстытут культуры Беларусі (2013 г.).*

*З 1994 да траўня 1998 года - настаўніца пачатковых класаў Крамянецкай пачатковай школы Лагойскага раёна. З траўня 1998 - бібліятэкар Нясвіжскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Паўлюка Пранузы.*

*Укладальнік кніг "Пастыр добры зямлі Нясвіжскай", "Нясвіжчыны духоўныя крыніцы", "Букет валошак", зборнікаў паэзіі і прозы нясвіжскіх аўтараў.*

*Аўтар сумеснага праекта "Парады з вуснаў нясвіжан" бібліятэкі, раённай газеты і радыё, СШ № 4 г. Нясвіжа, аднайменнага электроннага часопіса, прысвечанага жыццю і творчасці намесніка галоўнага рэдактара газеты "Нясвіжскія навіны" С. Любанец, цыклу буклетаў ў рамках праекта (тэхнічны рэдактар Т. Байкаш), духоўна-асветніцкай перадачы "Абуджэнне" на раённым радыё (2010- 2022 г., рэдактар Аксана Грох).*

*Заснавальнік і кіраўнік раённага літаратурнага аб'яднання "Валошкі".*

*Друкавалася ў газетах "Нясвіжскія навіны", "Няс-*

*віжскі час", у "Краязнаўчай газеце", "ЛіМ", часопісе "Планета - Сям'я". Вершы увайшлі ў зборнік "Званы памяці", выдадзены да 60-годдзя вызвалення Беларусі, калектыўныя зборнікі абласнога народнага клуба кампазітараў і паэтаў "Жывіца" : "Мне рамонкі цалуюць калені", "Срэбны блюз", "Калі бярэшся за пяро", "Шчабятушкі", "На крылах дзяцінства" і інш.*

***"Хай стане маленнем верш…"***
*А. Бембель.*

* * *

Калісьці Гасподзь разбурыць прасторы,
І я навучуся хадзіць па моры.
А тыя, хто лічыць мяне вінаватай,
Справяць у мой гонар вялікае свята.
Як слёзы пральюць сябры і знаёмцы,
Зноў усміхнецца вясёлкаю сонца.
Загляне Гасподзь у кожную душу…
І я ўсміхнуся. Сябе я прымушу
Жыць па законах не соннага свету,
А нейкай другой, незнаёмай планеты.
Дзе толькі любоў, дабрыня і спагада,
Дзе людзі сабе і іншаму рады.
На крылах, да неба, да даляглядаў,
Туды, дзе ў агні загінула здрада.

* * *

Час сеяць і час збіраць…
Не намі прыдуманы даты
Нараджацца ці ўвысь узлятаць.
Будні сустрэць ці святы.

Не мы выбіраем дні,
Іх нам даруюць нябёсы.
І крочаць заўжды праз вякі
Людзі, народы, лёсы.

Промыслам Божым жывём,
Бо толькі душа жывая
Не зойдзецца вечным агнём,
А знойдзе свой шлях да Раю.

* * *

Глядзі, а ўжо лістапад,
Дрэвы хутаюцца ў павуцінне,
Няма часу зірнуць назад,
Усё разлічана па хвіліне.

Так усё прабяжыць жыццё,
Даганяю ўчора і заўтра,
Рукі цягне малое дзіцё,
Прамаўляю яму: "Не варта".

Мне ж ізноў па-за часам жыць
Да зімовае прахалоды…
А сваіх хоць калі любіць?
То на гэта няма ўжо моды.

* * *

Гады нясуцца, як хвіліны,
Іх не паклікаць, не дагнаць.
Учора я была дзяўчынай
І шчасце марыла спазнаць.

Учора я была дачушкай
І для найлепшае з матуль

Гарэзай і яе пястушкай,
А сёння сівізна адкуль?

Каб мне ў той час яшчэ вярнуцца,
У вочы маці зазірнуць…
Ды толькі вось гады смяюцца
І кажуць: "Паслухмянай будзь".

* * *

Мне падміргвае восень вокам,
Хоць здалёк, ды глядзіць у акно.
Я стараюся быць строгай,
А яна са мной ні за адно.

Кліча проста прайсціся пешшу,
Там дзе сцішыўся сонны сад.
Ён чакае, што на прадвесні,
Не толькі птушкі сюды прыляцяць.

Ён чакае з любой дарогі
Сваіх добрых гаспадароў
І штодзённа кладзе паклоны
Да патухшых даўно ліхтароў.

І самотнай становіцца восень,
Ёй не хочацца ўжо забаў.
Спачувальна глядзіць у просінь
Маіх даўніх забытых мар.

* * *

Спіць лістапад за вокнамі сусвету,
Ужо так недалёка да зімы.
Таго, хто верай Божаю сагрэты,
Не страшаць белы снег і халады.

У балі лісця, у быцця імгненнях,
У завірусе снегу і жыцця,
Я не баюся, бо няма сумненняў,
Што Вечнасць не пакінеш на пасля.

* * *

*Мужу*

Хачу зярняткам кволым прарасці,
Праз тваё сэрца пралажыць дарогу.
І разам зноў па ёй з табой ісці,
А ты блукаеш у нябёсах новых.

Я зноў цябе вяртаю на зямлю
Сваёй малітвай і сваёю верай,
Як сто гадоў назад, цябе люблю
У словах, справах, нават на паперы.

Чакай, яшчэ пакліча далячынь,
Для развітання цэлы век таксама.
Адкінь імгненных успамінаў дым,
І будзь героем аднаго рамана.

* * *

Вось і вясна. Мы зноў у храме сонца.
На хуткаплынным караблі нябёс
Імчым з табой і свой шукаем лёс.
Я так ляцець магу амаль бясконца,
Абы паўсюль былі вясна і сонца.



## *Аляксандар Яцук*

*Аляксандар Сцяпанавіч Яцук нарадзіўся 26 лістапада 1971 года ў гарадскім пасёлку Гарадзея Нясвіжскага раёна. Пасля заканчэння мясцовай сярэдняй школы вучыўся ў Харкаўскім вайсковым авіяцыйным вучылішчы, затым у БДУІР. Працавау ў энергетыцы, займаўся выдавецтвам карпаратыўнай газеты Гарадзейскага цукровага камбіната. Зараз супрацоўнік Нясвіжскай цэнтральнай раённай бібліятэкі.*

**Карона**

Свет, захоплены каронай,
Ціха стогне ад натугі,
Разарваны бруднай зонай
На асобныя акругі.
Страшна нам хадзіць у госці,
Каб карону не прынесці,
Людзям выкруцілі косці,
І мазгі ўжо не на месцы.

## Лірычнае

Страла чароўная Амура
З тваіх вылётае вачэй,
І сэрца хлопца-балагура
Біць спачынае ўсё хутчэй…

Як той Рамэа ад Джульеты
Губляе розум назаўжды,
Ён жыць не можа ўжо без мэты,
Каб з ім была заўсёды ты.

Так Пушкін за сваёй Земфірай
Па Бесарабіі блукаў,
І яе вобраз, сэрцу мілы,
Лірычнаю паэмай стаў.

Я не паэт, і скажу болей:
Павінна ў лірыцы адно -
Нас, што пазбаўляе волі, -
Кахання моцнае віно.

## Лістапад

Восень. Хвалі лістапада
Ў палон узялі зямлю,
Распранулі дрэвы саду,
Вальсы кружаць па жніўю.

Божы дзень напоўніць змрокам,
У ім знікае сонца твар,
Няўтрымна, мерным крокам
Рушыць холад-уладар.

Усё жывое ў паўсамоце,
Неба хмарыцца блакіт,-

Час памарыць аб спякоце,
Летні ўспомніць краявід.

Гэта лепшы паратунак
Ад самоты ды ад хмар.
Неба з сонцам - падарунак
Нашых самых светлых мар.

**Майстар**

Пэндзлік рухавы ў майстра мільгне,
Алеем малюе свет на палатне.

Жыццё без алею неяк цямней,
А на карцінах усё ж весялей.

Момант цяперашні нам на вякі
Здольны ў алеі спыніць мастакі.

Бог ім спрыяе, сілу дае,
Нотамі колераў песні пяе,

Ад ніжняй "до" і вышэй, аж да "сі",
Хочаш пачуць? - Мастака папрасі…

Вось Пракарына, - музыка такі,
Ён, як аловак для Божай рукі,

Ведае нотаў мастацтва сакрэт,
Як кампазітар, мастак і паэт.

Фарбы гучаць на карцінах яго,
Нота ж "сі" дык мацней усяго.

Камень у майстра здолен зайграць,
Скульптар ад Бога, якіх пашукаць.

## Радзіма

Квітней родны кут, Гарадзея,
Суніц і валошак зямля.
Тут сонца пяшчотней нас грэе,
І пахне прыемней ралля.

Спрадвеку старая дарога
Тут штурмам бярэ вышыню,
І шмат усяго тут такога,
За што я Айчыну люблю.

Статней тут яліны ды сосны
Сабой упрыгожваюць край,
І вабіць салодкаю стомай,
Царкву абдымаючы гай.

Бярозавы сок саладзей тут
Збаўляе жыццёвых турбот.
У гэтым, насамрэч, павінен
Цукровы наш слаўны завод.

Радзіма тут яблыкам пахне,
І сілу дае продкаў дух,
На могілках брацкіх салдацкіх
Ланцуг звіў магічны свой круг.

У цэнтры ж яго герой-воін,
Закуты ў граніце, стаіць,
Каб памяць нашчадкам захоўваць,
Зямлю ад нягод бараніць.

Пад гэтай гранітнай плітою,
На версе халоднай гары,
Знайшлі свой апошні прытулак
Савецкіх часоў змагары.

Яны за наш лёс ваявалі,
Каб мы нарадзіцца змаглі,
І кроў, і жыццё аддавалі,
Айчыну сваю бераглі.

На прыкладзе іх нам вучыцца
Каханню да родных мясцін,
Калі ж раптам свет загарыцца,
Устаць ва ўвесь рост, як адзін.

**Родная зямля**

Сэрцу мілыя мясціны
Так і просяцца ў карціны:
За ірвом Нясвіжскі замак,
Паркаў цень, бацькоўскі ганак,
Рэчак ціхенькая плынь…
Старана легенд, былін,
Што нас песціла з калыскі,
Рыхтавала ў шлях няблізкі,
Сілай духу снараджала
І сабою абдымала.
Дзякуй, родная зямля,
Сэрцам твой заўсёды я.

**Сакавік**

Зазірнула ў сенцы сонца,
Промнем бліснула ў аконца,
Усміхнулася прыродзе -
Марнаваць час спячкай годзе.
Сакавік - світанак года,
Не спрыяе сну пагода.

## Сакрэт

Сярод лясоў, палёў і тундры,
Сярод балот, азёр і рэк,
Сакрэт жыцця адвечна мудры
Спрадвек шукае чалавек.
Сакрэт жа ў тым,
Каб нам з прыродай
У згодзе і ў суладдзі жыць,
Каб сталася для ўсіх нас модай
Сваёй зямлёю даражыць.

## Сон

Прылёг адпачыць на бацькоўскім гумне,
І казка дзяцінства прыснілася мне,
Усмак напаіла з празрыстай крыніцы,
У далоні збірала лясныя суніцы,
Мядком частавала з бурштынавых сотаў,
Зоркі-валошкі раскідвала ўпотай,
І сэрца сагрэла агнём негасімым -
Усяго саладзей яму водар Радзімы.



# *Станіслаў Суднік*

*Станіслаў Суднік нарадзіўся 21 верасня 1954 года ў в. Сейлавічы Нясвіжскага раёна. Падпалкоўнік у адстаўцы. З 1994 года жыве ў Лідзе.*

*Паэт, перакладчык, выдавец. З 1997 па канец 2021 года рэдактар газеты "Наша слова". З 1997 года рэдактар часопіса "Лідскі летапісец". Рэдактар электроннага часопіса "Нясвіжскія каеты" і электроннай газеты "Наша слова.pdf". Рэдактар літаратурных альманахаў "Ад лідскіх муроў", "Стольны град" (Наваградак), "Нясвіжскі ўток", "Родныя пагоркі" (Капыль).*

*Друкаваўся ў літаратурных часопісах "Полымя", "Маладосць", "Верасень", "Новы замак".*

*Аўтар кніг паэзіі "Пагоня за мову", "Мой Грунвальд", "Лідскія скрыжалі", "Літва", "Пілігрымка дадому".*

* * *

У свет я з Сейлавіч пайшоў,
Назад прыйду на Бажантарню*.
Ці шчасце ў свеце я знайшоў?
Ці не патраціў жыцце марна?

Не мне цаніць, не мне гадаць,
Што скажуць людзі: горш ці лепш.
Пішу, каб мог зрэдзь нагадаць
Вам пра мяне мой сціплы верш.

** Бажантарня - сейлавіцкія каталіцкія могілкі.*

## ГАВЭНДЫ

### Судны дзень судаваў

*Судавы - адно з яцвяжскіх плямён.*
*Разам з літвой, дайнавой, нальшанамі*
*былі тым таямнічым балцкім субстратам,*
*які стаў складовай будучага беларускага этнасу.*
*Асаблівасцю менталітэту судаваў ды і іншых*
*яцвягаў было тое, што яны ніколі не здаваліся ў палон.*
*Таму пад ударамі крыжакоў асноўная маса*
*заходніх судаваў была перабіта, і толькі невялікая*
*частка адышла на тэрыторыю ВКЛ і была расселена на*
*паўднёва-ўсходніх рубяжах летапіснай Літвы для*
*ўмацавання мяжы са славянамі. Пра мірнае ўз'яднанне*
*са славянскімі землямі тады яшчэ і не марылі.*
*Усходніх судаваў, цяперашняя Сувалкія ў Польшчы,*
*ВКЛ узяло пад абарону. Яны ацалелі, і яны - тыя ж*
*беларусы. Нядаўна Сувалкі былі замовілі на*
*Беласточчыне 100 беларускіх Буквароў.*
*А ад заходніх судаваў засталося шмат тапонімаў,*
*якія таксама з часам пазнікалі і прадаўжаюць знікаць.*
*Але на карце Беларусі яшчэ ёсць як мінімум восем*
*вёсак з назвай Суднікі (быў засценак Суднікі і ў*
*Нясвіжскім раёне, каля Навасёлкаў), з Суднікоў,*
*што за Кунасай, быў родам мой дзед.*

Судавы цяжкую прайгралі бітву,
І ў бітве той палеглі воі ўсе
Да аднаго, і да нябёс малітву
За іх ніхто ніколі не ўзнясе.

Палеглі воіны: і хлопцы, і дзяўчаты,
Хто сілу меў і зброю мог трымаць,
Ляглі пад хвояў векавыя шаты,
І не было каму іх нават пахаваць.

А крыжакі вясёлаю гурбою
Балююць тут, ну проста на касцях,
І цяжка сцелецца крываваю смугою
Паміж карчоў ліпучы, клейкі страх.

Паўзе той страх і ўсім апавядае,
Што новы тут з'явіўся гаспадар,
Грыміць жалезам, прагаю пылае
І з чорным крыжам ставіць свой штандар.

Бяжыць выведнік па лясных сцяжынках,
Каб важнай весткай рыцараў падняць,
Тут недалёка за лясной лажбінкай
Судаўскай вёскі буданы стаяць.

А ў вёсцы той - ні аднаго мужчыны,
Ляжаць, напэўна, тут вось, у бары,
У вёсцы - толькі дзеці і жанчыны,
Хоць голымі рукамі іх бяры.

І рыцары сядаюцца на коней,
А кнехтаў пасылаюць у абход
Адрэзаць пушчу і балотаў тоні
І перакрыць на стромай рэчцы брод.

Бывае ж так, што лёгкая здабыча
Сама, здаецца, просіцца: "Вазьмі!"
І пах крыві ім ноздры ўжо казыча,
І ніякага сумнення ў іх - ані.

А вёска што? Няўжо няма спадзеву
Схавацца, уцячы, перачакаць
Наезд крыжацкі, як дажджу залеву,
Няўжо дадуцца сябе лёгка ўзяць?

Вось вынік почт крыжацкі з лесу сховаў,
А перад вёскаю натоўп відаць,

Ды не натоўп там - звыклы шыхт вайсковы,
Жанчыны з дзецьмі ў тым шыхце стаяць.

Народ судаўскі мовіў сваёй мовай,
У мове іхняй не хапала многіх слоў.
"Палон", "няволя", "раб", - не ведалі ніколі,
А "адступіць" ці "здацца" - пагатоў.

Таму стаяў той шыхт нярушнымі радамі,
І страшны, і вялікі шыхт той быў,
Жанкі, бабулі з дзецьмі і мячамі,
Да аднаго ці да адной, хто толькі жыў.

У першым шэрагу стаялі маці
З малымі дзецьмі на руках,
Дзіця - на левай, меч - у правай,
Распушчаныя косы, нібы сцяг.

Дзіця малое тарчаю служыла
І мацерына сэрца берагло,
І кожнае з матуляй мілай
У той апошні, страшны бой ішло.

У шэрагу другім стаялі тыя,
Хто толькі шчэ збіраўся нараджаць,
І ненароджаныя дзеці, а жывыя
Ішлі з матулямі таксама паміраць.

У трэцім шэрагу ішлі бабулі,
Малых трымаўшы моцна за руку,
Гады нядолі добра іх пагнулі,
І вось апошні дзень іх на вяку.

Малы рукой схапіўся за спадніцу,
Другою камень моцна ўзяў,
І ён ідзе з напасцю біцца,
І ён ужо мужчынам  стаў.

Вось стрэлы чорнай хмарай паляцелі,
Дзіцятка ўскрыкне і маўчыць,
Крыжак здаволены - пацэліў
У той жывы маленькі шчыт.

А шыхт ідзе праз боль пякельны,
А крыжакі наперад, як таран,
Сышліся ў звалцы той смяртэльнай
Валькірый сонм і зграя хрысціян.

Мячы і дзіды заблішчалі,
На тарчах - ненавісны крыж,
А тут ваўчыцы коней рвалі,
Арліцамі ўзляталі ўвысь.

Хапалі рыцараў за фалды,
З каня цягнулі, каб на ніз.
І пакідалі кучку падлы,
І кожная была, як рысь.

Зубамі грызлі, кіпцюрамі
Ірвалі ўсё, што рваць маглі,
З вачніцаў вочы выдзіралі
І кроў з парваных гарлякоў пілі...

І паляглі бясстрашныя жанчыны,
Бабулі, дзеткі паляглі,
Не ўзята ў путы ні адзінай,
Жывой ніводнай не знайшлі.

Хто дыхаў чуць, дабілі р'яна
І рыцараў панеслі адпяваць,
Бо не адзін на той паляне
Навек застаўся быў ляжаць.

І знікла вёска, як ніколі
Яе на свеце не было

Шчэ тлелі буданы паволі,
І гар над пушчаю нясло.

А там за гацямі - зноў вёска,
А там за бродам - шчэ адна,
Ляцяць над пушчай пагалоскі,
Як змей паўзе да іх вайна.

Чакаць яе не выпадае,
Адбіцца сілаў не стае,
І рада скрушна вырашае,
Пакінуць роднішчы свае

Сыходзіць у зямлю дайнавы,
І дальш, за вечную раку,
Каб князь вялікі ўзяў ласкава
Іх пад літоўскую руку.

І князь прыняў, не даў пагінуць,
І на мяжу Літвы паслаў,
Ён у нялёгкія часіны
Рубеж дзяржавы мацаваў.

Ён па мяжы, апорай ратнай
Сяліць судаваў загадаў,
Ён імі, нібы моцнай дратвай
Славянаў землі прышываў.

І ўстаў паўскрай ліцвінскіх гоняў
Судаўскіх селішчаў ланцуг,
І ажылі на Панямонні
І кожны лес, і кожны луг...

Жывуць да сёння іх імёны,
Дзе ў назве вёскі, дзе адно
Ў гаворцы, мове іх штодзённай,
А дзе ў арнаменце відно.

Судобле, Судзілы, Судзішкі,
Судзіконты, Судзігайлы, потым зноў -
Судзімонты, Судзікішкі,
Ну і восем Суднікоў.

Судзілова, Судзінова,
Судавальня, потым зноў -
Судзівінды, Судзікова,
Ну і восем Суднікоў.

Дзе ліпяць, а дзе прапалі,
Дзе ў нябыт даўно сышлі,
Аж нарэшце прычакалі,
Аж нарэшце дажылі,

Каб нашчадак тых судаваў
У нетры памяці пранік
І пра беды, і пра славу
Напісаў вам Стась Суднік.

Мы жывыя ў гэтым свеце,
Будзем жывы пагатоў,
Бо стаяць жа на планеце
Тыя восем Суднікоў.

**36 гадзін**

Памёр кароль. Віват кароль!
А нам што з гэтага ўсяго?
Нам кожны дзень - на раны соль
Ад гвалту подлага таго,

Што ў Любліне ўчынілі нам
Паны каронныя былі,
І як Падляшша з Украінай там
Нахабна ў Княства аднялі.

Не толькі землі, а і права
На шмат які дзяржаўны чын,
І мы ўжо - быцца не дзяржава
І быццам з радасці маўчым.

Ды ёсць яшчэ тут канцлер, Рада,
Ды ёсць яшчэ надзея тут,
Нас не схапіла ў кіпці здрада,
І пішам новы мы Статут.

Тут пан Валовіч - знаўца права -
І пан Сапега малады
Той абярэг сваёй дзяржавы
Стваралі многія гады.

Яны грунтоўна напісалі,
Ляглі артыкулы, як мур,
Пра Люблін нават не згадалі -
Далоў накінуты каптур.

"А пісар земскі...", ён павінен
Усё па-нашаму пісаць,
І ў гэтай думцы мы адзіны,
Нам да канца на тым стаяць.

Статут напісаны, і толькі
Павінен падпісаць кароль,
Ды не дапусціць прымас польскі,
Яго ў тым не малая роль.

Ды не дапусціць пан Замойскі
І разам іншыя паны,
Яны дадушаць нас па-свойску,
Бо сілай большыя яны.

Ды раптам вось памёр Баторы.
Палякі новага абраць

Рашылі самі вельмі скора.
На Княства ўваагі не звяртаць

Ужо прывыклі. Аж, панове,
Чакала вас няўвязка тут:
- Мы каралём прызнаем новым,
Хто нам зацвердзіць наш Статут.

Максімільяна падтрымаем,
Хоць Ваза ў Кракаве сядзіць,
Мы вам гульню тут паламаем,
Не будзеце з нас болей кпіць.

І на Сілезію пасольства
Ад Княства едзе, каб сказаць,
Што не пацерпім мы свавольства,
Пад дых каронным можам даць.

А Леў Сапега едзе ў Кракаў,
Віжоў стаўляе ўверх і ўніз,
Ён там злажыўся да атакі,
А герб ён мае з назвай "Ліс".

Максімільян пад Бычну рушыў,
На Польшчу з войскам ён ідзе,
Як Вільню хто чуць падварушыць,
То быць у Кракаве бядзе.

Ды слаба герцаг рыхтаваўся,
Разбіў яго Замойскі ўшчэнт,
Яшчэ і сам на міласць здаўся,
Такі на трон быў прэтэндэнт.

* * *

Ніхто больш Вазу не пагроза,
Ды ён аб тым не знае балазе,

З-пад Бычны па бітой дарозе
Ганец хвалебную рэляцыю вязе.

А побач жа, каб ведаць гэта,
Няўлоўна нешта мігаціць,
Літоўская там эстафета
На Кракаў бліскаўкай ляціць.

Ляціць пан Грынявіцкі,
Ляціць пан Секерыцкі,
Ляціць пан Шыдлоўскі,
Ляціць пан Гладоўскі,
Ляціць пан Грабоўскі,
Ляціць Невяроўскі,
Ляціць Невядомскі,
Ліцвінская шляхта ляціць...

Ляціць пан Сярпінскі,
Ляціць пан Карпінскі,
Ляціць пан Мысліцкі,
Ляціць пан Савіцкі,
Ляціць Рымашэўскі,
Ляціць Мірашэўскі,
Ляціць Петрашэўскі,
Ляціць Фірановіч,
Ляціць Быліновіч,
Ліцвінская шляхта ляціць.

У Кракаў дапалі імкліва
І кепскую вестку нясуць,
Што бітва прайшла нешчасліва,
І часу ў нас мала, чуць-чуць.

Потым стане вядома ўжо гэта,
Тады ж аніхто не мог знаць,
Як зможа літоўская эстафета
Ганца ад Замойскага перагнаць.

Расказваў пра тое ў той час не адзін,
Легенды ў народзе трывалі,
На трыццаць шэсць цэлых гадзін
Ліцвіны паляка тады абагналі.

Што ж, трыццаць шэсць поўных гадзін,
Сапега  рашэнне прымае,
Ён, падканцлер, сягоння адзін
Тут за Княства, за ўсё вырашае.

Ён голаву ніжай схіляе
І вочы спускае на ніз,
На Вавель паволі ўступае,
А герб жа ён меў з назвай "Ліс".

Гаворыць, што Княства б здалося,
Што Жыгімонта маглі б падтрымаць,
Каб толькі нам нейк удалося
Вось гэты Статут падпісаць.

Ні прымас, ні Ваза яшчэ
Не знаюць той бітвы сыход,
Няпэўнасць іх точыць, пячэ,
Вакол неспакойны народ.

Падтрымка Літвы значыць многа,
Бо трон жа занадта шчэ слізкі,
А што іхняя ўжо перамога,
Не знаюць яшчэ і не блізка.

І падпісаў Жыгімонт той Статут,
І падаўся Сапега з палаца,
І спыніцца маглі б мы ўжо тут,
Каб на палякаў маглі спадзявацца.

Ды памятаў на Літве яшчэ кожны,
Як з каронай Вітаўта было,

Што нікому тут верыць не можна,
Каб зноўку прахам усё не пайшло.

Пра ўсе хітрыкі гэтага свету
Сапега і ведаў, і знаў,
У літоўскую эстафету
Ён тут жа Статут перадаў.

Блішчыць на цёмным небе поўня,
Ляціць на Вільню пан Галоўня,
На небе зоркі, нібы дзіркі,
Ляціць на Вільню сам пан Цвірка,
Яго змяняе спрытны Чырка.
Цямнее збоку горны краж,
Ляціць наперад пан Някраш.
Да грывы коніка прынік,
Ляціць імкліва пан Суднік.
Ляціць пан Пяткевіч.
Ляціць пан Станкевіч,
Ляціць пан Вашкевіч,
Ляціць пан Дашкевіч,
Ляціць пан Зубовіч,
Імчыцца пан Хоміч,
Ліцвінская шляхта ляціць...

Ляціць сам пан Дрозд,
А за ім пан Драздовіч,
Рэйт імкнецца наўпрост,
А за ім пан Пятровіч,
Ляціць пан Ранцэвіч,
Ляціць Баранцэвіч,
Ляціць Лазарэвіч,
Ляціць Ярашэвіч,
Ляціць Тараевіч,
Ляціць Мазалеўскі,
Ляціць Васілеўскі,
І Ліхадзіеўскі,
Ліцвінская шляхта ляціць...

Ляціць пан Русецкі,
Ляціць і пан Крэпскі -
Тэж вершнік някепскі.
Ляціць пан Ліпніцкі,
Ляціць пан Шыбіцкі,
Ляціць пан Язвінскі,
Ляціць пан Лазоўскі,
Ляціць пан Лісоўскі,
Ляціць пан Ратомскі,
Ляціць Ануфровіч,
Ляціць Грыгаровіч,
Ляціць Абрамовіч,
Ляціць Бутрымовіч,
Ліцвінская шляхта ляціць...

А Берасця мінуўшы мур,
Імчыць наперад пан Татур.
На ветры трэплецца жупан,
Ляціць у Вільню пан Гурбан.
У ноч знікае чорнай галкай,
Ляціць праз цемру пан Жыгалка.
Імклівы, вёрткі, нібы плотка,
Ляціць наперад сам пан Ёдка.

Тугі і пруткі, нібы венік,
Імчыцца спрытна пан Пражэнік,
Імчыць пан Матусевіч,
Імчыць пан Кубанкевіч,
Імчыць пан Марцінкевіч,
Ляціць пан Бяганскі,
Цішком па-цыганску.
Імчыцца Акінчыц,
За ім Салавей,
Ляціць пан Машчынскі,
Дагнаць іх сумей.
Імчыцца пан Доўнар,
Нікому не роўня,

А следам пан Шумскі,
Праз гоні і пусткі,
І ветру ўздагон
Ляціць пан Пармон,
Ліцвінская шляхта ляціць...

Пан Войніч* лёт той завяршае,
У Вільню стрыжам залятае
І ў канцылярыю: "Вось тут -
Каралём падпісаны Статут!"

Пасол Замойскага ж у Кракаў
Прыбыў з далёкае дарогі,
І прымас ледзьве не заплакаў
Не з радасці ад перамогі,

А з прыкрасці і лютай злосці,
Што як дзяцей іх правялі,
Што гэтак лоўка Яго Мосці
Статут на подпіс падняслі.

Яшчэ б дзянёк, і ўжо ніколі
Яго ніхто б не падпісаў,
Было б ліцвінам тым даволі
Цялячых вольнасцяў і праў.

- Дзе той Статут? - узвіўся прымас, -
Знайсці, злавіць, назад адняць,
Каб з горада ніхто не вынес,
Сапегу тога пераняць.

Мільгаюць цені варты збройнай,
Шукаюць, мусіць, пяты кут...
А ў Вільні слынны пісар Война
Бярэ ад Войніча Статут.

Сядзіць Сапега, не шманае,
Над вежай месячык павіс,
Што зроблена ім, добра знае,
Бо меў жа герб пад назвай "Ліс"...

А нам гісторыю вось гэту
Дзед расказаў даўно адзін,
Пра тых ліцвінаў эстафету,
Пра трыццаць шэсць даўгіх гадзін.

Яно ж дык часта так бывала -
То ні граша, то аж алтын,
І ход гісторыі мянялі
Звычайных трыццаць шэсць гадзін.

** У гавэндзе задзейнічаны ўсе прозвішчы, якія ўдалося ўспомніць, шляхты засценка Сейлавічы Нясвіжскага раёна з розных часоў. Некаторыя прозвішчы пададзены не адпаведна з афіцыйным напісаннем, а адпаведна з сейлавіцкім вымаўленнем. Пададзены таксама некаторыя прозвішчы сейлавіцкіх сялян, былых шляхціцаў, якія страцілі шляхецтва падчас "разбору" шляхты па паўстанні 1831 года.*

## Студня

Быў узяў нясвіжскую шляхцянку
Замуж князь вяльможны і багаты
І павёз, нібыта паланянку,
За блізкі свет з радзімай хаты.

Мела ўсё вяльможная княгіня,
Кожны ёй стараўся дагадзіць,
І ўжо хутка дочачку ці сына
Мела князю жонка нарадзіць.

Раптам захварэла прыгажуня,
З сілаў, з твару пачала спадаць,
І ніхто не ведаў, што прыдумаць,
Як сваю княгіню ратаваць.

Доктар не адзін яе адведаў,
Наш, заморскі, і ніхто сказаць,
Што з княгіняю, не ўмеў, не ведаў,
Каб якой хоць кольвеч рады даць.

Князю даняслі раз нейк лакеі:
Ходзіць тут пра ведзьму чутка-слух
І з апошняй самае надзеі
Шле князь па старую верных слуг.

З вомшару даставілі глухога
Сівую бабульку з даўніны,
З лекаў не было пры ёй нічога,
Зёлак там ці мазяў - ані-ні.

* * *

Зайшла, і позірк яе мяккі
Нібы палац той асвятліў,
Сам князь падняўся моўчкі з лаўкі,
З пакорай галаву схіліў.

Прайшла ў пакоі да княгіні,
З сабой нікога не ўзяла,
Нічога ёй тут не ў навіну,
Нібы не ў першы раз была.

Прысела, моўчкі паглядзела,
Хваробы следу не знайшла.

З чаго ж княгіня аслабела,
Мо, дзіцю сілы аддала?

Што ёй баліць, старая не спытала,
Ды і нашто было пытаць,
На твары ўсё ўжо прачытала,
Не стала болей дакучаць.

Вось выйшла і сказала князю:
- З княгіняй нашаю бяда,
Адно з бядою толькі зладзіць
З бацькоўскай студзенькі вада.

Ёсць у яе пакоі сокі
Чуць з не з усіх зямных пладоў,
А ёй патрэбны ўсяго толькі
Збанок з айчыстаю вадой.

Там тыя солі, тая сіла,
Што змогуць да жыцця вярнуць,
І, князь, прашу, як Бог прамілы,
Каб з тою справай не цягнуць.

Як найхутчэй прашу прывезці
Збанок-другі тае вады,
Прашу адно, вы мне паверце
І шліце ўжо ганцоў туды,

Аж дзе княгіня маладая
З дзяцінства самага жыла
І дзе сягоння студня тая,
З якой маленькая піла.

Князь глянуў трохі з недаверам,
Бо што за лекі з той вады,
Ды доўгай меркаю не мераў:
- Гэй, ваяводу мне сюды.

Імчаць табе ў наш край радзінны,
Вады прывезці пяць збанкоў
Са студні той адной - адзінай,
Каб іскры злёталі з падкоў.

А ваявода, пан Мысліцкі,
Ён сам жа з той старонкі быў,
Ужо ж сумее пахваліцца,
Што спраўна ўсё, як след зрабіў.

Імчыць ён з початам адборным,
Імчыць аж трохі за Нясвіж,
Ды што не так? У полі роўным
Стаіць адна глухая ціш.

Вось месца тое, дзе павінны
Княгіні родны дом стаяць,
Ад дома толькі падваліны
Ў агні счарнелыя ляжаць.

Кругом разруха і руіны,
Не проста нават і прайсці,
І трэба некалькі хвілінаў,
Каб студню на двары знайсці.

Знайсці - знайшлі, ды мала толку,
Ад студні толькі напамін,
Завалена, засыпана, і толькі
Стары ланцуг дастаўся ім.

І што рабіць? Пан ваявода
Харугвы ў бітву смела вёў,
А тут паехаў быў па воду
І князя моцна так падвёў.

- Пан ваявода, мо, падскочым,
У бліжняй вёсцы набяром,

Хто там дапытвацца захоча,
Ваду ж адгэтуль прывязём.

- Ты, мо, яшчэ вазьмі з балота,
Каб ёй княгіню палячыць,
Тут, бачу я, камусь ахвота
Ўжо галавою налажыць.

Бо тут падмены быць не можа,
І я адно магу сказаць,
Нічога нам не дапаможа,
Нам трэба студню тут капаць.

Мо, дзён за тры якія зладзім,
Ды дзён са тры хай пастаіць,
Няхай хто лепей што парадзіць,
Час не ідзе, а ўжо бяжыць.

У вёскі - марш, і гнаць сялянаў,
Як найхутчэй там адшукаць
Усіх са справай абазнаных,
Капаць хто ўмее, зруб вязаць.

І справа доўга не чакала,
Ды, мо, з паўсажня і прайшлі,
Ім гліна на дарозе стала,
А цвёрдая, што той граніт.

- Пан ваявода, мы ў той гліне
Не дабяромся да вады,
Няхай і самі тут пагінем,
А не пазбавімся бяды.

Ды ваявода, пан Мысліцкі,
Ён горных школаў не канчаў,
А сумнявацца і хіліцца,
Сабе ні ў чым не дазваляў.

Хоць меў ён прозвішча Мысліцкі,
Ды, пэўна, не ад слова "мысль",
А пэўна зваўся ад мысліўца,
Што паляўнічы - стала быць.

- Я вам сказаў: капаць, і будзем
Мы тут капаць і дзень, і ноч,
І воду мы ўсядно здабудзем,
Ці хоч тут хто, ці хто не хоч.

Мы будзем тут капаць, каб чулі,
Пакуль, і вас не ўводжу ў зман,
На той, на бок зямное кулі
Не напаткаем акіян...

На сажань добры быў пласт гліны,
І вось адборны жвір пайшоў,
А цвёрды, жорсткі, каб ён згінуў,
Няма ні сілаў і ні слоў.

Зноў гасіць лом, скрабе рыдлёўка,
А ў яме чалавек адзін,
А там яму зусім не лоўка,
Трывае некалькі гадзін.

І змена, каб не страціць ходу,
Капальшчык новы, поўны сіл,
Дзяўбе ён цвёрдую пароду,
Ажно вылузваецца з жыл.

Падвозяць дуб, бо хутка трэба
Зруб пачынаць ужо вязаць,
А калаўрот цягае цэбар,
Клявец не томіцца дзяўбаць.

Ды суха ў яме, ні слязіны,
Не праблiснецца на сцяне,

І за гадзінаю - гадзіна,
І хутка дзень ужо міне.

Вось цёмна стала, і нічога
Ўжо ў доле тым больш не відаць,
Нямнога зроблена ці многа,
А працу мусіш пакідаць.

* * *

Заўтра толькі развіднела,
Зноў капаць, круціць, рубіць,
Справа рушыць, спрытна - ўмела,
Поспех жа павінен быць.

Дзень ізноў дзяўблі, капалі,
Пласт каменьчыкаў прайшлі,
Добра, большых не спаткалі,
А то бедныя б былі.

А як рушыліся ніжай,
Раптам шуснуў быў плывун,
І капальшчык ледзь там выжыў,
Пільны быў пры іх цівун.

Хлопца вырвалі імгненна,
Бо і кепска быць магло,
У зямліцы патаемна,
Шмат што схована было.

Што ж плывун, цяпер у зрубе,
Можна толькі ўжо капаць,
Хоць вянкі з сырога дуба,
Пачынаюць апускаць.

Памаруднела работа,
Толькі рады ўжо няма,

І да сёмага зноў поту,
І да самага цямна.

І плывун прайшлі, не піснуў,
Зноўку жвір, але лягчэй,
Раптам край нібы праблісную,
Па сцяне сляза цячэ.

Ну што, хлопцы, зараз прутка,
Трэба жылы рваць і рваць,
Бо здаецца, што ўжо хутка,
Стане вільгаць прыбываць.

Бо як з'явіцца вадзіца,
Стане прыбываць на дне,
Давядзецца пакруціцца,
Будзе клопату ўдвайне.

Цэбар будзе плыць з пародай,
Цэбар поўненькі вады,
Не дамовішся з прыродай,
Нагаруешся тады.

А таму за зменай змена
Б'юць, грызуць і ломяць дно,
Зруб палена да палена
Класці трэба заадно.

І з'явілася вадзіца,
Ціха - ціхенька пайшла,
Ды спыняцца не гадзіцца,
Жылка тоненькай была.

Глыбей, глыбей, покуль можна,
Воду выбраў - і капаць,
Разумее гэта кожны,
Трэба больш пяску дастаць.

А пясок пайшоў сапраўдны,
Як на рэчцы ёсць шмат дзе,
І вядома ўжо дакладна,
Хутка, хутка быць вадзе.

Калаўрот скрыпіць натужна,
Цягне грунт, за ім ваду,
Завіхаюцца ўсе дружна
Без супынку на яду.

Пачынаюць не спраўляцца,
Па калена ўжо вады,
Трэба з ямы выбірацца:
- Ваявода, глянь сюды.

Цэбар ездзіць без супыну,
Возіць толькі ўжо ваду,
Працу аніхто не кінуў,
Зруб вяночкамі кладуць.

Вось і ўсё, наверх сам майстар,
Бо ён справу завяршаў,
Інструмент падаў у кайстры
І сам цэбар асядлаў.

Што ж на цяжкае капанне
Два з паловай дні сышло,
Дык наверх прыстасаванне
Ўжо гатовае было.

Глыбіня - і толькі корба
Можа тут ім дагадзіць.
Акаваць вядзерца добра
І вяроўку трэба звіць.

Канапляную вяроўку,
Як вужышча, даўжыні,

Віць патрэбна вельмі лоўка,
Каб не кешкацца два дні.

Ваявода пан Мысліцкі
Справай спраўна кіраваў,
Не адстояла вадзіца,
Верх над студняю паўстаў.

І дасталі ўрэшце воду,
Вёдры першыя злілі,
А пасля ўжо ў асалоду
Самі дружна папілі.

Загадаў глякоў з дзясятак
Ваявода наліваць,
Каб хапіла пад дастатак,
Каб ганца назад не гнаць.

А работнікам, як трэба,
Пан Мысліцкі заплаціў,
І гарэлкі цэлы цэбар,
Як належала, наліў.

І павезлі воду тую
Акуратна ды хутчэй,
Як рэліквію святую,
Каб і спраўна, і ямчэй.

Князь сустрэў пачот той грозна:
- Што такое, дзе былі?
Шчасце ваша, што не позна
Вы вадзіцу прывязлі.

Заняслі княгіні воду:
- Пі, княгіня, болей пі,
Пі радзімы асалоду,
Дапаможа, пацярпі.

І княгіня акрыяла,
Дзень-другі - і лепей ёй,
Зноўку радасцю заззяла
Ўсё вакол, ажыў пакой.

Зноў пабеглі служкі, дзеўкі
Прыбіраць і апранаць,
І для ўсіх у неспадзеўку
Выйшла князя прывітаць.

Аднаго глячка хапіла,
Ну а дзевяць - пра запас,
Што ў вадзе была за сіла,
Не дайшло таго да нас.

Пан Мысліцкі князю потым,
Як было ўсё, расказаў
І паведаміў употай,
Як руіны там спаткаў,

Як капалі студню тую,
Як рабілі, што маглі,
Ды сюды ваду жывую
З-за паўсвету прывязлі.

Князь сказаў усю дружыну
Чуць падалей адаслаць,
Каб ніхто нішто княгіні
Не мог лішку расказаць.

Сіл набралася княгіня,
І як пэўны час сышоў,
Нарадзіла князю сына,
Потым - дочку, потым - зноў.

І забылася паціху
Праз бурлівыя гады,

Як няведамае ліха
Напужалася вады.

Толькі недзе пад Нясвіжам
Жыў пра тое напамін,
З тых людзей, хто быў пабліжай,
Студню ведаў не адзін.

* * *

Час ідзе, аб нас стагоддзі
Не адзін зламалі зуб,
Ды ўсяму канец надходзіць,
Абваліўся ў студні зруб.

Новы час, з бетону трубы
Трэба ў студню апускаць,
Даставаць кавалкі дубу,
Глей увесь падаставаць.

Новы век, а людзі тыя,
Працавіты наш народ,
Труб набілі і сушылі
Даўгавата. Не, не год.

Апускалі калаўротам,
Як і некалі-калі.
Трыццаць дзве трубы, як лёду
Плаўна ў студзеньку ўвайшлі.

Новай студні век кароткі
Параўнальна з першай быў,
Паасушвалі балоты,
Пласт вадзяны недзе сплыў.

Дакапаць шчэ колькі метраў
Не з'ахвоціўся народ,

Каб дастаць ваду з тых нетраў,
Меўся іншы падыход.

* * *

Ну і засыпалі легенду,
Сышлі паданні ўсе ў нябыць,
А вы, паслухаўшы гавэнду,
Выснову можаце зрабіць:

Свайму нішто не запярэчыць,
Як раптам здарыцца бяда,
Паветра роднае нас лечыць,
І лечыць родная вада.

Кідае лёс людзей па свеце,
Як ліст мяце туды-сюды,
У край чужынскі едуць дзеці,
Цяпер таксама, як тады.

Ды памятаць з іх мусіць кожны,
Калі сустрэнешся з бядой,
Цябе чакае бацькі пожня
І студня з дзедавай вадой.

Ды з памяці павек не згіне,
Хай занясе, Бог весць куды,
Ні пах паветра на Айчыне,
Ні смак айчыннае вады.
26.11.2022 г.




## Вікторыя Жукевіч-Дзівота

*Вікторыя Жукевіч-Дзівота нарадзілася ў 1941 годзе ў Краснаярскім краі ў Канску, куды была вывезена маці ў 1941 годзе з Нясвіжчыны (з-пад Лані). У 1946 годзе з бацькамі пераехала ў Польшчу і пасялілася ў Коле. Тут скончыла агульна-адукацыйны ліцэй і ў 1959 годзе паступіла ў Медыцынскую акадэмію ў Познані. Дыплом урача атрымала 15 красавіка 1965 года. Пасля двухгадовай адпрацоўкі ў Калабжэгу, атрымала накіраванне аспірантам у Польскую медыцынскую акадэмію ў Шчэціне. У гэты час уступіла ў шлюб з Томашам Дзівотам. Сябар Таварыства несвіжан.*

### Туга

Аб чым тужыць маё сэрца,
калі б'ецца лішнім ударам,
адсланяецца каляровая стужка ўспамінаў,
з'яўляюцца найбліжэйшыя і найкаханыя,
хто нас даўно ўжо пакінуў.

Бачу ў снах іх, яны ўсюды са мной,
туга - яны мая, мой жаль і мой боль,
шчасця і радасці ўспамін яны мой,
сумую па іх.

*Вікторыя,*
*студзень 2007 г., Лос Крысціянас.*

### *Туды мяне вядзе голас маёй душы, куды адлятаюць птушкі*

Адчыняю акно сваёй душы,
і з клеткі вылятае
перапужаная птушка,

у прасторах неба
кіруецца ў бок
узыходзячага сонца,

ляціць ужо смела,
каб адпачыць на абсыпанай цветам
галіне яблыні,

потым сядае на старой студні,
але п’е ваду з возера
і корміцца залатым зернем пшаніцы,

не ведаю, ці калі да мяне вернецца...
калі так - прытулю яе да сэрца,
каб было роўна і не журботна

акно пакідаю адчыненым...

### Без назвы

Як далёка мне памяць сягае,
Дзесь над Енісей за Уралам,
Як пашарпаная тоўстая кніга.

Не хачу яе чытаць.

Аднак тыя старонкі, лёсам патрапаныя,
Хачу перагледзець адну за другой,
Ужо белым снегам пазасыпаныя.

Мерзне мне сэрца.

Не чытаю, а прагна ўглядаюся,
Каб нейкі малюнак убачыць,
І знайходжу схуднелы твар

Мамы любімай.

Бачу таксама малую дзяўчынку,
З нагола стрыжанай галавой,
Каб ні адна савецкая вош

Не грызла дзіця.

Ёсць нейкія здымкі, лісты,
На “казе” пячэцца “ляпёшка”,
А за акенцам снег срабрысты

Нэндзу накрыў.

Пасылка ляжыць, бабцяй пасланая,
Праз паўгода дайшла разрабаваная,
Шмалец з’елк, мука парассыпаная.

Мама плакала.

Далей рака, што імкліва плыве,
Па ёй сунуцца ссечаныя бярвенні,
Над берагам мама анучы мые,

Нашую вопратку.

Зачыняю раздзел балеснай памяці,
Бо рэшта старонак зляпілася
Ад слёз роспачы, жалю і болю.

Ужо нічога не бачу.

**Анёл Сібірак**

У вагоне для быдла, забітым дошкамі,
каб нават промнік сонца не прабраўся,
трымаў за руку маладую кабету,
якая ў нялюдскі час стала маёй маці,

прыносіў старыя простыні,
дапамагаў ёй драць тыя лахі на пялёнкі,
атуляў яе грудзі кавалкамі ваты,
каб мела мяне чым накарміць,

начамі сядзеў у нашай ляпянцы,
і чуцён быў плач, плакаў над нашай нядоляй,
дзьмухаў на мае заінелыя бровы і вейкі,
здабыў недзе вайсковы коц
і дапамагаў маме спавіваць мяне,

прывязаць да плеч,
бо ў тайзе нядаўна дзіця прапала,
адганяў ад нас мошак,
збіраў выкінутыя з калгаснай кухні лупіны,
навучыў мяне танчыць і спяваць,
але не дазваляў выцягнуць руку
па кавалачак цукру...
такі быў... мама казала, што ўсюды за намі хадзіў...
у сне бачыла, што ён вялікі і вельмі прыгожы,
у адкрытым вагоне, бо не было для чаго пільнаваць,
ехаў на прыступках і падхапіў мяне,
выпаўшую на бура-зялёную ўзбочыну Урала...
калі навучылася з ім размаўляць,
то даведалася, што не было яму са мой лёгка,
але не пакідаў мяне ніколі
і ратаваў нават тады, калі пра яго забывала...
сёння ўбачыла, што ён не такі прыгожы,
і не такі малады,

як там у Краснаярскім краі.
Шата пашарпаная і бурая,
як тканіна на кроснах жыцця,
змучаныя худыя ногі і рукі,
твар смутны,
хоць я стараюся ўбачыць на ім цень усмешкі,
а крылы не ўздымаюцца да палёту...
знайшоў найпрыгажэйшае месца ў маім доме,
у маім сэрцы.
Анёле божы, ахоўнік мой, Анёле сібірскі,
Ты заўсёды каля мяне стой,
Пільнуй мае думкі,
дадавай сілаў, не пакідай мяне раніцай, днём, ноччу
і ў гадзіну смерці маёй.
Аман.

## У Тыхольскіх барах

У Тыхольскіх барах сустрэнемся зноў
між сіні азёраў і зелені кнеяў,
моладасць светлая выйдзе са сноў,
хоць нас і меней, штогод усё меней.
З кастра ўверх ляцяць залацістыя іскры,
месяц блішчыць сярод зораў,
давайце спяём жа ўрачыста
быць можа апошні раз хорам.
Шчасце трэба рваць, як свежыя вішні,
бо як прыйдзе мароз, то ўсё блісне.
Шчасце хвілю трывае,
і ты, і я аб тым знаем.
У люстры нашых згадак праступіць
кастрычніцкі цёплы дзень,
і Анатоміі годная зала запусціць,
каб з гонарам там мы маглі пасядзець,
хоць у празектарыі стала бядуем,
каб не злавіць Д ці Е сабе ціха,

сёння, калі можам шчыра падумаць,
то не было вельмі ліха.
Шчасце трэба рваць...

Успомнім нечую постаць, і вочы, і дотык рукі,
пах язвіну і вільготнага бэзу кустоў,
і хай банальныя песенькі нашай радкі
ў гады маладосці кідаюць нас зноў.
Сядзім сёння ўсе мы наўкола агніска,
з рук у рукі бутэлька плыве не вады,
усё, што далёка, ізноўку так блізка,
мо праз год спаткаемся... ды...
Шчасце трэба рваць, як свежыя вішні,
бо як прыйдзе мароз, то ўсё бліснe.

**Можа, не адужаю...**

Шырока разліўшыся,
вада нясе доўгія і моцныя калоды дрэў,
маладая кабета трымае за руку сваё дзіця,
каб не ўпала ў сібірскую рэчку, бурна плыўшую,
няхай забірае балесныя перажыванні,
каб сплывалі руслам і ніколі не вярталіся,
бель снегу ў невымерных далях.
Засланяе дзіцяці свет, які там свет?
Свет голаду, нэндзы і паняверкі.
Язда ў адкрытым вагоне,
ніхто не хоча выскачыць, каб вярнуцца,
толькі падскакваўшае дзіця выпадае
і скочваецца па лагодным уральскім адкосе.
Далей вязе яго схварэлая, ляжачая на нарах маці,
на доўгім, перавязаным у поясе шнурку.

Чырвона пісанка, пададзеная некім на вакзале,
якая такая цудоўная,
што можна есці толькі з цукрам.

Бацька, выцягнуты ноччу з дому
і ацалелы ад смерці,
трымаў дачку за руку, пакуль жыў,
а Адтуль пільнаваў яе надалей.
Квітнеўшая ліпа,
стаяўшая, як каралева, у цэнты падворка
і непаслухмяныя дзеці, ганяўшыя казу,
дзяўчынка з вялікімі блакітнымі вачыма,
якая да сёння прыходзіць у снах,
якую страшаць:
“Вучыся хутчэй, бо не пойдзеш у школу”.
І заўсёды яны, бацькі, маладыя,
якія любяць сваё дзіця.

У белым цвеце пахучая акацыя
выклікала кружэнне галавы,
і першыя палахлівыя ўдары сэрца,
мары, якія заўсёды спаўняліся.
праца, якая давала радасць,
шум мора і хвалі дарагіх успамінаў, якія вярталіся,
голас дзяўчыны і пах прытуленага сына,
каханне мужа.
Дотык крылаў бязлітаснага Анёла смерці,
пакінуўшыя дарогу, але прыходзячыя ў снах
развітацца, сустрэцца яшчэ,
людзі, якіх люблю і людзі,
якія мабыць мяне таксама любілі,
і паэтка, якая, як лёгкі далікатны ветрык (Wiatr*),
сышла з плыўшай па небе хмаркі
і дакранулася да цуду,
а таксама дзіўны ксёндз**,
які ў задушны дзень запрашае на сваё пахаванне...

---

* *Гаворка пра паэтку Станіславу Вятр-Партыку.*

** *Ксёндз Вітліб у Міжздроях.*

Можа, не здужаю.... можа, не здужаю распавесці,
пра што ў бяссонныя ночы прасіла Бога,
каб сэрца, якое дасталося ад маці
ніколі супраць мяне не сведчыла.

## ***Мужу***

Аксамітныя півоні каралююць у садах,
Адцвілі бэз і каштаны, пахнуць глог і чаромуха,
Сцелецца ранкам імга, цёплы дзень абяцае
На ставах свежая раска.

На возеры гусі бялеюць на тле неба,
Сунуцца велічна ў заходзячым сонцы,
Як два ганаровыя фрэгаты,
що трымаюць свой курс
У кірунку порта.

Слуцкая брама шырока свае крылы распасцірае
І даўнімі словамі, выбітымі на табліцы
Як заўсёды сардэчна чужога прыхадня вітае.
Я сёння не адна.

Са мной ***не***нясвіжац стаіць на грэблі,
Глядзіць на фару, ратушу, белаватыя дамы,
У люстэрку возера адбіваецца стары замак.
Ён тут першы раз...

Бачыць зялёныя купы аеру і язвіну,
А на гладзі возера звышдзіўная постаць
У срабрыстым водсвеце плыве да нас.
Незямная гэтая з’ява.

- Глянь, - мовіць муж да мяне, -
гэта твой Анёл-Сібірак.
У белай бліскучай шаце, радасны, усмешлівы,

Прыбліжаецца да нас, выцягвае бліскучыя далоні.
Як ён нас тут адшукаў?..

Праводзіць нас пад браму... да маёй студні,
Выцягвае вядро вады: “Напіцеся”, - просіць.
Гэта ... “вада памяці, вада забыцця,
Крыніца невычэрпная”...

## Пра што сніць Ева
*Для Гуцулкі*

Крыштальныя палацы з'яўляюцца ў снах,
А пакоі пусцеюць апоўнач.

Дамы выходзяць з рам,
І ніхто не ведае,
Куды вядзе іх месяца бляск.
Золатам і парчой зззяюць іх сукні.

Калі світанне надыдзе,
З таемнай усмешкай
Вяртаюцца на свае месцы,

Каб пасярод павуцінак
Зноў сніць пра жыццё...

## Танга

*Тэкст да грэцкай мелодыі*
*Для Евы Гадыцкай-Цвірка*

Гэй, затанчымы сёння наша танга
І вернемся ў наша шалёнае ранне,
Я цябе прытулю і скажу: "Saһapo",
А ты будзеш шаптаць пра каханне.

Недзе ноч уся ў зорках іскрыстых,
Я ў абдымках сваіх вас моцна трымаю
І словы вашы дасюль памятаю:
"Я кахаю цябе - prima vista".

І так мару я ў тых ночах і днях,
Каб зноў патануць у зелені вашых воч,
Вы заўсёды са мной у маіх марах-снах,
Мы імчымся праз зорную ноч.

"Sahapo", - сёння ціха пачуецца зноў,
Альбо не патрэбна ніякіх тут слоў,
Няхай успаміны агорнуць нас,
І хай хоць на хвілю прыстане час.

І затанчым сёння наша танго,
Бо вы ёсць той дзяўчынай са сноў,
Хачу прытуліць і сказаць вам ізноў:
"Кахаю, sahapo, efharisto…"

Бо далей мару па начах і днях,
Каб зноў патануць у зялёных вачах.

**Восень 2009 г. у Нясвіжы**

Сонцам асветлены, бабіным летам атулены,
у колерах восені пышны,
клумбамі кветак, ржавай лістотай пакрыты,
фіялетам марцінак спавіты,
дух у грудзях запірае
над Дзявочым возерам воблака праплывае,
гусі бялейшыя за бярозы,
а па траве ходзяць козы.

Слуцкая брама, як белы матылёк…,
рады шалфею, жанішкоў і астраў,

арабіна чырвоная пры плоце,
лісце не шалясціць, іду…,
яшчэ
маю перад сабой замак, фару
і пару
домікаў для адведкаў,
ах, тыя мінулага сведкі…

Направа зялёны стаў з жабамі…,
а тут - за гэтай старой студняй і брамай
быў сад і дом цёці Альжбеты…,
мы прыязджалі да яе з мамай…,
сёння ў садзе фіялетавыя слівы
і залацістыя грушы,
яшчэ прыпомніць сабе мушу
назву вуліцы:
Выган… Выган… Выган!!!
Вяртаюся і гляджу на тую вуліцу…,
паціхеньку гусі лічу,
а ў сэрцы гучна крычу,
клічу ўсіх маіх блізкіх,
але яны мяне не чуюць,
у вечнай цішы начуюць,
грэюцца пры запаленых знічах.

Нясвіжу, горад мой любы самы,
барвамі восені маляваны,
вярнуся да цябе зноў…
радаснай вясной.

### Зноў Нясвіж - лета ў Нясвіжы

Зноўку сёння я з вамі ў Нясвіжы,
Месцы азёраў, каштанаў, бяроз,
Нельга нічога знайсці ў свеце бліжай,
Горад з маіх цяжкіх сноў, горкіх слёз.

Тонь азёраў спакойная раннем,
Цішу парушыць спалоханы птах,
А вечарам сцішыць дыханне,
Мякка ляжа на воду месячны шлях.

Сёння зноўку прайдуся па грэблі,
Глянуць здалёку на замак і фару,
Выцерці слёз няпрошаных перлы
З ліпы сарву я лісцікаў пару.

Пане Божа, супакой маё сэрца,
Дай магчымасць пабыць тут яшчэ раз,
Блакітнага льну патрымаць у жменьцы
І прыпомніць даўні, мінулы час.

У азерца трэба нешта мне ўкінуць,
Грошык нейкі, з клубочкам ніць,
Каб навечна той край не пакінуць,
Каб тут не ў снах, а напраўду пабыць.

### Нясвіжскі накцюрн

Па краечку сну
праводзіць яе срэбны водсвет,
што адбіваецца ў возеры.

Усё знаёмае,
таму дакладна тут не заблудзіць,
пройдзе праз браму да касцёла.

Палічыць хлябы,
што на абразе над алтаром,
ведае ўжо, што хопіць для ўсіх,
вяртаецца дадому,
колеры якога закрыла ноч.

Прысядзе на сваёй лавачцы,
Каб далей сніць...
Пачынае світаць.

Божа... Няхай ніхто яе не
разбудзіць,
каб не ўпала з краечку сну
ў пекла ўспамінаў.

Гэта лунатычка.

## *Да Найсвяцейшай Панны Марыі Каралевы Свята 22 жніўня*

О, Марыя, паклікала мяне на свет
У гэты прыгожы дзень.
Дзякую Табе.
О, Марыя, ахоўвала маму маю
У дні высылкі.
Дзякую Табе.
О, Марыя, да краю вярнула нас,
Дзвюх бедалаг.
Дзякую Табе.
О, Марыя, бацьку ахоўвала мне
У дні вайны.
Дзякую Табе.
О, Марыя, прыгожую маладосць дала мне,
Цудоўныя дні.
Дзякую Табе.
О, Марыя, прафесію выбрала для мяне,
Мару маю.
Дзякую Табе.
О, Марыя, каханнем абдарыла
Мужа і сына.
Дзякую Табе.
О, Марыя, клікала мяне да сябе,
Да Тваіх месц.
Дзякую Табе.
О, Марыя. Давала сілы, каб быць
На сцежках Тваіх.
Дзякую Табе.
О, Марыя. Сустракаю добрых людзей
На дарозе маёй.
Дзякую Табе.
О, Марыя, да шчаслівай смерці
Даправадзь мяне.
Прашу Цябе.

*Пераклад Станіслава Судніка.*



# *Раіса Хвір*

*Раіса Нікадзімаўна Хвір нарадзілася ў вёсцы Панюцічы Нясвіжскага раёна. Скончыла Высакаліпскую сярэднюю школу, філалагічны факультэт БДУ, пасля заканчэння якога працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў Лысіцкай сярэдняй школе. У 1976 годзе была запрошана на працу ў рэдакцыю раённай газеты "Чырвоны сцяг" спачатку ў якасці карэспандэнта, затым - загадчыка аддзела пісьмаў і масавай работы. Шмат гадоў вяла заняткі ў школе юных карэспандэнтаў, якая дзейнічала пры газеце.*

*Друкавалася ў раённай газеце "Нясвіжскія навіны", "Нясвіжскі час". Выступала ў рэспубліканскім друку - газетах "Культура", "Мінская праўда", часопісе "Алеся". Аўтар зборніка празаічных і паэтычных твораў "Сілуэты жыцця".*

## САШКА

Пры нараджэнні дзяўчынкі ўзніклі спрэчкі, як назваць. Маці хацела Таняй, баба Поля - Зінай, старэйшы брат - Луізай (прачытаў у рамане). А бабуля сказала,што Аляксандра - найбольш высакародна. "Пакуль скажаш такое доўгае імя, заморышся", - адрэагаваў бацька. І ўсё ж апошняе слова засталося за бабуляй. Маці нованароджанай толькі ўздыхнула: "Вось будзе ў яе такое жыццё, складанае, спрэчнае. Хай Бог беражэ". Сашка, як для лёгкасці звалі яе ў сям'і, расла не вельмі здаровай. Калі захварэла на шкарлятыну, паўжывую завезлі ў раённую бальніцу і не надта спадзяваліся на добры зыход. Але дзяўчынка выбралася, і яе прывезлі дадому. Сашцы давалі рыбін тлушч, які дзіця цярпець не магло,

але ўступаючы слёзным просьбам маці,скрозь сілу выпівала штодзень па лыжцы. Праўда, гэты вітамін пайшоў на карысць, і дзяўчынка папраўлялася, набірала вагу, радавалася маленькім ягняткам, якія ў хлеўчыку ціснуліся да авечкі. Іх кучаравыя шарсцінкі выклікалі ў Сашкі замілаванне. Маці бачыла гэта і казала: "Ну вось паправішся, будзеш рваць ім траву, карміць". Сашка слухала і думала: "Як жа яны есці будуць? У іх і зубоў няма… "У пяць гадоў яна цікавілася ўсім. Хто сядзіць у радыё і гаворыць? Чаму плаваюць качкі, а куры не? Як загараецца агонь? Адказаць на апошняе пытанне ёй дапамог суседскі хлопчык Міша. Калі дарослыя пайшлі на працу, ён знайшоў запалкі і падпаліў паперу і анучы. Вясёлае полымя ахапіла рыззё, у хаце стала цёпла, потым горача. Калі агонь павялічыўся, Сашка напалохалася, а Міша сказаў: "Палезлі пад ложак,там нас не дастане". Дзеці запаўзлі пад сховішча, але дым даставаў і туды. На шчасце, у хату зайшоў бацька, павыцягваў іх з-пад ложка, а Мішу турнуў дадому.

Праз два гады Сашка, суседскі хлопец Лёнік і дзяўчынка Каця вырашылі зрабіць добрую справу: нарэзаць сечкі карове - бачылі, як гэта робяць дарослыя. Пайшлі ў хлеў, узялі салому і пачалі пхаць у сячкарню. Падаваў Лёнік, а дзяўчаткі круцілі ручку-жэрдку. Нявопытны хлопчык пасунуў руку пад нажы і раптам закрычаў. Пырснула кроў, дзеці разгубіліся і пабеглі на вуліцу. Там на прызбе ля хаты сядзеў дзядзька Коля, хворы на туберкулёз. Ён перавязаў руку Лёніку. А віноўнікі атрымалі заслужанае пакаранне.

Відаць, у Сашкі была доля такая: трапляць у непрыемнасці.Яна і ў школе не магла быць спакойнай. Ну як утрымаешся, калі перад табой сядзяць дзве дзяўчынкі з доўгімі косамі. Сашка адзін раз звязала іх банцікамі. Калі празвінеў званок і ў клас увайшоў настаўнік, яны не маглі выйсці з-за парты. Дзеці смяяліся, а настаўнік пачаў следства, хто так зрабіў. Сашка падумала-падумала і ўстала, прызналася ў свавольстве. Пэўны час яна была цішэй вады, ніжэй травы. Але для яе гарэзлівай натуры гэта было цяжка. Неўзабаве адбыўся чарговы ўсплёск. Сашка ўмела танцаваць, адчувала рытм і яе заўсёды бралі ў карагод. А тут парны танец развучылі, ды з хлопцамі, а ёй трапіўся той, каго цярпець не магла. На рэпетыцыях сяк-так трывала, а на канцэрт не пайшла. Што было назаўтра ў школе, цяжка сказаць. Сашцы вынеслі суровы прысуд: больш на танцы не браць. "Падумаеш, - узганарылася яна, - абыдуся і без вас". І неяк вечарам з суседскай Кацяй пайшлі ў клуб на дарослае мерапрыемства. Самавольства было заўважана настаўніцай біялогіі, і адбыліся разборкі. Праўда, дзяўчаты не надта засмучаліся, бо любілі танцаваць, першымі ў восьмым класе навучыліся вальсіраваць, рабіць

гімнастычныя практыкаванні, "мосцік", "шпагат".

Ніхто асабліва не цаніў здольнасцей дзяўчынак, ды і час быў такі: у вёсцы заўсёды шмат работы. Аднойчы Сашка з сяброўкай пайшлі рваць калгасную канюшыну для сваіх ягнят. Узялі торбы і рушылі на поле, нарвалі трохі, паглядзелі наўкола і ўбачылі брыгадзіра, а ён быў злосны і заўсёды біў дзяцей пугай, калі тыя пускалі кароў у калгаснае. Дзяўчынкі спалохана пачалі шукаць выйсце: а побач рос лён, і яны запаўзлі туды. Ляжалі, ледзьве дыхаючы, пакуль брыгадзір не а'дехаў далей.

Калі Сашка стала амаль дарослай і хадзіла ў дзесяты клас, на яе пачалі заглядацца хлопцы. Хаця яна сябе прыгожай не лічыла: шэрыя вочы, кірпаты нос, кароткія вейкі. Але нешта вабіла юначыя позіркі, і ў хуткім часе дзяўчына і сама "папалася". Ёй усё часцей хацелася бачыць хлопца з суседняй вёскі - высокага, светлавалосага, з блакітнымі вачыма. Апранутая проста і сціпла, Сашка сумнявалася, што такі хлопец, да таго ж ён вучыўся ў інстытуце, зверне на яе ўвагу. Куды дзеліся яе смеласць і гарэзлівасць? Яна не пазнавала сябе: прыцішаная, задуманая, а ў галаве думка адна, каб толькі ўбачыць яго, сустрэць погляд родных вачэй - ужо шчасце. І выпускныя экзамены здаваліся нечым непатрэбным, далёкім ад таго блакітнага туману, у якім жыла дзяўчына. А Юрка (так звалі хлопца) пакуль не праяўляў актыўнасці.

Аднойчы яны з Кацяй вярталіся з танцаў, развіталіся ля яе хаты. Сашка накіравалася ў двор і раптам убачыла на шуле транзістарны прыёмнік і здзівілася. З-за вугла дома выйшаў Юрка, ад нечаканасці дзяўчына не ведала, што сказаць. А ён павітаўся, сказаў наконт прамой дарогі, па якой прыйшоў першым. Стрымліваючы частае дыханне, Сашка выйшла за вароты, і яны накіраваліся да суседняй хаты, дзе расла чаромха. Пад ёй была лавачка, якая стала іх месцам далейшых сустрэч.

Сашка зноў насілася, як на крылах, у яе з'явіўся дар пісаць вершы. Праўда, нікому іх не паказвала, саромелася. Прысвечаны паэтычныя радкі былі Юрку. Дзяўчына здала выпускныя экзамены ў школе далёка не бліскуча і падала дакументы ў Баранавіцкае медыцынскае вучылішча. Ехала туды, а сама думала пра яго.

Ля будынка вучылшіча тоўпіліся дзяўчаты, зрэдку трапляліся хлопцы. "О, Божа, - падумала Сашка, - дзе ж тут паступіш?" Здала хімію на тройку і пайшла забіраць дакументы ў прыёмную камісію Там спыталі: "Што ж Вы да канца не здаяце экзамены?А можа паступіце". "Куды там, - уздыхнула Сашка, - такі конкурс".

Дамоў вярталася вясёлая, аптымістычна верачы, што медыцына нічога не страціла ў яе асобе. Прыцягвала другое: стаць настаўніцай.

Але ж паступаць давядзецца толькі на будучы год. Сашка не засмучалася, працавала ў калгасе, вечарамі хадзіла з дзяўчатамі ў клуб, на спатканні з Юркам, які прыязджаў па выхадных.

Аднойчы Сашка прыйшла з Кацяй у клуб, да яе падыйшла знаёмая дзяўчына Люда і ўстрывожана сказала: "Што ж гэта робіцца? Твой Юрка сустракаецца з другой, вунь тая высокая,чарнявая".

У Сашкі нібы нешта абарвалася ўсярэдзіне, сэрца ўпала. Але знешне яна старалася быць спакойнай,толькі вымавіла: "Ну што ж, гэта яго выбар".

А самой здавалася, што ўсе адчуваюць яе ўнутранае хваляванне. Каця стаяла побач, гладзіла руку сяброўкі. Тут падышоў Юрка, пачаў нешта гаварыць. Яна чула голас, але не разумела слоў. Калі хлопец адышоў, дзяўчына ўздыхнула. Прыгнечаны настрой развеялі два юнакі, якія падышлі запрасіць дзяўчат на танец і пазнаёміцца. Так Сашка пачала сустракацца з Паўлікам, першакурснікам педінстытута. Ён адносіўся да дзяўчыны беражліва і пяшчотна, на спатканнях трымаў яе руку і жартаўліва называў "васпані". З Мінска дасылаў арыгінальныя паштоўкі, пры сустрэчах шчыра радаваўся. Але Сашка не магла адказаць хлопцу ўзаемнасцю, з галавы не выходзіў Юрка. І калі праз год ён ажаніўся, горка плакала.

Праз некаторы час яна паехала ў Мінск, уладкавалася на гадзіннікавы завод, зборшчыцай. Паступіла ва ўніверсітэт, на завочнае адзяленне філфака. Яшчэ хадзіла ў студыю бальнага танцу пры заводзе, дзе пазнаёмілася з дзяўчынай паляшучкай, Аняй. Яны вучыліся разам, пасябравалі. Было весела, асабліва на рабоце, калі паглядвалі з-за сталоў на хлопцаў, якія заходзілі ў цэх. Так пазнаёміліся: Аня з Валодзям,сціплым мінчанінам, а Сашка з яго сябрам Васям.

"Якія дзяўчаты ў нас!" - захапляўся апошні, - яшчэ і танцоркі мабыць?" "Мы многае ўмеем", - какетліва адказвалі дзяўчаты.

Назаўтра чацвёрка накіравалася ў парк Чалюскінцаў на танцы. Так пачалося іх шчаслівае лета, у якое Валодзя з Анютай пажаніліся. Вяселле гулялі ў Мазыры, на яе радзіме. А потым і Вася з Сашкай пабраліся шлюбам, жылі на прыватнай кватэры, пазней пабудавалі кааператыўнае жыллё ў Серабранцы.

Першай нарадзіла дзіця Аня, дзяўчынку Алёнку. А Сашка затым - хлопчыка. Маладая маці няўцямна глядзела на белы пакуначак з чырвоным тварыкам і не верыла, што гэта яе дзіця. І пабеглі дзянькі-дзянёчкі, ночкі недасыпак, пялёнкі-распашонкі. А яшчэ завочная вучоба, бо Сашка не хацела адставаць ад свайго курса і пісала дома курсавыя ды кантрольныя, старанна рыхтавалася да абароны дыплом-

най работы і дзяржэкзамена. Нарэшце надышоў той дзень, калі яны з Аняй атрымалі дыпломы, абняліся і заплакалі.

Жыццё панесла іх далей па сваіх законах, чаргуючы радасць і смутак, поспех і паражэнні, прыбаўляючы гады. Сашка мала чым засмучалася, бо любіла бязмежна двух сваіх сыночкаў, мужа і работу ў школе. У Ані ўсё ладзілася, яны гадавалі з Валодзем сына і дачку, апошняя ўжо збіралася замуж.

Аднойчы Сашка сядзела за сталом, перабірала сурвэткі: якія мыць, якія замочваць. Зазвінеў званок тэлефона і жанчына пазнала голас зямлячкі, Галіны. Яна паведаміла: "Ведаеш, Юрка разбіўся на машыне". Сашка маўчала, не жадаючы разумець, не верачы."Чаго ты маўчыш?" - спыталі ў трубцы. "Гэтага не можа быць", - не сваім голасам адазвалася Сашка. Стомлена апусцілася на канапу і заплакала."Зноў ён пакінуў мяне, цяпер назаўсёды".

Праз гады Сашка пасталела, менш смяялася, жыла па звыклым коле: сям'я, работа, дзеці. Знешне ўсё было добра, але ўнутры нешта трывожыла. Неяк днём яе знайшоў званок на рабоце: "Аляксандра Мікалаеўна, прыязджайце, з Васілём няшчасце". У Сашкі заняло дыханне, рука з трубкай адзеравянела. Не чуючы нічога, яна выйшла са школы, нібы самнамбула, пайшла на аўтобусны прыпынак.

Вася загінуў ад удару токам, як растлумачыў потым інжынер па тэхніцы бяспекі, выпадкова.Сашка не чула, яна зламалася неяк, потым упала. Пазней вялая, апатычная жанчына дапытвалася невядома ў каго: "За што мне ўсё такое? Як жыць далей? Хіба нельга гэты кароткі адрэзак зямнога шляху пражыць без гора?" Адказаў не было. У Сашкі апусціліся рукі, знікла цікавасць да жыцця.

А праз некалькі тыдняў у яе дом прыйшла радасная вестка: старэйшы сын паведаміў, што ў яго нарадзілася дачка. Потым прыехала Аня, абняла сяброўку і спытала: "Ну што, Сашка, жывём?" Новаспечаная бабуля засмяялася і адказала: "Жывём, Анюта!"

## ЖУРАЎЛІ НАД ПАРЫЖАМ

Наташа стаяла ля Эйфелевай вежы і не верыла вачам: няўжо яна ў Парыжы і бачыць гэты цуд? Прыгожая канструкцыя 300-мятровай вышыні звужалася ўверсе недзе далёка. А калі дзяўчына паднялася на ліфце наверх, у яе аж дух заняло: унізе красаваўся старадаўні і новы Парыж, са сваімі гістарычнымі, поўнымі таямніц архітэктурнымі шэдэўрамі, зялёным убранствам вуліц. Галава кружылася не толькі ад вышыні, але і ад радасці. Яна і марыць не магла, што прыедзе сюды не

турысткай, а стане парыжанкай…

У сям'і Леановіч Наташа была трэцяй, расла звычайным падлеткам, пасвіла кароў, карміла свіней і выконвала безліч іншай сялянскай работы. Вучылася выдатна і марыла паступіць у інстытут замежных моў. Сяброўкі жартавалі:

- Вось стане Наташа лэдзі ці міс, дык забудзеца пра нас, а што такое граблі, будзе пытаць, як прыедзе.

А маці ўздыхала:

- Ой, дачушка, гэта ўсё добра. А як вывучышся ды паедзеш куды за мяжу, я ж перажываць буду.

Дачка супакойвала:

- Мамачка, яшчэ ж паступіць трэба, закончыць інстытут, а там відаць будзе.

Ехала ў Мінск з хваляваннем. Як і ўсе абітурыенты, ліхаманкава гартала падручнік, у соты раз паўтарала французскія пранонсы і нервова мерала крокамі калідор. Калі зайшла ў аўдыторыю і выцягнула білет, паступова супакоілася. "Я ж гэта ведаю", - пранеслася ў галаве, і здала на выдатна. На двор выскачыла акрыленая. Іншыя экзамены таксама прайшлі паспяхова. Праз некалькі дзён убачыла сваё прозвішча ў спісе залічаных, смяялася і плакала аданачасова. Пабегла на паштамт званіць маме, тая расплакалася.

Студэнцкія гады, гэты непаўторны дзіўны час, праляцеў непрыкметна. Экзамены, курсавыя, лекцыі, спатканні, вечары… Што можа быць лепшым у жыцці маладых? Хіба толькі само юнацтва.

Наташа закахалася. Яе абраннік быў з політэхнічнага інстытута. Высокі светлавалосы юнак, Кірыл. Ён сустракаў Наташу пасля лекцый, яны ішлі ў парк на каруселі. А потым доўга цалаваліся ля студэнцкага інтэрната. Сяброўкі-аднакурсніцы казалі:

- Якая ты шчаслівая, Натка.Такі хлопец, вось будзе пара.

А яна толькі сарамліва ўсміхалася і не верыла свайму шчасцю. Калі надышоў час размеркавання, Наташы выпала школа ў райцэнтры, а Кірыл выцягнуў шчаслівейшы білет: яго запрасілі на адно з прэстыжных прадпрыемстваў сталіцы. Ён супакойваў каханую:

- Наташа, мы пажэнімся, ты папрацуеш там, а потым я забяру цябе ў Мінск.

Вяселле было сціплым, у недарагім кафэ. Маладыя разлучыліся праз некалькі дзён. Наташа паехала ў сваю школу, а муж яе - на прадпрыемства. Сустракаліся раз у тыдзень. Аднойчы маладая жонка не вытрымала і паехала да мужа сярод тыдня, адчыніла сваім ключом дзверы (Кірыл здымаў кватэру) і ўбачыла на падлозе жаночыя чаравікі.

Падумала, што купіў ёй, але ж не новыя. Здзіўленая, штурхнула дзверы ў пакой і аслупянела: яе Кірыл ляжаў у ложку з незнаёмай жанчынай, тая весела нешта шчабятала. Убачыўшы Наташу, Кірыл недарэчна спытаў:

- Чаго ты сёння?

- А ты, бачу, мяне не чакаў, - з горыччу прамовіла Наташа. - Як ты мог? Ты ж кляўся мне ў каханні. А я табе везла такую навіну…

Муж падхапіўся і пачаў ліхіманкава апранацца. Потым сказаў:

- Ну і добра, што так атрымалася, сама ўсё ўбачыла. Я думаю, мы з табой не падыходзім адно аднаму.

- Навошта ж ты ажаніўся са мной, калі так думаў?

- Я памыліўся,прыняў захапленне за вялікае пачуццё.

Кірыл дастаў кашалёк і працягнуў Наташы грошы. Яна кінула іх яму ў твар і выбегла.

Па вуліцы ішла наўздагад, бо слёзы засцілалі вочы, а сэрца разрывалася… Як жа так, яе Кірыл, самы разумны, самы лепшы, здрадзіў? І тады, калі яна чакала дзіця, яго…"Добра, што не сказала, - прамільгнула ў галаве, - і ніколі не скажу".

Дадому дабралася позна, маці нічога не расказала, але тая бачыла, што дачка сама не свая і ўсё ж дапыталася праўды. Наташа тады рашуча сказала:

- Нічога, мама, забудзем пра гэтую сволач. Дзіця я нараджу і сама выгадую. І яшчэ буду шчаслівай, паглядзіш.

Алік нарадзіўся вясной, калі трава прасілася на святло, а зямля паволі грэлася. З'явіліся першыя зялёныя лісточкі, і Наташа павесялела. Яна вывозіла сыночка на вуліцу і пяшчотна гаварыла яму ласкавыя словы.

Маці дапамагала чым магла: яек з салам прывязе, гурочкаў, грошай з пенсіі давала. Наташа не сказала Кірылу, што нарадзіла дзіця і на аліменты не падавала: гордая была. Маці ўпотай плакала, не згаджалася з дачкой, але ўслых нічога не гаварыла. Нечакана яе падкасіла хвароба, здарыўся інсульт, і пажылая жанчына не перанесла яго. Наташа на пахаванні ледзь не ў магілу кідалася, так плакала, так гаравала.

І пачаліся сумныя, цяжкія дні. Работа ў школе, не вельмі аплачваная, садок для Аліка, дамашнія клопаты. Грошай катастрафічна не хапала. Наташа і рэпецітарствам займалася, але ўсяроўна ледзь зводзіла канцы з канцамі. Душылі слёзы адчаю, крыўды і стомленасці. У хаце не было нават добрай мэблі, пра новую сукенку і марыць не магла. Аднойчы да яе завітала аднакурсніца Аня і, убачыўшы вартае жалю становішча Наташы, сказала:

- Усё, хопіць! Пачынаем новае жыццё. Табе трэба пераехаць у Мінск. Здымеш пакойчык, уладкуешся ў турагенцтва гідам ды грошай заробіш. А там і за мяжу выедзеш.

- Хто мяне возьме? - запярэчыла Наташа. - Ды яшчэ з дзіцем.

- Нічога, Аліка ў сад аддадзім або няньку ноймем. Паехалі, і не думай, а то засохнеш тут.

Наташа рашылася і рушыла ў сталіцу. Знаёмыя аднакурсніцы Ані дапамаглі аформіцца перакладчыцай, а потым знайшлося месца ў садзіку для сына. Маладая жанчына пакрысе станавілася на ногі, жыццё мянялася ў лепшы бок. Работа давалася ёй лёгка, бо веданне замежных моў было бездакорным.

Наташына кар'ера ў турагенцтве набывала размах, ёй давяралі экскурсіі для салідных людзей. На адной з іх блакітнавокую перакладчыцу заўважыў француз сярэдніх гадоў, імпазантнага выгляду.

- Як завуць мадмуазель? - пачціва пацікавіўся ён.

- Наташа.

- О, Наталі! Якое цудоўнае імя. А я - Жан, - адрэкамендаваўся госць з Францыі.

Завязалася лёгкая, з адценнем флірту, размова. Жану ўсё болей падабалася беларусачка: танклявая, нейкая бездапаможная. Ён увесь час трымаўся побач, а на развітанне пакінуў візітку і сказаў:

- Я хачу, каб мадмуазель Наталі прыехала ў Парыж. Буду чакаць з нецярпеннем, прышлю запрашэнне.

Наташ сумна ўсміхнулася і падумала: "За якія грошы?" А ён нібы прачытаў яе думкі:

- Не адмаўляйцеся, калі ласка. Паглядзіце Парыж, Нотр Дам, Версаль, усё…

Дома Наташа ўспамінала словы француза не адзін раз. А потым паехала да сяброўкі Галіны з просьбай:

- Галка, пазыч мне 400 долараў, я паеду ў Парыж. Можа там знайду сваё шчасце.

Галя здзіўлена паглядзела на Наташу, а потым згадзілася.

- Ну што ж, бяры, паспрабуй свае сілы за мяжой. Можа і пашанцуе.

Наташа ўзрадавалася, пацалавала сяброўку і паімчалася званіць Жану. Той сказаў, што будзе чакаць і будзе рады. Але Наташа папярэдзіла:

- Я не адна прыеду, а з сынам.

- Не хвалюйся, Наталі, я прыму вас абодвух.

Парыж уразіў Наташу велічнай даўнінай, раскошнымі магазі-

намі, шматлікімі бістро і наплывам турыстаў. Чарнавалосы, тэмпераментны Жан расказваў і паказваў гасцям знакамітыя месцы і помнікі. Наташа заварожана слухала і мімаходам перакладала Аліку. Хлопчыку асабліва спадабаўся дыснееўскі цэнтр, дзе любімыя персанажы мульцікаў весялілі дзяцей.

Паступова эйфарыя знаёмства з горадам схлынула і саступіла месца будням.

- Жан, а як жа з работай? - спытала Наташа, - не можам жа мы быць на тваім утрыманні.

- Не хвалюйся, сонейка, - супакоіў Жан, - будзем шукаць.

І праз колькі дзён вярнуўся дамоў з таямнічым выглядам:

- Ну, Наталі, мая зорка, адгадай, што я табе знайшоў?

- Не ведаю.

- Будзеш выкладаць беларускую мову ў Сарбоне.

- Няўжо праўда? Наша мова патрэбна французам?

- Праўда, душа мая, - з усмешкай адказаў Жан і закружыў яе ў захапленні.

Наталі папрасіла:

- Раскажы пра Сарбону.

- Ахвотна. Ведаеш, гэтую навучальную ўстанову заснаваў у трынаццатым стагоддзі духоўнік караля Людовіка IX Сарбон, як прытулак для бедных выкладчыкаў і студэнтаў, што вывучалі багаслоўе. Пазней там рыхтавалі высокае духавенства, а ў канцы XVIII ст. багаслоўскую школу закрылі, потым быў музей прыгожых мастацтваў. А з сярэдзіны XIX стагоддзя Сарбона ўвайшла ў склад Парыжскага ўніверсітэта. Вучыцца ці выкладаць тут - прэстыжна.

Праз два дні Жан адвёз яе ў занакамітую Сарбону, і Наталі Віктараўна пачала працаваць. Паляцелі дні, месяцы, гады… Нечакана моцна захацелася на радзіму, паглядзець на родную хату, сустрэцца з сябрамі, пахадзіць басанож па траве. Жан неахвотна адпусціў яе ў далёкую дарогу, а Наталі лічыла гадзіны да Мінска. Потым ехала ў свой райцэнтр, радасна наеведвала знаёмых і блізкіх. Тыя пыталіся:

- Ну, як табе ў Парыжы?

- Прывыкаю, работа падабаецца. Алік ходзіць у школу, вучыць французскую мову. У нас усё добра.

Месяц праімчаўся хутка, і зноў дарога. У Парыжы Наташа ўключылася ў звычны рытм: праца, сям'я, магазіны. Апошнія падабаліся вялікім выбарам і ветлівасцю прадаўцоў. "Нашым бы так", - думала Наташа.

Аднак бязвоблачнае жыццё парыжанкі мянялася не ў лепшы

бок: пачаліся сваркі з Жанам, астываў жар кахання, узнікалі непаразуменні.Урэшце яны разышліся, француз пакінуў Наталі, але дапамог купіць кватэру. Беларусачка часта ездзіла з сынам на бераг Сены, тужлівым позіркам праводзіла жураўліны клін. Ёй хацелася ўзняцца і паляцець з ім туды, дзе ў жыце сінеюць васількі, а пад вакном бацькоўскай хаты шуміць лістотаю бяроза. Чаму так ныла сэрца, і сама не разумела. Ужо вырас і ажаніўся Алік, яна заняла трывалую нішу ў Сарбоне, а забыць Беларсуь не змагла. Кожны водпуск лятала туды, як дзіця, радавалася сустрэчы з землякамі, усіх абдымала і цалавала, ехала ў вёску, бегала па лузе. Са смуткам у душы ішла наведаць бацькоўскія могілкі і з лёгкай душой вярталася.

Седзячы ў самалёце, які нёс яе ў Парыж, Наташа думала: "Дык у чым ты, шчасце маё? Было ці не было?"

## ДАРАТЭЯ

На высокім сінім небе - ні воблачка, і яно здаецца такім недасягальным, неабсяжным. Прыцягальная сіла блакіту заўсёды вабіла Даратэю, ёй хацелася ўзляцець туды і пацікавіцца: а што там, у невядомым і прыгожым? А самае важнае - некуды разбягаліся думкі, і станавілася лёгка, весела. Яна нават вочы заплюшчыла, каб аддацца таму расслабленаму стану, які ў Расіі называюць негай. Але быць у душэўным астрале давялося нядоўга.

- Дзяўчына, хіба можна спаць ля мора? А што Вам сніцца? Няйначай прынц на пунсовых ветразях, - пачуўся паблізу мужчынскі голас.

Даратэя нездаволена глянула ў той бок, дзе стаяў прыгожы малады чалавек з русымі валасамі і хітрай усмешкай.

- Ах, Божа мой, дзе ж ты цяпер знойдзеш такога рамантычнага Грэя? У наш прагматычны век толькі бізнес і нічога асабістага.

- Ну, Вы крыху перабольшваеце, я думаю, што рамантыкі ўсё ж ёсць. Давайце пачнём з Вамі такую гульню: Вы мне загадваеце лірычнае жаданне, а я пастараюся выканаць.

Дзяўчына засмяялася і сказала:

- Ну што ж, самі напрасіліся. Я хачу белы гарлачык. А тут яны не растуць, вось і шукайце.

- А можа, перш пазнаёмімся, а то неяк нязручна без імён. Я - Антон.

- Мяне завуць Даратэяй.

- Якое рэдкае імя! Нешта з іспанскага. Няўжо Вы на Канарах

нарадзіліся?

Дзяўчына адказала:

- Мая мама вельмі любіць камедыі Лопе дэ Вега, вось і назвала так. Дарэчы, любімая жанчына драматурга насіла такое імя.

Маладыя людзі яшчэ пасмяяліся, і Антон пайшоў шукаць той гарлачык. Даратэя, вядома, не верыла, што ён знойдзе рачную лілею ў гарачым клімаце Турцыі. І ўсё ж ёй было прыемна незвычайнае знаёмства, яна не хацела ведаць пра хлопца ніякіх падрабязнасцей, бо патаемнае заўжды прыцягвае. Нібы ў новую казку зайшла, і фінал яе невядомы. Думаць аб тым, што было і што будзе, ёй не хацелася. Размораная на паўднёвым сонцы, дзяўчына нібы плыла па волі хваляў. Пaглядзела на мора, якое хвалявалася, уздымаючы белыя бурунчыкі, на дзяцей, якія з шумам плёскаліся ў цёплай вадзе, смяяліся і крычалі, яны проста радаваліся жыццю і сонцу. "Чаму дарослыя развучыліся быць радаснымі, непасрэднымі? Няўжо жыццёвыя праблемы нас зацягнулі ў вір негатыўных эмоцый і адчужанасці? А такое ўсё больш назіраецца вакол…" Так думала Даратэя, а потым схамянулася: "Ну, вось і я нібы сумую. Не, будзем жыць весела". І лёгка пабегла да мора, ускочыла ў яго пругкія хвалі, вакол маленькімі брыльянтамі рассыпаліся водныя пырскі. Паплыла прыгожым кролем, навучылася калісьці ў інстытуце, дзе быў басейн. Цяпер такое плаванне выклікала задавальненне, цела было лёгкае, слухалася яе. Сапраўдны адпачынак з элементамі спорту, чаго больш трэба?

Турцыя, куды Даратэя прыляцела на адпачынак, увогуле, не вабіла яе раней, але на гэтым настойвала сяброўка Галя, якая летась была тут і рэкамендавала наведацца. Ёй цікава было ў чужой краіне ўсё: прыгожы атэль, ветлівая абслуга, ласкавае мора, рознамоўны натоўп людзей. І мяккі клімат, у якім не адчувалася спякота, хаця тэрмометр паказваў + 37. Мужчыны з цікавасцю паглядалі на зеленавокую дзяўчыну, стройную і злёгку ўжо загарэлую. А яна не рэагавала, бо думала пра сваё: як там сын Алік, што гатуе яму бабуля, ці слухаецца ён? Хаця блізкія наказвалі ёй не хвалявацца аб тым, але мацярынскае сэрца ніколі не бывае спакойным. Бацькі ў сыночка не было - загінуў у аўтакатастрофе, дык выхаванне лягло на яе і маму, ласкавую бабулю Тамару.

Сонца прыпякло, і Даратэя паглядзела на гадзіннік: час абедаць. І пайшла ў атэль, дзе ўжо збіраліся адпачываючыя. Мужчыны ў шортах, жанчыны ў легкадумных сарафанах, шумныя дзеці, - малюнак свабоднага жыцця людзей, якія выбраліся раз у год на адпачынак. Асаблівай папулярнасцю карыстаўся шведскі стол, дзе можна выбраць ежу па

гусце. Колькі жартаў ды гумарэсак складзена пра рускіх, якія хочуць больш паесці тых заморскіх далікатэсаў! Вядома, пісьменнікі-гумарысты былі недалёкія ад ісціны, бо ў многіх адпачываючых спрацоўваў інстынкт: за свае грошы паем харошага, ды пабольш.

Пасля абеду Даратэя засталася ў нумары, каб пачытаць. А падвечар пайшла на прагулку, вакол зелянела лістота, высіліся пальмы з шырокімі лістамі, гулялі людзі, загарэлыя і вясёлыя. І тут зноў з'явіўся Антон, з якім пазнаёмілася на пляжы. З таямнічым выглядам ён дастаў руку з-за спіны і працягнуў маладой жанчыне тры белыя гарлачыкі. Яна здзівілася і сказала:

- Ды Вы - чараўнік! Дзе ж дасталі такое хараство? Як прывітанне з Радзімы, нашай Беларусі.

- Сапраўдны мужчына павінен выконваць жаданне дамы, ды яшчэ такой прыгожай, - адказаў ён.

Ёй спадабаўся такі галантны адказ. Яна ўзяла кветкі і дакранулася да іх прахалоды. Антон глядзеў на яе з замілаваннем, і прамовіў:

- Давайце вечарам сходзім у рэстаран, пагаворым.

Даратэя падумала і згадзілася. Трапічнае сонца ўжо зайшло, калі яны ўваходзілі ў сучасны, прыгожы будынак мясцовай рэстарацыі. Іграла музыка, наведвальнікі всесела перагаворваліся. Антон спытаў, што жадае дама і заказаў лёгкае віно і дэсерт. Яны гаварылі аб усім, што цікавіла. Мужчына паведаміў, што яшчэ не жанаты, бо ўсё не было калі: вучоба, абарона дысертацыі, работа навукоўца, дамашнія клопаты. Даратэя не хацела расказваць пра сябе, толькі сказала, што мае пяцігадовага сына. Антон выказаў здзіўленне:

- А нагадваеце дзяўчыну, юную, прыгожую. Патанцуем?

Яна даверліва паклала руку на яго дужае плячо, і нешта здрыганулася ўнутры. Сама здзівілася, бо на курортны раман і не разлічвала. Але хіба мы ўладарым над сваімі пачуццямі? Бывае так, што яны ўзнікаюць спантанна і нечакана, і гэта ўвогуле прыемна. Мужчына нібы пачуў яе думкі і пяшчотна правёў даланёй па яе шчацэ. Даратэя адчула нейкі жар, сцішылася. Ён павёў яе да стала і сказаў:

- Давай пяройдзем на "ты", добра?

Яна кіўнула галавой. У атэль ішлі ціхія, але адчувалася, што славутая іскра праляцела між імі. На развітанне Атон пацалаваў яе і нагадаў, што будзе чакаць заўтра на пляжы.

Даратэя спала добра, сама потым не верыла, думала, што не засне доўга ад перажытага. Паснедала і накіравалася да мора, зеленаватыя хвалі якога ўжо прынялі першых купальшчыкаў. Да яе падышоў Антон, радасна павітаўся і размясціўся побач. Загаралі, потым пайшлі

ў ваду.

- А давай спаборнічаць, хто далей заплыве? - прапанавала Даратэя.

Мужчына спачатку прамаўчаў, бо ведаў свае сціплыя магчымасці. Але не пасаваць жа перад каханай жанчынай. А што ён закахаўся, быў упэўнены. Згадзіўся, і яны паплылі. Даратэя лёгка і прыгожа рассякала хвалі, і ўжо абагнала Антона, абярнулася і падахвоціла:

- Даганяй!

Ён стараўся, але ў нейкі момант адчуў, што сілы слабеюць, а потым зусім спыніўся і пайшоў на дно. Галава яго схавалася пад вадой, побач плыў мужчына і закрычаў:

- Чалавек тоне!

Даратэя рэзка абярнулася і хутка паплыла назад. Яна нырнула, але безвынікова. Вынырнула, набрала паветра і зноў пад ваду. Там яна ўхапіла Антона за валасы і пацягнула за сабой наверх. Тут падаспеў незнаёмы мужчына і дапамог. На беразе жанчына зрабіла Антону штучнае дыханне, прыбег выратавальнік. Усё закончылася добра. Стомленая Даратэя села побач. Яе хвалілі, захапляліся. Антон, устаўшы, пацалаваў ёй руку і прамовіў:

- Мне сорамна, што я слабы плывец.

- Ну што ты, - запярэчыла выратавальніца. - Такое здараецца нават з выдатнымі плыўцамі. Нічога, цяпер усё ў парадку.

Пасля таго выпадку Антон яшчэ больш палюбіў Даратэю, яна была німфай, русалкай, дужай і адначасова пяшчотнай. Яны гулялі вечарамі, ён чытаў вершы і прызнаўся ў каханні. А яшчэ прачытаў дзіўнае:

- Я разлюблю цябе тады, калі сляпы мастак намалюе гук падаючага пялёстка ружы на крыштальную падлогу няіснага замка.

Жанчына была ў захапленні і спытала:

- Ты сам прыдумаў?

- Не, я прачытаў у адной кнізе, мне спадабалася, і гэта прысвячаю табе.

З курорта яны паляцелі разам, для чаго Антон памяняў білет. У Мінску Даратэя пазнаёміла яго з сынам і мамай. Мужчына папрасіў у маці рукі яе дачкі - прыгажуні. Тая згадзілася, і шчаслівыя маладыя адкрылі шампанскае. Антон усхвалявана сказаў:

- За цёплую Турцыю, што падарыла мне самую лепшую жанчыну! Бо, як сказаў паэт, "І прелести твоей секрет разгадке жизни равносилен!"

# ДВОЕ НА РОВАРЫ

Цёплая восень нездарма носіць назву "бабінага лета": жанчына ўступае ў такую пару, калі нельга вызначыць яе ўзрост, а жыццё кіпіць і хочацца цяпла ўнутранага і знешняга. Павуцінкі, ледзь прыкметныя, снуюць свае тоненькія красёнцы. Ах, як добра адчуваць цеплыню залацістай восені, і не толькі людзям сярэдняга веку, а і маладым…

Ад царквы да клуба, дзе працавала Вера, было блізка, метраў сто. Таму дзяўчына любіла прыходзіць сюды, слухаць шум дрэў, якія раслі вакол, стройныя, велічныя, а восенню ўпрыгожваліся жоўта-чырвонай лістотай. Вось і сёння Вера скіравала да прывычнага месца, але на паўдарозе спынілася: пачула жалобнае галашэнне. Некага хавалі, бо побач з царквой былі сельскія могілкі. Дзяўчына ціха падыйшла да групы людзей, яна ведала нябожчыцу, тая была з адной вёскі з ёю. Вера пастаяла, а потым адчула на сабе нечы позірк. Павярнулася і ўбачыла хлопца - светлавалосага, высокага, які з цікавасцю глядзеў на яе. Дзяўчына ў думках абурылася: "Знайшоў дзе глядзець на дзеўку!"Яна адышлася далей, потым пайшла ў клуб, занялася сваімі справамі. Якое ж было здзіўленне, калі падвечар да яе зайшоў той самы хлопец, які быў на могілках. Вера нахмурыла бровы і амаль сурова спытала:

- Вам каго?

Юнак пачырванеў і сарамліва адказаў:

- Я хацеў бы пазнаёміцца з Вамі.

Яна разгублена маўчала. Тое, што хлопец быў сціплым, спадабалася, але як далей будзе? Дзяўчына ўсё ж назвала сваё імя і запрасіла сесці. Сяргей, так назваўся юнак, сказаў, што прыехаў з арміі ў водпуск, убачыў Веру і… Збянтэжаны, замаўчаў. Потым разгаварыўся, расказаў пра армейскія будні. Крыху памаўчаўшы, спытаў:

- Вы едзеце на аўтобусную станцыю? Давайце я Вас падвязу…

- На чым?

- На ровары.

Вера пра сябе ўсміхнулася. Але не жадаючы пакрыўдзіць сціплага чалавека, згадзілася. Яна села на раму, і маладыя людзі паехалі. Сяргей ледзь чутна дыхаў, відаць, хваляваўся, а Вера думала: "Вось табе і транспарт добры, экалагічна чысты. Мяне даўно не вазілі на ровары". Але іронія гэта была штучнай, на самай справе дзяўчына адчувала сябе добра, штосьці светлае цяплілася ў душы. Калі прыехалі на аўтастанцыю,юнак асмеліўся спытаць, ці можна ёй напісаць пісьмо. Вера на вакне вывела сваё прозвішча, усміхнулася. Аўтобус крануўся і паехаў.

Праз дзень Сяргей зноў прыйшоў у клуб, быў сумным. Пагаварылі пра надвор'е, пра мясцовыя навіны, а потым хлопец паведаміў:

- А мне заўтра ехаць у часць.

- Ну што ж, шчаслівай службы, - пажадала Вера.

Сяргей стаяў, паглядаў на дзяўчыну, чырванеў і не выходзіў. Яна здагадалася: ён хоча пацалаваць, але саромеецца. "Трэба ж, такі нясмелы", -падумала і сказала:

- Усяго Вам добрага.

Сяргей пайшоў. А потым Вера пачала атрымліваць яго пісьмы, на якіх быў трохвугольны штэмпель. Вайсковец пісаў так часта, што аднойчы прыслаў два лісты ў адзін дзень. Ці так супала. А словы былі гарачыя і шчырыя, поўныя захаплення і любові: "Каханая, дзякуй табе за тое, што ты ёсць, за твае рукі, вочы. Я думаю пра цябе кожную мінуту, так хачу ўбачыць. Лічу дні, іх з кожным разам становіцца менш, і будзе той жаданы дзень нашай сустрэчы".

Вера чытала хвалюючыя прызнанні, думала - сумнявалася: "Няўжо ён так палюбіў мяне? З першай сустрэчы, з першага погляду. Я думала, што такое бывае толькі ў кіно…"

Зіма даўно закрыла белай посцілкай золата восені, прыціснула маразамі, а дзяўчыне ад гарачых слоў Сяргея было цёпла і ўтульна. А калі зашумела веснавая паводка, і дні падоўжыліся, стала зусім весела. Сяброўка-бібліятэкар спыталася:

- Чаго ты так цвіцеш,Верка?

- Дык Сярожа хутка дэмабілізуецца, - адказала дзяўчына. - Ведаеш, я так чакаю яго, і сама не думала, але нешта хвалююся.

Цёплым вясновым днём яны сустрэліся: дэмабілізаваны хлопец, яшчэ ў вайсковай форме, і сімпатычная, шаравокая Верачка. Сарамлівы Сяргей падаў ёй загорнуты ў паперу пакунак:

- Гэта табе, мілая.

Яна раскруціла дарунак і была прыемна ўражана: на чорным фоне выява Сяргея Ясеніна.

- Дзякуй, Сярожа, - прамовіла ўсхваляваная дзяўчына. - Такі цудоўны падарунак. А хто гэта зрабіў?

- Я сам, - адказаў юнак. - У вольны час выразаў лобзікам і выпальваў.

Дзяўчыне было прыемна, што хлопец думаў аб тым, каб парадаваць яе, і з падарункам падгадаў. Вечарам яны, узяўшыся за рукі, пайшлі гуляць, дайшлі да Брэст-Маскоўскай шашы (ад вёскі было недалёка), гаварылі. Убачылі ў траве вожыка, падзівіліся на яго, парадаваліся. Калючы сусед патаптаўся і хуценька шмыгнуў у кусты. Маладыя людзі

засмяяліся і пайшлі далей. Як ім было хораша, лёгка, проста ісці і адчуваць, што побач блізкі чалавек. Вера чакала, што Сяргей яе абдыме і пацалуе, але хлопец не рашаўся. "Такі сарамлівы ці баіцца пакрыўдзіць? - думала дзяўчына. - А можа ён адчувае да мяне толькі сяброўства?" Ну што тут думаць яшчэ? Вера сумнявалася, бо ведала, ды ад дзяўчат чула, што большасць хлопцаў не такія. А хіба гэта кепска? Яна не магла знайсці адказу, але з павагай ставілася да юнака. Ён па-ранейшаму быў сарамлівы, нерашучы, толькі ўсё расказваў ёй цікавыя гісторыі, каб дзяўчына не сумавала. Але па вачах было відаць, што ў яго да Веры нешта большае, чым сяброўства.

Так працягвалася з месяц, а потым да Веры пачаў заляцацца другі хлопец, Лёнік. Ён быў вясёлы, смелы, прыходзіў у клуб і чакаў, пакуль яна пойдзе дадому. Тады ўставаў і казаў:

- О, і мне час ісці. Верачка, а мы ж з табой у адзін бок. Дык пайшлі.

Яны выходзілі з клуба, а за імі паціху ішоў Сяргей. Ён нічога не гаварыў, а проста ішоў. Вера не ведала, што рабіць, а Лёнік, быццам нічога не заўважаючы, балбатаў без упынку. А праз некаторы час прапанаваў ёй руку і сэрца. Дзяўчына была ў разгубленасці: яна не кахала Лёніка, але нешта цягнула да яго. А Сяргей не праяўляў ніякіх эмоцый. Пасля Каляд згулялі вяселле, Вера стала жонкай Лёніка. І толькі праз некалькі гадоў пры сустрэчы Сяргей, ужо будучы жанатым, сказаў Веры, што кахае толькі яе. А потым развёўся і з'ехаў недзе на Поўнач.

Прайшлі гады. Лёнік памёр, Вера адна падымала дзвюх дачок, яны выраслі і сталі годнымі людзьмі. Здаецца, усё добра. Але Вера Сцяпанаўна не раз успамінала той восеньскі дзень, іх, двах на ровары. Такое не паўтараецца, чыстае, светлае, далёкае юнацтва. І толькі партрэт Сяргея Ясеніна, падораны Сяргеем, і дагэтуль вісіць у пакоі.

# *Марыя Падамацька*

## АНОШКАЎСКІЯ АБРАЗКІ

### Вайна не шкадуе нікога

Гэтую гісторыю рассказала мне мая мама, бо сама я нарадзілася ў канцы вайны і, вядома, нічога не разумела, што адбывалася ў свеце. Ішоў 1943 год. Вайна цярпела нейкі пераломны момант. У нашай невялікай вёсцы засталіся толькі жанчыны з дзецьмі. Вайна не зачапіла нашу вёску. Баёў тут не было, фронт не стаяў. Часам нямецкія бамбардзіроўшчыкі праляталі са страшным гулам над вёскай, але не бамбілі. Людзі ўсяроўна баяліся гэтых чорных самалётаў з фашысцкай свастыкай. Пачуўшы страшэнны гул, хаваліся да сябе ў пограб.

Праз вёску праходзіла шырокая дарога, якая мела назву "Гас-

цінец". Вось па гэтым гасцінцы часта рухаліся нямецкія салдаты. То невялікімі групамі чалавек па сорак, а то і сотнямі. Куда яны рухаліся, ніхто не ведаў. Суправаджалі іх заўсёды матацыклісты. Людзей яны не чапалі, толькі курэй і парсюкоў лавілі, прыстрэльвалі і кідалі ў вялікую машыну - фургон, якая заўсёды ехала ў хвасце калоны.

За вёскай, у прытык да дамоў, расла збажына. Людзі вырошчвалі хлеб. У гэты год збажына вырасла на славу. Густая і высокая, налітая тоўстымі каласамі з цяжкім зернем, яна радавала вочы. "Будзе добры хлеб", - гаварылі яны.

На другім канцы вёскі, амаль каля гасцінца, жыла сям'я Яцукоў. Добрая, дружная сям'я. Бацька, маці і чацвёра дзяцей: тры хлопчыкі і маленькая Ганулька. Калі пачалася вайна, бацька са старэйшымі сынамі пайшоў на фронт. Дома засталася Вера (так звалі маці), чатырнаццацігадовы Андрэй і малая сямігадовая Ганулька.

У той спякотны чэрвенскі дзень людзі заўважылі, што да вёскі па гасцінцы накіроўваецца атрад немцаў, чалавек можа сорак. Яны ішлі вясёлыя, смяяліся, моцна выкрыквалі нейкія нямецкія выразы і з падазронасцю паглядвалі на кожную хату. Людзі пахаваліся ў хаты, далей ад граху. Хата Веры стаяла ў самым канцы вёскі. Сама гаспадыня працавала ў агародзе, а дзеці - Андрэй з Ганулькай, сядзелі на траўцы каля самай паласы жыта і нешта чыталі. Стаяла спякота, а жыта давала хоць крыху ценю.

Тое, што па гасцінцы рухаліся немцы, не амаглі бачыць ні Вера, ні дзеці. І раптам з-за паварота дарогі яна ўбачыла іх, разmoраных ад спякоты, са злоснымі тварамі, з аўтаматамі ў руках.

Вера так спалохалася, падбегла да ганка і гучна закрычала:

- Андрэй! Ганулька! Хутчэй дадому!

Немцы, пачуўшы крык, насцярожыліся і паднялі аўтаматы.

Андрэй быў высокі падлетак, таму калі ён узяўшы за руку Ганульку, каб ісці з ім у хату, падняўся, то аказаўся вышэй жыта.

- Партызаны! Партызаны! - закрычалі фашысты. І некалькі аўтаматных стрэлаў скасілі хлопчыка. Ён падаў на паласу жыта, якое хавала яго ад спякоты, але не схавала ад смерці. У вачах яго застыў жах. Адна з куль раструшчыла галаву Ганулькі. Яна ўпала на цела брата, трымаючы яго за руку. Разам з імі каля ганка ўпала і Вера, хаця ў яе ніхто не страляў. Ад разрыву сэрца.

Вярнуліся з фронту бацька і сыны. Усе выжылі. А ў роднай вёсцы загінулі ні ў чым не павінныя людзі, таму што вайна нікога не шкадуе. Задумайцеся, людзі.

## Дзякуй табе, хлеб

Вайна закончылася, калі тату было 53 гады. З-за ўзросту ў вайне ён не ўдзельнічаў. Затое ў пасляваенныя гады ён быў самым актыўным у калгаснай гаспадарцы. Разам з жанчынамі араў, касіў, дапамагаў у жывёлагадоўлі.

У тыя гады ў вёску не завозілі хлеб. Не было на чым. Выпякаць у печы не было з чаго. Таму па хлеб трэба было ісці ў Нясвіж. Хадзілі, у асноўным, пеша. А дарога далёкая, больш за чатырнаццаць кіламетраў туды і столькі ж назад. Быў канец сакавіка, ці пачатак красавіка. Паводкі яшчэ не было, але снег і лёд на вадаёмах ужо пабурэў. Тата сабраўся па хлеб у Нясвіж. Узяў вялізны мяшок (сям'я была вялікая) і пайшоў напрасткі праз Малева да Нясвіжа. Стаяў некалькі разоў ў чарзе (хлеба давалі па дзве булкі на рукі).

Напакаваў цэлы мяшок свежым духмяным хлебам. Яшчэ і банку селядцоў туды сунуў. Вяроўкамі моцна прымацаваў яго за плячыма. Груз аказаўся нялёгкім. А што зробіш? Свая ноша не цяжкая.

Назад ішоў той жа дарогай, напрасткі, праз нейкія малеўскія балоты, ці то лугі. Ісці было цяжка, бо было вельмі слізка. Ногі распаўзаліся на мокрым снезе. Але тата быў вясёлы, нават падпяваў пра сябе нейкі просценькі матыў. Быў шчаслівы, бо ён нёс сям'і цэлы мяшок хлеба. Надоўга хопіць. Але раптам ногі яго паслізнуліся, тата ўпаў разам з мяшком і, праехаўшы чуць па снезе, акказаўся ў нейкай глыбокай, напоўненай ледзяной вадой, яме. Яго адразу пацягнула на дно. Потым аказалася, што гэта была вельмі глыбокая канава, запоўненая да верху ледзяной вадой. Лёд на ёй яшчэ не растаў. Па-гэтаму заўважыць канаву было немагчыма. Тату з усіх сіл цягнула на дно. Ён зразумеў, што гэта чорная смерць схапіла яго. Тата пачаў маліцца і прасіць Бога, каб ён не пакінуў галодных дзяцей без хлеба. Ён жа так стараўся, каб пакарміць дзетак смачным хлебам.

І раптам тата адчуў, што больш яго ногі не цягне халоднае дно. Проста ногі свабодна боўтаюуцца ў ледзяной вадзе. Асцярожна павярнуў галаву і ўбачыў цуда. Яго мяшок з хлебам зачапіўся вяроўкамі за нейкую карагу, ці бервяно, якое моцна прымерзла да зямлі зімой і пакуль яшчэ не растала і моцна трымала мяшок з хлебам разам з татам.

Адкуль толькі ўзяліся ў таты сілы? Ён хапаўся рукамі за мерзлыя карчы, за карэнні нейкіх вялікіх раслін. І яны яму дапамагалі. Сабраўшы апошнія сілы, тата так рвануў усім целам, што аказаўся на мокрым снезе ля канавы - яго магчымай магілы. Адчапіў вяроўку ад карагі, якая так моцна трымала яго з яго ношай, тата пацалаваў карагу. Больш ён нічога

не памятаў. Не памятаў, як ён дайшоў жа бліжэйшай малеўскай хаты. Там жылі вельмі добрыя людзі. Яны далі абутак, аддзенне, напаілі гарачым чаем, вясковай гарэлкай, добра накармілі, папрасілі ў суседзяў каня з возам і адвезлі тату дамоў. Не было мяжы той удзячнасці з боку бацькі і нашай сям'і. Бо хлеб і добрыя людзі вярнулі жыццё чалавеку. Дзякуй Богу, Хлебу і Добрым Людзям, якіх яшчэ так многа на гэтым свеце.

### Бацькаўшчына

Пасляваеннае дзяцінства. Якое яно? Безумоўна, нялёгкае. Асабліва ў вёсках. Разбураная вайной калгасная гаспадарка. Не вярнуліся з вайны мужчыны, уся работа ўзвалілася на плечы жанчын і дзяцей. Няма коней, тэхнікі. Самаробныя плугі. Рыдлёўкі. Граблі. Жанчыны ўпрагаліся ў плугі і саматугам аралі свае і калгасныя палеткі. Дапамагалі ім дзеці.

Дзецям хацелася гуляць. Хацелася вучыцца, хацелася добра і смачна паесці. Але не заўсёды гэта ўдавалася. Дапамагалі бацькам, як маглі. Але было і іншае. Жыццё хоць і было нялёгкае, але было цікавае. Шчырае сяброўства. Не было замежных прыгожых цацак. Але мы іх прыдумвалі самі: мячыкі з поўсці кароў - белыя, чорныя, рыжыя; палачкі для гульні ў “Чыжыка"; пашытыя сваімі рукамі лялькі; рознакаляровыя шкельцы для "класікаў". І нам было цікава і весела.

У нас не было спартыўных залаў. Затое былі прыродныя пляцоўкі: паплавы, лугі, рэчкі, дрэвы. Усе яны выкоўвалі ў нас спартыўныя навыкі, вынослівасць.

У нас не было ні радыё, ні тэлевізара, ні кіно, ні газет. Усё гэта з'явілася крыху пазней. Але мы ніколі не сумавалі. Нас не патрэбна было весяліць. Усё гэта было, усё гэта не выдумана. І самае галоўнае - нас выхоўвала праца. Дзякуючы ёй, мы выраслі годнымі, сумленнымі людзьмі.

## ГІСТОРЫІ З ДЗЯЦІНСТВА

### Сяброўкі

Маня і Таня - сяброўкі. Сяброўкі з самага дзяцінства. Таня на год маладзей за Маню, але гэта сяброўству не замінала. Яны вельмі падобныя: любяць прыроду, абедзве рухавыя, любяць спорт, працавітыя. Разам хадзілі ў школу ў суседнюю вёску. Школа знаходзілася прыкладна за два з паловай ці тры кіламетры ад дому, і гэтую дарогу дзяўчынкі праходзілі

заўсёды разам.

Паміж вёскай і школай знаходзілася вялікае поплава, раздзеленае на дзве палавіны невялікай рачулкай без назвы. Вясной і летам гэта рачулка перасыхала. Яна была неглыбокая і нешырокая. Напаўнялася вадой толькі ў паводку. Для пераходу з аднаго берага на другі ляжала на падпорах вялізная і доўгая дошка - кладка. Але нашы дзяўчынкі ёю ніколі не карысталіся. Ідучы са школы яны спаборнічалі па перасокванні рачулкі. Хто пераскочыць самае шырокае ў ёй месца. Часта яны бултыхаліся ў самую ваду. Безумоўна, прыходзілі дадому позна, брудныя, змораныя. За гэта атрымлівалі "наганяй" ад бацькоў.

Другім вельмі любімым заняткам для іх было спаборніцтва - "Стойка на галаве". Рукі ставілі на траву на шырыню плеч. Галаву ўніз і павольны пад'ём ног уверх. Перамагаў той, хто даўжэй стаяў у такім становішчы.

Былі даганялкі. Кіданне на адлегласць самаробных мячыкаў, палак, бег на хуткасць. Усё гэта давала ім здароўе, выпрацоўвала вынослівасць, загартоўвала іхняе сяброўства.

Яшчэ гулялі многа ў "Чыжыка" і "Класікі".

Дадому прыходзілі толькі пад вечар. Дапамагалі бацькам ў дамашняй гаспадарцы. Абавязкаў было многа, але яны спраўляліся, таму што былі вынослівыя і працавітыя.

## Гусі

У тыя пасляваенныя гады ў кожнага дзіцяці былі свае абавязкі па дому. Былі яны ў нашых сябровак Мані і Тані. Патрэбна было папасвіць гусей. На ўзмежках пры дарогах травы не хапала, таму Маня і Таня ганялі сваіх гусей на аселіцу (невялікі лужок за вёскай), дзе было многа травы. Вось Маня і Таня і ўнадзіліся там пасвіць сваіх гусей. Сядуць на ўзгорку. Любуюцца прыродай, на сонейку грэюцца, распавядаюць розныя цікавыя гісторыі, вяночкі з лугавых кветак сплятаюць. Усё весела і добра. І гусей пакормяць, і самі адпачнуць. Добра то добра, але ж луг калгасны. А гусі, як гусі. Дзе стопчуць траву, дзе з'ядуць. Адным словам, прыносяць страту калгасу. Аднак у калгасе быў наглядчык над палямі. Звалі яго паплаўнічы Яша. Ездзіў ён па палях, лугах верхам на кані і глядзеў, каб не было там ніякіх парушэнняў.

Аднойчы, пасучы гусей, дзяўчынкі так разгаварыліся, што не заўважылі, як удалечыні на кані з'явіўся паплаўнічы Яша. Ён накіраваўся да іх.

- Глянь! Яша! - раптам закрычала Ганя.

- Што рабіць? Аштрафуе! Яшчэ і гусей забярэ! - у роспачы заплакала Маня.

- Нічога! Стойка на галаве! - скамандавала Таня.

Басаногія дзяўчынкі зайшлі ў самую высокую і густую траву і зрабілі "стойку на галаве". Над высокімі лугавымі травамі з'явіліся дзве пары босых ног ступенямі да неба. Яны выраблялі над травой такія выкрунтасы, што спалоханы Яшын конь спачатку навастрыў вушы, заіржаў, а потым развярнуўшыся на 180 градусаў з хуткасцю панёс Яшу ў невядомую далечыню. А дзяўчынкі са смехам пайшлі на свой пагорак, каб прадоўжыць свой адпачынак.

**Канюшына**

Дзень стаяў спякотны. Нясцерпна паліла сонца. Нідзе не падуе вецярок. Сёння давядзецца дзяўчынкам многа папрацаваць. Прыгатаваць для парсюкоў ежу, пакарміць пад вечар кароў. Як справіцца? Часу малавата. Трэба нарваць лісця з буракоў, пакрышыць іх і пакласці ў вялізныя чыгуны, нашморгаць лебяды, дапоўніць ёю чыгуны, каб назаўтра маці на два дні зварыла ежу для парсюкоў.

А пад вечар трэба падкарміць кароў. Бо прыходзяць яны з чаргі галодныя. Трава на выгане пагарэла. І тут Таня ўспомніла, што непадалёку каля яе хаты расце вялізны ўчастак канюшыны.

- А давай мы нарвём па палове кошыка і пакормім сёння нашых каровак, - прапанавала Таня.

- А давай! - згадзілася Маня.

Кошыкі паставілі пад лапухі каля вялізнага гумна, а самі, прыгнуўшыся, пачалі рваць траўку і канюшыну, каб напоўніць кошыкі. Яны так шчыра працавалі, што не заўважылі, як на гарызонце з’явіўся паплаўнічы Яша, без каня. Ён ішоў напрасткі да іх.

- Уцякайма! - прашапталі дзяўчынкі.

Прыціснуўшыся ўсім целам да зямлі, яны папаўзлі па-пластунску да Танінай хаты. Паўзлі доўга. Моцна балелі здзёртыя калені і локці. Усё цела было ў сіняках. Дапаўзлі да Ганінага плота. Знайшлі лаз і трапілі ў Танін агарод. Дзе дзеўся Яша, не ведалі. Баяліся, што ён прыйдзе за імі. Але, дзякуй Богу, ён не прыйшоў. Залезлі на самую высокую яблыню і прасядзелі там да самага вечара. Баяліся Яшы. Каровы засталіся галоднымі. Цэлы тыдзень не выходзілі ў вёску. Балела ўсё цела. Пра здарэнне нагадвалі сінякі і раны. Кошыкі забралі з-пад лапухоў праз тыдзень. Вось такія гісторыі здараліся з сяброўкамі, калі ім было прыкладна гадоў па дзесяць-дванаццаць.

**Гарох**

Стаяў летні спякотны дзень. Таня з Маняй любілі ў такую спякоту прагуляцца за ваколіцу, дзе набірала сілу збажына. Дзяўчынкам было тады па дзевяць гадоў.

Апрануліся лёгка. На Тані - лёгкая паркалёвая сукенка, на Мані - лёгкія, чуць ніжай калена, шаравары з гумкамі і на каленях, і на поясе.

Сяброўкі павольна ішлі каля жыта, размаўляючы пра нешта патаемнае. І раптам яны ўбачылі за жытам пасевы гароху. І такі ён быў прывабны, што дзяўчынкі адразу накіраваліся да яго. Гарох быў вельмі смачны: салодкі, з вялікімі зялёнымі струкамі, зялёнай спеласці. Наеўшыся ўдосталь, рашылі ўзяць трохі дадому. А ў што? Ніякіх пакетаў з сабой не было.

- А давай у твае шаравары? Вунь якія яны шырокія. Цэлы кош улезе! А дома падзелім. Дый гумкі ёсць!

- Давай! - згадзілася Маня.

- Дый Яша ў такую спякоту не выйдзе з дому, - сказала Таня.

Шаравары напаўняліся хутка, бо гарох быў з вялізнымі струкамі. Маня некалькі разоў падціскала гумнку на поясе, каб гарох разам з шараварамі не з'ехаў на ступні босых ног. Але шаравары трымаліся добра. Напоўніўшы да канца шаравары гарохам, дзяўчынкі пайшлі дамоў.

Таня дапамагала рукой прытрымліваць шаравары, каб яны не зваліліся.

І раптам Маня ўбачыла, што за імі рухаецца Яша, і зноў без каня. Яна так рванула ўперад з гарохам у шараварах, што Таня не зразумела, што здарылася. Азірнуўшыся назад, яна ўбачыла Яшу і ўсё зразумела. А тым часам Маня ўцякала. Яе хістала з боку на бок, гарох навісаў над тоненькім дзіцячымі ножкамі. Здавалася, што ён вось пасыпецца пад ногі. Таня ж не магла стрымацца ад смеху і ўпала на зямлю, прадаўжаючы смяяцца. Дадому прыйшлі, калі гарох падзялілі пароўну. Яго быў поўны таз.

А ці было гэта сапраўднае сяброўства? Падумайце і прачытайце зноў.



# *Валерый Чабатароў*

*Валерый Рыгоравіч Чабатароў нарадзіўся 28 лютага 1945 года ў горадзе Узда Менскай вобласці. Закончыў Менскі электратэхнікум сувязі. Працаваў па спецыяльнасці, служыў у арміі ў горадзе Магілёве. Закончыў Менскае вышэйшае зенітна-ракетнае вучылішча. Служыў на палігоне СПА. Звольнены ў запас у 1994 годзе ў званні падпалкоўніка. Ветэран ваеннай службы. Працаваў галоўным энергетыткам у фірме "Леан Груп". Пайшоў на пенсію ва ўзросце 65-гадоў. Ветэран працы.*

## БУКЕТ АД ЧЫСТАГА СЭРЦА

У кожнага ваеннага помніка ёсць сваё, асаблівае месца на зямлі, свае прозвішчы і імёны, але ўсіх іх аб'ядноўвае адно - смутак і боль аб загінуўшых. Вайна спарадзіла на зямлі вялікую колькаць абеліскаў, помнікаў і мемарыялаў, як след страшэннага вар'яцтва. Тут заўсёды ляжаць кветкі, прыходзяць людзі, каб выказаць падзяку і аддаць дань павагі тым, хто загінуў дзеля міру і свабоды.

Гэты помнік стаіць у канцы вёскі , на скрыжаванні, якое ўзнікла ў выніку будаўніцтва дач ў мірны час. Я праязджаў міма яго шмат разоў і толькі мог меркаваць, з якой нагоды стаіць гэты помнік. Даведацца аб гэтым лепей дапамог выпадак. Унукі летам адпачывалі на дачы і да верасня збіраліся з'язджаць. У горад хадзіла маршрутка, прыпынак якой быў на тым самым скрыжаванні, дзе стаяў помнік.

Прыйшлі зараней, пераадолеўшы каля двух кіламетраў пешшу. У той дзень свяціла сонца. На няскошаным лузе, сярод травы, віднеліся

палявыя кветкі, пырхалі матылькі, у небе плылі воблакі. А тут, на гэтай, здавалася б, некранутай пядзі зямлі, стаяў помнік. Маршруткі на прыпынку не было. Я прапанаваў унучцы сабраць букет кветак для матулі. Мы спусціліся з дарогі. Я пайшоў з жонкай да помніка, а ўнучка ад кветкі да кветкі хутка сабрала вялікі букет палявых кветак і падышла да нас.

Яна скончыла другі клас, і я папрасіў яе прачытаць, што напісана на помніку. Унучка ўпэўнена пачала чытаць, стараючыся паказаць сваё майстэрства у гэтым пытанні, як раптам замаўчала, не дачытаўшы да канца. Мне здалося, што ў яе запершыла ў горле. І я, нібы нічога не адбылося, прачытаў на адным дыханні: "Вечная памяць воінам і аднавяскоўцам вёскі Масцішча, якія загінулі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941-1945 гг.". Я дачытаў. Моўчкі стаяла бабуля. Унучка падняла вочы. На помніку ў тры слупкі ішлі прозвішчы з ініцыяламі. У трэцім слупку пасля прозвішча Доўнар былі напісаны імёны: Бора, Яна, Вячаслаў, Антон. Унучка адразу спытала, чаму толькі імёны. Адказала бабуля, што гэта імёны дзяцей - ахвяр вайны. Загінулі, як бачна, разам з бацькамі.

Унучка тут жа паклала сабраны букет да падножжа помніка.

Пад'язджала маршрутка, і мы накіраваліся да скрыжавання. Побач унучкі не было. Я аглянуўся і ўбачыў, як яна вярнулася з паўдарогі і пералажыла свой букет да першай калонкі, дзе былі напісаны імёны дзяцей. Складалася ўражанне, што яна ўручыла ім кветкі асабіста. Унучка дагнала нас з сур'ёзным выглядам дарослага чалавека. Яна была ахоплена нейкім дзіўна узвышаным пачуццём.

Я разумеў, што дзяўчынка, усвядоміўшы чужы боль і гора іншых, зможа ў дальнейшым жыцці правільна ацаніць тое, што яе атачае і прыняць правільнае рашэнне. Спеў стрыжань дарослага чалавека, і як бы не склаўся яе лёс, яна зможа дасягнуць таго, што ўзвысіць яе як асобу.

Было прыемна ўсведамляць, што ў сям'і падрастае чалавек, які атрымлівае з ранняга дзяцінства правільнае выхаванне.

## ШПАК

Шпак прысеў на галінку арэха, каб агледзецца і, здавалася, перадыхнуць. Але тут злецеў на зямлю ў пошуках корму. Зусім нядаўна са сваёй сяброўкай яны абасноваліся ў шпакоўні. У той самай, у якой былі летась. Трэба будзе папрацаваць, пачысціць і асвяжыць гняздо.

Работы многа, але ўдваіх яны справяцца.

Мінулы год быў няпростым; па начах падмарожвала. Дуў ледзяны вецер і даводзілася ў шпакоўні праседзець ў чаканні лётнага надвор'я,

часам галадаючы. Здарыліся і зацяжныя дажджы. Але вясна набірала сілу, сонца прыгрэла зямлю, пачала зелянець трава, і ўсё кругом ажывала. У той год яны справіліся, выседзелі, выкармілі і паставілі на крыло двух цудоўных птушанят. З вялікай чарадой сародзічаў дружна паляцелі на зімоўку ў вырай.

І вось пачынаецца новы сезон. Якім ён будзе?

У гэтым годзе птушаняты, іх дзеці, таксама прыляцелі ў гэтыя краі. Знайшлі шпакоўню, у якой нарадзіліся і выраслі, падабралі сабе пару. З шумам, ці то ад радасці, ці то гуляючы, пачалі спіхваць са шпакоўні адзін аднаго. Але шпакоўня ўжо была занята бацькамі.

Шпакі пакружылі, пасядзелі па чарзе на шпакоўні, пагутарылі з бацькамі і паляцелі ў лес. На жаль, побач новай шпакоўні не аказалася.

А шкада. Было б выдатна бацькам назіраць, як з'явіліся ўнукі, як яны падраслі, а ўвосень, вялікай дружнай сям'ёй, паляцелі ўсе разам у цёплы край.

## НАПЯРЭДАДНІ МАЯ

Сыходзіў красавік. Апошнія дзянёчкі не абнадзейвалі цяплом. З ночы падмарожвала. Днём тэмпература не перавышала 5-7 градусаў.

Вецер прымушаў хутацца і надзяваць шалік пад куртку. Пачынаўся новы дзень. Якім ён будзе? Хацелася сонца і цяпла.

На досвітку сонца павольна ўзышло над гарызонтам і асвятліла верхавіны дрэў і дахі дамоў. Як магутны чырвоны пражэктар, яно нагадала аб сабе і сеяла надзею на цёплы дзень.

Але гэтая прыгажосць працягвалася нядоўга, якія-небудзь паўгадзіны.

Праявіўшы сваю бездапаможнасць, сонца тут жа аказалася заслонена аблокамі.

Шэры суцэльны купал праглыне гэтую прыродную прыгажосць разам з надзеяй на цёплы дзень. Заставалася злёгку пунсовая палоска праз увесь бачны гарызонт. Яркае святло згасла, як быццам нехта выключыў рубільнік, і нітка гэтай магутнай лямпачкі, паціху астываючы, яшчэ крыху падсвечвала. Усё неба станавілася раўнамерна шэрым і, здавалася, афарбавана аднатоннай фарбай для карціны новага дня.

Ніякіх заганаў, ні воблачка, ні блакітнай плямкі, ні белага мазка. Узмацніўся вецер, спрабуючы адсунуць гэты шэры экран і дапамагчы сонцу выйсці са схованкі. Заставалася надзея, што пасля абеду або, можа быць пад вечар, сонца зноў праявіцца.

Май рыхтаваўся заявіць аб сабе і выйсці на сцэну прыроды.



*Ірына Кіпець нарадзілася на Стаўпеччыне 29 верасня 1949 года.*

*Атрымала ў свой час сярэднюю медыцынскую і вышэйшую педагагічную адукацыі.*

*Працавала на ФАПЕ, у лякарні, у розных установах адукацыі, а таксама - на МАЗ-е з рабочымі, якія не чуюць.*

# *Ірына Кіпець*

## ЯБЛЫНІ СТАРОГА САДУ
**Зборнік апавяданняў**

### Яблыкі

Так склалася, што майго бацьку бабуля выхоўвала адна. Таму ўсе мужчынскія жыццёвыя прамудрасці ён спасцігаў самастойна ці з дапамогай неабыякавых людзей. Улетку пасвіў чужых кароў, вязаў венікі, плёў з каранёў кошыкі. За ўгандляваныя грошы купляў сшыткі, кнігі. Узімку хадзіў у школу. Змог скончыць чатыры класы.

Захапленняў у бацькі было шмат, але самым любімым было садоўніцтва. Бацька мог за дзясятак кіламетраў ездзіць да знаёмых і

незнаёмых людзей па прышчэпы. У агародзе быў яго любімы куток - "школка". Там раслі прышчэпленыя пладовыя дрэвы. Пасля адпаведнага тэрміну знаходжання ў "школцы" дрэўца перасаджвалася ў сад. Такі шлях прайшла і жаданая яблынька гатунку “белы наліў”.

А там пачыналася самае цікавае. Былі прыемныя чаканні першага цвіцення, першых пладоў. Яблычкі заўсёды падлічваліся.

Бацька перажываў, калі бачыў апалую завязь. Ён кожны дзень хадзіў да яблынькі і ўважліва аглядаў кожны яблык з аднаго і з другога боку, выглядваючы, ці не прасвечваюцца зярняткі ўсярэдзіне плада.

Усмешлівы, радасны заходзіў у хату, калі прыносіў рана раніцай такі яблычак, які прасвечваецца. Клікаў нас, дзяцей.

Паказваў:

- Матачка, - звяртаўся бацька да мамы, - дай ручнік! ("Матачка", "бацечка"- так ласкава звярталіся бацькі адзін да аднаго.)

Як правіла, са скрыні шафы даставаўся чысты ручнік. Бацька змахваў рукой са стала нябачныя крошкі, мог прысесці, уважліва паглядзець, каб пераканацца ў ідэальнай чысціні цыраты. Рассцілаў ручнік, клаў яблык. З кішэні портак даставаў сцізорык, праціраў яго ручніком, здзімаў нябачны пыл і ўрачыста - асцярожна разразаў яблык. На зрэзе яблыка качаліся маленькія празрыстыя кропелькі (шарыкі) соку. Мы з братам стаялі побач і ўважліва назіралі за дзеяннямі бацькі, глынаючы сліну.

Потым гэтыя кавалачкі яблыка раздаваліся ўсім чальцам сям'і. Пачыналася "смакаванне" яблыка. Хтосьці затуляў вочы ад задавальнення, хтосьці мог стаіць дыханне, каб адчуць смак, хтосьці прыцмокваў, пагладжваючы сябе па жываце. Выснова была адна:

- Смачна!

У такіх урачыстых сабставінах здымалася проба кожнага першага яблычка з маладой яблынькі. А потым бацька частаваў сваіх сяброў, знаёмых гэтымі яблыкамі - першынцамі. Толькі трохі прыглушалася ўрачыстасць, калі бацьку не атрымоўваўся зняць яблык з дрэва, а даводзілася паднімаць з зямлі. Бацька як бы вініў сябе, што прагледзеў тэрмін паспявання яблыкаў.

Неўзаметку падкраўся той год, калі бацька не дачакаўся паспявання яблыкаў. Гэты рытуал паўтарыў мой брат. У смаку яблыка адчуваўся прысмак слёз... Але ў той жа час адчувалі і... радасць скрозь слёзы, што бацькоўская традыцыя жывая, што ёсць яе прадаўжальнік. Сёння ў брата ёсць сад на дачы. Захавалася такая ж любоў да садоўніцтва і да яго тонкасцяў.

## "Сапраўдны" наган

Мой брат, як і большасць хлапчукоў, захапляўся ў дзяцінстве ваеннымі цацкамі, якія не заўсёды можна было купіць у краме, ды і фінансавыя магчымасці не дазвалялі. Затое дошчачкі ў бацькоўскіх запасах знаходзіліся заўсёды, а то і простыя палены адпаведнай таўшчыні ішлі ў ход. З-пад рук брата выходзілі зручныя цацачныя аўтаматы, наганы. Роўненькія, гладзенькія, таму што ўсе апрацоўвалася рашпілем ці наждачкай. Усе дзеці з кампаніі брата былі забяспечаны "зброяй".

Ваенныя баталіі разгараліся ў дварах, у суседнім лясочку. Мне ў гэтых баталіях таксама адводзілася адпаведная роля - "санінструктара". Як правіла, параненых не было. Мая задача складалася ў тым, каб "не замінаць".

Час ішоў, галасавыя "тра-та-та" і "бах-бах" хлапчукоў ужо не задавальнялі. Пры актыўным удзеле аднаго са старэйшых хлопцаў было прынята рашэнне зрабіць "сапраўдны" наган. Памяць усіх тонкасцяў не захавала, але сутнасць такая: да драўлянага нагана прымацоўвалася металічная трубка адпаведнага дыяметра, у якую запіхвалася рваная газетная папера, потым - запалкавыя галоўкі. Гэта ўсё падпальвалася, і раздаваўся стрэл.

Усё гэта рабілася ў вялікай таямніцы ад бацькоў. Калі "зброя" была гатова, трэба было праверыць яе ў дзеянні. Было вырашана "стрэліць" у лесе падчас выпасу кароў. У кожным двары быў свой пастух. Гэта, як правіла, дзеці ці старыя. Сярод старых быў дзед Бадун з суседняй вёскі. Паміж падлеткамі і дзедам паўстала спрэчка пра "якасць" гэтай "зброі". Дзед Бадун не верыў у магчымасці "гэтай дзеравякі" і таму даў згоду на выкарыстанне сваёй кепкі для мішэні. Кепка была павешана на сук хвоі. Хлапчукі адышлі на адпаведную адлегласць, падпалілі запалку, паднеслі да трубкі... і раздаўся стрэл. Ад кепкі дзеда застаўся адзін абадок.

Цэлы струмень малапрыемных слоў абрынуўся на хлапчукоў.

Далей - болей. Кароў пагналі на дзённую дойку. Дзед пачаў дзейнічаць.

Наш бацька працаваў у краме, якая знаходзілася паміж дзвюма вёскамі. Туды і накіраваўся дзед Бадун. Распавёў з доляй гумару пра стрэл, пра асцярогі. Гутарка набывала самыя розныя павароты:

- Гэтыя шэльмы дадумаліся...

- Дзед Бадун, вы ж - стары чалавек...

- А крый Божа...

Але галоўнае, што дзед застаўся без кепкі. Бацька супакоіў дзеда, даў яму магчымасць выбраць кепку свайго памеру. Задаволены дзед,

надзеўшы новую кепку, адправіўся дахаты.

Ну а ў нас дома ў гэты дзень адбылася сур'ёзная гутарка бацькі з сынам. Было папулярна растлумачана пра магчымыя наступствы падобнага стрэлу. Трэба было зрабіць канфіскацыю "зброі". Але тут спрацавала бабуля, якая вельмі любіла ўнука. Наган знік. (Ён доўгі час ляжаў пад крамай, пад нейкім ашэсткам, куды бабуля яго схавала. Потым бясследна знік). Брат даў абяцанне не вяртацца да падобнай стральбы. І ўсяроўна па-ранейшаму гучалі "аўтаматныя" чэргі і адзінкавыя "стрэлы" з наганаў, але з паменшанай рызыкай.

Ішлі гады. Гульні ў вайну не прайшлі дарма. Браг не стаў прафесійным вайскоўцам, але пасля службы ў войскі, вучобы ў тэхнікуме і недоўгачасовай працы на заводзе да выхаду на пенсію прапрацаваў у ваенкамаце, жартам завучы сябе "салдацкім генералам".

## Мой студэнцкі атрад

Падчас вучобы на трэцім курсе медвучылішча сумесна з куратарам групы было прынята рашэнне падчас летніх вакацый паехаць на працу на поўдзень. Так ствараўся свой студэнцкі атрад, у які ўвайшлі дзяўчынкі і з іншых груп. Была перапіска з адпаведнымі арганізацыямі, потым з дырэкцыяй саўгаса "8 Сакавіка", недалёка ад Джанкая. Гэта Крым. Такім чынам, іспыты здадзены, удакладнены спісы ахвотнікаў. Многія хацелі паехаць, але не дазвалялі бацькі. Нехта быў адзіным памочнікам мамы у сельскагаспадарчых работах, негага залішне апекавалі.

Мае бацькі таксама трымалі раду са старэйшымі роднымі і стрыечнымі сёстрамі і братамі з нагоды маёй паездкі. Рада дала "дабро" з навучаннямі і павучаннямі. Старэйшай у нашым атрадзе была камсорг нашай групы.

Баявая гатовасць №1. Мы ў вагоне. Шумна. Весела. Трохі трывожна: як і што. Бо гэта ўпершыню.

Такім чынам: мы ў Джанкаі. Нас сустракаюць. Прывозяць у цэнтр саўгаса. Знаёмімся з адміністрацыяй. За намі замацоўваюць прадстаўніка з кіраўніцтва. Усе пытанні вырашаюцца з ім. Пасяляюць нас у барак. Шмат чалавек у пакоі, але гэтага ніхто не заўважаў. Спалі на нейкіх полках (драўляныя насцілы вышынёй з ложак).

Працавалі на ўборцы гародніны (памідораў, агуркоў, кабачкоў), рыхтавалі парнікі для пасеву расады. Праца была нескладаная, бо асноўная маса дзяўчат была з вёскі. Нормы мы выконвалі. Плюс да ўсяго, яшчэ і загаралі.

Ваду для піцця прывозілі ў поле. Абеды рыхтавалі ў сталовай. Аднойчы камусьці з дзяўчынак даслалі сала. Мілата! Гародніна на месцы, смачны белы хлеб таксама. На абед мы не з'явіліся. Затое да нас на поле прыехаў сам дырэктар саўгаса: высвятліць прычыну нашага нез'яўлення на абед. Растлумачыліся, далі абяцанне не зрываць абед, таму што ў сталовай рыхтавалі галоўным чынам для нас.

На поле расло дрэва шаўкоўніцы. Ягады еш - не хачу. Уздоўж дарог раслі абрыкосы.

Нам у барак прывозілі вішні скрынямі. Мы такім чынам вітамінізаваліся.

А яшчэ з нецярпеннем чакалі сустрэчы з морам.

Надышоў выхадны. Мы дружна пагрузіліся ў адмыслова абсталяваную грузавую машыну і з песнямі адправіліся на сустрэчу з морам.

Нам падказалі, з якога боку можна хутчэй убачыць мора. Усе галовы, як па камандзе, былі павернуты ў той бок. Камусьці пашанцавала больш: першай убачыць мора - палоску вады цёмна-валошкавага колеру. Радасныя воклічы не прымусілі сябе чакаць. Супакоіліся не адразу.

У тую паездку мы пабывалі ў Ялце, Алупцы, Алушце, Нікіцскім батанічным садзе, Лівадыі. Здалёку бачылі Ластаўчына гняздо.

А ў чарговы выхадны ездзілі на Арабатскую стрэлку (гэта каса на Азоўскім моры). Вада смарагдавага колеру, цёплая, як сырадой. Нам, дзяўчынкам, дзесьці па 18 гадоў (камусьці чуць больш, камусьці чуць менш). Праз месяцаў 8 - заканчэнне медвучылішча. Усё жыццё наперадзе. Што яшчэ трэба? З вады не выходзілі. Дурэлі, смяяліся. Выклікалі ўсмешкі на тварах адпачывальнікаў, якія цікавіліся, адкуль мы такія вясёлыя. Дазнаўшыся, што з Беларусі, распытвалі пра жыццё ў нашых краях. Адчувалася добразычлівае стаўленне да нас.

Час праляцеў неўпрыкмет. Працоўныя будні - таксама. Вось мы зноў у вагоне цягніка, які адпраўляецца ў Мінск. З намі разам ехалі студэнты нейкай мінскай ВНУ з уборкі лаванды. Падзяляліся ўражаннямі, віншавалі праваднiц з Днём чыгуначніка.

А вось за акном з'яўляюцца першыя бярозкі. Значыць, хутка будзем дома, у Мінску, адкуль раз'едземся ў розныя бакі.

... З тых часоў прайшло больш за 50 гадоў. Не верыцца. Глядзіш на фатаграфіі, узіраешся ў такія знаёмыя твары і ўяўна вяртаешся ў тыя светлыя, радасныя, поўныя рамантыкі дні свайго жыцця.

Гэта ўсё было ў 60-я гады мінулага стагоддзя і ніколі не забудзецца.



# *Кастусь Нясвіжскі*

*Кастусь Нясвіжскі (Хвенька Канстанцін Канстанцінавіч) нарадзіўся 1 ліпеня 1948 года ў вёсцы Салтанаўшчына Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці ў сям'і сялян. У 1955 годзе пайшоў у першы клас Салтанавіцкай СШ.*

*У 1962 годзе ўступіў у члены ВЛКСМ, з 1963 года па 1966 год абіраўся сакратаром школьнай камсамольскай арганізацыі. Быў рабселькарам раённай газеты "Чырвоны сцяг", скончыў школу рабселькараў пры раённай газеце. У 1966 годзе скончыў 11 класаў Салтанаўскай СШ і паступіў у Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі, які скончыў у 1971 годзе па спецыяльнасці інжынер-механік.*

*Пасля заканчэння інстытута працаваў галоўным інжынерам калгаса імя Кірава Нясвіжскага раёна. Абіраўся сакратаром камсамольскай арганізацыі калгаса. У сакавіку 1973 года прыняты ў члены КПСС. У 1973 годзе перведзены на працу ў Нясвіжскі райкам ЛКСМБ і абраны другім сакратаром, а ў 1975 годзе - першым сакратаром райкама ЛКСМБ*

*З 1976 года - загадчык арганізацыйнага аддзела Нясвіжскага райкама КПБ.*

*З 1977 года - інструктар сельскагаспадарчага аддзела Мінскага абкама КПБ.*

*З верасня 1979 года - слухач Мінскай ВПШ. Скончыў у траўні 1981 года з адзнакай, палітолаг.*

*З траўня 1981 года па ліпень 1983 года - начальнік кіравання сельскай гаспадаркі - першы намеснік старшыні Нясвіжскага райвыканкама.*

*З ліпеня 1983 года па студзень 1985 года - намеснік загадчыка аддзела сельскай гаспадаркі, затым намеснік загадчыка аддзела сельскай гаспадаркі і харчовай прамысловасці Мін-*

*скага абкама КПБ.*

*Са студзеня 1985 года па ліпень 1991 гады абіраўся першым сакратаром Валожынскага райкама КПБ.*

*З ліпеня 1991 года па лістапад 1995 года абіраўся намеснікам старшыні Мінскага абласнога Савета народных дэпутатаў. З лістапада 1995 года па лістапад 1997 года - загадчык другога аддзела кіравання справамі Мінскага аблвыканкама.*

*У 1996 годзе скончыў Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, з адзнакай, менеджар-эканаміст.*

*З лістапада 1997 года па верасень 2000 года - начальнік кіравання арганізацыйна-кадравай працы Мінскага аблвыканкама. У верасні 2000 года абраны намеснікам старшыні аб'яднання арганізацый галіновых прафсаюзаў г. Мінска і Мінскай вобласці. З сакавіка 2002 года па ліпень 2010 года абіраўся старшынём Мінскага абласнога аб'яднання прафсаюзаў.*

*З ліпеня 2010 года - пенсіянер.*

*Вывучэнне, даследаванне па тэме Новага светапогляду пачаў у канцы сямідзесятых гадоў мінулага стагоддзя. Напрацаваны матэрыял даў падставу фармаваць Праект "Да Новага светапогляду" спачатку ў сямі кнігах, а з павелічэннем аб'ёму напрацаваных рукапісаў і развіццём ідэі вырас да 10 кніг.*

*Першая кніга "К Новому мировоззрению. Духовность", 78 стар., выдадзена ў 2008 годзе.*

*Другая - "К Новому мировоззрению. Свет истины", 247 стар., выдадзена ў 2009 годзе.*

*Трэцяя - "К Новому мировоззрению. Космическая необходимость", 328 стар., выдадзена ў 2009 годзе.*

*Чацвёртая - "К Новому мировоззрению. Тонкий мир", 140 стар., выдадзена ў 2010 годзе.*

*Электронная кніга - "Предисловие к Новому мировоззрению", 64 стар., выдадзена ў 2014 годзе;*

*Другое дапоўненае выданне першай кнігі "Майдан мировой и Новое мировоззрение. Духовность", 215 стар.;*

*Аповесць сацыяльнай фантастыкі "Чёрный тюльпан", 44 стар.;*

*Навэла "Крещенская охота", 27 стар.;*

*Даклад-артыкул "К майдану мировому или к Новому мировоззрению?", 26 стар.;*

*Даклад-артыкул "Новое мировоззрение и государство", 25 стар.*

*Выступленні-артыкулы "К Новому мировоззрению", 18 стар.*

*Письмо Философу, 9 стар.*

*Падрыхтаваны да выдання: 6 кніг Праекта, у суме 1800 стар.*

# КАРАЛЕЎСКАЕ ПАЛЯВАННЕ

Кастусю сябры не адзін раз нагадвалі, каб арганізаваў ім зімовае паляванне. Асаблівую стараннасць выяўляў Уладзімір. І ў яго былі свае казыры. Так хацелася яму прайсціся па марозным лесе, падыхаць чыстым лясным паветрам, убачыць звера жыўцом. А заадно наведаць замак Радзівілаў. Настойліва дамагаўся:

- Ды што табе каштуе арганізаваць нам хоць маленькае паляванне? - і, сціснуўшы пальцы, адмераў на ўказальным кавалачак на адзін сантыметр. - У цябе там на Нясвіжчыне Радзівіл такія паляванні наладжваў, што ўсе і сёння зайздросцяць.

Іван, усміхаючыся ўпотайкі, падтакваў:

- Ну што табе каштуе пацешыць Валодзю-мядзведзніка. Праўда, у яго няма ні стрэльбы, ні паляўнічага білета. Але мы яму дамо вялікую палку. Будзе мядзведзяў з бярлога выпорваць. Можам і рагаціну зрабіць.

Уладзімір крыўдліва пырснуў:

- Таксама мне паляўнічы масціты. Раз у год паглядзіць на хвост віхляваму зайцу. Цябе нават вушастыя не баяцца - усё адно не патрапіш.

Кастусь усміхнуўся іх сварцы, паглядзеў кудысьці ўдалячынь і задуменна прамовіў, як быццам нешта ўспомніў:

- Добра. Чаму быць - таго не абмінуць. Давайце будзем планаваць такое паляванне, як паказаў Уладзімір на пальцах, на другую палову студзеня. Тым часам устойлівая марозная зіма. Рыхтуйце цёплую вопратку, боты ці валёнкі, рукавіцы.

Прыязджайце з жонкамі да нас на вёску 17 студзеня да канца дня. Будзем чакаць.

Выцялі па руках. У сяброў радасна, як уначы агеньчыкі, загарэліся вочы. Уладзімір ад задавальнення, што свайго дамогся, разгойдваючыся на сваіх каржакаватых нагах весела паціраў рукі. Усміхаючыся, пхнуў Івана плячом і, як дзіця, закрычаў у бок Кастуся:

- Нарэшце вось мы гэтага нашчадка Радзівілаў раскалолі на паляванне!

На тым і вырашылі, паабяцаўшы загадзя стэлефанавацца.

А праз два месяцы, 17 студзеня пад канец дня да хаты Наваміравых

у вёсцы пад'ехала машына прадпрымальніка Шафігуліна - новенькі фольксваген, белы як пухнатая снежка. За рулём Уладзімір, побач яго жонка Валянціна. На задняй сядушцы аракул навукі Аляшкевіч Іван са сваёй Нэлай.

Машына асцярожна праціснулася праз адкрытыя вароты ў двор, заехала на загадзя расчышчаную пляцоўку пад спакойна спаўшай у белым покрыве снегу чарэшняй. Павольна адкрываюцца ўсе чатыры дзверцы, і стомлена, але ўсміхаючыся, размінаючы застылыя цяглiцы, як з куфра з’яўляюцца два ўдальцы-стральцы і дзве расчырванелыя ў цяпле машыны жанчыны-балаболкі. І амаль хорам запоўнілі вясковае марознае паветра радасным крыкам:

- А вось і мы! А вы нас чакалі?

- Чакалі! Чакалі! Просім у хату! - радасна вітала Марыя - гаспадыня хаты.

Ад ганка насустрач гасцям накіраваліся Кастусь з Марыяй і Ірынкай - іх дачушкай. Радасныя, вясёлыя. Асабліва Ірынка. Ад шчасця, што нарэшце вось прыехалі доўгачаканыя госці, новая сустрэча, яна весела, як зайчык, падскоквала, учапіўшыся ў руку мамы:

- Прыехалі! Нарэшце вось прыехалі! Ура!

Пачаліся абдымкі, пацалункі. Падарункі для Ірынкі. А яна прыціснуўшы іх абедзвюма ручкамі да грудзей, свяцілася як анёл, вочкі радасныя, вялікія, напоўнены шчаслівым святлом. Так можа свяціцца шчасцем толькі вельмі добры, добразычлівы чалавек. Гэта радасць жыцця, удзячнасць жыццю, нягледзячы на беды і засмучэнні.

Уся ўвага на шчасце дзяўчынкі. Гледзячы на яе ўсіх ахінула несуцішнае пачуццё радасці жыцця, жыцця для бліжняга, жыцця для чалавека і для самога жыцця.

Радасная сустрэча, вясёлая вячэра. Сон у прадчуванні цікавага паходу ў лес. Раніцай, добра выспаўшыся, сябры ўсмак паснедалі і ў прыпаднятым настроі пайшлі збірацца ў дарогу.

Жанчынам, як належыць жонкам паляўнічых, адвечная доля - захоўваць хатні агмень. Будуць рыхтаваць абед і чакаць мужоў з добрай здабычай.

Марыя прыгатавала два тэрмасы. З гарачай кавай і гарбатай. Усё-такі на дварэ мароз у 15 градусаў. Добра, што ветру няма. На небе хмаркі-адзіночкі. Ярка свеціць сонейка. Снег іскрыць маленькімі сонечнымі зайчыкамі, храбусціць, як свежы качан капусты на зубах.

Пакуль Іван з Уладзімірам даглядалі апошнія сны, Кастусь выгнаў з гаража свайго "жалезнага восліка" - дваццацігадовага, пазелянелага фольксвагена. Прагрэў, паклаў у багажнік стрэльбу-дубальтоўку

дваццаць другога калібру са стажам у сорак гадоў, два пачкі патронаў рознага начыння, патранташ, які бачыў шматлікія падзеі паляўнічага жыцця, паляўнічы нож, дзве вяровачкі. На ўсякі выпадак вялікі поліэтыленавы мяшок, два тэрмасы, турыстычную гарэлку-запальніцу ў выглядзе гранаты-лімонкі, куфайку і старую вайсковую папругу.

Вясёлыя і бадзёрыя выйшлі Уладзімір з Іванам, за імі жанчыны. Уладзімір, як вяльможа, у старым, але яшчэ прыстойным на выгляд кітайскім пухавіку. На шыі закручаны чырвоны пухнаты шалік. Андатравая шапка закрывае палову акуляраў. Цёплыя тэрмапорткі запраўлены ў скураныя чаравікі на футры. На руках ваўняныя чырвоныя рукавіцы, напэўна, ухапіў у сваёй Валюшы.

Іван падышоў да машыны. Уладзімір спыніўся на ганку, рукі ў бокі, так што сабой закрыў траіх жанчын, ганарліва паглядзеў, як з трона, вакол і гучна выдаў:

- Ну і што?!

Іван зрабіў здзіўлены твар, адскочыў ад машыны ў бок Уладзіміра з графскім рэверансам і з іроніяй блазна выпаліў:

- Князь! Дазвольце адправіцца на мядзведзяў!

Усе весела засмяяліся. На гучны смех на ганак выбегла Ірынка ў белай пуховай куртачцы, на хаду апранаючы белы капялюшык. Як сняжынка прыліпла да мамы, абняла яе за стан:

- Мама, а на якіх мядзведзяў? Куды? У нас у лесе няма мядзведзяў, я іх там не бачыла.

Марыя абняла дачушку, засмяялася:

- Дачушка, гэта дзядзька Іван пажартаваў. Яны паедуць падыхаць лясным паветрам, а можа і зайчаняткаў там убачаць, ці лася.

Уладзімір паглядзеў на Ірынку, весела ёй падміргнуў, зрабіў ганарлівы выгляд:

- Дазваляю. А дзе мая дубальтоўка?

Іван шустра пакруціўся, шукаючы што б яму даць. А Ірынка падскокваючы з хітрай усмешкай, учапіўшыся ў руку мамы, каб не паслізнуцца, настойліва махала другой рукой Івану, паказваючы яму на прыступкі ганка. Іх погляды сышліся на бярозавым веніку, які спакойна і ганарліва стаяў каля ганка. Іван радасна махнуў Ірынцы галавой. І ўжо сур'ёзна, уважліва паглядзеў на "цуд-дубальтоўку" і гнятліва заўважыў:

- М-так, гэты калібр для князя замалы. Мы табе, княжа наш, зброю здабудзем у лесе. Паедзем жа, князь мой, а то звяры хутка спаць пойдуць.

Пайшлі хуценька да машыны. Іван сваю стрэльбу і рэчы паклаў у багажнік, сеў на заднюю сядушку. Уладзімір - наперадзе з Кастусём і

закрыў Івану ўсю панараму агляду. Іван з гаркатой прашыпеў:

- Ну і мядзведзь, у машыне стала цёмна, як у бярлогу.

Раптам Валянціна штосьці ўспомніла, крыкнула:

- Пачакайце! - і пабегла хуцень ў хату. Выбягае з фотаапаратам, - Валодзя! Вазьмі для гісторыі.

Усе ўсміхнуліся, а Іван не змаўчаў:

- Сямейны здымак са зграяй ваўкоў.

Кастусь не вытрымаў:

- Ну, усё ўзялі? Можа, ужо паедзем?

І старэнькі "жалезны вослік" шустра рвануў да зімняга лесу і яго насельнікаў. Да лесу ехалі хвілін дзесяць па добрай, расчышчанай дарозе. Спакойна, з цікаўнасцю і непадробнай любасцю сузіралі заснежаныя вясковыя пабудовы, дрэвы, палі.

У лесе для "жалезнага восліка" дарогі няма. Гэта не трактар. Прыйшлося спыніцца на краі лесу. А далей пяшочкам таптаць лясны снег.

Выйшлі з машыны, удыхнулі поўнымі грудзьмі цудоўнае паветра хваёвага лесу. Агледзеліся. Іван яшчэ не паспеў апрануць сваю цёплую куртку, як загледзеўся на спакойна, велічна стаяўшыя хвоі пад іскрыстым снегам:

- Які цуд! А мы труцімся газамі ў сваіх гарадах. - Надзеў куртку, рукавіцы, закінуў за плячо стрэльбу-аднастволку.

Кастусь паглядзеў на яго, на яго цёплыя боты-буркі, усміхнуўся, кінуў погляд на свае:

- Напэўна, з аднаго склада?

- Ага, і з аднаго чорнага ходу, - выпаліў Іван.

Кастусь апрануў не спяшаючыся сваю лёгкую і цёплую куфайку, перацягнуў стан вайсковай папругай з пацямнелай зоркай. Патранташ кінуў назад ў багажнік. Узяў са скрынак па некалькі патронаў, паклаў іх у розныя кішэні, нож у чахле за пазуху куфайкі:

- Так надзейней.

Вярнуўся да багажніка, дастаў адну вяровачку і засунуў у кішэню портак. Паглядзеў на Івана:

- А ты паляўнічы білет узяў?

Той у адказ кіўнуў галавой.

Уладзімір увесь гэты час стаяў, расставіўшы ў бакі рукі, задраўшы галаву да верхавін хвой, і шырока адкрытым ротам хапаў гаючае іскрыстае паветра. Іван глядзеў на яго і, здаецца, усё яго цела трэслася ад жыццярадаснага смеху:

- Гэй, князь Шафігулінскі! Не лопні ад кіслароду! А то давядзецца

класці носам пад выкідную трубу "восліка". Ты хоць фотаапарат узяў? Інакш, ваўкі пакрыўдзяцца!

Уладзімір, не адрываючы погляду ад хвой, моўчкі папляскаў па сваёй кішэні, памацаў, пераканаўся:

- Тут ён, тут, мілы працаўнік на гісторыю.

Кастусь замкнуў машыну, паглядзеў на лес, выбіраючы кірунак руху:

- Хлопцы, пойдзем на тыя далёкія верхавіны дубоў. А ад дубоў павернем на старую княжую дарогу. - Паглядзеў на Уладзіміра, дастаў свой паляўнічы нож, усміхнуўся Івану:

- Пойдзем адразу па зброю для Уладзіміра.

Знайшлі дужую, роўную арэшыну, надрэзалі, зламалі, апрацавалі ад галінак. Іван прымерыў на Уладзіміру, зрабіў засечку на пядзю вышэй яго галавы. Адрэзаў і акуратна завастрыў верхні канец. Урачыста, як княжы кій, уручыў Уладзіміру са словамі пажадання:

- Ды спасцігне вас сёння поспех, мой князь.

Уладзімір паморшчыўся, прыняў аберуч, паднёс да носа, доўга прынюхваўся да свайго "кія", затым рэзка і ганарліва ўторкнуў яго ў снег:

- Наперад, халопы! - і паказаў кірунак руху.

Усе трое дружна пасмяяліся над гэтай сцэнкай і рушылі ў дарогу ў прадчуванні сустрэчы са зверам. Кастусь вёў іх не спяшаючыся, каб не адбіць жаданне і не загнаць да поту. Ішлі фронтам, у 60-80 метраў адзін ад аднаго. Уладзімір паводзіў сябе як буйны артыст. Яго ўсклікі, каментары раздаваліся ў лесе, як у тэатры - чуваць усюды. Атрымлівалася не паляванне, а загон звера.

Кастусь разумеў стан сяброў, не пярэчыў ім. Няхай адвядуць сваю гарадскую душу. У такой сітуацыі стрэльбу здымаць з пляча няма чаго.

Так неўпрыкмет праляцеў час, не спяшаючыся дайшлі да дубоў. Агледзеліся. Не змаўляючыся пайшлі да старога дуба-волата. Уладзімір адразу ж пайшоў яго абмяраць. Абхапіў рукамі:

- Ого! І колькі ж яму гадоў?! Іван, дапамажы яго абняць.

Іван ішоў да дуба-асілка павольна, разглядаючы разрыты дзікамі снег:

- Вось гэта сталоўка! Гэта рэстаран для вялікай чарады! - Падышоў да Уладзіміра, абняў дуб з другога боку. Іх рукі датыкаліся толькі пальцамі.

- Так. Гэта добры рэстаран многім пакаленням звяроў, - адклікнуўся Кастусь, разглядаючы магутны шацёр кроны дуба. -

Адпачываем пяць хвілін. Збярыцеся з сілушкай сваёй. А ты, Уладзімір, паспрабуй менш шумець, інакш сам звера не ўбачыш і нам разгоніш.

Уладзімір вінавата, топчучы адной нагой снег абапёршышыся на кій-палку, прамармытаў:

- Слухаюся. Зразумеў - не дурань.

З найвялікай павагай Уладзімір разглядаў крону дуба. Перавёў погляд на неба. Бяздоннае, блакітнае з застылымі рэдкімі белымі, пухнатымі з акругленымі краямі аблачынамі. Яно прыцягвала нейкім сусветным магнітам.

Пявуча па верхавінах дрэў прайшоўся лёгкі ветрык. Іскрыстымі хвалямі пасыпаўся ціха шапаткі і трошкі колкі сняжок.

У Уладзіміра ад захаплення і свята душы вырвалася з вуснаў, як малітва:

- Гэта вышэй маіх сіл! Гэты такі цуд, такое звышадчуванне! Да смерці не забудуся.

Кастусь з Іванам задаволеныя, што дагадзілі Уладзіміру, пераглянуліся. Іван, усміхаючыся, падышоў да яго, пацягнуў за рукаў:

- Святы Уладзімір! Апусціся на нашу грэшную зямельку. Пойдзем на мядзведзя, - і павёў па кірунку, указаным Кастусём.

А курс быў дадзены на старую княжую дарогу. Ізноў разышліся фронтам. Уладзімір ішоў ужо ціха, не крычаў, не шумеў. Ён сузіраў і цешыўся. Над ім дрэвы былі накрыты белай коўдрай пухнатага снегу. Яны застылі ад марозу, стаялі ў здранцвенні, як чаплі на рыбалцы.

Дзень выдаўся ясным, зацішным, марозным, крамяным. Адразу адчуваецца, што заўтра будзе свята - Тры Каралі.

На верхавіне стогадовай хвоі ад птушкі ці ўласнага цяжару з прагнутай галінкі саслізнуў снег, і пайшла лавіна з мяккім шолахам і зіготкімі іскрынкамі сняжынак. Хвоя, як мажная сялянская жанчына, скінуўшая з сябе белы кажушок, расправіла галінкі, уздыхнула вальней і нават стала прыгажэйшай.

Уладзімір спыніўся, замёр ад захаплення навакольнай прыродай. Стаяў паміж дзвюма елкамі па калена ў снезе, з палкай у левай руцэ, правай ссунуў футравую шапку з вачэй на патыліцу. Збоку ён выглядаў, як дзядок-лесавічок.

Шнырылі па галінках дрэў шустрыя сойкі. Дзесьці далёка гучна біў у барабан дзяцел. Прыляцелі дзве сарокі, селі на блізкай бярозе, наладзілі ў лесе траскатню, як жанчыны на кірмашы. Заўважылі стаяўшага з палкай "дзеда-лесавіка". Схілілі галовы, разглядаюць няпрошанага і незнаёмага ім госця сваімі цікаўнымі чорнымі ягадкамі вачэй. Прыселі, падрыгваючы хвастамі, прыгатаваўшышыся на ўсякі выпадак паляцець.

Наперадзе ад Уладзіміра ў лесе рэхам прагучаў трэск зламанага сучка. Сарокі сарваліся з гучнымі траскучымі крыкамі, нырнулі паміж дрэў.

Раздаўся яшчэ трэск і шоргат бліжняга сухога маладога ельніку. Уладзімір ад засяроджанай увагі і напругі аж скурчыўся. Яму здалося, што нават ростам стаў меншым і амаль незаўважным. Адкрыўшы рот і ўглядаючыся ва ўсе вочы, падаўшыся целам наперад, чакаў нечага невядомага, а можа, і страшнага. Яму нават не заміналі прыліплыя да шкла акуляраў крупінкі інею.

З-пад галін, якія апускаліся да зямлі, асцярожна высунулася велізарная з доўгім, як таран, лычом галава дзіка. Уладзімір замёр слупам, здаецца, урос у зямлю, як тоўсты пень спілаванай стогадовай елкі. Дзік яго мог і не заўважыць, бо паміж імі была старая елка, але пах яго адчуваў. Нервова хапаў вільготнымі ноздрамі паветра, наставіў вушы. Поўсць звісала цёмна-карычневымі доўгімі і цвёрдымі іголкамі. Здавалася, ён сваім слыхам, нюхам працінаў лес, як рэнтгенам. Ноздры рытмічна выпускалі дзве бруі пары, як цмок агонь. З рота звісалі некалькі сухіх травінак. У Уладзіміра мільганула, як спалохаўшыся, думка:

- Вось гэта свіння!

З боку, з правага боку данёсся рэзкі голас Івана:

- Гэй! Мядзвяжатнік!

Дзік, спалохаўшыся ненатуральнага ў лесе гуку, рэзка прысеў, цяглiцы напружыліся, як спружыны, што нават поўсць на карку ўздыбілася. Замёр у паставе старту. Яго не палохалі ўспуджаныя крыкам чалавека птушкі. Павярнуўшы галаву на чужы для лесу гук, гатовы быў ірвануць з месца фальшстартам. І тут Уладзімір убачыў з другога боку лыча яго велізарны, зжоўклы ад старасці ікол, як татарскі ржавы нож.

Скурчыўся, па спіне прабег халадок і затрымаўся ў знямелых нагах:

- Ды, гэта ж сякач!, - ледзь не прашаптаў, але словы застылі ў думках.

Сцэну разрадзіў, як стрэл, крык Івана:

- Адгукніся!

Дзік стралой кінуўся назад у ельнік. Па ходзе яго руху калыхаліся маладыя ялінкі, губляючы смугой снег. Як быццам у ельніку адбываецца землятрус. Хваля суцэльнага трэску і шоргату патанула паміж стогадовымі елкамі. Уладзімір уздыхнуў з нейкай радасцю і палёгкай. Паглядзеў на завостраны канец палкі і выдаў свой любімы выраз:

- А калі б ён нёс патроны? - выпраставўся, усміхаючыся ўсім тварам, і крыкнуў у бок Івана:

- Тут я! Жывы! Дзіка злавіў!

І пайшоў радасны, узбуджаны паглядзець на сляды сякача. Нагнуўшыся каля ельніка глядзеў сабе пад ногі, на снег, які ўздыбіўся ад развароту звера. Яго цела страсянула ад думкі: “А калі б сякач стаяў так блізка ад яго і абдаваў "жарам цмока"? - і адразу адчуў сябе пушынкай перад гарой цягліц. Працёр твар рукой, адагнаў страшную думку, паглядзеў пад ельнік і засмяяўся на ўвесь лес. Там са снегу ішла пара:

- Вось гэта фарсаж! Вось чаму ў яго была такая хуткасць! - і пайшоў шчаслівы на сустрэчу з новымі прыгодамі.

Праз паўгадзіны сустрэліся каля выгіну княжай дарогі. Яшчэ здалёк Уладзімір штосьці гаварыў ім, жэстыкуляваў сваёй палкай. Пачакалі, пакуль падыдзе. Іван, бачачы, што з ім нешта адбылося, нецярпліва спытаў:

- Ну, што здарылася? Апавядай!

- На мяне выйшаў старажытны сякач! А ты яго ўспудзіў сваімі крыкамі, - пакрыўджана адрэагаваў Уладзімір.

І пайшла адрывістая гаворка з усклікамі, жэстамі рукамі і целам. Такога ўзбуджанага і радаснага сябра яны не бачылі. Пераглядаючыся, падыгрываючы яму мімікай, воклічамі Кастусь з Іванам чакалі, калі ж ён спыніцца. Усё, замоўк. Іван уздыхнуў з палёгкай:

- Выдахся. А фота для гісторыі зрабіў?

- Не да гэтага было. Забыўся, што ёсць фотаапарат, - і памацаў кішэню курткі, дзе ляжыць "працаўнік на гісторыю".

Кастусь, усміхаючыся Уладзіміру:

- Вось і душу пацешыў, на нервачках пайграў. Будзе што ўспомніць. А без фатаграфіі твая Валюша не паверыць. Вось так.

Зараз пойдзем па княжай дарозе.

Бачачы, што Уладзімір ужо трохі стаміўся, але яшчэ пасля стрэсу бадзёрыцца, накіраваў яго ісці па гэтай гістарычнай дарозе. А сам з Іванам узялі правей.

Прайшлі метраў дзвесце, ужо сабраліся раздзяліцца па сваіх кірунках, як Іван "уторкнуўся носам" у вялікія з шырокім размашыстым крокам сляды. Падышоў Кастусь, абыякава паглядзеў:

- Гэта след ласіхі. А побач след ласяняці-сягалетка. Яны тут прабеглі рана раніцай. Сляды свежыя, снежны пушок з краёў іх адбіткаў яшчэ не апаў. Пайшлі карміцца на пшанічнае поле. Вецер здуў з грудкоў снег, азімая пшаніца заграла сваёй яркай зелянінай плямамі на белым покрыве поля. А для ласёў і дзікоў, казуль, зайцаў гэта ласунак.

Іван пакалупаў нагой след і толькі хацеў нешта сказаць, як наперадзе нехта гучна запляскаў, зашумеў. Метраў сорак ад іх нізка над

заснежанай зямлёй, манеўруючы паміж дрэвамі, пранесліся два цацярукі і ў прамежку паміж дзвюма бярозамі ўзняліся над лесам.

Іван глядзеў на іх разгублена і з нейкай крыўдай сам на сябе. Толькі хацеў сябе аблаяць, як Кастусь рэзка прыклаў палец да сваіх вуснаў і, павярнуўшыся да яго, прыслухоўваўся да лясных шоргатаў.

Шапнуў пaціху Івану:

- Іх нехта падняў з зямлі. Не варушыся.

І праз пару хвілін паміж дрэвамі мільганула, як язык полымя на белым снезе, агніста-рудая лісіца. Кастусь кіўком галавы паказаў Івану, куды глядзець. З-за дрэў лёгкім крокам выбегла лясная прыгажуня. Дабегла да рабіны і спынілася, як скамянелая, не паспеўшы паставіць на снег правую лапу. Яе здзівіла рассыпанае на снезе пад рабінай мноства ярка-чырвоных пацерак пладоў. Пачаставаліся птушачкі.

Іван асцярожна пацягнуўся левай рукой па стрэльбу. Кастусь паглядзеў на яго, усміхнуўся і адмоўна пакруціў галавой. Ліса заўважыла іх рухі, павярнула да іх галаву, прыпадняла прыгожы пухнаты хвост. З непрыхаванай цікавасцю людзі і звер глядзелі адзін на аднаго. Кастусь, усміхнуўшыся, не вытрымаў:

- Жыві, прыгажуня!, - і тая рванула ад іх, віляючы паміж дрэвамі гнуткім агністым целам, як быццам метэарыт з хвастом.

Паляўнічыя ўсміхнуліся адзін аднаму, паправілі на плячах стрэльбы і моўчкі пайшлі побач, кожны думаючы пра сваё. Іван пра прыгажуню-лісіцу і Кастуся, які не даў яму абарваць яе жыццё. Кастусь - пра паляванні князёў Радзівілаў.

З гісторыі і легенд ён ведаў, што традыцыйна штогод 18 студзеня князь Радзівіл арганізоўваў каралеўскае паляванне (бо на Тры Каралі). У гэты час у звера самае лепшае футра. Загадзя папярэджвалі падлоўчых, ляснічых. Тыя для масавай аблавы і загону звяроў набіралі каманду мужыкоў з вёсак. Галоўны ляснічы разам з кіраўніком палявання князя загадзя планавалі і арганізоўвалі ўвесь працэс.

На паляванне князь запрашаў знакамітых персон Еўропы, сваіх сяброў-суседзяў. На горцы ў лесе за два кіламетры ад вёскі Сейлавічы заўсёды папаўдні была стаянка-пікнік. Ніхто, акрамя самога князя, не ведаў, чаму абрана менавіта гэтае месца.

Абслугоўваць шляхетных паляўнічых выязджала княжая кухня. На выпадак непрыдатнага надвор'я стаялі тры драўляныя хаткі. Адна большая, утульная, з печкай і камінам, лежакамі, сталамі і крэсламі для князя і гасцей.

Пасле ўдалага палявання, а яно заўсёды было ўдалым, бо для яго

загадзя леснікі з дапамогай мужыкоў зганялі звера ў вызначаныя кварталы лесу, абавязкова вялікі пікнік. Пасля вясёлай гулянкі ўсе задаволеныя і ахмялелыя ехалі дахаты. Арганізатары і выканаўцы такога каралеўскага палявання ведалі, што князь за гэта іх шчодра аддзячыць.

Кавалькада выцягвалася на метраў дзвесце. Наперадзе на конях ехалі па княжай дарозе чатыры ахоўнікі. Затым усе астатнія. Завяршалі калону два вершнікі-ахоўнікі.

Уладзімір ішоў па старой княжай дарозе, маркотна і цяжка топчучы некрануты снег, абапіраючыся на дыхтоўную палку-кій. Справа ад дарогі, па лесе ішлі Кастусь з Іванам, пра нешта спакойна размаўлялі. Стрэльбы былі за плячамі.

Уладзімір часта спыняўся, цешыўся кожнаму следу звера, усклікаў і крычаў на ўвесь лес:

- А чый гэта след? Куды пайшоў? А можа ён стаіць за тым маладым ельнікам?

Пасля сустрэчы з секачом ён страціў пільнасць, забыў просьбу не шумець у лесе. Іван весела яму адказваў:

- Ды гэта ж свежыя сляды ваўкоў. Будзь асцярожны. І падрыхтуй фотаапарат для сямейнай з ваўкамі фатаграфіі.

Хоць ваўкоў у мясцовых лясах няма ўжо з сямідзесятых гадоў мінулага стагоддзя. Ёсць ласі, казулі, дзікі, лісы, зайцы, часам алені, барсукі і яноты.

Кастусь усміхнуўся:

- Ды не палохай ты яго. Хай пацешыцца слядам звера. Сам звер на нас ужо не выйдзе. Ён сёння напалоханы, учуе здалёку, сыдзе ад граху падалей. Вось прагуляемся па лесе, падыхаем чыстым гаючым паветрам, пацешымся жыццю, як Уладзімір.

- А колькі нам яшчэ шпацыраваць? - маркотна і стомлена адклікаўся Іван. - Мы ўжо далёка адышлі ад нашай машыны.

Кастусь рэзка спыніўся, з папрокам паглядзеў на Івана:

- Ты ж хацеў каралеўскае паляванне выпрабаваць на сабе. Вось ідзі і цешся. Мы з табой ідзём побач з княжай дарогай. А Уладзімір - па гэтай дарозе. Па ёй князь вяртаўся з гасцямі і слугамі дахаты ў замак. Праўда, яны ўсе былі на конях, а мы пешшу. А марозік быў заўсёды аднолькавы, пад дваццаць градусаў.

Уладзіміра ўжо распірала ад задавальнення, пачуцці пераліваліся цераз край. І ён тужліва і гучна завёў песню "Як я на пошце служыў фурманом...". Іван са здзіўленнем паглядзеў у яго бок:

- Глядзі, каржакаваты ўжо і песню спявае. А што мы з табой

ідзём убаку ад гэтай княжай дарогі? Пайшлі да яго, усё адно звяроў няма. Ён іх ужо разагнаў сваімі песнямі.

Кастусь паглядзеў на мабільнік:

- Ужо тры гадзіны папаўдні. Нам трэба ісці ўбаку ад дарогі, хоць бы за пяцьдзесят метраў.

- Нешта ты, Сусанін, хітрыш, - з'яхіднічаў Іван, - куды ты нас вядзеш?

Кастусь заклапочана паглядзеў на неба па ўсіх чатырох баках. З захаду, г.зн., з таго боку, куды яны ішлі, неяк пацямнела.

Уладзімір гэта таксама заўважыў:

- Гэй, паляўнічыя! Здаецца, завея надыходзіць! Штосьці ў лесе цямнее! Можа, павернем назад. Пара дахаты!

Іван паглядзеў наперад, затым на неба. Яно чыстае, яркае, няма аблокаў. А наперадзе па лесе наступае суцэльны туман. У ім патанаюць дрэвы. Усе спыніліся ў здзіўленні.

Кастусь ведаў, што гэта можа быць, чытаў пра такія з'явы. Але сам сутыкнуўся з ёй упершыню. Яму расказваў мясцовы ляснік, што чуў ад старэйшага, навучанага досведам і жыццём, ляснічага, як часам людзі, што знаходзіліся ў гэтым лесе, чулі, а некаторыя нават бачылі за дзень да Трох Каралёў вяртанне князя Радзівіла са сваёй світай з палявання з багатай здабычай. Гэта іх пудзіла, уцякалі, як маглі. Стараліся нікому не казаць - падумаюць, што звар’яцелі.

Хваля туману схавала Уладзіміра. Ад разгубленасці ён стаяў на месцы і крычаў:

- Людзі, аў-у! Што гэта такое?! Кастусь! Іван! Дзе вы?! Адгукніцеся!

Апошнія яго словы ўжо паглынуў туман. Кастусь паспеў яму толькі крыкнуць:

- Стой на месцы! Нікуды не сыходзь!

Няма ніякага ветру, нічога не зварухнецца, у лесе стаіць нейкая магільная цішыня, а туман з зелянаватым адценнем, як быццам хвоі і елкі падфарбавалі яго сваёй прысутнасцю, як сцяна, ідзе па лесе на іх.

Івана ахапіў страх. Стала жудасна і Кастусю. Ён у адрозненне ад сваіх сяброў разумеў, што можа быць для іх і дрэнны зыход. Паспеў толькі сказаць Івану:

- Абнімі дрэва і трымайся за яго. - І сам ухапіўся за найбліжэйшую елку.

Туман ціха і хутка іх паглынуў. На адлегласці працягнутай рукі нічога не відаць. Як быццам ты не ў тумане, а ў нейкай смарагдава-

мутнаватай густой матэрыі.

Праз хвіліну хваля туману сышла за іх спінамі далей у лес. Наперадзе ўбачылі прыгожы, спелы зімовы лес, чысты, як у парку. Велічна, роўна праглядаецца тая самая княжая дарога, але ўжо аб'езджаная санкамі. Угары кроны стройных высокіх дрэў сплятаюцца, утвараючы над дарогай прыгожы шацёр. Адчуванне, што знаходзішся ў велізарным зялёным храме з высокімі скляпеннямі. Дрэвы па баках дарогі растуць, як пад лінейку, праз 4-5 метраў. Паласа дарожная шырынёй каля дзесяці метраў.

Яркае сонечнае надвор'е, нават чуваць карканне варон. На дарозе стаіць Уладзімір. Здзіўлена разглядае сляды санак і кованых конскіх капытоў, на якіх стаіць. Бо ён ішоў па засыпанай снегам і недагледжанай дарозе. А тут такое?! Пачаў у спалоху шукаць сяброў, круціць галавой ва ўсе бакі. Ён і не заўважыў іх, ашаломленых убачаным і стаяўшых прыкладна за пяцьдзесят метраў ад яго ў абдымку з дрэвамі.

Па дарозе за паваротам чутны гучныя вясёлыя мужчынскія галасы, рэдкае ржанне коней, храбусценне снегу ад мноства конскіх капытоў. Уладзімір азірнуўся на гэты паварот. Яму насустрач рыссю ішла калона вершнікаў. Наперадзе імчаліся два вершнікі з бізунамі напагатове. За імі праз метраў 70-80 яшчэ два вершнікі, яшчэ праз метраў дзесяць калона пышна прыбраных мужчын на дыхтоўных конях з упрыгожанай вупражжу. Ехалі па два ў калоне. Наперадзе ў прыгожых, дарагіх паўкажушках, у лісіных шапках і хвастом над вухам два спадары.

Уладзімір стаяў, паглынуты відовішчам і нічога не разумеючы, пасярод дарогі. У правай руцэ трымаў палку вострым угару, левай папраўляў акуляры. І тут да яго данёсся крык скакаўшых паперадзе ахоўнікаў:

- Прэч, халоп! На каляно! Князь едзе!

- Не паспеў толкам сцяміць, што ад яго хочуць, як адзін вершнік параўняўся з ім і з размаху ўрэзаў яму праз плячо па спіне бізуном. І паехаў далей. Хутчэй ад нечаканасці павароту падзей, чым ад удару па спіне Уладзімір ірвануўся ў бок. Звалілася з галавы шапка, кінуўся яе паднімаць - упаў на калені. А тут ужо параўняўся вершнік з другой двойкі аховы з крыкам:

- Прэч! Князь едзе!, - І замахнуўся на яго бізуном.

Каб яшчэ раз не атрымаць падарунак ад князя, як спалоханы кот, Уладзімір на карачках ірвануў да бліжняга дрэва.

Усё гэта з жахам назіралі, абняўшы дрэвы, Кастусь з Іванам. Уладзімір сядзеў на снезе, абапёршыся спіной на хвою. Перад сябрамі ва ўсёй велічы праплывала каралеўскае паляванне князя Радзівіла.

Наперадзе сам князь са сваім ганаровым госцем. За імі госці і сябры. Злева і справа ад іх беглі паляўнічыя сабакі розных парод. Следам ехалі запрэжкі санак. Першая з мядзведзем, затым дзве з ласямі, дзве запрэжкі з дзікамі навалам, тры запрэжкі з пушным зверам навалам. Завяршалі калону запасная карэта для вяльможаў і запрэжка з абсталяванымі санямі для корму коням.

Нягледзячы на крыўду і разгубленасць, у галаве Уладзіміра прагучалі здзеклівыя словы Івана: "А ты сфатаграфаваў для гісторыі?!"

Уладзімір дрыготкай рукой дастаў з кішэні курткі фотаапарат, строс з яго снег. Толькі навёў на аддаляўшуюся калону, як з-за дрэва выскачыў нечакана сабака, падобны на вялікую лайку. За метры ад яго стаў у паставу хуткага кідка, выскаліў белыя іклы і замёр. Уладзімір, не зварухнуўшыся, з паднятай рукой і фотаапаратам, гатовы ад крыўды зайсціся рыданнем, паспеў толькі ўяўна ўмольна яму сказаць:

- Я - не м-м-мядзведзь.

Калону ганарліва завяршалі два вершнікі-ахоўнікі. Адзін з іх падскакаў да Уладзіміра, рэзка спыніў каня, так што той уздыбіўся над ім, абсыпаўшы снегам з-пад пярэдніх капытоў. Дрыжучы перад сабакам, так і не зразумеў, як над ім апынуўся конь. Ірвануў рукі ўгару, сціснуў кулакі і тым часам пстрыкнуў фотаапарат. Уладзімір са страху рвануў з-пад капытоў і так урэзаўся спіной і патыліцай у дрэва, што шапка з'ехала і затрымалася разам з акулярамі на кончыку носа. Машынальна, абапіраючыся на локаць левай рукі, правай з фотаапаратам адным узмахам вярнуў на месца акуляры і шапку. Вершнік, усміхаючыся памахаў яму бізуном, ад чаго небарака ледзь не палез пад снег, адагнаў сабаку і паскакаў за сваімі.

Каралеўскае паляванне ў вясёлым гомане, радасным абмеркаванні поспехаў і няўдач, не заўважаючы прадстаўнікоў з будучыні, схавалася ў лесе. Кастусь з палёгкай уздыхнуў, што слугі не забралі з сабой Уладзіміра. Але ў тое ж імгненне жах яго ахапіў пры думцы:

- А калі раздумаюцца і вернуцца. Бо па адзежы і вонкава ён не падобны на мясцовых жыхароў. Для іх гэты чалавек, як нейкі лазутчык, ды яшчэ стаяў з вялікай завостранай палкай, як з пікай, на шляху князя.

І не раздумваючы кінуўся да Уладзіміра, правальваючыся ў цяжкі снег. Той напаўседзячы абапіраўся спіной на хвою, на нагах ляжаў фотаапарат, рукі ў рукавіцах прыціснуты да грудзей, вочы пад акулярамі часта лыпаюць. Кастусь хутка запіхнуў фотаапарат яму ў кішэню, схапіў цела ў бярэмя і што было сілы павалок па снезе ў бок Івана. Задыхаўшыся, зацягнуў за куст алешыны, прыхінуў да бярозы. Ледзь дыхаючы, шапнуў нічога не разумеўшаму сябру:

- Ляжы, не варушыся. І ні гуку.

Не зразумела, адкуль ізноў пайшла хваля туману. Кастусь пачуў блізкі тупат капытоў коней. Рвануў за бліжнюю елку, абхапіў яе, як апошнюю надзею, каб не апынуцца ў лесе на два стагоддзі назад.

Скрозь надыходзячы туман убачыў, як рыссю імчаліся назад два вершнікі. Пакруціліся каля хвоі, дзе сядзеў Уладзімір, паглядзелі на сляды ад дарогі ў лес, на аблепленую пухам хвою, гучна засмяяліся, выцялі нагайкамі па конях і наўскач пайшлі даганяць сваіх.

Туман паглынуў Уладзіміра сядзеўшым пад бярозай, Кастуся і Івана абняўшымі елкі. Вакол была нейкая магільная цішыня. Праз хвіліну ён растварыўся. Кастусь пакінуў сваё дрэва, хацеў атрэсці з сябе пласцінкі прыліплай кары і замёр у паставе літары Э. З ног да грудзей яго адзежа была ў пуху. Са здзіўленнем падумаў, што з ім штосьці ўжо адбываецца. Адкуль на ім у лесе апынуўся пух? Трохі атрос і ў роздуме падышоў да Івана.

Той, учапіўшыся аберуч у пальчатках у елку, як медзведзяня, здаецца, выпусціў кіпцюры. Сабраўся залезці на вялікае дрэва, але баіцца адтуль зваліцца. Круглымі ад убачанага вачамі глядзіць на княжую дарогу, на сядзеўшага пад бярозай Уладзіміра.

Кастусь патузаў яго за рукаў, стукнуў лёгенька па плячы - ніякай рэакцыі. Дзеля жарту схапіў рукой за нагу і загыркаў. І пашкадаваў пра гэта. Іван са страху, што яго ўжо рве княжы сабака, ускочыў рыўком на галіну елкі, што за два метры ад зямлі. А па дарозе на галіну, не аглядаючыся, так брыкнуў крыўдніка нагой у грудзі, што Кастусь пляснуўся спіной на снег. Адтуль глядзеў уніз на ляжаўшага сябра, як заяц перад расстрэлам.

Кастусь падхапіўся і прывёў небараку ў пачуццё вокрыкам, потым дапамог злезці з дрэва, падняў са снегу стрэльбу, закінуў яму за плячо. Той, знясілены і ачумелы ад таго, што адбываецца, ціха і ўмольна спытаў:

- А што гэта было?

- Ты сухі? - усміхнуўшыся ў адказ спытаў Кастусь і даў выразную каманду, якую нельга не выканаць:

- Пайшлі да Уладзіміра!

Уладзімір сядзеў на снезе, выцягнуўшы ногі, абапёршыся спіной на бярозу. Дрыготкімі рукамі шапкай выціраў акуляры. Вочы глядзелі кудысьці ўслед каралеўскаму паляванню, якое пайшло ў гісторыю .

Падышлі да яго са спіны, але пабаяліся, каб не было бяды, абыйшлі паўколам і апынуліся перад сядзеўшым, разгубленым чалавекам, які страціў арыентацыю ў часе. Пакуль Іван разважаў, як загаварыць,

Кастусь са здзіўленнем глядзеў на палку, з якой ішоў Уладзімір. Яна тырчала з некранутага снегу лязом вонкі пасярод дарогі. Гэта за пяць метраў ад сядзеўшага пад хвояй. І ніякіх слядоў паміж імі на снезе, як быццам ён пераляцеў да выратавальнай хвоі па паветры.

Узяўшы Івана за рукаў павёў паказваць гэты фокус. Той не ў меншым здзіўленні толькі глядзеў вялікімі вачамі. Уся старая княжая дарога ляжала перад імі некранутым пластом снегу. Толькі іх сляды з боку дому, г.зн., стаяўшай на краі лесу машыны. Ды сляды ад хвоі да бярозы за кустом алешыны. Іван машынальна рукой працёр вочы, лоб, патрос галавой. Паглядзеў уздоўж дарогі, затым на Кастуся:

- І ты гэта бачыў?

Кастусь пацвердзіў кіўком галавы. Іван паглядзеў на чыстае неба, на чыстую дарогу - хутка перажагнаўся.

Моўчкі дапамаглі Уладзіміру ўстаць. Ён стаяў, глядзеў на сяброў, як быццам бачыць іх у першы раз. Хоча нешта сказаць, але толькі ўздрыгвае. І тут Кастусь зразумеў, адкуль на ім птушынае пух-пер'е. Удар бізуна разарваў куртку Уладзіміра, выпусціў пух. Паглядзеў на хвою ў пуху, на Уладзіміра - у таго куртка, рукавіцы, шалік, шапка і твар у пуху. І тут зразумеў, ад чаго так весела смяяліся вершнікі. І лес напоўніўся гучным смехам Кастуся. Іван аж пабялеў, вялікімі вачамі са здзіўленнем і ўнутраным страхам глядзеў на яго, затым ціха спытаў:

- Т-ты, ты чаго?

Кастусь паказаў на хвою, на Уладзіміра. Тут дайшло і да Івана, смяяліся абодва. Гэты смех даў разрадку іх нервовай напрузе. А Уладзімір стаяў, глядзеў на іхні смех з абыякавасцю, з зацятым маўчаннем. Івана гэта спалохала:

- Глядзі. Ён стаў глуха-нямым. - Падышоў, страсянуў за плечы, што нават пух з яго пасыпаўся.

- Пайшлі да машыны, - ціха сказаў Кастусь, - сам ачухаецца. Гэта моцны стрэс.

І моўчкі адзін за адным, у глыбокім роздуме пацягнуліся да машыны. Прайшлі метраў дзвесце і зразумелі, што крокаў Уладзіміра не чуваць. Азірнуліся. Стаіць і глядзіць назад, туды, дзе было штосьці звышнатуральнае.

Вярнуліся, падышлі насцярожаныя. Уладзімір паглядзеў на іх ва ўпор, зняў акуляры, працёр пальцамі, адзеў і неяк нервова спытаў:

- А што гэта было? Ці ў мяне дах спаўзае?

Іван крыва ўсміхнуўшыся:

- Глядзі. Загаварыў. О-о, жыць будзе доўга. Больш, чым яго дзед - за дзевяноста гадоў.

І ўжо сур'ёзна адказаў:

- Каралеўскае паляванне! А ты яшчэ не зразумеў?!

Узяў сябра пад руку, другой рукой паправіў у сябе на плячы стрэльбу, і са словамі:

- Пайшлі, Віні-пух, - павёў па яго ж слядах на старой княжай дарозе да машыны.

Кастусь моўчкі ішоў следам у роздуме: “А можа, не варта было іх сюды прыводзіць?”

Раздаўся званок мабільнага тэлефона. Кастусь паглядзеў - іх ужо шукае Марыя. Уключыў і спакойна адказаў:

- У нас усе жывыя, але патрапаныя. Выходзім з лесу. Накрывайце стол. Усім есці хочацца, як ваўкам у Піліпаўку.

Ехалі дахаты моўчкі. Саграваліся гарачай гарбатай, кавай. Кожны па-свойму асэнсоўваў звышнатуральную з'яву. Заехалі ў двор. Сустракаць выйшлі расчырванелыя каля пліты жанчыны. Так і засталіся стаяць на ганку ў застылай паставе. Валянціна жахнулася, убачыўшы Уладзіміра як не свайго, ды яшчэ ў пуху. Нэла з вялікімі вачамі, адкрытым ротам, убачыўшы Івана з незразумелай усмешкай, толькі спытала:

- На вас хтосьці напаў?

Іван, ухмыльнуўшыся, неяк няўпэўнена адказаў, паказваючы вачамі на Уладзіміра:

- Мядзведзь. Вялікі мядзведзь.

Ад гэтых слоў Ірынка скурчыўшыся заціснулася паміж жанчынамі, глядзела то на паляўнічых, то на машыну. Яе палахлівыя вочкі бегалі па баках, шукалі таго "вялікага мядзведзя".

Марыя, так нічога не зразумеўшы, накіравалася да машыны. Толькі ўзялася за вечка багажніка, як Ірынка спалохана закрычала:

- Мама! Не трэба! Не чапай!

Валянціна абняла Ірынку:

- Не бойся. Там няма нікога. Ніхто маму не кране.

Марыя павольна адкрыла багажнік, асцярожна заглядваючы пад вечка, як быццам там ляжыць вялікі мядзведзь. Спакойна выпрасталася, развярнулася, і ў наступальнай жаночай паставе спытала ў свайго паляўнічага:

- Што ў вас там здарылася?

Кастусь, як быццам нічога не адбылося, пачаў выгружаць рэчы з машыны, заносіць у хату. Весела спытаў жанчын:

- А есці нам сёння пададуць?! Ужо хутка вечар, за сталом пагаворым.

Усе моўчкі, з пытаннямі без адказаў, прайшлі ў хату, дзе іх чакаў

смачны, гарачы абед з пяці страў, які абяцаў плаўна перайсці ў вячэру. Жанчыны пастараліся. На сярэдзіне стала ганарліва, як Крамлёўская вежа, стаяла бутэлька гарэлкі “Паляўнічая”.

Цяпло, смачныя пахі, выгляд накрытага стала ажывілі паляўнічых. Распрануліся, памыліся. Уладзімір паціху спытаў у Кастуся:

- А дзе тут у вас туалет?

Гаспадар спакойна паказаў, куды ісці, а Іван не змог прапусціць момант гумару. Услед Уладзіміру развёў рукі, паківаў галавой, пацінуў плячамі, маўляў: "Чаго не бывае".

Кастусь зразумеў яго, усміхнуўся:

- Не чапай. Пакрыўдзіцца. Не дабівай.

За сталом расслабіліся. Баяцца больш няма чаго. У Уладзіміра рукі перасталі трэсціся, чарку трымае спакойна, ніводная кропля гарэлкі не пралілася. Толькі Кастусь на правах гаспадара адкрыў рот сказаць тост, як Іван выдаў:

- Ну, за паляванне!

І застолле падарваў дружны смех паляўнічых. Жанчыны заўсміхаліся пытальна, не ведаючы, чаму смяяцца. Не сталі спяшацца з роспытамі. Хай адыдуць, павесялеюць. Самі ўсё распавядуць.

З марозу, стомленыя, ды з гарэлачкай, сытнай і смачнай закускаю сябры расслабіліся, расчырванелі. Уладзімір разблытаў на шыі чырвоны шалік, канцы яго апусціў на жывот і задаволены шыкоўным абедам гладзіў сябе па шаліку. Іван, з усмешкай гледзячы на Уладзіміра, расшпіліў верхні гузік сваёй чырвона-памяранцавай кашулі ў буйную клетку. Назіраўшая за іх рухамі Нэла залілася вясёлым смехам:

- Ну, паляўнічыя! Ды вы, як два чырвоныя пеўні з чырвонымі насамі і грудзьмі.

Усе звярнулі ўвагу на "пеўняў". Кастусь у іх абарону запярэчыў:

- Не. Гэта два старыя цецярукі сабраліся на ток, пакрасавацца перад дамамі.

Валянціна не вытрымала:

- Які ток? На каго глядзець? У майго цецярука ў лесе ўжо і пух зліняў!

Усе дружна і раскована засмяяліся.

За другой бутэлькай пайшлі разборкі. Абураўся больш за ўсіх той, каму больш і дасталося. Уладзімір так і не зразумеў, за што яго выцяў вершнік, хацеў дадаць другі. Пакрыўджаны да слёз не за рваную куртку, а за тое, што паднялі на яго руку. Разгарачыўся:

- Стаяў. Не чапаў. Не пагражаў і нічога не казаў. А ён з усёй сілы мне цераз плячо. Канец яго бізуна дастаў да азадка.

- Ну, ніякай гуманнасці. Дзікуны, - уставіў рэпліку Іван з сур'ёзным выглядам. - Яны не чыталі кніг Кастуся.

- Ды, не так балюча, як крыўдна. - Уладзімір аж закруціўся на крэсле, як быццам наступствы таго бізуна замінаюць яму сядзець. Ва ўпор, нагнуўшыся над сталом, паглядзеў на Кастуся:

- Ты навошта іх нацкаваў на мяне? А самі схаваліся за дрэвамі!

Усе маўчалі. Жанчыны здранцвелі ад такой завязкі размовы. Нічога не разумеючы, перавялі свае позіркі, як яркія фары, у вочы Кастуся. Абпалілі сваім нямым пытаннем. Ён спакойна ўсміхнуўся. Гэта плюхнула бензінам у агмень полымя Марыі. Ужо ў гневе падвысіла голас:

- Дык скажы, што там у вас здарылася?!

Навісла цішыня, як той туман у лесе. Уладзімір, трохі супакоіўшыся:

- Кастусь. А што гэта было? У мяне ўжо дах паехаў ад усякіх думак. Нічога не разумею. Давай філосаф, каліся!

Ціха ў гутарку ўступіў Іван:

- Хлопцы. Я так думаю, што гэта штосьці звышнатуральнае, нам незразумелае і намі не спазнанае. Мы рэальна сутыкнуліся з паляваннем князя Радзівіла, якое праходзіла можа два, а можа і тры стагоддзі назад. Але як і чаму? Як гэта можа такое адбывацца? Кастусь, ты чалавек мудры, са шматлікімі спазнаннямі ісцін. І нездарма кнігі пішаш высокага парадку. Растлумач нам, халопам-невукам, што гэта было. Бо гэта над цудам цуд, а мы - яго відавочнікі і ўдзельнікі. Прадстаўнікі дваццаць першага стагоддзя фізічна сустрэліся з прадстаўнікамі, напэўна, васямнаццатага ці сямнаццатага стагоддзя. А на чыёй тэрыторыі? Гэта мы да іх спусціліся? Ці яны да нас падняліся? А можа і праўда, што мінулае і сапраўднае суіснуюць адначасова?

Такая інфармацыя ўвагнала жанчын у ступар. Анямелі і толькі вялікімі, разгубленымі вачамі бязлітасна пілавалі паляўнічых. Нэла схапіла недапітую бутэльку гарэлкі і рэзка паставіла каля Марыі:

- Марыя, прыбірай, а то ўсе тут кранёмся розумам.

Не разумеючы, дзе праўда, а дзе розыгрыш, Валянціна засмяялася, як пасля "смачнага" анекдота. Тут усе паглядзелі на яе так, як быццам яна ўжо кранулася розумам. Адчуўшы сэнс поглядаў, спакойна адставіла ад сябе чарку, зразумела, што трэба выбірацца з такой сітуацыі з дапамогай пытання разумнага сэнсу:

- Хлопцы. Дык гэта вы нас разыгрываеце?

Кастусь з жалем паглядзеў на жанчын:

- Не. Гэта было. Было на нашых вачах, з нашым удзелам, у нашым

рэальным свеце.

Паглядзеў на Івана, які калупаў бессэнсоўна відэльцам на талерцы галубец, пхнуў яго локцем:

- Раскажы, усё як было, можа табе паверацъ.

Іван адкашляўся ў кулак і спакойна, падрабязна, як па абароне доктарскай дысертацыі, усё выказаў паважанай кампаніі. Слухалі моўчкі, не перабіваючы. Калі апавяданне тычылася Уладзіміра, ён не мог сядзець спакойна. Перажытае ім адлюстроўвалася на яго выразе твару і рухах цела. Але не перабіваў, трываў.

Жанчыны лавілі кожнае слова не толькі вушамі, але і адкрытымі ратамі, вялікімі вачамі. Здавалася, што яны баяліся міргнуць, не тое каб паварушыцца. Іван далажыў без каментароў і завяршыў:

- Хочаце верце, хочаце не. Але я і сам паверыць не магу, як такое можа быць.

Уладзімір аж падскочыў на сваім крэсле ад уласнай думкі:

- А можа кіно здымалі? А Кастусь нас туды падставіў? А-а?

Іван паглядзеў на яго як на дзіця:

- А коні, санкі, людзі, кінааператары з апаратурай, якіх мы чамусьці не бачылі, санкі са звярамі ляцелі па паветры? А сабакі, шмат сабак, лёталі вакол іх таксама па паветры? Як мухі! Калі мы сыходзілі, то на княжай дарозе не было ніякіх слядоў.

Тут Уладзімір, як падарваўся:

- Калі да мяне падляцеў гэты бандыт, то на мяне дыхаў яго конь сваёй пысай. Я нюхаў яго гарачы пот. Конь левай пярэдняй нагой наступіў мне на правую нагу - яшчэ баліць. Атрымаў бізуна на ўсю спіну, аж да азадка - куртку распароў, як шабляй. Гэта ж відавочныя фізічныя дзеянні. І раптам - нічога, паляцелі, слядоў не пакінулі!

Іван усміхнуўшыся:

- Як не пакінулі? А на табе?

Уладзімір пачаў круціцца на крэсле:

- Як хочаце, але я матэрыяліст. Упарты матэрыяліст! Не веру ва ўсякія ідэалістычныя штучкі. Але і гэта не магу растлумачыць. У мяне ўжо дах едзе.

Валянціна спалохана звярнулася да яго:

- Ты супакойся, а то і праўда дах кранецца.

Тут нечакана з суседняга пакоя ўбегла Ірынка. Пужліва і разгублена падбегла да Марыі, абняла ззаду за шыю:

- Мама, а чаго вы тут так крычыце, лаецеся? Мне нават страшна стала. Я не магу зразумець, пра што вы гаворыце так гучна.

Валянціна, якая сядзела побач з Марыяй, усміхнулася Ірынцы,

пагладзіла яе па плячы:

- Ірачка, гэта нам нашы паляўнічыя казкі расказваюць. І мы таксама не можам зразумець.

Іван, усміхаючыся Ірынцы, пасунуў да сябе стаяўшае ўбаку крэсла:

- Ірынка, ідзі прысядзь побач са мной, будзем есці ды казкі слухаць.

Ірынка міла заўсміхалася, прыціснулася да Марыі. Заматала адмоўна галавой:

- Я потым.

Марыя, пагладжваючы ручкі дачкі, абвіўшыя яе шыю, усміхаючыся:

- Ды яна, пакуль вас дачакалася з лесу, ужо некалькі разоў ела.

Бачачы, што сітуацыя за сталом супакоілася, Ірынка шапнула маме:

- Я пайду маляваць і слухаць "Іванушкі". - І весела, здаволеная вынікамі свайго міратворчага візіту, пабегла ў свой пакой.

Кастусь раптам насцярожыўся, штосьці ўспомніў. Уставіўся на Уладзіміра:

- Я, калі да цябе падбег, каб адцягнуць ад дарогі ў лес, то на тваіх нагах ляжаў фотаапарат. Я яго ў спешцы сунуў табе ў кішэню курткі. Ты штосьці фатаграфаваў?

Уладзімір задумаўся:

- Так. Хацеў. Але сабака, а потым конь зверху зруйнавалі мае планы.

Івана гісторыя з фотаапаратам вельмі зацікавіла:

- Дзе фотаапарат? Нясі сюды!

Уладзімір, як няхочучы, устаў з-за стала, падышоў да вешалкі, дастаў з кішэні курткі фотаапарат, здзьмуў з яго пух. Пакруціў у руках, правяраючы, ці не пашкоджаны.

Усе напружыліся да мяжы, а што, калі там... Іван ужо нерваваўся:

- Ды што ты там капаешся! Выведзі на экран апошні здымак.

Уладзімір, стоячы каля стала, націснуў кнопку. На экране з'явіўся кадр. І ад убачанага ў яго акуляры папаўзлі на лоб, рот адкрыўся, а гукаў не выдае.

Усе сцішыліся, замерлі. Наяву карціна "Не чакалі кадра". Іван не вытрымаў. Нахіліўся над сталом, вырваў фотаапарат з яго рук, глядзіць, злёгку ўхмыльнуўся:

- Ды яна табе ўсміхаецца!

- Хто яна?! - раўніва ўскрыкнула Валянціна,- дай сюды, - і тузанула

фотаапарат з рук Івана.

Іван весела, з гумарам:

- Ды, яна. Кабыла княжая.

Марыя з Нэлай здзіўлена пераглянуліся і ўставіліся поглядамі ў Валянціну. Тая доўга разглядала здымак і ціха вымавіла:

- Ды, тут нейкі конь, - і аддала фотаапарат Кастусю.

На каляровым здымку выразна відаць, як конь уздыбіўся над фатографам, з капытоў на яго валяцца камякі снегу. Вершнік замахнуўся бізуном. Апрануты ў кароткі казачы паўкажушок са стаячым каўнерыкам. Шапка-кубанка круглая з аўчыны. Твар мужчыны гадоў трыццаці з акуратнымі, нават прыгожымі вусамі і барадой. На грудзях каня рамяні змацаваны металічным ромбам, на якім выбіты герб князя.

Кастусь для ўсіх пракаментаваў "здымак для гісторыі", перадаў глядзець па коле:

- Вось, Уладзімір, і доказ. Гэта сапраўды здымак для гісторыі і для навукі. Так што, дзякуй Валянціне. Своечасова табе ўручыла гэты фотаапарат.

Уладзімір неяк нерашуча, але з вялікай цікаўнасцю спытаў у Кастуся:

- А навошта ты мяне адцягваў ад дарогі ў лес? Яны ж усе з’ехалі і паспелі паздзекавацца над мной.

Кастусь не спяшаўся з адказам, разважаючы, як адказаць, каб зразумелі:

- Калі б не схаваў у лесе, то яны павезлі б цябе з сабой у замак. Два вершнікі потым вярталіся па цябе, але не знайшлі. І паскакалі даганяць сваіх. У лепшым выпадку ты дажываў бы свой век слугой князя ў сямнаццатым ці васямнаццатым стагоддзі. А можа быць і забілі б, ці скармілі ў замку мядзведзям як лазутчыка-шпіёна. І сёння ў нас цябе не было б. І ўсе прызналі б, што ты прапаў без вестак.

За сталом цішыня. Чуваць, як шыпяць бурбалкі ў адкаркованай бутэльцы напою. Іван з дрыготкай страпянуўся целам, як быццам атрос з сябе той лясны туман:

- М-так. Неяк сумна. Пайшоў на мядзведзяў у дваццаць першым стагоддзі, а мядзведзі яго з'елі ў сямнаццатым.

Уладзімір ужо спакойна падаўся ўсім целам да Івана, уставіўся яму ў вочы:

- Ну, скажы, ты верыш? Ты можаш гэтую з'яву цуду нам, рабам навукова-тэхнічнага прагрэсу, неяк растлумачыць? Не, не можаш! Тады Кастусь, як ты гэта разумееш? Ці, можа, ведаеш? Давай, філосаф, разграбі гэтую праблему.

Усе прыцішэлі. Уся надзея на Кастуся. Ён адсунуў ад сябе талерку, паклаў на яе відэлец і звярнуўся і да тых, якія спрачаліся, і да тых, хто маўчаў:

- Чаму вы не чытаеце маіх кніг? Там ёсць усе тлумачэнні такім з'явам. Гэта звычайная праява хронаміражу. Яны не так часта бываюць, але ўсё-такі ёсць. Навукоўцы ўжо прызналі існаванне хронаміражоў, але пакуль мала вывучылі іх прыроду і ўмовы праяўлення ў нашым фізічным свеце. Каб убачыць, адчуць хронаміраж неабходны адпаведныя прыродныя, кліматычныя, геафізічныя ўмовы, здольныя змяніць плынь часу, эмацыйныя перагрузкі.

Уладзімір у глыбокай задуменнасці:

- Я чуў і дзесьці чытаў, што бывалі нейкія міражы, нават іх фатаграфавалі. Але каб так відавочна і фізічна рэальна? Не магу ўрубіцца. І як можна змяніць час, ці, як ты сказаў, змяніць плынь часу?

Кастусь уздыхнуў і ціха адказаў:

- Пра час я даволі падрабязна распісаў у адной з маіх кніг праекту "Да новага светапогляду". Калі б у вас было жаданне і цярпенне, то прачыталі б, і не задавалі такіх пытанняў. Час - гэта адна з асноўных характарыстык прасторы. І адзінага часу ў Светабудове не існуе. Мноства светаў - гэта мноства часоў. Час для чалавека - гэта працэс, гэта значыць, працягласць працэсу.

Іван неяк ненатуральна заварушыўся:

- Ды я ад твайго тлумачэння чую, як мае мазгі варушацца. Ужо працверазеў ад гэтых высокіх матэрый. Сяджу, як шкельца. Уладзімір, налівай. А ты, Кастусь, нам неяк удзяўбі, як гэта ўсё можа атрымацца.

- Справа ў тым, - працягнуў Кастусь, - што хронаміраж - гэта праява ў часе анамалій эмоцый - трагічных і радасных. Часцей фіксуюцца наступствы трагічныя. Але бываюць анамаліі ад радасных, святочных эмоцый, калі яны сканцэнтраваны вялікай колькасцю аб'яднаных моцных эмоцый. І гэта моцная псіхічная энергія захоўваецца ў прасторы-часе.

- А чаму гэта энергія знайшла мяне на княжай дарозе, а не ў Мінску? - успыхнуў Уладзімір, пачухваючы месца, дзе прайшоўся па ім бізун. - А ты ведаў, што гэта здарыцца менавіта з намі і толькі ў гэты час?

- Ведаць ніхто не можа. А што такая з'ява часам здаралася на гэтай дарозе, я ведаў з легенд, усякіх міфаў, якія ў народзе перадаюцца рэдка і шэптам. Нам вельмі пашанцавала прысутнічаць і быць удзельнікамі. Але больш пашанцавала, што не аказаліся прадстаўнікамі з будучыні ў іхнім сучасным, а для нас - мінулым.

- Ну закруціў!, - Іван нават лоб пачаў церці. - Ты нас гэтымі штучкамі часу прыціснуў, як Уладзіміра да той бярозы. А чаму гэта здарылася менавіта на гэтай дарозе і ў гэтым лесе?

- Па-першае, нам яшчэ цяжка і пакуль немагчыма ўявіць, што мінулае, сапраўднае і будучае існуюць адначасова. А па-другое, фіксацыя з'явы адбываецца на ўзроўні мікрасвету, мікрачасцін. Дзеянне адбываецца, і мікрачасціны прывязаны нейкімі сіламі, энергіямі да гэтага месца, гэтай тэрыторыі. І такая з'ява ніяк не магла знайсці Уладзіміра ў Мінску. А пры адпаведных фізічных, геафізічных, псіхічных умовах мікрасветы, узаемадзейнічаючы паміж сабой, адраджаюць карціну мінулай, ці нават будучай падзеі. Гэтая частка інфармацыі, якая захоўвалася ў інфармацыйным полі Зямлі, пры адпаведных умовах на зямлі, у лесе, на вадзе матэрыялізуецца. Часам знаходзіць даволі цвёрдую форму матэрыялізацыі, аж да бізуна па спіне Уладзіміра.

Жанчыны моўчкі слухалі, імкнуліся хоць штосьці зразумець. Нэла падняла рукі:

- Ды я ўжо пачуваюся на нейкім навуковым сімпозіюме.

Тут не вытрымала і Валянціна:

- Ведаеце, дзяўчаты! Мне здаецца, што на фоне нашых мужчын мы такія тупыя, а яны за нашымі спінамі далёка зайшлі ў спазнаннях. Нам і сказаць няма чаго. Фантасты, прызямляйцеся.

Уладзімір нечакана і рэзка ў бок Валянціны зрабіў рукамі грузінскі жэст:

- Жэншчына! Слухай! Нэ мэшай, мужчына гаварыт. Гэта... сэр’ёзны рэч!

Усе весела засмяяліся ад жарту Уладзіміра. Кастусь узяў яго за руку і, гледзячы ў вочы, з іроніяй спытаў:

- Вось ты бліжэй за ўсіх нас да народа. У цябе ў вёсцы свая вытворчасць. А ці спрабаваў ты з парасяці настрыгчы поўсці?

Уладзімір зрабіў здзіўлены твар:

- Не, не спрабаваў. А куды ты хіліш?

- А ты паспрабуй. Па-першае, поўсці не здабудзеш. А па-другое, віску будзе на ўсю вёску. Адгэтуль мараль - ніколі не спрачайся з жанчынай. І Валянціна мае рацыю. Пакуль яны займаліся кухняй, сямейнымі справамі, сабой, бясконцымі серыяламі кіно, мы за іх спіной часам дазвалялі сабе шукаць ісціну, здабываць веды. І бяда ў тым, што асноўная маса людзей спыняецца на ўзроўні развіцця па навучальнай праграме дзяржавы. А некаторыя ідуць далей самастойна, шукаюць ісціны, па макулінках здабываюць новыя веды. І тады тое, што з'яўляецца цудам, ці немагчымым для асноўнай масы народа, для гэтых некаторых

- звычайная шараговая з'ява.

За сталом запанавала цішыня. Марыя, каб неяк зняць гэтую напругу, гледзячы на Кастуся:

- Кожнаму сваё. У кожнага свой лёс, як ты гаворыш - карма. Вось прывяла ж ваша карма траім сустрэцца з гэтым каралеўскім паляваннем. Наша вёска амаль побач з княскімі месцамі. І нашы бабулі, прабабулі апавядалі нам малагодкам, як яны хадзілі на заробкі да князя ў Вінклераўшчыну, у яго гадавальнікі, сад для адпачынку - княскую альтанку, якую там стваралі прыгажосць. Прайшло шмат гадоў. Усё разбурана. Засталіся толькі рэдкія ўспаміны.

Уладзімір раптам схамянуўся:

- А слухай, Кастусь! Ты нам каля таго вялікага дуба-ветэрана неяк намякнуў, што толькі князь Радзівіл ведаў, чаму іх пікнік заўсёды праходзіў у адным і тым жа месцы. Гэта, напэўна, у той жа Вінклераўшчыне. Вось з гэтага месца распавядзі нам больш падрабязна. Гэта ж старажытная для нас гісторыя. І нават цікава.

- Вельмі старажытная па нашых мерках. Пачынаецца з 16-га стагоддзя. Радзівілы ўладкоўвалі не толькі свой замак, але і лясную дачу, паляўнічыя добры. Гэта было вельмі прэстыжна. Вось такім месцам для іх і была Вінклераўшчына.

Бабуля па лініі бацькі мне распавядала, што яе прадзед служыў у князя нейкім вялікім начальнікам па конях і стайнях. Часам прыязджаў да сваіх бацькоў у вёску на прыгожых конях і брычках. Аднойчы падарыў ім ладнага, моцнага працоўнага каня з вупражжу. Гэта быў гонар на ўсю акругу.

Па захаваным у гісторыі сведчанні сучаснікаў князя Дамініка Радзівіла, у яго стайнях было 300 коней.

Дык вось, на схіле гадоў гэты прадзед пад сакрэтам распавёў сваім родным пра гэтую Вінклераўшчыну. Яго блізкі сябар з рабочым возам быў датычны да ўладкавання лесвічоўкі і падземнага віннага склада-склепа ў Вінклераўшчыне. І пра некаторыя факты і падзеі яго сябар шаптаўся з прадзедам пры чарцы.

Аднойчы ранняй вясной князь даў каманду агарадзіць шчыльным плотам тэрыторыю ў лесе вакол старой лесвічоўкі. З двух бакоў плота навязаць вартавых сабак. Прызначыў двух вартаўнікоў-ахоўнікаў. Сіламі сялян уручную быў выкапаны велізарны катлаван пад будучы склеп-склад для віна. Зямлю, а яна галоўным чынам пясчаная, вывозіў яго сябар на возе з ямы і разраўноўваў на тэрыторыі ўнутры плота. Гэта месца ў лесе было на ўзвышшы, і вада пабудовам не пагражала. Затым прывезлі аднекуль чатырох мужыкоў-майстроў. Яны будавалі

гэтае падземнае збудаванне, а ён падвозіў ім будаўнічыя матэрыялы, ваду. Унутр плота яго ўжо не прапускалі. Каля варот бралі каня з возам, ехалі ўнутр, а затым вярталі. Жылі будаўнікі ў старой леснічоўцы, прадукты атрымлівалі два разы ў тыдзень, рыхтавалі самі. А тым часам у блізкіх лясніцтвах рубілі зрубы для Вінклераўшчыны.

Да сярэдзіны лета падземныя скляпы і фундаменты для новых пабудоў леснічоўкі, склада над склепам, гаспадарчых пабудоў і дома для вяльможаў былі гатовыя. Зямля вакол выраўнена. Завезены гатовыя зрубы ў разабраным выглядзе. Да восені ўсе пабудовы былі гатовыя. Завозілася мэбля, вінныя запасы.

Аднойчы ўначы яму было загадана адвезці віно з замка ў Вінклераўшчыну. Цяжка нагружаны і накрыты палатном воз ахоўваў нейкі эканом і два воіны-ахоўнікі. І тут яго сябар зразумеў, што віном гэта справа не пахне. Цяжкія, добра зробленыя скрыні-куфры заносілі ў склеп тыя ж чатыры мужыкі-майстры. А яму, як вазаку, далі каня аднаго з ваяроў і загадалі скакаць у замак на кухню, каб прыгатавалі добры стол. Будуць разлічваць майстроў.

Але потым яго сябар дазнаўся, што ніхто больш той ноччу на кухню не заязджаў. Праз некалькі дзён мясцовымі сялянамі плот быў прыбраны, тэрыторыя добраўпарадкавана і засаджана.

Цёмнай восеньскай ноччу прыйшоў дахаты да прадзеда яго сябар развітацца. Князь накіроўвае яго з возам і аховай у Вільню. Ён адчуваў, што гэта яго апошняя паездка. Усё, што ведаў, распавёў прадзеду. І больш пра яго ніхто не чуў і нічога не ведаў.

Валянціна, уважліва ўслухоўваючыся, не магла не спытаць:

- Дык там была ў лесе вёска? І чаму яна называлася Вінклераўшчына? Там і цяпер нехта жыве?

- Цяпер там ніхто не жыве, засталіся толькі руіны былых фундаментаў. Вёскі там не было. На краі, ці на рагу лесу было некалькі хутароў на скрыжаванні дарог паміж буйнейшымі вёскамі і дарогай на Нясвіж.

А назва пайшла, хутчэй за ўсё, ад старажытнага габрэйскага прозвішча Вінклер*. Слова "вінклер" азначае, што гэта чалавек - уладальнік крамы на рагу паселішча, на рагу лесу. А, магчыма, і склада на рагу. Была там і княжая леснічоўка, побач з якой праходзіла ў лесе княжая дарога. У народнай памяці яна засталася як “Дзесяцікіламятровая

---

* Доктар гістарычных навук Анатоль Грыцкевіч зафіксаваў эканома з прозвішчам Вінклер у слуцкіх уладаннях Радзівілаў. Таму паходжанне тапоніма “Вінклераўшчына” ад прозвішча Вінклер найбольш верагоднае. - *Рэд.*

княжая лінія” *. Вось сёння мы і ішлі па адным з участкаў гэтай лясной дарогі.

І пачаў лес называцца Вінклераўскім. Гэта старадаўнія паляўнічыя добры Радзівілаў. Да яго прылягалі Мікалаеўскія, Акінчыцкія і Коласаўскія лясы. У Вінклераўскім лесе і пры леснічоўцы ў гадавальніках, школках дагадоўваліся саджанцы з Еўропы, гадаваліся свае, а таксама вялікая колькасць гатункаў пладовых дрэў, кустоў, кветак. Даглядаць іх сезонна наймалі з вёсак маладых дзяўчат і дзяўчынак-падлеткаў.

Каля леснічоўкі квітнеў раскошны сад з кветнікамі, пасекай, альтанкамі. Цешылі вока і душу дубова-ліcцвенная алея, алеі каштанаў і экзатычных дрэў. Гэта была добра ўладкаваная лясная дача Радзівілаў. Народ зваў яе "Лясной казкай".

І тут з пытаннем падступіла Марыя:

- Усе мясцовыя жыхары часта гэтае месца завуць Альтанкай, а чаму?

- Таму, што ў гэтым дзіўным садзе знаходзіўся летні будынак для адпачынку - княжая альтанка. Альтанка - гэта паркавае ці садовае збудаванне лёгкай ажурнай канструкцыі, абсаджанае ліянамі, вінаградам, для адпачынку і абароны ад сонца ці дажджу. Пачатак іх стварэння ідзе ад паркаў эпохі барока.

Уладзімір у задуменнасці скрывіў кіслую грымасу:

- Во жылі, крывасмокі! І ўсё за кошт народа свайго. Гэта колькі ж трэба было для адной сям'і князёў? А якія выдаткі толькі на іх паляванне! Дарэчы, а што з тымі куфрамі? Іх хто-небудзь знайшоў?

Кастусь усміхнуўся:

- Дагэтуль шукаюць. А можа, хто і знайшоў ды маўчыць. Гісторыя і легенды кажуць, што пра цяжкія куфры ў Вінклераўскіх склепах ведалі толькі два застаўшыеся ў жывых чалавекі - князь і яго набліжаны эканом. Іншых сведак не стала. Вось чаму князь адводзіў душу на пікніках над сваім таемным багаццем, а заадно і пераконваўся ў яго захаванасці.

А што да князёў і народа - дык у кожнай эпохі свае норавы і грахі, свая сістэма ўлады і арганізацыі жыцця народа. Усё залежыць ад узроўню індывідуальнай і калектыўнай свядомасці.

Ты кажаш пра выдаткі на паляванне. Дык тое, што мы бачылі - дзясятая частка каралеўскага палявання князёў Радзівілаў. На арганізацыю такога палявання падключалася да тысячы чалавек. Адных ганчакоў бралі больш за двесце. У народзе тады хадзіла прыказка: "Пакуль зайца здабудуць - вала з'ядуць".

* Яшчэ ў Сейлавічавх мае назву “Вялікая дарога”. - *Рэд.*

Аж да 18 стагоддзя звяроў для палявання не толькі вырошчвалі ў Альбе, у запаведніку пад Нясвіжам, але і лавілі ў навакольных лясах, і нават прыганялі з Налібоцкай пушчы, палескіх лясоў. Да 16 стагоддзя ў Нясвіжскіх лясах жылі дзікія зубры.

Абавязковым атрыбутам у князя для гасцей было паляванне на фазанаў.

- Якіх фазанаў? - Іван недаверліва паглядзеў на Кастуся, на Марыю. - Гэта ж не беларуская птушка.

Дык вось, вяртаючыся з палявання, князь з гасцямі заязджаў у Фальваркоўцы, што пад Нясвіжам, дзе была "бажантарня" * - вялікі гадавальнік для фазанаў. Князь і яго госці з жарсцю адстрэльвалі экзатычных птушак на будучую шыкоўную вячэру.

Уладзімір задумаўся, узяў Івана за локаць, звярнуўся да Кастуся:

- Ведаеш, Кастусь! Я думаю, што Іван мяне падтрымае. Ты сёння даў нам такі ўрок, што ніякі ўніверсітэт гэтага не зробіць. У нас доўга яшчэ мазгі будуць кіпець ад гэтага каралеўскага палявання. Я больш за ўсіх атрымаў уражанняў і нават крыўд, але вельмі рады, што такое здарылася. Гэта пачынае пераварочваць мой светапогляд.

Я ўжо пачынаю асэнсоўваць, як жа адначасова могуць існаваць мінулае радзівілаўскай эпохі, наша сучаснасць асвойвання касмічнай прасторы і твая ідэя Новага светапогляду будучыні. А, можа быць, ты - не такі просты хлопец? Можа, кантактуеш з будучыняй, з высокаразвітымі светамі?

Кастусь абняў сяброў, з вясёлай усмешкай звярнуўся да Марыі:

- Давайце будзем піць гарбату і адпачываць. Наперадзе ў нас шмат тэм і спрэчак, спазнанняў ісціны. Думаю, што Уладзімір у сне яшчэ ўбачыць каралеўскае паляванне. А заўтра мы едзем на экскурсію ў замак Радзівілаў.

Побач з нашай сучаснасцю - мінулае Радзівілаў, іх эпохі і будучыня чалавецтва. Яго трэба навучыцца бачыць.

*Снежань, 2016 год.*

---

* Ад гэтай княжацкй бажантарні застаўся тапонім “Бажантарня”. Так называюцца сейлавіцкія каталіцкія могілкі. Трэба думаць, што радзівілаўская бажантарня займала абшар ад Фальваркоўцаў ажно да гэтай сейлавіцкай “Бажантарні”. Цяпер тут чыстае поле, цераз яго ідзе дарога, па якой Якуб Колас хадзіў з Нясвіжа ў Мікалаеўшчыну. - *Рэд.*



# *Уладзімір Бруй*

*Уладзімір Дзмітрыевіч Бруй, нарадзіўся 8 жніўня 1948 года ў гарадскім пасёлку Гарадзея Нясвіжскага раёна.*

*У 1971 годзе закончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моваў, атрымаў дыплом перакладчыка англійскай і французскай моваў.*

*Жанаты, мае дзвюх дарослых дачок і траіх унучак.*

*З 1972 па 2002 гг. настаўнічаў у школах Нясвіжскага раёна.*

*З 2003 г. пэўны час працаваў перакладчыкам у Сірыйскай Арабскай рэспубліцы і заходнеафрыканскай рэспубліцы Гвінея (Канакры).*

*Першыя апавяданні (некаторыя пад псеўданімам Ігнась Адамскі) друкаваліся ў перыядычных выданнях, у прыватнасці, у газетах "Нясвіжскія навіны", "Настаўніцкая газета", у хрысціянскім часопісе "Благодать".*

*Некаторыя творы пад агульнай назвай "Лазневыя замалёўкі" гучалі на Беларускім радыё.*

*З 2011 года У. Дз. Бруй з'яўляецца кіраўніком Мінскай абласной філіі хрысціянскага літаратурнага аб'яднання "Благодать".*

*У 2015 г. у ААТ "Брэсцкая друкарня" выйшла кніга аповедаў-успамінаў "Нябесны банк".*

*У 2016 г. там жа надрукаваны зборнік апавяданняў і аповесцей "Трэцяя Бярэзіна".*

*У 2016 г. стаў сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў па рэкамендацыі В. Аксак і Ул. Арлова.*

# ПАЦЕРКІ ЛЁСУ
## АПОВЕСЦЬ

*Светлай памяцi Паўла Яўстаф'евiча Цiтова.*

*Чалавек, якi сапраўды высакародны,*
*не нараджаецца з вялiкай душой.*
*Ён сам сябе робiць такiм вельмi*
*добрымi сваiмi справамi.*
*Франчэска Пятрарка.*

"Адзiная сапраўдная раскоша - гэта раскоша чалавечых зносiн". Шырокавядомы выраз Антуана дэ Сент-Экзюперы, чалавека, якi ў адным вымярэннi вольна лётаў дзякуючы крылам свайго баявога самалёта, а ў другiм - дзякуючы крылам сваёй фантазii, служыць напамiнам не аб надзвычайнай каштоўнасцi чалавечых зносiн наогул, а найбольш аб сяброўскiх, шчырых, не прытручаных нiякай хцiвасцю стасунках памiж цiкавымi i дарагiмi адзiн аднаму людзьмi.

Хтосьцi пацiсне плячыма ды скажа: магчыма, так яно i ёсць; iншы скажа, што гэта - поўная лухта ды забавы гультаёў, якiм не трэба клапацiцца пра кавалак надзённага хлеба. Я ж сказаў бы, што ўзгаданыя словы - найлепшы ўступ да гiсторыi майго сяброўства з Пятром Астапавiчам Бальшаковым.

Пазнаёмiлiся мы на настаўнiцкай канферэнцыi, прысвечанай увядзенню новага прадмета - этыкi. Дагэтуль я ўжо шмат чуў пра яго як чалавека высокаадукаванага, прынцыповага, аўтарытэтнага настаўнiка мовы i лiтаратуры, не вельмi ўхвалёнага начальствам, затое моцна паважанага большасцю вучняў ды iх бацькоў.

Пётр Астапавіч быў на восем гадоў старэйшы за мяне, выглядаў вельмі салідным дзякуючы густым рыжаватым вусам, у якіх хавалася ўсмешка (гумар гэты чалавек любіў і цаніў у самых розных праявах), нетаропкім рухам, халоднаму, стрыманаму і нязменна сур'ёзнаму позірку шэрых вачэй. У якой бы новай кампаніі ён ні з'яўляўся, прысутныя напачатку насцярожваліся, прыглядаліся, прыслухоўваліся, але хутка пачыналі смяяцца з яго жартаў, шукаць парады па розных жыццёвых пытаннях.

У застоллях Бальшакоў удзельнічаў толькі ў цесным гуртку, які акрамя яго складаўся з пяцідзесяцігадовага ваенрука, яшчэ больш пажылога матэматыка, удзельніка Айчыннай вайны, і таго-сяго з іншых калег. Такая падзея адбывалася пасля зарплаты, на чый-небудзь дзень нараджэння або з нагоды якога іншага свята. Вельмі пацешным выглядаў чын пачатку застолля. Калі ўжо была парэзана закуска, пастаўлены шклянкі, якія дагэтуль хаваліся ў шафе з процігазамі, ваенрук браў у рукі бутэльку, зрываў ці адкручваў накрыўку і прамаўляў рытуальнае:

- Паслухайце, а можа сёння не варта, можа не будзем і пачынаць? Давайце перанясём на іншы раз?

І тут жа - таксама рытуальна, хоць ён гэтага і не заўважаў - стары матэматык з нязменным раздражненнем прамаўляў:

- Ну,канчай свае дурныя жарты, давай ужо налівай - і падсоўваў бліжэй шклянку. Ваенрук жа, пад бульканне гарэлкі, абавязкова выдаваў апошнюю ўступную тыраду:

- Э-э-эх, і слаўна ж пляшачку на траіх раздушыць, а яшчэ лепш дзве... А тры на дваіх - дык гэта ўжо проста супер...

Аднойчы за чаркаю ваенрук прагаварыўся, што сын узяў у горадзе пляц, але наконт праекта, хоць сын і заканчвае ў Мінску архітэктурны факультэт, акрамя бясконцых спрэчак, пакуль нічога добрага не атрымліваецца.

Наступным днём Пётр Астапавіч падышоў да ваенрука і падаў яму лісток з вучнёўскага сшытка. Гэта быў план будучага дома. У ім былі ўлічаны не толькі неабходныя пакоі, кухня, ванная, кладоўкі, калідоры ды падвалы, але і тое, што, магчыма, у будучыні дом спатрэбіцца падзяліць на дзве паловы для сына і дачкі, пабудаваць летнія пакоі на гарышчы ды шмат чаго яшчэ. Праект Бальшакова прайшоў "экспертызу" сына архітэктара, і хутка пачалося будаўніцтва. А калі адбыліся ўхошчыны, шмат хто з гасцей пытаўся ў бацькі - бо ўсе ведалі, што будаўніцтва вялося на яго сродкі ды пад яго пільным наглядам, - хто распрацаваў такі праект.

- Астапавіч, - сказаў ён аднойчы,- ты, спадзяюся, не пакрыўдзішся, але ж я ўсім кажу, што праект зрабіў мой сын.

- Ды што там крыўдзіцца, - адказаў Бальшакоў, - чаго вартыя тыя дзве гадзінкі, што я патраціў перад сном з алоўкам ды гумкаю ў руцэ. А хлопцу сапраўды трэба заваёўваць аўтарытэт. Так што, усё нармальна.

* * *

Свой уласны дом Бальшакоў, пэўна, выношваў у галаве значна больш. Ды і пабудаваў яго сваімі рукамі. Дапамагаў толькі старэйшы брат Павел, які працаваў зваршчыкам і быў таксама здатны да ўсялякай працы.

Здольнасці да працы з дрэвам ды металам, уменне класці цэглу, тынкаваць, рэзаць шкло не зваліліся на настаўніка-гуманітарыя з неба. Усяму гэтаму Пётр пачаў вучыцца з шаснаццаці гадоў, калі, пераступіўшы праз слёзы маці ды маўклівае незадавальненне бацькі, ён пакінуў школу і падаўся "па рамантыку" ў Данбас. У той час ледзь не кожны дзень па радыё гучала папулярная песня "Вышел в степь донецкую парень молодой". Таксама бесперапынна заліваўся ўсходнім салаўём і Рашыд Бейбутаў са сваімі водамі арыка, якія "бегут, как живые, переливаясь, звеня и журча". Сёння хочацца ўзгадаць, што працавітыя туркмены з узбекамі спраўляліся з меліярацыяй пустыні, не прыносячы сваёй зямлі такой непапраўнай шкоды, як беларусы свайму Палессю.

Быў Пётр дастаткова рослы і дужы на свае гады, і яго адразу дапусцілі да працы пад зямлёй.

У нашых гутарках ён успамінаў шмат розных эпізодаў, як вясёлых, так і не надта. Самай складанай справай для яго стала напачатку не сама праца ў глыбізнай шахце, а мыццё ў лазні па заканчэнні змены. Першыя дні ён клаўся спаць у чыстую пасцель, а раніцаю прачынаўся, уставаў і бачыў пад сабою брудныя прасціны. Спачатку ён саромеўся, а потым сказаў пра гэта брыгадзіру Аляксандру Георгіевічу. Той быў вельмі талковы чалавек, былы ваенны лётчык, да таго ж і ставіўся да Пятра па-бацькоўску. Ён растлумачыў хлопцу, якія часткі цела пэцкаюцца сама горш, ды паказаў, як трэба правільна мыцца.

Хлопец і надалей прыслухоўваўся да Аляксандра Георгіевіча і не аднойчы пазбег бяды і нават гібелі, дзякуючы яго мудрым настаўленням. Адной з самых каштоўных стала парада як мага хутчэй выбрацца з інтэрната, наняць асобны пакойчык, пайсці ў вячэрнюю школу ды думаць пра далейшую адукацыю. Юнак ужо пачаў атрымліваць добрыя грошы, але ўсе яны разляталіся, як пыл з выбітага мяха: то збіраліся на чарговую п'янку, то нехта пазычаў, а потым забываўся вярнуць, зда-

раліся і крадзяжы.

Пятру пашанцавала знайсці асобнае жытло. Па сутнасці, гэта быў не пакой у доме, а абкладзеная цэглаю веранда, але што важна - з асобным уваходам. У халады яна ацяплялася буржуйкаю з выведзеным ў акно комінам-трубою з чорнай бляхі. За дзень памяшканне моцна астывала. Не распранаючыся адразу альбо накінуўшы цёплы ватнік, калі трэба было прынесці на распалку дроў, якія былі вялікай праблемай, ды вугалю, якога хапала ўдосталь, - усё ж такі справа была на Данбасе - Пётр пачынаў распальваць печ.

Праз паўгадзіны станавілася цёпла, нібы ў лазні, і можна было ляжаць на ложку і займацца ўлюбёнай справай - чытаць кнігі. Пётр браў іх у бібліятэцы. Аднымі з першых ён "праглынуў" раманы Джэка Лондана. За амерыканцам вышыхтаваліся ў чаргу французы: Дзюма, Жуль Верн, Мапасан, Заля, Бальзак…

Аднойчы, праўда, буржуйка, а справядлівей сказаць, неабачлівасць Пятра ледзь не прывяла да трагедыі. Ён надта многа наваліў у печ дроў ды вугалю, стараючыся надаўжэй забяспечыць сябе цяплом. Дзверцы не хацелі зачыняцца, таму хлопец з усёй сілы надушыў на яе каленам і толькі часткова насунуў зашчапку. Калі хлопец пачаў драмаць, жалеза нагрэлася, зашчапка саскочыла, і гарачае вуголле высыпалася на падлогу. Пётр прачнуўся і праз густы дым, які проста выядаў вочы, убачыў, што агонь ужо распоўзся змейкаю па падлозе.

Чым тушыць? Спачатку ён хацеў накінуць зверху коўдру, але стала яе шкада. Хутка нацягнуўшы порткі, хлопец выскачыў на вуліцу з голым торсам і пачаў фанернай лапатай кідаць у пакой снег, якога ў тую зіму намяло столькі, што ён ледзь не даставаў да падаконнікаў. Справіўшыся з агнём, юнак адчуў, што яму вельмі холадна, і толькі тады пабег апранацца. Праз гадзіну памяшканне больш-менш праветрылася, і можна было ацаніць памеры прычыненай шкоды. Напачатку Пётр падумаў, што давядзецца замяніць некалькі дошак, а пасля вырашыў, што іх можна будзе проста зачысціць ды пафарбаваць. Калі гаспадар у пачатку наступнага месяца прыйшоў па разлік, ён не мог нарадавацца свайму кватаранту: у той час фарбаваная падлога была не меншым набыткам, чым драўляная ў параўнанні з глінянаю.

З вячэрняй школай было значна складаней, бо дабірацца да яе было даволі далёка. Таму Пётр наведваў заняткі не часцей двух-трох разоў на тыдзень. Аднойчы яго нават выклікалі да дырэктара, і ён паабяцаў, што справіцца і ў выпадку вымушаных пропускаў будзе больш працаваць самастойна дома. У яго былі слабыя траякі па матэматыцы, фізіцы, а на ўроках мовы ды літаратуры юны шахцёр быў адзіным вуч-

нем, хто дасканала ведаў змест кожнага праграмнага твора. Вельмі задаволены быў ім і настаўнік гісторыі.

Неяк на вуліцы Пётр сустрэўся з былым суседам па інтэрнаце, які прапанаваў купіць у яго наган з поўнаю абоймаю патронаў. Прыгадаўшы ледзь не штодзённыя ўспаміны ў гутарках знаёмых пра хуліганскія напады на людзей, свае начныя пераходы ад вячэрняй школы дадому, калі даводзілася выбіраць шмат даўжэйшы шлях па лепш асветленых вуліцах, ён адразу згадзіўся і, не гандлючыся, адлічыў неабходную суму грошай. Прыемны цяжар у кішэні ці пад папругаю дараваў адчуванне поўнай бяспекі і ўпэўненасці ў сабе, якое суправаджала хлопца да самага ад'езду дадому. Пачаўшы збіраць рэчы ў дарогу, ён доўга не мог вырашыць, ці браць з сабою наган, які ляжаў прыхаваны ў попеле пакуль не патрэбнай буржуйкі. Нарэшце Пётр усё ж паклаў яго на дно валізкі.

* * *

Зваротны шлях дадому быў радасны ад прадчування той хвіліны, калі ён аддасць маці скрутак з грашыма, якія яна наўрад ці калі трымала ў руках за ўсё сваё жыццё. У той жа час падарожжа было азмрочана некалькімі перасадкамі, калі трэба было гадзінамі таўчыся ў чарзе ля білетнай касы, вышукоўваць надзейнага чалавека, на каго можна было б пакінуць валізку, каб схадзіць ў прыбіральню. А найбольш даймаў голад, што было асабліва крыўдна, маючы пры сабе добрыя грошы. Ад буфетных пончыкаў пачаўся боль ў жываце, між тым аптэкі на вакзалах не было. Даводзілася толькі глытаць згатаваную правадніцай гарбату.

Нарэшце ён дабраўся да Мінска. Яшчэ тры гадзіны ў прыгарадным цягніку, паўночы на вакзале, амаль гадзіна ў перапоўненым аўтобусе і вось ён - родны дом. Убачыўшы сына, які моцна пасталеў, маці залілася слязьмі радасці. Бацька, не схільны, як большасць мужчын, да цялячых сантыментаў, моцна паціснуў руку і абняў, без пацалункаў, крыху прытуліўшы да сябе.

За абедам Пётр пачаў распытваць пра сяброў, школьных таварышаў. Той-сёй падаўся ў тэхнікум ці вучылішча, а большасць працягвала вучобу ў школе. Успомнілі пра двух хлапцоў, якія ўзарваліся на міне падчас прыборкі школьнай тэрыторыі.

- Мы табе, Пецечка, пра гэта пісалі, - сказала маці, на што сын пацвярджальна кіўнуў галавою, - а толькі яшчэ ў нас адна страшэнная навіна: на днях у парку забілі чалавека. Міліцыя шукае злачынцаў, але пакуль нікога не злавілі. Пецечка, сынок, малю цябе, ты ж хоць у парк вечарам не хадзі...

- Не хвалюйся, мама, - супакоіў яе сын, а сам падумаў, што трэба

неадкладна перахаваць наган.

Устаўшы з-за стала, ён прылёг на свой ложак. Вычакаўшы, пакуль маці возьмецца прыбіраць са стала ды мыць посуд, а бацька начэпіць акуляры, каб чытаць Біблію, Пётр нагнуўся над сваім чамаданам і хуценька заткнуў зброю за пояс. Паляжаўшы яшчэ некалькі хвілін, ён устаў і выйшаў з хаты. За хлеўчуком ляжала па-гаспадарску складзеная куча камянёў. Пётр зняў некалькі з іх з самага верху, паклаў наган, накрыў яго кавалкам толі на выпадак дажджу і паклаў камяні на месца.

Бліжэй пад вечар прыйшлі паглядзець на яго старэйшая сястра з мужам, і, калі яны пабылі і сабраліся дадому, Пётр, прыхаваўшы наган за пояс, пайшоў іх правесці. Развітаўшыся з імі, юнак накіраваўся проста ў парк. Па-першае, нястрымна карцела праверыць сябе, а па-другое, яму не верылася, што адзіны на ўвесь гарадок участковы ды некалькі дружыннікаў змогуць знайсці забойцу. А вось ён, малады герой, падобны да тых, што жылі на старонках твораў любімага Джэка Лондана, абавязкова здолее гэта зрабіць.

На ўваходзе ў парк яму сустрэліся некалькі маладых пар.

- Не ўсе такія палахлівыя, - падумаў Пётр, - а я, каб быў без гэтай штукі, ці асмеліўся б?  Што ні кажы, а ёсць пытанне…

Літаральна праз некалькі дзясяткаў крокаў стала значна цямней. І наш герой стаў адчуваць сябе ўсё больш няўтульна, па спіне пачаў хадзіць  халадок. Каб пераканаць сябе, што ніякі ён не баязлівец, юнак павярнуў з алеі на вытаптаную сцежку, якая вяла ўглыб парка.

"Трэба брацца правей, тады выйду да возера, - падумаў Пётр, - інакш праблукаю тут да раніцы".

У гэты момант у вышыні крыху рассунуліся хмары і выглянуў прыгожы маладзічок. І тут жа перад Пятром узнікла цёмная фігура і пачуўся голас:

- Чаму табе, пацан, не сядзіцца дома з мамкаю? Можа, ужо дзевак шукаеш? А ну выварочвай кішэні, мне грошы патрэбны. Хутчэй, я сказаў!

Пётр зразумеў, што гэта ніякі не ваўкалак ці крывасмок, нават не жорсткі рэцыдывіст, якіх ён паспеў пабачыць у Данбасе, а звычайны малады хлапец, на пару гадоў старэйшы за яго, толькі крыху вышэйшы ростам.

Магчыма, такі ж самы шукальнік прыгодаў, што начытаўся авантурных раманаў. Але не паспеў ён раскрыць рот, каб нешта вымавіць, як атрымаў удар, што трапіў не ў сківіцу, куды ён напэўна быў скіраваны, а ў ключыцу.

Ад болю Пётр быў вымушаны прыгнуцца, нахіліўшыся наперад,

але ўсё ж здолеў пацягнуцца рукою да пояса і схапіцца за дзяржальна нагана. Нападнік наваліўся на яго ўсім целамі, але калі ён прыўзняўся, каб замахнуцца ды нанесці яшчэ адзін удар, Пётр, не раздумоўваючы, стрэліў...

Ён зразумеў, што прамазаў, бо яго праціўнік ускочыў, нібыта падкінуты ўверх магутнай спружынай, і куляю пусціўся прэч. Пакуль Пётр уставаў, чуцен быў толькі тупат хуткіх ног. Калі ён вярнуўся дадому, бацька ўжо быў ў ложку, а маці сядзела на кухні.

- Сынок, ты хоць у парк не хадзіў?- спыталася яна. - Нешта так трывожна было ў мяне на сэрцы. Сядай, паеш, я дранікаў напякла. Пэўна ўжо астылі. Ведаю, што ты любіш гарачыя, але ж я думала, што ты Надзю правядзеш ды хутка вернешся.

- Ды не, мама, што я там забыўся,- адказаў Пётр і адразу памкнуўся да рукамыйніка, каб схаваць твар. Ён страшэнна не любіў ілгаць і зрабіў гэта, каб толькі не засмучаць маці.

Ён не стаў зноў хаваць наган у каменне, бо падумаў, што калі маці мела намер прагледзець яго рэчы, то, напэўна, зрабіла гэта. Аднак наступным вечарам, калі ён вырашыў паўтарыць свой "рэйд" па парку і сунуў руку ў чамадан, нагана там не было. За ўсе далейшыя гады ні сын, ні бацькі ніводным словам не ўспамянулі пра той выпадак.

Час адпачынку, які ў шахцёраў быў значна даўжэйшы, чым у іншых працаўнікоў, праляцеў вельмі хутка. Зноў дарога, гудкі паравозаў, перасадкі на чыгуначных вакзалах, чэргі за білетамі. Але цяпер ужо не даймаў голад. Мама паклапацілася аб усім: шматок сала, колцы вэнджанай кілбасы, смажаная курыца, свежыя ды маласольныя агурочкі, раннія яблыкі, слоічак марынаваных грыбоў і, на ўсялякі выпадак, рыбныя кансервы. У чамадане ляжалі і абноўкі: касцюм, некалькі новых кашуль, то-сёе з бялізны ды зімовыя чаравікі. Усё гэта на Данбасе купіць было практычна немагчыма. Жонкі многіх гарнякоў, якія нідзе не працавалі, цэлымі днямі стаялі ў чэргах па прадукты ды адзенне і такім чынам вырашалі праблемы сваіх сямей. Іншым даводзілася шукаць "блат" сярод тых, хто меў доступ да гандлёвых базаў, складоў, крамаў. Блат не мог быць бясплатным, і атрымлівалася так, што пэўная частка нялёгкага шахцёрскага заробку перакачоўвала ў кішэні тых, хто меў доступ да неабходных людзям тавараў. Салёны пот адных суправаджаўся пастаянным страхам іншых, бо за імі нястомна ганяліся праваахоўныя органы. На пракурорскіх ды судовых сталах змянялі адна адну справы аб розных злоўжываннях, а перамены адбыцца не маглі, і ніхто іх не чакаў ды на тое не спадзяваўся.

Пра ўсю гэтую "кухню" расказаў Пятру яго настаўнік і дарадца

Аляксандр Георгіевіч. І не толькі расказаў, але і папрасіў сваю жонку, каб яна пры магчымасці здабывала што-небудзь і для яго юнага сябра.

* * *

Прайшлі яшчэ два гады. У сярэдняй школе пачаўся пераход да адзінаццацігадовай адукацыі. У вячэрняй жа па-ранейшаму можна было атрымаць атэстат за дзесяць гадоў. Таму многія вучні старэйшых класаў накіраваліся ў вячэрнія школы, каб хутчэй вырвацца ў дарослае, самастойнае жыццё. Прыход хлопцаў і дзяўчат, веды якіх былі больш багатыя, падштурхнуў Пятра да сур'ёзнага стаўлення да вучобы. Ён пачаў наведваць школу без пропускаў і моцна падцягнуўся па матэматыцы, фізіцы, хіміі. У гуманітарных прадметах ён па-ранейшаму быў лепшым. Настаўніца рускай мовы часцяком зачытвала ўрыўкі з яго сачыненняў як узор для іншых. Пісаў іх Пётр у выходныя дні, не шкадуючы часу на пошук літаратуры ў бібліятэцы.

І вось надышоў дзень, а дакладней вечар, на якім прагучаў туш пры ўручэнні атэстатаў, і да світанку доўжыліся танцы пад духавы аркестр. Усе вакол найбольш гаварылі пра паступленне ў ВНУ, многія - пра Данецкі політэхнічны інстытут, хтосьці называў Кіеў ці іншыя ўкраінскія гарады. Пятру ж мроілася самая высокая вяршыня: Маскоўскі дзяржаўны ўніверсітэт. Велічны хмарачос не выходзіў з галавы. А вось што менавіта яму хочацца там вывучаць, на гэтае пытанне малады чалавек не мог сабе адказаць. Філалогію? Гісторыю? А што, калі псіхалогію?!

Неўзабаве ён даведаўся, што з наступнага года прыём у ВНУ будзе адбывацца па новых правілах, згодна з якімі вялікую перавагу пры залічэнні атрымаюць асобы з двухгадовым стажам працы на вытворчасці. Пётр падумаў, што за год ён лепш падрыхтуецца і цвёрда вызначыцца з выбарам факультэта. Яшчэ праз некаторы час ён прачытаў ў газеце аб'яву пра набор рабочых розных спецыяльнасцей для разведкі нафты на поўначы краіны.

Апытаўшы таго-сяго са сваіх знаёмых, якія паспелі аб'ездзіць увесь Саюз, Пётр зразумеў, што ўмовы жыцця і працы на нафтаразведцы значна цяжэйшыя, чым на вуглездабычы, але і плацяць там ў два разы больш.

"Грошы,- падумаў ён, - заўжды спатрэбяцца, асабліва студэнту, а з бацькоў я ўжо ніколі не змагу ўзяць ні капейкі. Акрамя таго, магчыма, у жыцці не будзе больш такой магчымасці праверыць сябе". І ён вырашыў звярнуцца ў бюро па найму, адрас якога таксама быў у газеце.

На гэты раз, пакуючы валізку, ён даўжэй за ўсё вагаўся наконт

таго, браць ці не браць з сабою шахматы. Ён захапіўся гэтаю гульнёю дзякуючы аднаму прыяцелю па вячэрняй школе, пачаў гуляць з ім, пасля ўдзельнічаць у турнірах, прагна чакаў радыёнавін пра перамогі Батвінніка, Таля ды іншых савецкіх гросмайстраў, а вечарамі, застаўшыся сам-насам, рашаў задачы ды эцюды.

Урэшце падумаў, што гэта ж не наган ды паклаў шахматы на верх валізкі, каб было зручней іх дастаць, калі раптам надарыцца магчымасць пагуляць з кім-небудзь у вагоне цягніка.

* * *

Умовы жыцця і працы на Поўначы, як яго і папярэджвалі, былі значна больш складанымі, галоўным чынам з-за холаду зімой ды машкары летам. Найбольшым клопатам была не сама праца, а пастаяннае падтрыманне машын, прыбораў ды інструментаў у працадзейным стане. Калі хапала саляры ды бензіну, рухавікі многіх машын і механізмаў не спыняліся на ўсю ноч. Пры недахопе паліва адзін-два кіроўцы заставаліся ў сваіх аўтамабілях ці трактарах, каб раніцаю завесці з буксіра астатнія. У вагончыках людзей было бітком.

Шахматы нікога не зацікавілі, нехта нават параіў пусціць іх на распалку печы. Затое гульня ў карты займала ў жыцці нафтавікоў ледзь не такое ж важнае месца, як і сама праца. Напачатку Пётр толькі пазіраў збоку на гэты дзікунскі, на яго погляд, занятак, потым пачаў уважліва прыглядацца да правілаў і ходу гульні, і нарэшце яго ўгаварылі сесці ды паспытаць свайго шчасця. Моцная памяць, уважлівасць ды ўменне стрымана валодаць сабой амаль нязменна прыносілі яму поспех. Паколькі гулялі на грошы, хоць і пры невялікіх стаўках, навічок стабільна заставаўся пры сваіх альбо ў выйгрышы.

Праз месяц у пасёлку запрацавала лазня. Нягледзячы на доўгія чэргі, Пётр хадзіў парыцца не менш двух разоў у тыдзень. Аднойчы ён вяртаўся адтуль даволі позна і пачуў дзявочыя крыкі. Што яна крычала, расчуць было немагчыма, бо ёй, напэўна, заціскалі рот. Затое добра чутны былі галасы мужчын на добрым падпітку: "Ну што ламаешся... Пабалуемся з табою ды банку тушонкі выдзелім... Валачы яе ў барак!.. Я табе зараз пакажу, як кусацца!..".

Пётр са шкадаваннем успомніў пра свой наган і, пераадолеўшы страх, накіраваўся ў праход паміж баракамі. У ледзь прагляднай цемры ён усё ж разгледзеў, як трое незнаёмцаў схапілі на рукі і валакуць жанчыну ў доўгім цёмным паліто і белай хустцы.

- А ну, пакінулі яе, каму кажу, - закрычаў ён і, сунуўшы правую руку ў кішэню, дадаў: - Бо зараз перастраляю, як сабак!..

Гвалтаўнікі спыніліся, як паралізаваныя. Яны апусцілі рукі, а жанчына кінулася да свайго збаўцы, запраўляючы на хаду рагі хусткі ў варатнік паліто.

- Дзякуй табе, добры чалавек, - прагаварыла яна, задыхаючыся. - Як жа ты не пабаяўся? Даўно ты тут у нас?

- Недзе каля трох месяцаў, - адказаў Пётр.

- То ўжо праўдзі мяне крыху, я каля медпункта жыву, там жа і працую. Цябе як зваць?

- Пётр... Пеця...

- А я - Ала... Пра пісталет ты, канешне, прыдумаў? Але малайчына. Дзякуй табе…Вось мы і прыйшлі. Даўно ўжо была б дома, каб не гэтыя вырадкі. Мяне доктар папрасіў па дарозе аднаго хворага наведаць... А ты, Пеця, лепш не хварэй, а захварэеш - звяртайся да мяне...Усяго табе найлепшага, - развіталася жанчына.

Прайшоў яшчэ нейкі час. У вагончыку з'явіўся новы насельнік. Дакладней сказаць, не з'явіўся, а зваліўся, як снег на галаву, перапыніўшы даволі спакойнае ды наладжанае жыццё насельнікаў вагончыка і асаб-ліва бульдазерыста Сцяпана. Той вярнуўся вечарам з працы і ўбачыў, што на яго ложку ў цэнтры барака ляжыць чалавек і смаліць папяросу, не зважаючы на тое, што попел сыплецца то на яго заношаную да дзірак цяльняшку, то на падушку, то на коўдру. Сцяпан не быў баязліўцам і не выглядаў слабейшым за новапрыбылога, але звярнуўся да таго неяк разгублена:

- Паслухай, а як жа…

- Была мне ахвота слухаць цябе, фраер, - рэзка перабіў яго чужак, - давай дзьмі з вачэй, пакуль пяро пад рабрыну не атрымаў. Ты што, хочаш, каб пасля сямі ходак у зону я спаў вунь там, на скразняку? Давай валі, бо да трох лічыць не буду...

Наткнуўшыся на позірк пранізлівых, як свярдзёлкі, вачэй, Сцяпан разгублена азірнуўся навокал, чакаючы падтрымкі, потым падаўся да ўваходу, дзе на самым блізкім да дзвярэй ложку валялася яго пасцель.

Нармальнае дагэтуль жыццё вагончыка прыпынілася, нібы рух вазка, які ехаў роўна, але раптам упёрся колам у нечаканы пень. Замест звычайных размоваў ды жартаў навісла панурая цішыня.

І ўсё ж нехта з самых заядлых карцёжнікаў не вытрымаў, агукнуў сваіх таварышаў, і за сталом пачалася звычайная гульня. Дагэтуль у тысячу гулялі заўжды ўчатырох, але больш ахвотнікаў не знайшлося. Калі першая тысяча скончылася, гульцы пачалі падлічваць, чый выйгрыш, а чый пройгрыш. У гэты час спусціў ногі з ложка, устаў, падышоў да стала і прысеў на вольнае месца ветэран сямі зонаў.

- Ну што вы тыркаецеся ў гэтую сваю тысячу? Хто смелы са мною ў ачко?

Пры гэтых словах ён узяў калоду і пачаў спрытна тасаваць яе. На руках яго не было вольнага месца ад татуіровак.

Крыху раней да ўсіх гэтых падзей Пётр паспеў дастаць свае шахматы, разгарнуць старонку з газеты, на якой былі некалькі задач, расставіў пазіцыю і пачаў над ёю разважаць.

Словы "Хто смелы?" чамусьці разанулі яму слых. Пётр узняў вочы і ўбачыў, што амаль усе насельнікі барака - хто спадылба, хто скасавок - скіравалі позіркі ў яго бок. Нейкая невядомая сіла прымусіла яго адсунуць у бок шахматную дошку, падняцца і падыйсці да стала. Убачыўшы яго, усе трое "тысячнікаў" ускочылі на ногі, каб прапанаваць сваё месца.

Пётр сеў насупраць і, каб не вітацца, але і не маўчаць, сказаў: "А чаму гуляць у карты трэба смеласць, а не розум?".

Яго апанент у адказ вымавіў толькі:

- Ну што, раздаю?

- А чаму ты раздаеш? - спакойна адрэагаваў  Пётр. - Давай да туза...

- Да туза кажаш? Ну, давай да туза, - спакойна, але ўсё ж не могучы прыхаваць здзіўленне, адказаў новапрыбылы і пачаў скідаць на стол адну за адной карты з калоды, пакуль яму не выпаў туз крэсцяў. - Ну вось, ці варта было марнаваць час? Усё роўна выйшла на маё...

Зэк (так пра сябе пачаў называць яго Пётр, а пытацца, як таго клічуць, у яго не было ніякага жадання) паставіў банк, даў карту партнёру, другую паклаў сабе і спытаў:

- На што ідзём?

Пётр назваў невялікую суму. Ён ведаў, што гарачлівасць ды спешка ў картах - найпрасцейшы шлях да пройгрышу, і жадаў напачатку вывучыць праціўніка. Той хмыкнуў, усім сваім пагардлівым выглядам паказваючы, што дарэмна звязаўся з баязліўцам. А Пётр уважліва сачыў за кожным рухам спрытных рук і запамінаў карты. Вось пайшоў у адбой і той самы туз крэсцяў...

Праз нейкіх пяць розыгрышаў Пётр нечакана абвясціў, што ідзе на ўвесь банк. З трох картаў яму выпала дзевятнаццаць, і ён хутка, каб не паказаць ваганняў ды сумневу, сказаў: "Сваё". "Банкір" раскрыў сваю карту, якая аказалася васьмёркаю, потым дастаў вальта, а ўслед за ёю ўсё таго ж туза крэсцяў.

- Ачко! - урачыста абвясціў зэк. - Кладзі грошы...

- Туз крэсцяў ужо згуляў, давай пераглядзім адбоі, там павінна не

хапаць адной карты, - сказаў Пётр і пацягнуўся рукою праз стол.

Рэзка крутнуўшы локцем, зэк скінуў стос картаў са стала. Пётр ускочыў на ногі, не ўсведамляючы, што рабіць далей. За той час, што ішла гульня, стол абкружылі цікаўныя гледачы, і хлопец адчуваў, што сімпатыі і маральная падтрымка прысутных цалкам на яго баку і зараз усе разам кінуцца на шулера і прымусяць яго прызнацца ў нячыстай гульні. Але калі той таксама ўскочыў на ногі ды адным рухам выхапіў аднекуль нож, Пётр не ўбачыў, а хутчэй адчуў, што вакол яго ўтвараецца вакуум і ніхто не спяшаецца яму на дапамогу. Каб хоць двое ці нават адзін з тых, што стаялі за плячыма зэка, схапілі яго ззаду за руку, што трымала фінку, усё было б скончана ў адно імгненне, але калі той пачаў абыходзіць стол, яны, наадварот, адхіснуліся - хто ў бок, а хто назад.

Хлопец пачаў адступаць, не зводзячы вачэй з ляза, на якім устрашальна паблісквалі праменьчыкі ад лямпы, што вісела над сталом. У свой час яму прыйшлося чуць, як трэба дзейнічаць, калі нож трымаюць верхнім ці ніжнім захопам, але на гэты раз рука, што трымала яго, была прыцiснута да пояса, і Пётр зразумеў: калі не адступаць, то лязо паласне яму па жываце ці па грудзях. Хутка ён адчуў, што ўткнуўся спіною ў дзверы, і зноў падумаў, што цяпер ужо ўсе ўдзельнікі ці сведкі гэтай падзеі засталіся за плячыма зэка і маглі б лёгка схапіць яго ззаду. Але яны толькі зачаравана назіралі, як няўмольна рухаецца наперад злавесная постаць. Пад націскам спіны дзверы пачалі расчыняцца. Пётр крышку павярнуўся бокам, каб глянуць на сходні ды не спаткнуцца, а зэк у гэты момант хацеў ужо рынуцца наперад, але яго спыніў крык Лёні Маскалёва, звычайна ціхмянага і нерашучага хлапца:

- Пеця! Бяжы, уцякай!!!

Зэк рэзка павярнуў галаву назад і гаркнуў:

- А ну, заткніся, падла, бо зараз...

Пётр тым часам саступіў на снег і кінуў вачыма, ці няма побач якога-небудзь прадмета, які можна было б скарыстаць для абароны. Але калі летам шмат якіх жалязяк валялася ля вагончыка, то цяпер усё было занесена снегам.

"Хоць бы які дзяржак ад лапаты, - падумаў ён,- але ж ніхто яшчэ не браўся чысціць ні вуліцу, ні сцежкі да яе".

Зэк жа саскочыў з парога і, мінаючы сходні, кінуўся на сваю ахвяру. Пётр зразумеў, што не застаецца нічога іншага, як бегчы прэч, развярнуўся, але ў гэты ж момант паслізгнуўся і зрабіў усё магчымае, каб не ўпасці ніцма, а сустрэць забойцу ці саму смерць твар у твар. Ён упаў-такі на спіну і імгненна адчуў у правай руцэ халодны жалезны прэнт. Кавалак арматуры толькі крышку прымёрз да зямлі, і, калі хлопец

з усёй сілы рвануў яго да сябе, той падаўся і апынуўся ў руцэ. Зэк жа кінуўся, як коршун на здабычу, і ўжо ляцеў каменем уніз, але наткнуўся на выстаўлены жалезны прэнт і дзіка зароў ад болю. Пётр выскараскаўся з-пад яго і ўбачыў, што па бялюткім снезе распаўзаецца цёмная пляма крыві...

Далейшы ход падзей напачатку быў самы звычайны: тэлефон, бальніца, аперацыя. У прысудзе вагончыка ўзніклі дзве пазіцыі; першая - шкада, што такая сволач выжыла, а не вызваліла ад сябе гэты свет; другая, больш цвярозая, якая склалася крыху пазней, - добра, што гэты вырадак выжыў, бо інакш такому слаўнаму хлопцу прыйшлося б ісці за краты.

Кожны дзень да Пятра даходзілі чуткі і звесткі пра тое, што зэк, ледзь прыйшоўшы да сябе, пачаў гаварыць, што, як толькі паправіцца, першае, што зробіць, - наматае кішкі даўжніка на тую самую арматурыну. Дарэчы, хірург, калі дастаў яе з жывата пацыента, сказаў: "І каму толькі спатрэбілася завастрыць гэты прэнт, нібы шыла?".

Усё сваё далейшае жыццё, сцвярджаючы, што ён перакананы атэіст, Пётр Астапавіч, нібыта ў жарт, казаў, што калі Бог усё ж такі існуе, то толькі для таго, каб упіхнуць аднойчы яму ў руку кавалак жалеза і ўратаваць ад немінуемай пагібелі.

Не могучы збавіцца думак пра магчымую помсту, малады чалавек пачаў сур'ёзна задумвацца, ці не варта яму пакідаць гэтыя не надта гасцінныя мясціны ды рушыць дадому. Стрымлівала толькі жаданне дачакацца чарговай зарплаты.

Але раней таго настаў дзень, калі да Пятра падышоў чалавек у ватоўцы і трусовай шапцы і без прывітання сказаў, што сёння вечарам, а восьмай гадзіне, яму трэба з'явіцца да Ламаноса, і назваў адрас.

- А хто такі Ламанос? - спытаўся Пётр і тут жа пашкадаваў, бо замест адказу пасыльны глянуў на яго, як на недавярка, які пытаецца, чым дзень адрозніваецца ад ночы.

Галава пайшла кругам. Нейкая сходка? Будуць судзіць ды катаваць за свайго хаўрусніка? Але чаму не зрабілі гэтага раней? Ужо даўно маглі б праламаць галаву ломам ці піхнуць пад колы трактара, пырнуць тым жа нажом. Гэтая думка наведвала яго пастаянна, і ён пачаў на працы ды па дарозе ў краму ці дадому асцярожна азірацца па баках, але нічога падазронага вакол сябе не заўважаў.

Параіцца не было з кім. З суседзямі па вагончыку Пётр не мог размаўляць так свабодна, як раней.

Урэшце рашыў, што памяняць нічога ён не зможа, і сказаў сабе: "Хай будзе, што будзе".

Нябачны цяжэзны камень імгненна зваліўся з сэрца, калі ён расчыніў дзверы патрэбнага пакоя ў рабочым інтэрнаце і ўбачыў медсястру Алу, якая ўсміхнулася яму шчырай і радаснай усмешкай. Услед ён убачыў, што за сталом сядзіць мужчына гадоў сарака ў прыгожым вязаным свэтры з рагастым ласём на грудзях. Чалавек устаў, выйшаў насустрач, падаў руку. Па вачах відно было, што ён рады сустрэчы, але нічога падобнага на ўсмешку на яго твары не было.

- Ну, здароў, смяльчак, - сказаў ён і падаў руку.

Пётр падумаў, што такой цвёрдай, як камень, рукі ён дагэтуль ніколі не паціскаў.

- Добры вечар, - адказаў Пётр і дадаў: - Вы Ламанос?

- Ён самы, сваёй уласнаю персонаю,- адказаў мужчына.- Калі без цырымоній, а цырымоніі нам не патрэбны, Мікалай, а яшчэ прасцей - Коля.

Па выяве рагатага лася на світары Пётр зразумеў, што бачыць перад сабою важнага крымінальнага аўтарытэта. У той жа час яго вымаўленне відавочна выдавала адукаванасць, калі не сказаць інтэлігентнасць.

- Ну што, Ала, запрашаем дарагога госця да стала, - па-гаспадарску сказаў Мікалай.

Цяпер ужо Пётр разглядзеў шыкоўны стол з ікрою, дарагою рыбаю і іншай смачняцінай.

- Сядайце, сядайце, а я зараз бульбачкі гарачай накладу, - падала голас і Ала.

- Ты, магчыма, на такую сустрэчу не вельмі разлічваў? - спытаў Ламанос, добра прыкусіўшы пасля другой чаркі.

- Ды пра ўсякае думалася, - шчыра прызнаўся госць.

- Ты, пэўна, не забыўся, што я ў бальніцы працую, - уступіла ў гаворку Ала.

- Ды не, не забыўся, - адказаў Пётр.

- Дык вось, як толькі я пачула, што нехта пратхнуў Суконнаму жывот, я чамусьці адразу падумала пра цябе. Навяла даведкі - так і ёсць. Тут жа дазванілася да Колі, ну а ён, значыцца, распарадзіўся наконт цябе, а як вызваліўся ад спраў, дык рашыў прыехаць пазнаёміцца з табою ды падзякаваць…

- А яшчэ з табою пабачыцца, ластаўка ты мая, - пяшчотна прыгарнуўшы жанчыну да сябе, дадаў Мікалай.

"Справы... Распарадзіўся... Што ў іх за жыццё? Хто яна яму? Жонка? Непадобна. Каханка? - падумаў Пётр. - Але ж хіба гэта важна? Ці не галоўнае тое, што я жывы ды яшчэ маю падзяку?.."

Гаварылі пра рознае. Калі Мікалай сказаў, што некалі вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, многае Пятру стала зразумелым, і ён прызнаўся, што сам марыць пра паступленне менавіта туды, а потым асмеліўся спытацца:

- Прабачце, а Ламаносам вас не таму клічуць, што?..

- Ды не, з Міхайлам Васільевічам гэта якраз супадзенне, а Ламаносам мяне клічуць з-за таго, што калі хто трапіць мне пад руку, то без зламанага носа рэдка абыходзіцца.

- А на якім факультэце вы займаліся? - Пётр пажадаў змяніць непрыемную тэму.

- Не паверыш, на філасофскім, - адказаў Ламанос. - А ведаеш, чым ён найбольш славуты, гэты факультэт?

Пётр паціснуў плечукамі.

- Самазабойствамі. Па элементарнай прычыне занадта вялікага розуму. Гарэлкі не п'юць, дзевак не ціскаюць, сядзяць у чытальнях, пакуль мазгі не апухнуць ад усіх тых гегеляў ды шмегеляў. А потым залезуць як мага вышэй ды сігаюць ў акно... Другое месца - за фізматам, а іншыя могуць і з моста кінуцца ці пад машыну або цягнік. Там ужо наколькі фантазіі хапае, а вось філосафы з матэматыкамі, тыя - усё больш праз вокны. А я аказаўся рэдкім ды дабрашчасным выключэннем. Уліп у адну справу, ды выгналі мяне з другога курса...

"Выключэнне... ды дабрашчаснае... Ну гэта яшчэ як паглядзець", - падумаў пра сябе Пётр і адзначыў зноў жа пра сябе, што на яго суразмоўцы няма ніякіх татуіровак, у мове - ніякіх блатных слоўцаў, значыцца, асоба з тых, каго лічаць белай косткай крымінальнага свету.

На развітанне няспраўджаны філосаф падаў Пятру злашчасны нож са словамі:

- Вазьмі на памяць. Суконнаму ён пакуль не спатрэбіцца. Няхай спачатку падвучыцца ў карты гуляць ды не пляце пра сем ходак. Іх у яго ўсяго дзве. А калі ў цябе раптам зноў здарыцца якая праблема, пакажаш гэты сцізорык і скажаш: "Падарунак Ламаноса".

У далёкай Беларусі прайшла зіма, за ёю вясна, настала лета, а вакол Пятра толькі пачаў раставаць снег ды наваколле пастунова напаўнялася птушынымі спевамі. Бацькам ён пісаў і атрымліваў адказы прыблізна раз у месяц.

Асаблівых навін не было ні з іхняга, ні, тым больш, з яго боку. У чэрвені ён напісаў, што ў жніўні паедзе паступаць у Маскву, а пасля ўжо завітае дадому. Спытаўся, ці не трэба выслаць ім грошай і якія яны хацелі б атрымаць падарункі.

Пра Суконнага і тое, што ў яго пачалі моцна балець суставы, не

ўспамянуў, бо не хацеў засмучаць маці з бацькам і спадзяваўся, што з прыходам летняга цяпла балячкі пройдуць самі па сабе.

І вось у працоўнай кніжцы зроблены ўсе неабходныя запісы, зняты копіі, пастаўлены гербавыя пячаткі, якія пацвярджаюць стаж прывілеяванага абітурыента. Медыцынскую даведку афарміла Ала. Яна сказала, што вельмі шкадуе, што яны могуць больш не пабачыцца.

Урэшце ёмісты канверт быў заказным пісьмом накіраваны ў Маскву. А неўзабаве адтуль прыйшоў выклік на экзамены.

Пётр атрымаў у бухгалтэрыі разлік. І зноў адчуў ўжо зведанае лёгкае хваляванне. Падчас збораў у дарогу ўсё было прадугледжана да апошніх дробязяў. Быў доўгі роздум: браць ці не браць у валізку фінку?

Вырашыў падараваць яе Лёні Маскалёву:

- Трымай, Маскаль, здарыцца якая непрыемная сітуацыя, скажаш, што атрымаў у падарунак ад Ламаноса, а пачнуць разбірацца далей, удакладніш: праз Пятра... А мне, калі маеш на тое ахвоту, пажадай, каб сярод маскалёў больш шанцавала...

* * *

Да Масквы ён ляцеў самалётам. Аэрапорт і горад крыху ашаламілі яго мітуснёю ды няспынным вірам людскога натоўпу. Пётр з цікаўнасцю ўзіраўся ў будынкі, вуліцы, машыны, а найбольш у кожны твар, разважаючы, куды можа спяшацца чалавек. Хто ён: прыезджы, тутэйшы, камандзіраваны? Такіх, як ён сам, няспешных, не было літаральна ніводнай душы.

Дабраўшыся да першага прыпынку метро, ён паспрабаваў спытацца ў мінакоў, як лепш дабрацца да Ленінскіх гор. Адны прасілі прабачэння, што вельмі спяшаюцца, іншыя казалі, што яны самі толькі прыехалі. Хтосьці на хаду казаў нешта, а Пётр не паспяваў зразумець. Нарэшце прыпыніўся адзін пажылы чалавек:

- Таварыш, вы, мусіць, тут першы раз? Паслухайце, самае простае будзе падыйсці вунь да той схемы. Вы самі разберацеся раз і назаўсёды, а пасля ўважліва чытайце ўсе надпісы і табліцы ды слухайце аб'явы ў вагоне…

Пётр так і зрабіў. Ён адразу ж знайшоў станцыю, на якой знаходзіўся, і прасачыў увесь маршрут у бок цэнтра, убачыўшы спачатку "Ленінскія горы", а ўслед і прыпынак "МГУ". У вагоне ён толькі аднойчы, на ўсялякі выпадак, перапытаў наконт станцыі, дзе трэба было перайсці на іншую лінію.

У прыёмнай камісіі ён атрымаў заліковую кніжку, накіраванне ў

інтэрнат. Умовы там былі непараўнальна лепшыя, чым у вагончыку. У пакоі было ўсяго пяць чалавек. На кожным калідоры быў гарачы душ, які Пётр з асалодай наведваў двойчы ў дзень. Галоўная прычына была ў тым, што пад струменем гарачай, як выцерпець, вады знікаў боль у суставах. Ежа ў сталоўцы была недарагая і - пасля аднастайнага паўночнага рацыёну - даволі смачная.

Ад вусных экзаменаў застаўся ўспамін, што пры адказе на кожнае пытанне білета яго ветліва спынялі, задавалі пару дадатковых, зноў спынялі і ставілі "выдатна". За сачыненне Пётр атрымаў "добра", хоць унутрана быў упэўнены, што не зрабіў ніводнай арфаграфічнай памылкі, а што да сінтаксісу, то ён будаваў сказы так, што і камар носу не падсуне. Забягаючы наперад, можна сказаць, што ўсё высветлілася пазней, калі на першых жа занятках па сучаснай рускай мове выкладчыца спыталася:

- Скажыце, калі ласка, а хто з вас будзе Бальшакоў?

Калі Пётр адказаў: "Гэта я", - і прыўзняўся, яна ўважліва паглядзела на новага студэнта і сказала:

- Рада з вамі пазнаёміцца. Ваша сачыненне на ўступных экзаменах выклікала сярод камісіі спрэчкі, якіх я не памятаю за многія гады. Дарэчы, ніводнай моўнай памылкі не было. Асабіста я настойвала на пяцёрцы, а калі ўсё ж старшыня вырашыў паставіць чацвёрку за змест, я крыху ўзрадавалася і падумала, што калі вас не прымуць на філасофскі факультэт, то, магчыма, у наступным годзе вы падасце заяву на філалагічны, калі наогул не накіруецеся ў літаратурны інстытут. Цяпер я бачу, што вы ўжо чалавек са стажам і вас павінны былі прыняць нават з аднымі тройкамі.

А пакуль новаспечаны студэнт Бальшакоў накіраваўся дадому...

Раніцаю маці сказала:

- Пецечка, нешта ты ноччу моцна стагнаў. Мо, табе што-небудзь баліць?

- Ды не, мама, - супакоіў яе сын, - магчыма, што-небудзь прыснілася...

- А я падумала, што табе трэба схадзіць у лякарню, пакуль ёсць вольны час перад Масквою.

- То я ж не кашляю, тэмпературы няма, дык навошта тая лякарня, - не пагадзіўся Пётр.

Спачатку ён накіраваўся ў раённую бібліятэку, дзе перагартаў некалькі кніг, знайшоў і ўважліва перачытаў раздзелы пра рэўматызм ды яму падобныя захворванні і прыйшоў да высновы, што нядрэна было б пражыць бліжэйшыя паўгода ля Чорнага мора, найлепш на крымскім курорце Сакі, альбо паехаць у санаторый.

"Але ж Масква - не такая ўжо лядоўня ў параўнанні з палярным кругам, - падумаў Пётр. - Да абвастрэння не павінна дайсці..."

Пачатак вучобы быў перасяленнем у новае царства, дзе панаваў культ ведаў, павагі да выкладчыкаў. Там не было месца п'яным крыкам, грубай лаянцы, брудным жартам. У пакоі стаялі тры ложкі, але студэнтам сказалі, што, пачынаючы з другога курса, усе будуць жыць па двое. Суседзі Пятра прыйшлі ва ўніверсітэт з-за школьнай парты і ніяк не адпавядалі апісанаму Ламаносам тыпажу задуменных акулярыкаў, якія сноўдаюць па калідорах у пошуках дрэнна зачыненага акна. Наадварот, Сяргей Ляднёў, што прыехаў з Урала, і Слава Засулевіч з Харкава былі вельмі жвавымі хлопцамі, аматарамі дасціпных жартаў. І вось адзін з іхніх жартаў прывёў да самым нечаканых і самым непажаданых наступстваў для Пятра.

Аднойчы вечарам ён па сваёй звычцы ляжаў на ложку і чытаў куплены ў кіёску часопіс "Наука и жизнь". Сяргей і Слава вярнуліся ў пакой у суправаджэнні яшчэ аднаго прыяцеля і надумаліся падвесіць над дзвярыма вядро вады, каб яно вылілася на іхняга знаёмца, які паабяцаў прыйсці да іх праз некалькі хвілін. Сяргей прытарначыў з пакойчыка прыбіральшчыцы амаль поўнае вядро, і хлопцы пачалі прыладжваць яго. Дзеянні іх былі настолькі недарэчнымі, што Пётр урэшце не вытрымаў, устаў з ложка, спрытна прыладзіў вядро і ўлёгся на сваё месца. Хлопцы ж у чаканні вялікага трыумфу паселі на крэслы і скіравалі позіркі на дзверы.

Тое, што адбылося далей, не магло нават прысніцца ні ім, ні Пятру, а хіба толькі братам Стругацкім, імёны якіх на той час пачалі гучаць сярод аматараў навуковай фантастыкі. Дзверы расчыніліся, і на парозе ўзнікла велічная постаць дэкана філасофскага факультэта прафесара Косарава. Многія старэйшыя студэнты з прыдыханнем гаварылі "салагам", што гэта той самы Косараў, які быў адным з асноўных распрацоўшчыкаў праграмы КПСС. Пётр адразу скіраваў позірк не на прафесара, а на вядро, якое нейкае імгненне пагойдалася і тут жа абярнулася ўніз.

"Трэба было ўкараціць вяроўку", - падумаў Пётр, убачыўшы, што вада трапіла не на галаву, а толькі крыху пралілася на правы плячук светла-шэрага з стальным адлівам касцюма грознага дэкана. Затое, адскочыўшы ад паркетнай падлогі, вада трапіла на штаны, замачыўшы іх цалкам амаль да каленяў і стварыўшы пляміны вышэй. Гэтая жахлівая карціна дапоўнілася двума постацямі маладых хлапцоў, якія ў адно імгненне ўскочылі на ногі і змярцвелі ў поўнай нерухомасці. У такой жа нерухомасці ляжаў на сваім ложку і Пётр, падклаўшы руку пад

галаву.

- Хто гэта ўчвэрыў? - прагаварыў нарэшце камендант інтэрната з-за спіны дэкана, да якога таксама не мог вярнуцца дар мовы.

Пётр зірнуў на спаралізаваных страхам хлапцоў і спакойна сказаў:

- Я.

Толькі цяпер ён зразумеў, што ў гэтую хвіліну самым недарэчным пры ўсім сваім спакоі выглядае іменна ён, і, выцягнуўшы спачатку далонь з-пад галавы, устаў.

- Як прозвішча? - спытаў яго камендант. Па рэзкім і рашучым голасе адчувалася, што ён меў багатую практыку сустрэч з нечаканымі сітуацыямі ў ваенных казармах.

- Бальшакоў, - адказаў Пётр, ясна ўсведамляючы, што не давядзецца яму паўтарыць подзвіг крымінальнага аўтарытэта Ламаноса і дажыць да ганаровага звання студэнта другога курса ўніверсітэта імя Ламаносава.

- Які курс?

- Другі, - адказаў Пётр, яшчэ не развітаўшыся з апошняю думкаю, і тут жа паправіўся: - Прабачце, першы.

Гэтае пытанне камендант мог і не задаваць, бо яго задачай было правесці дэкана па пакоях, дзе размясціліся адны першакурснікі. Але яго напэўна збіла з тропу незвычайна салідная для першакурсніка знешнасць.

Не вымавіўшы ні слова, прафесар Косараў павярнуўся і выйшаў з пакоя. Разгублена глянуўшы на Пятра, потым, нібыта згаварыўшыся, адзін на аднаго, хлопцы, ні слова не кажучы, выйшлі з пакоя следам за прафесарам.

Ён не пайшоў на лекцыі ні заўтра, ні паслязаўтра. Затое да яго наведаўся сам камендант і паведаміў, што падпісаны загад аб адлічэнні студэнта Бальшакова, і яму даецца два дні, каб здаць бялізну, падпісаць у бібліятэцы абходны ліст і накіравацца на ўсе чатыры бакі. Праўда, ён не вытрымаў і спытаўся, як гэта Пятру прыйшло ў галаву вытварыць такі недарэчны жарт з вядром.

Той, хоць і неахвотна, расказаў усё, як яно было на самой справе.

- Дык трэба ж было пайсці да дэкана, папрасіць прабачэння ды ўсё растлумачыць, ён жа не звер…разабраўся б неяк, - не зусім упэўнена прагаварыў камендант.

- А калі б ён вышпурнуў гэтых хлапцоў? Узялі б ды кінуліся з верхняга паверха. Што, у вас такога не здаралася? - спытаўся Пётр.

- А дзе ты пра такое чуў? Хіба ў газетах пра гэта пішуць? - у сваю чаргу спытаўся камендант, і Пётр па яго занепакоеным позірку адчуў,

што словы Ламаноса пра філосафаў ды матэматыкаў не былі пустою прыдумкаю.

- Няхай хлопцы вучацца, а я буду шукаць нешта іншае. Пэўна, гэта не маё, - падвёў рысу Пётр.

* * *

Вяртанне дамоў бацькі ўспрынялі хутчэй з палёгкаю, чым шкадаваннем. Словы "Масква" і, тым больш, "філасофія" падаваліся ім чымсьці надта далёкім ды чужым.

Боль у суставах не пераставаў непакоіць Пятра. Аднойчы ён выпадкова сустрэўся ў доме сястры з прыяцелем свайго швагра - галоўным хірургам раённай бальніцы. Той сказаў, што жартаваць з такой хваробай вельмі небяспечна, асабліва ў маладым узросце, бо рэўматызм толькі ліжа суставы, а кусае за самае сэрца.

- Самае лепшае,- сказаў ён, - гэта не марнаваць час у нашай правінцыйнай лякарні, дзе цябе будуць ганяць па кабінетах, нібы футбольны мячык, а звярнуцца ў спецыялізаваную клініку. Ёсць такая ў Мінску, там працуе мой добры сябар, і я цябе накірую проста да яго. Надумаешся, прыходзь, і я паклапачуся пра неабходныя паперкі.

Пётр задумаўся над гэтымі словамі і вырашыў, што варта сур'ёзна заняцца здароўем, пакуль ён яшчэ не вызначыўся з далейшай працай ці вучобай.

Першы тыдзень у мінскай клініцы быў патрачаны на розныя даследаванні, сярод якіх асаблівай непрыемнасцю вылучаўся штодзённы аналіз крыві, калі прыходзілася падстаўляць палец пад просценькую прыладу, якую зведаў хоць раз ў жыцці кожны наведвальнік бальніцы. Пасля трэцяга разу Пётр ужо, як мага, адварочваўся ўбок, каб не бачыць, як вострая штука ўпіваецца ў палец.

Яму вельмі не хацелася, каб медсястра адчула ці заўважыла неўтрымальную дрыготку яго рукі. "Не скальпель, тым больш не нож, не іголка, павінен жа гэты прадмет неяк называцца", - падумаў Пётр і задаў гэтае пытанне медсястры, якая пачала раскрываць папяровую абгортку.

- Ой, - вымавіла яна, як быццам укалола не чужы, а свой уласны палец, - чакайце... нешта вылецела з галавы...

- Скарыфікатар, - сказала жанчына, што сядзела за другім сталом.

Пётр адзначыў пра сябе, што калі пра нешта размаўляеш, дык і боль не такі страшны, і дарога не такая далёкая, і чаканне не такое доўгае.

Лячэнне цягнулася больш за месяц, хоць доктар на кожным

абходзе казаў, што лячэнне ідзе паспяхова, але, каб цалкам пазбегнуць далейшых рэцыдываў, добра было б пасля бальніцы паехаць у прафілакторый, які знаходзіцца недалёка ад Мінска. Для гэтага трэба звярнуцца ў прафсаюзную арганізацыю з даведкай аб неабходнасці працягу лячэння. Калі Пётр расказаў яму пра сваё становішча, доктар параіў набыць пуцёўку за свой кошт праз аблздраў.

"Драбнее бальшакоўская парода, - думаў Пётр. - Бацькі ў гады калектывізацыі, а потым вайны не зведалі нічога іншага, акрамя холаду ды голаду, а пра хваробы ў доме гаворкі амаль ніколі не было. З лекаў жа ўспаміналіся толькі лазня з парыльняю, гарбата з мёдам ці малінай пры прастудзе, у самых цяжкіх выпадках ставілі банкі. Ад жывата заварвалі зёлкі. А мне, відаць, калі не папраўлюся, давядзецца перабірацца ў Крым, надзяваць чэхаўскае пенснэ ды шрайбаць апавяданні пра шахцёраў ды нафтавікоў".

А нейкі голас праз хвіліну ўжо гаварыў, што рэўматызм хутка пройдзе і забудзецца, як непрыемны сон. Далей пайшлі думкі наконт працы. Вярнуцца на Поўнач? Нешта ўсярэдзіне не пагаджалася з такім выбарам, бо найперш у памяці ўзніклі свярдзёлкі вачэй Суконнага, за імі - рагасты лось на світары Ламаноса. Затым перад вачыма паўстала мёртвае цела аднаго буравіка. Ён быў заядлы паляўнічы і аднойчы, убачыўшы недалёка ад буравой сляды лася, вырашыў з таварышам, у якога таксама мелася ружжо, разжыцца танным мясам. Паляванне скончылася тым, што стрэл, хоць і быў зроблены з блізкай адлегласці, стаўся вельмі  няўдалым: куля трапіла не ў галаву вялізнага самца, а толькі прабіла поўсць і закранула шыю. Каб лепш прыцэліцца, стралок зняў таўсцезныя рукавіцы і заткнуў іх за пояс. Дык вось, калі паляўнічага падымалі з зямлі, а дакладней, снегу, Пётр і некалькі чалавек, што паехалі забіраць цела нябожчыка, убачылі, што тыя рукавіцы, упэцканыя крывёю і сліззю, вылезлі з цела праз спіну. Магутная жывёла кінулася на нешанцлівага стралка і нанесла яму страшэнны ўдар капытом.

Зноў у Данбас? Хоць і цікавая, але ўсё ж шмат разоў перачытаная кніжка. А мо ўзяць ды ажаніцца? Простае пытанне, але ж трэба адказаць і на непазбежна наступнае: на што жыць? Заробкі бацькоў ды ўсіх знаёмых насельнікаў яго гарадка маглі выклікаць толькі крывую ўсмешку ды глыбокае шкадаванне.

Услед успомнілася старшая сястра аддзялення, якую амаль усе звалі Максімаўна. Звычайна так клічуць больш пажылых жанчын, а гэтая прыгажуня яшчэ не задумоўвалася пра святкаванне саракагадовага юбілею. У аддзяленні не сціхалі чуткі пра яе асаблівыя адносіны ці то з галоўным урачом, ці то з яго намеснікам, чым яна нібыта і была

абавязана сваёю пасадаю. Убачыўшы Пятра, яна не прамінала штонебудзь сказаць на яго адрас, накшталт: "Ай, які гожы хлапец, толькі адзін вялізны недахоп - нежанаты". Потым пачала нахвальваць яму сваю малодшую сястру, запрашаць у госці дзеля знаёмства.

Нарэшце лячэнне падышло да завяршэння. Напярэдадні да Пятра звярнулася Максімаўна:

- Слухай, Пятро, ты, мабыць, яшчэ не ведаеш, што заўтра цябе выпісваюць?

- Не, Максімаўна, першы раз чую, але мне ўжо тут так надакучыла, не ведаю, куды ўдырыцца ды чым заняцца...

- Ой, якая я табе Максімаўна! Скажы па нармальнаму - Валя. Ты, спадзяюся, не забыўся, што я цябе запрашала ў госці. Мусіць, падумаў, што жартую. Не, я сур'ёзна, - працягвала яна. - У мяне заўтра выходны пасля начнога дзяжурства, а пакуль цябе правалыняць з выпіскаю, то я паспею выспацца ды што-небудзь на абед згатаваць. Ты ж дахаты не спяшаешся? А да свайго дому зможаш дабрацца і вечарам, калі не аўтобусам, то прыгарадным цягнікам. Дзеці там па табе не плачуць, не?

Пётр адчуў, што ў чарговы раз у яго жыцці настаў момант, калі ён не можа прыняць рашэнне сам, а гэта павінна зрабіць замест яго нейкая невядомая сіла. Так яно і адбылося.

- Я ж не ведаю, дзе вы жывяце, - няўпэўнена вымавіў ён.

- Сельгаспасёлак, альбо Грушаўка, пра такое чуў? - спыталася Валянціна і тут жа дадала: - Самы бандыцкі раён у Мінску. Нашае хуліганнё сваіх не чапае, а калі запарвуць якога маладзёна, што праводзіць дадому мясцовую дзяўчыну, то так адвалтузяць, што мала не пакажацца.

Гаворачы апошнія словы, яна пільна ўглядалася Пятру ў вочы, але нічога асаблівага ў іх не ўбачыла, а толькі падумала: "Сапраўдны мужык, з характарам".

- А што міліцыя? - спытаўся Пётр. - Не можа справіцца?

- Ну, як яны справяцца?- адказала Валянціна. - Адных саджаюць, іншыя падрастаюць... Праўда, апошнім часам моцна пацішэла. Восенню знайшла ў пасёлку сабе кватэру першакурсніца нейкага інстытута. Яе аднойчы праводзіў таварыш па вучобе. Па мясцовых законах, яго не павінны былі чапаць, а толькі папярэдзіць. Ды атрымалася так, што той хлапец аказаўся, на іхнюю думку, недастаткова ветлівым, і яны рашылі правесці "выхаваўчую працу". Хлапец жа той быў майстар спорту, хоць і не па боксе, а па баскетболе, але, атрымаўшы пару кухталёў, ён выхапіў штакеціну з плота і добра надаваў грушаўскім. Акрамя ўсяго,

ён аказаўся сынам начальніка крымінальнага вышуку горада. Строгі бацька не застаўся абыякавым да падбітага вока, расквашанай губы ды парванай курткі сына. Назаўтра ўчастковы і некалькі міліцыянтаў абыйшлі ўсе двары, знайшлі амаль усіх удзельнікаў сутычкі. Ім прыпаялі не менш, як па году - адным турмы, другім хіміі. Больш дакладна я не ведаю...

Гаворка скончылася тым, што Валянціна паведаміла свой адрас і бліжэйшы прыпынак аўтобуса.

Наступным днём, сабраўшы рэчы, Пётр выйшаў з бальніцы і хутка ўжо ехаў аўтобусам.

Ён ніяк не мог надыхацца свежым марозным паветрам і гатоў быў ісці пешшу па хрусткім і не вельмі стаптаным снезе на процілеглы край горада. Але ж хацелася яшчэ патрапіць у славутую краму "Ласунак", што знаходзілася, як яму сказалі, у самым цэнтры горада, і купіць прыгожы торт.

Аўтобус давёз Пятра да вакзала. Адтуль ён вырашыў прайсціся пешшу. Пакінуўшы збоку шырокую плошчу з чырвоным касцёлам і Домам ураду, ён убачыў справа будынак цэнтральнага паштамта, злева - гасцініцу "Мінск". Усе дамы выглядалі падобнымі, перш за ўсё з-за ўрачыста строгага шэрага колеру, і ў той жа час іх нельга было пераблытаць адзін з адным. На імгненне малады чалавек затрымаўся ля вітрыны мастацкай крамы. Яму захацелася зайсці ўсярэдзіну і паглядзець на карціны ды скульптуры сапраўдных мастакоў, але, глянуўшы на наручны гадзіннік, ён зразумеў, што часу ў яго не так шмат, і тут жа ўбачыў на процілеглым баку паўкруг барвовых літар, з якіх складалася слова "Купалінка", а крыху далей такі ж сіметрычны паўкруг слова "Ласунак".

Пётр зайшоў у краму, адстаяў чвэрць гадзіны ў чарзе і папрасіў даць яму самы прыгожы і самы смачны торт. Жанчына з павагай паглядзела на пакупніка, які не зважае на цану, і прапанавала яму ўзяць "Ленінградскі". Непадалёку прадаваліся і кветкі, але асаблівага выбару не было. Пётр крыху павесялеў, калі прадаўшчыца загарнула букет у прыгожую паперу. Ён падумаў: "Відно хоць будзе, што не з клумбы нарваў".

Было відавочна, што ён спазняецца, таму Пётр хуценька пашыбаваў у бок гасцініцы "Мінск", паблізу якой, яшчэ ідучы ад вакзала, ён заўважыў прыпынак таксі. Усеўшыся на сядзенне і сказаўшы адрас, Пётр адчуў сябе на невядомай дагэтуль вяршыні. Здавалася, што, каб не трэба было выходзіць з блакітнай "Волгі", якая плаўна каціла па роўным асфальце, ён сядзеў бы, як генерал, пакуль не пачалася б вялікая

вайна. Неўзабаве асфальт скончыўся, але калыханне машыны (што яно магло значыць супраць штодзённых паездак на шахту ў накрытым грузавіку ці трасучкі на ўсюдыходзе па паўночным бездарожжы) не замінала па-ранейшаму адчуваць сябе генералам, якому падпарадкоўваецца не толькі кіроўца, але і ўвесь навакольны свет.

Кіроўца ж лаяўся праз зубы на дарожныя службы, гарадскія ўлады і партыю бальшавікоў. Як вопытны псіхолаг, неўпрыкмет для хлопца, ён націскаў на яго гаманец: "Пасля трох такіх ездак будзеш дзень стаяць на рамонце. А што табе заплацяць? Пакажуць дулю з маслам!" Калі ж ён прагаварыў: "Ну вось і твая вуліца", Пётр успомніў дапытлівы позірк Валянціны пры яе словах пра грушаўскіх хуліганаў і папрасіў кіроўцу спыніцца.

"А то яшчэ падумае, што спалохаўся ісці па яе вуліцы ды ўзяў таксоўку",- сказаў ён сам сабе. А вось і патрэбны нумар. Невялічкі садок, кветнік, накрыты снегам. Надзейна ўхутаны саломаю і хваёвымі лапкамі кусты ружаў. Ад брамкі да веранды вядзе чыста вымеценая сцяжынка. Справа ад увахода - кругленькая кнопка званка.

Пётр пазваніў і адразу пачуў лёгкія крокі. Дзверы расчыніліся, і ён убачыў Валянціну. Яна была апранута ў карычневую спадніцу, якая абцягвала яе прывабныя сцёгны, а потым перахоплівала талію, пад шаўковаю блузкаю хаваліся грудзі, ад якіх нельга было б адарваць вачэй, каб не вабілі да сябе прыгожы твар і хараша прыбраныя хвалістыя валасы. На твары не было недахопаў, як не можа іх быць на карціне ўлюбёнага ў сваю натуршчыцу таленавітага мастака. Карыя вочы пазіралі на госця, нібы зоркі з бяздоннага неба. "Няўжо гэта тая самая Максімаўна ў белым халаце і шапачцы?" - падумаў Пётр і, не ведаючы, што рабіць далей, пасля таго як за ім зачыніліся дзверы, выцягнуў перад сабою дзве рукі з тортам у адной і кветкамі ў другой ды прагаварыў:

- Вось, гэта вам.

- Мне? - здзіўлена спыталася Валянціна. - Давай падзелім правільна: кветкі - Дзіне, а торт - усім нам...

Толькі тут да Пятра дайшло, што запрошаны ён у гэты дом не дзеля таго, каб замілоўвацца хараством Валянціны, а каб пазнаёміцца з яе малодшай сястрой. Незвычайнае імя Дзіна ён пачуў, здаецца, у першы раз.

Валянціна правяла госця ў вялікую залу, якая злёгку шакіравала яго нябачанай дагэтуль раскошай. Звонку дом глядзеўся даволі звычайна, а столь усярэдзіне была нечакана высокай. Падлога з дубовага паркету так зіхацела, што на яе было аднолькава страшна ступіць, як і на вішнёва-зялёныя дывановыя дарожкі.

Гаспадыня, робячы выгляд, што не заўважае разгубленасці Пятра, прапанавала яму сесці на канапу ці ў крэсла і сказала, што Дзіна сёння здала экзамен і ўжо званіла з аўтамата.

- Пэўна, ужо садзіцца ў аўтобус і праз паўгадзіны будзе тут, - сказала Валянціна. - Прабач, Пятро, мне трэба яшчэ на кухню, а ты можаш, калі жадаеш, паглядзець нашу бібліятэку...

Пётр не пасмеў сесці на вялізную скураную канапу, аздобленую хупавымі драўлянымі дэталямі ў выглядзе раслін і вычварных жывёл. Па цэнтры ўздымалася галава арла, а ў бакі расходзіліся крылы. Яны пакрыта пераходзілі ў палічкі, на якіх стаялі розныя мармуровыя і іншыя фігуркі. Па краях стаялі велічныя бронзавыя падсвечнікі.

Уздоўж глухой сцяны стаялі кніжныя шафы, асобныя секцыі іх былі застаўлены прыгожым посудам.

Усё гэта ён разглядваў, прымасціўшыся спачатку на краечку масіўнага крэсла, пакуль не ўздрыгануўся ад мерных гукаў вялізнага гадзінніка. Пётр устаў, падыйшоў бліжэй і прымераўся да яго вышыні (у дзяцінстве сярод яго сябрукоў была такая завядзёнка: мерацца ростам пасля летніх вакацыяў), нібы з жывой істотай, што замест галавы атрымала ад свайго творцы бліскучы залацісты цыферблат з чорнымі лацінскімі лічбамі. Ён прыйшоў да высновы, што гэтая нечакана ажыўшая істота мае аднолькавы з ім рост.

"Знайшоў, чым заняцца. Няўжо гэта можа мець нейкае значэнне?" - пакрытыкаваў ён сябе за такія недарэчныя думкі.

Пётр зрабіў крок у накірунку шафаў з кнігамі, але, убачыўшы неверагодна прыгожае піяніна, якое змясцілася акурат паміж вокнамі, падыйшоў да яго і ледзь стрымаўся, каб не націснуць пальцам на якую-небудзь клавішу. Тое, што накрыўка не была апушчана, наводзіла на думку, што на інструменце іграюць пастаянна, бо каму патрэбна, каб такая дарагая рэч збірала пыл? - падумаў Пётр і накіраваўся да кніжных паліц.

Першая шафа была запоўнена фаліянтамі са скуранымі вокладкамі самага дасканалага вырабу, якія Пётр толькі бачыў, але не паспеў патрымаць у руках у бібліятэцы ўніверсітэта. Залатое цісненне нязвыклых для яго літар: Johann Wolfgang von Goethe... Heinrich Heine...

- Ага, ясна, немцы... - адзначыў для сябе Пётр. - А кнігі хто з іх чытае? Няўжо Валянціна з Дзінай?

Цікава, што б яны адчулі, зайшоўшы ў маю хібару? Печ, што займае ледзь не паўхаты, ложак і зробленыя бацькам два тапчаны, стол, шафік для посуду ды прадуктаў, разшэйданае крэсла, тры зэдлікі ды ўслончык, на які маці сядае, каб абіраць бульбу, ці становіцца, каб

прычыніць альбо адчыніць юшку...

Пётр адвярнуўся ад кніг, пачуўшы знаёмыя крокі Валянціны.

- Ну вось, ужо і сястрычка мая тэпае дадому, - сказала яна з усмешкаю.

Пётр з зайздрасцю падумаў пра тое, што ён ў сваім дзяцінстве ніколі не заўважаў такой пяшчоты ад значна старэйшых брата і сястры. Яны былі дзеці даваеннага пакалення, ён жа нарадзіўся ў другі год вайны. Яны заўсёды мелі свае сяброўскія кампаніі ды часцяком імкнуліся адагнаць яго, нібы назойлівую муху. Асабліва гэтым вызначалася сястра, калі шапталася з дзяўчатамі пра хлопцаў.

Прычынай няспынных разладаў было разгойданае крэсла, на якім сястра рабіла ўрокі. На працягу першага класа Пеця з зайздрасцю пазіраў на яе, бо яму даводзілася выводзіць палачкі ды кручкі, седзячы на матчыным услончыку і паклаўшы сшытак на зэдлік. У другім класе ён пільнаваў момант, каб першаму заняць вольны край стала. Для гэтага трэба было ўкленчыць на крэсла, інакш ён ледзь даставаў барадою да паверхні стала. Сястра спрабавала напачатку зганяць малога, але ён упарта супраціўляўся...

Тым часам Валянціна выйшла з пакоя, і неўзабаве пачуўся яе і яшчэ адзін дзявочы голас. Лёгенька падпіхваючы сястру, старэйшая прагаварыла з парога:

- Ну вось, знаёмцеся. Пётр, гэта наша Дзіначка, будучая вялікая піяністка, а пакуль студэнтка музвучылішча.

Пётр адчуў сябе нечакана падманутым, бясконца расчараваным, бо бачыў перад сабою амаль поўную процілегласць прыгажуні Валянціны. Дзіна была на паўгалавы ніжэйшая ростам. Нельга было вылучыць ніводнай часткі яе фігуры: ні шыі, ні грудзей, ні стана. Усё роўна, як гэта была не дзяўчына, а нейкая расплывістая пляма. З усяго яе аблічча вылучаліся толькі вялікія карыя вочы, якія глядзелі на хлопца з затоеным страхам і чаканнем нечага нядобрага.

Пераадолеўшы пэўную няёмкасць, Пётр зрабіў крок наперад. Дзіна ж стаяла нерухома, пакуль сястра не падштурхнула яе непрыкметна ў спіну і не сказала:

- Падай жа чалавеку руку...

Рука Дзіны была мяккая, але крыху халодная.

- Ну вось і пазнаёміліся, - прагаварыла Валянціна бойка, нібыта напрацавала сабе шматгадовы стаж на пасадзе свацці, а не медсястры. - А цяпер абедаць, бо ўсе прагаладаліся.

- Ды я паспеў паабедаць яшчэ ў бальніцы, - сказаў Пётр.

- Ведаю я наш бальнічны абед: ён разлічаны на тое, каб чалавек

не памёр з голаду ды каб у голадзе раны лепш зажывалі, - адказала Валянціна.

Сталовы пакой быў значна меншы па памерах, і мэбля ў ім была таксама прыгожая, але не такая шыкоўная, як у вялікай зале. Тут Пётр адчуў сябе больш вольна і ўтульна. Пасярэдзіне пакоя стаяў круглы стол, накрыты ружовым абрусам з вышытымі пунсовымі ружамі. У цэнтры па-каралеўску ўзвышалася над астатнімі часткамі парцалянавага сервіза супніца. Ад яе нельга было адарваць вачэй.

- Ну што, садзімся, суп астывае, - сказала Валянціна і тут жа войкнула і пабегла на кухню.

Вярнулася яна з вазаю, у якой стаялі прынесеныя Пятром кветкі.

- Дзіначка, паглядзі, што табе прынёс наш госць, якая прыгажосць!

Пётр жа падумаў, што ў такой вазе прыгажосцю быў бы і пук саломы.

Дзіна ўстала, узяла з рук сястры вазу, паставіла яе на невялічкі кавярны столік і, павярнуўшыся да Пятра, прагаварыла:

- Дзякуй вам...

Абед быў вельмі смачны. Валянціна здолела ўгаварыць госця, каб напачатку ён пакаштаваў армянскага каньяку, а сабе і Дзіне папрасіла накрыць пахучым напоем толькі донцы крыштальных кілішкаў.

Потым яны пераселі да кавярнага століка. На процілеглай сцяне вісеў партрэт саліднага мужыны гадоў шасцідзесяці. Пётр адразу заўважыў, што малодшая дачка была амаль жывой яго копіяй, і з шкадаваннем адзначыў пра сябе, што мужчынская прыгажосць і жаночая - гэта такія розныя з'явы.

- Гэта ваш бацька? - спытаў ён у Дзіны.

- Так, - адказала дзяўчына. - Хутка ўжо будзе два гады, як яго няма з намі.

Пакой напоўніўся надзвычай прыемным гаркаватым пахам, і праз нейкую хвіліну ўвайшла Валянціна, асцярожна трымаючы ў руках паднос з кавярнікам, кубачкамі на сподачках і цукарніцай.

- Панове, банкет працягваецца дзякуючы нашаму госцю, - жартаўліва абвясціла яна. - Чакайце, без мяне не піце, я яшчэ падам вам торт.

- Скажыце, - зноў звярнуўся Пётр да Дзіны, - а што гэта за форма ў вашага бацькі? Ці не ваенна-марская?

- Не, гэта форма пракурорская. Тата быў пракурорам горада Мінска. Яго званне саветніка юстыцыі адпавядала генеральскаму, калі параўноўваць з арміяй. Ён не паспеў выйсці на пенсію, хоць яму ўжо

споўнілася шэсцьдзесят гадоў... Дзіна замаўчала, выцерла тонкім пальчыкам слязінку з вока, і тут з'явілася Валянціна з тортам.

Яна ўбачыла, што паміж маладымі людзьмі пачалася гаворка, і, вельмі задаволеная гэтым, сказала, што просіць прабачэння, але ёй яшчэ трэба на кухню. Там яна занялася мыццём посуду.

Дзіна выцерла слязінку з другога вока і загаварыла далей:

- У таты раптам спынілася сэрца. Дактары прызналі, што нечакана зрушыўся тромб... Раней мы жылі ў самым цэнтры горада, але мама ўвесь час марыла пра свой домік з садам, агародчыкам...

Вось тата і паспеў купіць гэты няскончаны будынак ды перайначыць праект на свой лад... Многія вельмі дзівяцца нашай мэблі, асабліва той, што ў зале. Вы, мусіць, таксама?

Не ведаючы, што адказаць, і саромеючыся таго, што дзяўчына сваімі разумнымі вачыма нібы зазірае проста ў яго сэрца, Пётр нерашуча пацiснуў плячыма, крыху павярнуў галаву.

- Гэта цэлая гісторыя, - загаварыла далей Дзіна. - Пасля заканчэння вайны тата на працягу некалькіх месяцаў яшчэ заставаўся ў Германіі на службе ў штабе дывізіі. Усю вайну ён служыў перакладчыкам і сябраваў з адным афіцэрам. Калі яны ўпершыню пазнаёміліся, абодва былі лейтэнантамі. Паступова тата стаў капітанам, а яго сябар - палкоўнікам, начальнікам штаба. Тата казаў, што большасць гэтых ордэнаў ды медалёў - пры гэтых словах Дзіна паказала рукою на партрэт - гэта ўсё заслугі сябра, які не забываўся ўключаць яго імя ў адпаведныя спісы. Найбольш тата даражыў медалём "За адвагу" і ордэнам Чырвонай Зоркі, якія ён атрымаў за аперацыі ў варожым тыле, калі прыходзілася пераадольваць сотні кіламетраў, хавацца ў балотах, падслухоўваць перамовы ворага па тэлефоне, дапытваць "языкоў" на месцы і - самае страшнае - забіваць іх, бо часцей за ўсё не было магчымасці вярнуцца з імі праз лінію фронту...

Аднойчы тата атрымаў цяжкае раненне, і яго данеслі да сваіх толькі дзякуючы таму, што сябар палкоўнік выслаў спецгрупу разведчыкаў з загадам не вяртацца без перакладчыка. А са шпіталя ён выклікаў хірурга з медсястрою, каб неадкладна аказаць дапамогу. І хто, вы думаеце, была тая медсястра?- спыталася Дзіна.

Пётр зноў нерашуча пацiснуў плячыма.

- Мая мама!

- А чаму вы кажаце "мая"? Хіба ж Валянціна...- здзіўлена спытаўся Пётр.

- Тата ў нас адзін, а мамы розныя, - адказала Дзіна.- Валіна мама загінула ў цягніку падчас эвакуацыі. Іх эшалон разбамбілі каля Барысава.

Тата даведаўся пра яе смерць праз паўтары гады, калі выпадкова сустрэўся на фронце з чалавекам, які на руках вынес яе, нежывую, з вагона. А яшчэ праз некаторы час ён знайшоў і Валю. Ёй не дапісалі адну літару ў прозвішчы, бо яна выгаворвала "л" як "ў" на польскі лад, і замест Злотавай стала Зотавай. А мая мама закахалася ў тату самым незвычайным чынам, закахалася ў чалавека, які апрытомнеў толькі праз тыдзень пасля таго, як яму зрабілі першую аперацыю. Яна дзень і ноч не адыходзіла ад яго, забыўшыся на сон і ежу. Калі ён раскрыў вочы і ледзь чутна прагаварыў "Дзе я?", мама нарэшце заснула так, што яе не маглі разбудзіць на працягу наступных дваццаці чатырох гадзін...

Пётр слухаў, як зачараваны. Дзіна працягвала свой аповед:

- Перад вяртаннем на Радзіму старшыя афіцэры Чырвонай арміі грузілі ці не па паўвагона канфіскаванага нямецкага дабра. Палкоўнік дабіўся такога ж дазволу і для свайго сябра. Але тата вырашыў узяць адно толькі піяніна для Валі і прапанаваў сябру заняць астатняе месца. Той так і зрабіў. Калі іхняя дывізія вярнулася ў гарнізон недалёка ад Мінска, тата хутка звольніўся ў запас. А піяніна разам з палкоўніцкім скарбам засталося чакаць свайго часу на ваенным складзе...

Далей падзеі разгарнуліся самым нечаканым і трагічным чынам. Спачатку арыштавалі камандзіра дывізіі за сяброўскія сувязі з маршалам Жукавым. Адчуўшы нядобрае, татаў сябар, які, дарэчы, на той момант яшчэ так і не знайшоў сваёй сям'і, склаў пісьмовае распараджэнне загадчыку склада выдаць яго рэчы капітану Злотаву. Тату ён папрасіў знайсці жонку і перадаць ёй увесь скарб.

Гэтыя меры перасцярогі не засталіся дарэмнымі. Праз тыдзень палкоўніка арыштавалі. Пазней, праз некалькі гадоў, да таты дайшлі звесткі, што яго сябра жорстка дапытвалі, доўга трымалі ў адзіночнай камеры, дзе ён амаль цалкам страціў розум. Пасля амністыі яго спачатку адправілі ў вёску, дзе застаўся бацькоўскі дом, у якім жылі сваякі. Калі па сяле пайшлі розныя непрыемныя для ўладаў чуткі, ветэрану далі аднапакаёўку ў абласным горадзе, дзе ён жыў адзінокім і нікому не цікавым інвалідам. Там ён ціха памёр праз некалькі гадоў.

Пра пахаванне з атрадам юных піянераў ды ружэйным салютам паклапаціўся гарадскі ваенкамат.

Злотаў прыклаў шмат намаганняў і нарэшце знайшоў тую жанчыну, якая пад канец вайны апынулася недзе на Урале. Яна адказала лістом, што выйшла замуж за іншага чалавека, паспела нарадзіць ад яго дзіця і не збіраецца прымаць ніякіх падарункаў ад чужога чалавека.

- Тата быў маральна разбіты гэтаю навіною і гатоў быў адмовіцца ад спадчыны свайго сябра.

Але тут мама спыталася ў яго: а калі той вернецца пасля зняволення і пачне шукаць сваю маёмасць, то што мы яму скажам? Мама падключыла сваіх знаёмых, якія дапамаглі знайсці месца, дзе можна было захаваць гарнітуры, дываны, посуд, карціны ды ўсё астатняе багацце. Самі ж мы…праўда, асабіста я яшчэ была тады ў маміным жываце, - распавядавала Дзіна, - жылі ў цесным пакойчыку камунальнай кватэры. Мама працавала ў бальніцы, тата напачатку выкладаў нямецкую мову, але хутка паступіў на юрфак, і праз некалькі гадоў яго ўзялі ў пракуратуру. Тады нам далі ўжо асобную кватэру і мы нарэшце перавезлі да сябе піяніна. Я ніяк не магла зразумець: чаму тата з мамаю ўвесь час ледзь не сілаю ды гвалтам спрабуюць усадзіць Валю за інструмент? Бо я дачакацца не магла таго часу, калі вырасту і змагу дабрацца да яго. Таму часцяком прасіла тату, каб узяў мяне на калені і дазволіў удосталь паляпаць па клавішах... А калі ўсё высветлілася пра лёс татавага сябра, мы перавезлі да сябе і астатнія яго рэчы...

- Ну і як у вас тут справы? - раздаўся раптам голас Валянціны. - Да торта амаль не дакрануліся. А ці каву я добрую згатавала?

"Каб мне было з чым параўноўваць", - падумаў Пётр, які за ўсё сваё жыццё не каштаваў нічога падобнага - толькі напоі пад назвай "Народны" або "Залаты колас", якія, па сутнасці, уяўлялі сабою перасмажаны ды перамолаты ячмень.

- Вельмі смачна, дзякуй табе, Валечка, - ветліва адказала Дзіна.

- Адной падзякаю ты ад нас не адчэпішся - банкет працягваецца. І народ цяпер патрабуе фартэпіянны канцэрт, - абвесціла Валянціна.

Яны накіраваліся ў залу. Дзіна села за інструмент, пацерла далоні, паправіла сваю спаднічку і прайшлася пальчыкамі па клавішах, нібыта шукаючы патрэбную першую ноту.

- Спачатку прапаную паслухаць адзін твор з сённяшняга экзамена, - сказала яна. - А пасля будзе "Месяцавая саната".

Усё знаёмства Пятра з фартэпіяннай ды, тым больш, з класічнай музыкай абмяжоўвалася тымі рэдкімі хвілінамі, калі ён чуў ігру на піяніна ў выкананні сваёй пляменніцы, якая дзёўбала пальцамі па клавішах, нібы кураня, дзюбаючы проса.

Першая п'еса падалася яму вельмі складаным, але незразумелым наборам гукаў, і думкі большасцю засяроджваліся на тым, як могуць чалавечыя рукі рухацца з такой імклівасцю. А як запомніць кожную нотку?! Другая ж мелодыя паступова ўцягнула яго ў нябачны прыемны струмень, напоўніла сумам аб нечым далёкім і невядомым. Глянуўшы на Валянціну, ён заўважыў, што тая неадрыўна сочыць за ім. Яна, здавалася, атрымлівала асалоду не столькі ад ігры сястры, колькі ад яго

непрыхаванага задавальнення...

* * *

Едучы дадому ў халодным вагоне прыгараднага цягніка, Пётр па сваёй звычцы перабіраў ў памяці падзеі ўсяго дня, спрабуючы раскласці іх па палічках памяці, вылучыць самае яркае, зрабіць найбольш важныя для сябе высновы. Першае, што жыва паўстала перад яго вачыма, была велізарная розніца ў знешнасці паміж Валянцінаю і Дзінаю.

А яшчэ больш яго ўразілі іх цёплыя зносіны паміж сабою, узаемны няспынны клопат. У іхнім доме ён адчуў асаблівы душэўны камфорт і цяпер, аддаляючыся ад яго, адчуваў уздзеянне лёгкай сілы прыцяжэння да яго сцен, мэблі і абедзвюх сясцёр.

- Руская прыгажуня і брыдкая габрэйка, - прагаварыў Пётр і тут жа схамянуўся, саромеючыся, што супраць сваёй волі вымавіў нейкую бязглуздзіцу, і ўслед падумаў: "З якой гэта нагоды я?"

Адказ прыйшоў амаль імгненна. Ён успомніў, як аднойчы маці сказала пра нейкую жанчыну "жыдоўка пархатая". Бацька, звычайна немнагаслоўны, на гэты раз не змаўчаў:

- Галя, ты не разумееш, што гаворыш, а між тым грашыш перад Богам!

- Як гэта я грашу? - адказала маці. - Жыды, яны і ёсць жыды. Чаго гэта ты за іх заступаешся?

- Ты б лепш растлумачыла, чаго ты на іх нападаеш? Што табе асабіста яны зрабілі? - вельмі сур'ёзна спытаў бацька.

Маці падумала, потым недаўменна паціснула плячыма. Астап Ігнатавіч загаварыў далей, а Пеця, які быў на той час у хаце, навастрыў вушы.

- Па-першае, Галя, жыды - гэта слова абразлівае, па-нармальнаму трэба казаць "габрэі" ці "юдэі". Па-другое, яны з'яўляюцца абраным народам, праз якіх Бог даў усім іншым народам свой закон...

- То чаго ж тады яны ўкрыжавалі нашага Ісуса Хрыста, як яны ў цябе такія харошыя? - усклікнула маці.

- Каб адказаць на гэтае пытанне, трэба хоць раз прачытаць Біблію, - спакойна сказаў Астап Ігнатавіч. - У цэлым усё выглядае так: д'ябал ненавідзіць усё Божае, у тым ліку і абраны Богам народ, а той, хто не ведае слова Божага, знаходзіцца пад уладай сатаны і ненавідзіць габрэяў без усялякай на тое прычыны. А каб лічыць Ісуса Хрыста, як ты кажаш, "нашым", трэба ведаць яго вучэнне, якое выкладзена ў Новым Запавеце. Той, хто не знаёмы з Божым Словам, можа распінаць Хрыста кожны

дзень, таго не разумеючы і не ўсведамляючы...

Гэтыя ўспаміны навялі Пятра на думку, што бацькава рэакцыя на магчымую, хоць і малаверагодную сустрэчу з Дзінай, была б не самай негатыўнай, а вось рэакцыя матулі... Ці не загалосіць: "Людзечкі, дзе ж ён гэтую жыдоўку выпараў на маю галаву?!.."

* * *

Большую частку гісторыі знаёмства з Валянцінай і Дзінай, а потым з іх маці Сарай Ісакаўнай мой сябар распавёў, калі я аднойчы праведаў яго дома пасля выпіскі з бальніцы, дзе яму зрабілі аперацыю на апендыцыт.

Цяпер вернемся да таго, што Пётр паступіў у Беларускі ўніверсітэт ды пачаў займацца на філалагічным факультэце. Амаль увесь гэты час ён далечваў свой рэўматызм і цяпер ужо сустракаўся з Валянцінай не як "блатны" пацыент, а як жыхар сталіцы з часовай прапіскай.

Падчас апошніх канікулаў ён ужо ў другі раз трапіў у спецыялізаваны прафілакторый пад Мінскам. Аднойчы вечарам пасля балючай ін'екцыі ён павінен быў ляжаць нерухома не менш сарака хвілін адзін (сусед падаўся дадому на выхадныя) у сваім пакоі.

І тут з'явілася Дзіна. Яны пра нешта пагаварылі, і, калі Пётр успомніў, што яму пара ісці ў сталоўку на вячэру, дзяўчына сказала, што хоча пачаставаць яго хатняй ежай. Акрамя кароннай матчынай стравы - фаршыраванага карпа - ды смажанай курыцы яна дастала з элегантнай і адначасова ёмістай жаночай сумачкі бутэльку каньяку, бутэльку грузінскай мінеральнай вады, парэзаны на тонкія лустачкі хлеб і нешта загорнутае ў цэлафан.

- А гэта найлепшая закуска, рулецікі з баклажанаў, - сказала Дзіна, убачыўшы зацікаўлены позірк Пятра. - Валюша гатуе іх не горш за маму.

- Ты ведаеш, колькі памятаю, я, калі хадзіў па кірмашах у Данбасе, заўжды ўглядаўся ў баклажаны, але мне так і не выпала іх пакаштаваць, хоць і вельмі хацелася, - сказаў Пётр. - А дома ў нас не чутно, каб хтонебудзь іх вырошчваў...

- А на Камароўцы ўсё расце, - засмяялася Дзіна.

Пётр таксама ўсміхнуўся, але, сам таго не жадаючы, у каторы ўжо раз падумаў, наколькі больш поўным здзяйсненнем яго мараў была б яе сястра Валя...

Вячэра скончылася тым, што яны заснулі толькі пад раніцу. Адзінае, чым мой сябар не пасаромеўся падзяліцца са мною, была

падрабязнасць пра тое, што ініцыятарам галоўных падзей была Дзіна.

Раніцаю Пётр самымі простымі словамі сказаў дзяўчыне, што, калі яна таго жадае, ён гатовы з ёй жаніцца. Убачыўшы ў яе вачах не проста згоду, а вялікую радасць, дадаў, што ім трэба толькі крышку пачакаць, пакуль ён "утрасе" гэтае пытанне з бацькамі.

"Утрасаць" асабліва не было чаго, бо амаль усе пытанні з вяселлем можна было вырашыць за кошт зберажэнняў, якія захоўваліся на яго ашчаднай кніжцы. Разумеючы, што Дзіна будзе ўсяляк схіляць яго да таго, каб "жыць з мамаю", а не на здымнай кватэры, а сродкаў на тое застанецца не шмат, калі іх пусціць на шыкоўнае вяселле ў сталічным рэстаране, Пётр вырашыў адкласці вяселле на наступную восень, а летам падацца на заробкі на Поўнач ці ў Сібір.

Знаёмства Дзіны з бацькамі адбылося па сцэнары, які Пятру няцяжка было прадбачыць. Бацька павітаўся з будучай нявесткай спакойна і хутчэй прыязна, а маці не змагла ўтаіць ці хоць бы прыхаваць у сваім позірку непрыязнасці да "жыдоўкі". Не спраўдзілася і невялічкая надзея Пятра на тое, што ўбогасць яго жытла ахалодзіць гарачае жаданне нявесты звязаць з ім далейшы лёс. У бацькоўскай хаце яны правялі крыху больш за гадзіну, потым пайшлі на абед да Пятровай сястры, а пад вечар накіраваліся ў Мінск.

* * *

Пад Новы год захварэў і злёг у лякарню Астап Ігнатавіч. Праз два тыдні яго перавялі ў абласную бальніцу. Доктар там сказаў Пятру, што хвароба хутчэй за ўсё невылечная і трэба рыхтавацца да самага горшага. Выпісалі Астапа Ігнатавіча ў канцы зімы. Ён быў да непазнавальнасці схуднелы, з пажаўцелым тварам. Але ніяк не быў зломлены яго дух. Ён па-ранейшаму няспынна маліўся, потым драмаў, прачынаўся ды зноў маліўся і чытаў Біблію.

Урэшце, ён нібыта страціў прытомнасць і заціх. Маці схапіла яго за плечы:

- Астап, што з табою? Астапачка, ты мяне чуеш?

У адказ муж толькі нешта прашаптаў. Маці пабегла да суседзяў званіць ў "хуткую дапамогу".

Машыну доўга чакаць не давялося. Фельчар падышоў да ложка, памацаў пульс, уткнуў у вушы слухаўкі, прыклаў фанендаскоп да грудзей хворага і спакойна сказаў:

- Адыходзіць... Гляньце, як хораша памірае чалавек...

У гэты ж самы час па твары Астапа Ігнатавіча прабегла лёгкая

ўсмешка.

Хавалі нябожчыка вернікі з баптысцкай, у якой было ўсяго каля пяці чалавек, і больш шматлікай - пяцідзясятніцкай царквы, той-сёй з суседзяў, таварышы па працы. Дзень выдаўся сонечны і даволі цёплы. Ідучы за труною, Пётр з братам вялі пад руку маці. Побач з імі ці крыху ззаду ішла сястра з мужам і дзецьмі. На працягу ўсяго руху, з невялікімі перапынкамі, вернікі спявалі жалобныя псальмы. Калі пахавальная працэсія наблізілася да цэнтра горада і наперадзе паказаўся шэры будынак райвыканкама, сястра кінулася да пастара пяцідзясятніцкай царквы, высокага статнага мужчыны, з крыкам: "Перастаньце спяваць! Зараз жа спыніцеся, я вам кажу! Вы што, не разумееце, дзе знаходзіцеся?!".

Ведаючы нораў сястры, Пётр не зрабіў ніякай спробы спыніць яе. Напачатку паспрабаваў яе супакоіць старэйшы брат, потым муж. Умяшанне мужа наадварот мела яшчэ горшы эфект. Яна закрычала ва ўвесь голас:

- Ты што, зусім здурнеў?! Цябе ж з працы папруць! Вуліцы падмятаць пойдзеш... - І зноў павярнулася да вернікаў. - Спыніцеся, я вам кажу, бо зараз тут будзе міліцыя...

Як звычайна, у абедзенную гадзіну ў цэнтры горада было шмат людзей. Большасць з іх ішла ў гастраном ці выходзіла з яго з пакупкамі. Сярод іх было шмат працаўнікоў усё таго ж райвыканкама ды іншых дзяржустаноў. Вернікі ж пачалі спяваць як мага гучней, і ўсе мінакі не маглі зразумець, па якой прычыне шалёна крычыць знаёмая многім ім жанчына.

Яна апамятавалася і заціхла насупраць шэрага будынка і далей ужо да самых могілак ішла, нізка апусціўшы галаву...

* * *

Перад летняй сесіяй Пятра выклікаў да сябе дэкан факультэта і папрасіў яго ўзначаліць студэнцкі будаўнічы атрад, які трэба было сфарміраваць і накіраваць у горад Нарыльск на будаўніцтва новага цэха металургічнага камбіната. Дэкан быў вельмі заклапочаны тым, што ў мінулым годзе ў атрадзе яго факультэта, які працаваў у Казахстане, здарыўся трагічны выпадак. Адзін студэнт сеў на матацыкл мясцовага жыхара, сутыкнуўся з аўтамабілем і загінуў на месцы здарэння. Атрад быў расфарміраваны згодна з дзейснымі правіламі, а шэраг кіраўнікоў універсітэта, у тым ліку і дэкан, атрымалі вымовы па партыйнай лініі. На гэты раз было вырашана прасеяць спіс кандыдатаў і адабраць самых

надзейных ды дысцыплінаваных.

Найвялікшая праблема пры "прасейванні кадраў" узнікла менавіта са студэнтам Бальшаковым. У аднаго яго, на погляд дэкана "самага надзейнага ды дысцыплінаванага", не аказалася камсамольскага білета. Камсорг факультэта ледзь не пачаў рваць валасы на галаве, калі Пётр ашаламіў яго словамі: "А я ніколі ні ў якім камсамоле і не быў".

Вырашылі тэрмінова выпісаць камандзіру будатрада дублікат замест нібыта згубленага членскага білета.

Падрыхтоўка да ад'езду займала столькі часу, што Пётр практычна не рыхтаваўся да экзаменаў, а "ехаў на сваім багажы", які, у адрозненне ад іншых студэнтаў, быў надзвычай ёмісты.

Праца ў Нарыльску пакінула на ўсё жыццё самыя прыемныя ўспаміны. Першае заданне, якое атрымаў атрад, было вельмі простым: паглыбіць катлаван пад будучы цэх. Пазней хлопцы даведаліся, што нецвярозы прараб з нівеліром памыліўся роўна на адзін метр, і памылка высветлілася толькі тады, калі на будоўлю прыехалі прадстаўнікі мантажнай арганізацыі і ўбачылі, што іх абсталяванне ні ў якім разе не памесціцца. Першым рашэннем было падняць дах і выкласці сцены яшчэ на адзін метр вышыні, але ўзнікла невырашальная праблема з кранам патрэбнай вышыні. І тады было прынята класічнае савецкае рашэнне: кінуць на аб'ект пабольш людзей. Пытанне: дзе іх узяць? Адказ: а студэнцкі атрад навошта?! Няхай накачваюць мускулатуру...

Галоўны інжынер будоўлі запэўніў Пятра, што заплаціць ім па самых высокіх расцэнках для мёрзлага ці нават скальнага грунту, а на рыццё катлавана перад будынкам дасць бульдозер. Пачалася праца. Сказаць па справядлівасці, не праца, а суцэльная катарга. За рабочы дзень рыдлёўкамі ды ламамі здымаўся толькі верхні слой таўшчынёй у пядзю.

Хлопцы пазнавалі адзін аднаго хіба толькі па голасе, бо твары былі закопчаныя дымам ад кастроў, якія яны палілі дзень і ноч, каб хутчэй раставала зямля. Дзеля таго трэба было перацягаць горы дроў. Трох дзён Пятру хапіла, каб зразумець, што з заданнем яны не справяцца і за шэсць месяцаў, а заробку не хопіць на зваротны білет. На чацвёрты дзень Пётр даў адбой паленню кастроў, а на пяты дзень прыйшоў раніцаю на пляцоўку, ткнуў пальцам у зямлю і ўбачыў, што зямля размерзлася зноў жа толькі на пядзю.

"Так, пачакай, - падумаў ён, - дзесяць сантыметраў у дзень, гэта значыць адзін метр размерзнецца праз дзесяць дзён, але сонца ў палярны дзень свеціць усё мацней, і з кожным днём будзе ўсё цяплей..."

З гэтай думкай Пётр падаўся на пошукі бульдазерыста, які рыў

катлаван перад будынкам, і хутка знайшоў яго на суседнім аб'екце. Ён распытаў яго пра тое, як растае грунт у ліпені, ці зможа ён падвучыць пару хлапцоў-студэнтаў, якія мелі такі-сякі досвед працы на трактарах, і якая для таго спатрэбіцца ўзнагарода. Бульдазерыст аказаўся кемлівым і не вельмі прагным чалавекам, і яны сышліся на тым, што "юныя механізатары" пару дзён ў тыдзень будуць шчыраваць на яго бульдозеры.

Зарплата будзе налічвацца на яго імя, а ён сам ў гэты час будзе займацца больш выгаднай і цікавай справай - нарыхтоўкай дарагой рыбы ў брыгадзе свайго сябра.

Далей Пётр абышоў усе куткі вялізнай будоўлі, апытаў майстроў і брыгадзіраў, ці не патрабуюцца ім вольныя рукі. Паўсюдна адказ быў аднолькавы: "так", а заробак і цяжкасць працы розніліся. У выніку камандзір будатрада дамовіўся з адным прарабам наконт выдалення грунту ды бетонных работ для будаўніцтва цеплатрасы шырынёй чатыры і глыбінёй тры метры з умовай аплаты працы для дваццаці пяці чалавек.

Вярнуўшыся на сваю пляцоўку, ён сабраў сход і растлумачыў атраду "баявую задачу". Найперш трэба было сабраць усе пашпарты ды аднесці іх у аддзел кадраў іншай будаўнічай арганізацыі, а заўтра пяцёра застаюцца на першым аб'екце і імітуюць стаханаўскую працу цэлага атрада. Дзеля таго яны па чарзе нясуць дзяжурства на выпадак з'яўлення начальства ды паляць - чым больш дымныя, тым лепш - кастры, каб было ўражанне, што праца ідзе на поўную катушку. Калі ж узнікне пытанне, дзе астатнія, сказаць што-небудзь пра часовы перапынак. Двое ідуць на трохдзённыя курсы бульдазерыстаў, а па іх завяршэнні пачынаюць здымаць размёрзлы за тры дні грунт. Астатнія дваццаць пяць чалавек займаюцца бетоннымі работамі.

Пётр сабраў пашпарты, склаў спіс з памерамі абутку і вопраткі сваіх байцоў. Распусціўшы атрад на адпачынак, ён узяў з сабою некалькі чалавек і падаўся ў аддзел кадраў, потым на склад, дзе атрымаў боты і робы, якія выдаваліся ўсім, але ў першую чаргу зваршчыкам ды бетоншчыкам. Нарэшце знайшоў кладаўшчыка, каб зранку атрымаць адбойныя малаткі ды шуфлі.

Слова "зранку" не мела сэнсу, бо сонца толькі на некаторы час чаплялася за гарызонт і зноў уздымалася над бязмежнай тундрай. У першыя дні большасць хлапцоў не магла заснуць, яны спрабавалі занавешваць вокны коўдрамі. Але ад гэтага ў класах (жытло ім далі ў сярэдняй школе) станавілася невыносна горача і душна. Паступова ўсе прывыклі засынаць, не закрываючы вокны- таму асабліва спрыяла неверагодная стома.

Прыблізная сума заробку, якую камандзір, зрабіўшы падлікі, агучыў сваім байцам, так натхніла іх, што яны гатовы былі працаваць не разгінаючыся больш за палову содняў. Кожны дзень паўз іхнюю пляцоўку праязджалі грузавікі, у якіх вазілі зняволеных. Неяк з аднаго раздаўся гучны голас:

- Гэй, братва, з якой зоны? У нашай спаць даюць. А ў вашай - не. То давай мяняцца!

Студэнты падалі ў ложкі не мыючыся. Раніцаю не ўспаміналі, што трэба пачысціць зубы. У другую па ліку суботу ўсе, як адна душа, успомнілі, што трэба падацца ў лазню, а ў нядзелю зрабіць першы выходны. Дзень той выдаўся вельмі цёплы - слупок тэрмометра ўзняўся да 30 градусаў. Хлопцы пачулі, што большасць нарыльчан у выходны дзень выбіраюцца на навакольныя азёры, ловяць рыбу і нават плаваюць. Не варта толькі ныраць, бо на глыбіні аднаго метра вада ўжо вельмі халодная, а яшчэ ніжэй проста ледзяная, і неразумных смельчакоў імгненна хапае сутарга, а дапамагчы ім часцей за ўсё немагчыма.

Вяртанне на вучобу Пятра і яго каманды было трыумфальным. Калі браць у сярэднім, то іх заробак быў у тры разы большы, чым у тых, хто працаваў у Беларусі, і ў два разы - чым у тых, хто вярнуўся з Расіі ці Прыбалтыкі. Няспыннай чарадой ішлі віншаванні ад ЦК ды гаркама камсамолу, рэктарата, дэканата. Партрэт камандзіра лепшага будатрада быў надрукаваны ў шматтыражцы большым памерам, чым фатаграфіі прафесараў ды дацэнтаў, якія памясцілі разам з віншаваннямі да іх юбілеяў. Увесь навучальны год у калідорах, сталоўцы ці чытальні за яго спіной чуўся няспынны шэпт: "Бальшакоў... будатрад... Нарыльск... па дзве тысячы..." Многія студэнты шукалі магчымасці загаварыць з ім, пазнаёміцца і, у канчатковым выніку, папрасіцца ў атрад на наступны год. Здаралася, што і дзяўчаты прасіліся на пасаду кашавараў.

* * *

У канцы верасня адбылося вяселле з Дзінай. Роспіс прайшоў вельмі сціпла. На ім прысутнічалі толькі два таварышы з Пятровай групы: у якасці сведкі Рычард Лакенда, які быў камісарам у яго будатрадзе, і Жэня Сычонак, вельмі добры фатограф са сваім дарагім апаратам. З Дзінінага боку за сведку была яе школьная сяброўка Ала. Яна таксама была ў белай сукенцы, якая Пятру падалася нават больш прыгожай, чым у яго нявесты. Цырымонію вяла даволі пажылая кабета. Яна не расцягвала афіцыйную частку, абвясціла маладых мужам і жонкаю, дала ім і сведкам распісацца ў тоўстай кнізе рэгістрацыі шлюбаў і ледзь не забылася пра заручальныя пярсцёнкі. Яна папярэдне паклала іх на

тумбачку справа ад сябе. Пётр звярнуў увагу на тое, што шкляны сподачак, на якім ляжалі залатыя пярсцёнкі, быў расколаты на дзве роўныя паловы.

"Ці не з-за прыкметы, што разбіты посуд на шчасце?" - падумаў ён.

* * *

Вяселле па настаянні Сары Ісакаўны адбылося ў рэстаране "Мінск". З радні маладога былі толькі брат Павел з жонкаю Святланаю, якая была круглая сірата і вырасла ў дзіцячым доме, ды сястра з мужам. З боку маладой гасцей было больш за паўсотні, а блізкай радні яшчэ менш, чым у Пятра, - адна Валянціна. Увесь цешчын род быў знішчаны падчас вайны ў Мінскім гета. Застолле было выключна багатым на адмысловыя закускі ды дарагія напоі. Мужчыны дабрадушна спрачаліся пра перавагі грузінскага, армянскага і ўрэшце згаджаліся, што самым лепшым на стале быў каньяк крымскага завода. Госці ўздымаліся адзін за адным і гаварылі тосты. У зваротах і пажаданнях абавязкова гучала: "Наш дарагі Пётр!".

Па іх імёнах - Барыс Львовіч, Сямён Ізідоравіч, Міхаіл Абрамавіч, Клара Саламонаўна, Роза Якаўлеўна ды ім падобных - Пятру думалася, што не такі ўжо ён і "іхні", але паступова ён пагадзіўся з сваёй нейкай новай і яшчэ ўнутрана неспазнанай існасцю. Дзіна ледзь чутна шаптала мужу на вуха: "Адвакат…Хірург... Скрыпач з опернага... Загадчык стаматалагічнага аддзялення... Пракурор раёна... Дацэнт медінстытута... Дырэктар базы…"

Запомніць усе пункты таго спісу было немагчыма, але Пётр хутка падзяліў яго на чатыры асноўныя катэгорыі: юрысты, медыкі, працаўнікі гандлю, музыканты. Пасля словаў віншавання госці падыходзілі да маладых, абдымалі іх і клалі на стол канверты з грашыма. Ні Пётр, ні Дзіна да іх не дакрануліся, а ў канцы банкета канверты перакачавалі ў сумачку Сары Ісакаўны.

Пару гадоў пра тыя грошы ніхто не ўзгадваў. Сам Пётр лічыў, што яны пакрылі цешчыны выдаткі на вяселле, але пазней на іх былі куплены практычна матэрыялы для будаўніцтва новага дома.

Першы год маладыя пражылі на здымнай кватэры. На апошнім курсе нарадзілася дачка Таццяна, і Дзіна больш часу жыла ў маці. Пятру, грэшнай справай, нават падавалася, што кожнае недамаганне ці хвароба немаўляці былі для яго жонкі хутчэй прыемнасцю, чым горам.

Пасля заканчэння ўніверсітэта Пётр не пажадаў заставацца ў сталіцы, а пераехаў у родны горад і на тым жа пляцы, дзе ў старой хатцы

дажывала свой век маці, пабудаваў бліжэй да вуліцы ўжо ўзгаданы намі дом. У ім нарадзілася другая дачка. Яе запісалі Вольгай не столькі з-за жадання Пятра Астапавіча падоўжыць спіс пушкінскіх гераінь, колькі з-за жадання пазбегнуць магчымай рэакцыі яго маці на з'яўленне на свет унучкі пад іменем Софа, Сара ці Цыля...

* * *

Можна было б выказаць спадзяванне, што ўся нізка ружанца падзей з жыцця Пятра Астапавіча Бальшакова ў ціхім райцэнтры цяпер ужо будзе складацца толькі з роўных, гладка шліфаваных пацерак: сям'я, праца, шахматныя турніры, развядзенне рэдкіх сартоў ружаў, штотыднёвае наведванне лазні. Але і на самай роўнай дарозе могуць надарыцца нечаканыя камяні. Пры кожным успаміне пра Суконнага і востры жалезны прэнт у сваёй руцэ Пётр Астапавіч узгадваў пра абяцанне, дадзенае самому сабе: ніколі больш не ўвязвацца ні ў якія экстрэмальныя сітуацыі. Але нездарма кажуць, што самае цяжкае ў жыцці - заставацца верным сваім уласным прынцыпам.

Аднойчы вечарам, калі ўжо пачаў спускацца змрок, Пётр Астапавіч вяртаўся дадому з пасяджэння педсавета. Ён набліжаўся да аўтастанцыі і, як звычайна, пачаў разважаць, ці варта скараціць шлях ды падацца па добра натаптанай сцежцы праз пустку, ці пайсці проста ды штосьці купіць у "падвале ля міліцыі" - так гараджане называлі самую блізкую ад аўтастанцыі краму.

У гэты час ля пасадачнай пляцоўкі пачуўся жаночы лямант, потым тупат ног і перад ім паказалася фігура чалавека. Тут жа наперадзе раздаўся міліцэйскі свісток, а ўслед за ім крык: "Трымай зладзюгу!".

Забыўшыся на ўсе свае жыццёвыя прынцыпы, Пётр Астапавіч падаўся з правага боку на цэнтр тратуара, каб перагарадзіць шлях таму, хто ўжо амаль наблізіўся на адлегласць выцягнутай рукі. Незнаёмец, які вельмі спрытна паказаў, што хоча абабегчы перашкоду злева, тут жа рынуўся ўправа. Разумеючы, што схапіць злачынцу рукамі ён не паспявае, Пётр Астапавіч рашыў збіць яго падножкай. Толькі паспеў ён выставіць левую нагу, за якую тут жа зачапіўся ўцякач, як сам войкнуў ад рэзкага болю ў правай назе і цяжка асунуўся на зямлю.

Гэтая надзвычайная падзея, як усё хутка высветлілася, стварылася з-за таго, што вядомы ўсяму гораду алкаш па мянушцы Бузя падгледзеў праз акно, што касірша пакінула сваё месца і пабегла за кіроўцам аўтобуса, які забраў ведамасць, але выпадкова пакінуў нешта з сваіх рэчаў. Бузя ўскочыў у памяшканне касы, выхапіў стос купюраў і накіраваўся ў бок грамадскай прыбіральні. Касірша, убачыўшы здалёк

(тэрыторыя аўтавакзала была асветлена лепш, чым любая іншая частка горада) расчыненыя дзверы, а потым Бузю, узняла крык. За прыбіральняю пачыналася пустка, затым ішоў неглыбокі роў, які няцяжка было пераскочыць, зноў пустка ды дамы прыватнага сектара. У гэты момант з прыбіральні выйшлі двое мужчын. Бузя, разумеючы, што ад іх ён не здолее адарвацца, развярнуўся і пабег назад у горад. Касірша кінулася да тэлефона, каб выклікаць міліцыю, да якой было не больш сотні крокаў, і адтуль адразу выбеглі два міліцыянты.

Пётр Астапавіч сіліўся ўстаць на ногі, але здолеў толькі крыху ссунуцца на край тратуара, каб даць дарогу ахоўнікам парадку. Яны пачалі надзяваць на Бузю кайданкі, і той дзіка зароў, бо далоні яго былі да крыві садраныя аб асфальт.

Касірша тым часам збірала грошы, якія паспеў выкінуць злодзей.

- Можаце самі дайсці да аддзела? - спытаўся ў Бальшакова міліцыянт.

- Не ведаю, бо не магу ўстаць на нагу, - адказаў Пётр Астапавіч.

- Тады выклікаем "хуткую", а заўтра да вас падыдзе следчы і запіша вашы паказанні...

Калі праз некалькі дзён я наведаў Пятра Астапавіча, ён ледзь перасоўваўся па хаце з загіпсаванай нагой. Паўжартоўна я сказаў, што маю гонар весці сяброўства з героем апошніх навін нашага гарадка. Ён перапыніў маю тыраду словамі, што каб быў паэтам, то, напэўна, склаў бы верш пад назвай "Гераізм ці ідыятызм?".

- Ведаеш, што ва ўсім гэтым самае непрыемнае? - спытаўся ён і тут жа адказаў: - Тое, што я ўжо тройчы даваў сабе слова не лезці ні ў чые справы, дзе могуць узнікнуць праблемы, у выніку якіх цябе яшчэ зробяць вінаватым.

- Прабач, Пётр Астапавіч, - адказаў я, - пра два выпадкі, здаецца, я ўжо чуў. Гэта сутычка з Суконным ды вядро, вылітае на галаву стваральніка Праграмы партыі. І за адно, і за другое я бясконца ўдзячны лёсу, бо ўсё магло скончыцца тым, што ў маёй партыі аматараў гарачай пары не было б такога ганаровага члена. А што ж яшчэ можа стаць ў адзін рад з такімі неверагоднымі падзеямі?

Перасоўваючыся з дапамогай мыліц, мой сябар усё ж здолеў неяк накрыць стол. Пасля некалькіх чарак да яго вярнуўся добры настрой, які звычайна быў яму ўласцівы падчас усіх нашых сустрэч.

Ён падзякаваў мне, што я знайшоў час, каб праведаць ды падтрымаць яго. Я сказаў, што для мяне сустрэчы з ім - гэта заўжды своеасаблівае вяртанне ў дні юнацтва, калі я з захапленнем чытаў кнігі пра самыя розныя прыгоды.

Пётр Астапавіч зразумеў, куды я хілю, і сказаў, што ўспамянутае сёння і трэцяе па яго ўласным уліку глупства адбылося не ў Маскве, не ў тундры і не ў тайзе, а ў школе, дзе ён папярэдне працаваў. Яна знаходзілася даволі далёка ад яго дома, ў процілеглым баку горада, але там яму прапанавалі самую вялікую вучэбную нагрузку ды, адпаведна, самы высокі заробак. Дзіне на кар'еру вялікай піяністкі давялося забыцца, і яна ўладкавалася настаўніцай музыкі і спеваў у самую прэстыжную школу горада, дзе займаліся дзеці вышэйшага начальства і куды больш шчодра накіроўваліся сродкі з раённага бюджэту. Аднойчы дырэктарка, навёўшы даведкі пра яе мужа, спытала Дзіну, ці не хоча ён перайсці ў іхнюю школу. Яна сказала, што ў школе можа існаваць здаровы калектыў толькі пры наяўнасці пэўнай колькасці мужчын, і дадала, што гатова паклапаціцца пра тое, каб Пётр Астапавіч нічога не страціў у заробку ў параўнанні з мінулым месцам працы.

Яшчэ некалькі гадоў Пётр Астапавіч, памятаючы пра тую прапанову, не мог пакінуць дзяцей, у якіх ён быў класным кіраўніком. Тую школу наведвалі шмат вучняў з навакольных вёсак. Хоць сельскія дзеці ў адрозненне ад гарадскіх значна горш валодалі рускаю моваю, яны ў большасці сваёй былі шчырымі, сардэчнымі ды стараннымі. Найвялікшай праблемай менавіта гэтай школы была значная колькасць дзяцей з сям'яў вернікаў: іегавістаў, баптыстаў ды пяцідзясятнікаў. Яны не парушалі дысцыпліну, добра вучыліся, і на ўроках магла быць праблема толькі тады, калі настаўніца біялогіі ўспамінала, што чалавек мае паходжанне ад малпы. Часцей за ўсё дзеці маўчалі, але здараліся інцыдэнты, калі яны ўслых гаварылі, што чалавека стварыў Гасподзь Бог. Адзін хлопчык, якога настаўнік матэматыкі лічыў самым здольным вучнем за ўсю сваю кар'еру, выпаліў настаўніцы проста ў твар:

- Вы, магчыма, і ад малпы, а я ведаю, што я - ад Бога...

Такі цяжкі ўдар мала б хто вытрымаў, але ў настаўніцы мелася свая падрыхтаваная на такі выпадак дубінка, і яна неадкладна нанесла свой удар у адказ:

- Чула я пра твайго Бога. Чула і такую несусветную лухту, як Ёна трое содняў прасядзеў у чэраве кіта, а потым выскачыў на бераг і пайшоў далей сваёй дарогай...

Бясконцыя праблемы для педагогаў былі ў выхаваўчай працы, асабліва, калі ішоў прыём у акцябраты, піянеры ды камсамол. Настаўнік матэматыкі неяк расказаў Бальшакову, што той самы здольны сярод яго вучняў, калі ўсім навучэнцам першага класа было загадана з'явіцца на ўрачыстую лінейку святочна апранутымі, паслухмяна прыйшоў на заняткі ў белай кашулі. А калі на лінейцы лепшыя піянеры пачалі пры-

мацоўваць на грудзі першакласнікам чырвоныя зорачкі, хлопчык успрацівіўся і сказаў, што не жадае насіць ніякай зоркі. Дзяўчынка пабегла да піянерважатай, тая - да яго настаўніцы. Ветэран педагагічнай працы і Вялікай Айчыннай вайны, рашучая і валявая жанчына, якой дзеці, ад малога да вялікага, баяліся, як агню, і з павагай паглядалі на яе баявыя ордэны і медалі, не прамаруджваючы, кінулася да вучня і загадала прышпіліць зорачку. Той адступіў назад і цвёрда сказаў:

- Я не хачу!

- Што?! - закрычала настаўніца. - Ты ў мяне зараз вельмі захочаш! - і з усёй сілы пляснула рукой па твары дзіцяці. Хлопчык заліўся крывёю. Жудасна выглядала яго белая кашуля, па якой разышліся пунсовыя кроплі і падцёкі.

Побач знаходзіўся радзільны дом, дзе працавала маці хлопчыка. Ёй нехта перадаў ці пазваніў па тэлефоне, і хвілін праз пятнаццаць - лінейка па загадўзе дырэктара школы скончылася - жанчына была ўжо ў школьным двары. Яна знайшла свайго Сашку на лаўцы пад кустамі бэзу. Ён сядзеў, закінуўшы галаву назад, побач з ім стаяў старэйшы брат Дзіма. Той быў усяго на год старэйшы за Сашку, але роўны з ім ростам.

Год таму, падчас такой жа лінейкі, Дзіма звярнуўся да настаўніцы і сказаў, што яму моцна баліць жывот. На наступны дзень настаўніца спыталася, дзе яго зорачка, і ён адказаў, што забыўся дома. Больш гэтая праблема для яго не ўзнікала.

- Саша, - спыталася маці ў малодшага, - табе што-небудзь баліць? Як твая галоўка?

- Мне нічога не баліць, мама, я пайшоў бы ў клас, але мне сказалі ісці дадому і памяняць кашулю. Сказалі яшчэ, што сёння можна на ўрокі не хадзіць.

Маці паклала руку на сынаў лоб, пагладзіла па валасах і спыталася:

- Гэта твая настаўніца? Ніна Пятроўна?

Сын моўчкі кіўнуў галавою.

- Ты ёй даруй, сынок. Яна не ведае Госпада так, як мы. А ты радуйся, што праліў сваю кроў за Ісуса Хрыста, і маліся за яе...

- Добра, мама, - ціха прагаварыў хлопчык.- Буду маліцца.

Гэтая гісторыя адгукнулася Бальшакову сумам у яго сэрцы, бо ўспомніўся бацька Астап Ігнатавіч.

Аднойчы маці, прыйшоўшы з бацькоўскага сходу, сказала яму, што наконт Пятра была толькі адна заўвага ад настаўніка: не насіць піянерскі гальштук. Бацька крыху памаўчаў, а потым сказаў:

- А навошта гэты сімвал крыві? Мала камуністы яе пралілі?

* * *

Аднойчы Бальшакоў прыйшоў на заняткі, як звычайна, за дзесяць хвілін да званка. У вестыбюлі насупраць дошкі аб'яваў сабралася купка вучняў розных узростаў. Падобна было, што нехта з іх гучна чытаў загад: "...вучню... класа... аб'явіць строгую вымову...".

Настаўнік рашыў падыйсці бліжэй ды глянуць, што гэта за загад. Толькі пачаў ён прабягаць вачыма першыя радкі, як раптам перад ім узнікла нечыя рука, схапіла і згамтала паперку, змест якой ён не паспеў зразумець. Павярнуўшыся, Пётр Астапавіч убачыў перад сабою вышэйшага за сябе вучня, ў класе якога ён ніколі не працаваў, але ведаў яго прозвішча - Яшкоўскі. Ведаў з-за таго, што шмат хто з працаўнікоў школы пастаянна скардзіўся на нахабныя паводзіны "цяжкага падлетка". Такое азначэнне пастаянна ўжывала намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце. Пажылыя настаўнікі супакойвалі малодшых калегаў і казалі, што яго бацька, калі ў свой час вучыўся ў гэтай жа школе, быў такім жа неўтаймоўным, проста хуліганам, але перарос, вярнуўся з арміі, жаніўся і цяпер працуе ці то электрыкам, ці то механікам на гарадскім малаказаводзе. Ну а гены, як кажуць, пальцам не раздушыш...

Такія думкі прамільгнулі ў галаве Пятра Астапавіча, да таго ж ён адчуў, як гарыць яго левае вуха, за якое зачапіўся рукою гэты малакасос. Як гэта рэдка з ім здаралася, але ўсё ж, як мы ўсе ведаем, здараецца ў пэўныя моманты з кожным чалавекам, Бальшакоў, забыўшыся, хто ён і дзе ён, імгненна згроб нахабніка, як пук высушанай бялізны з вяроўкі, і панёс яго проста перад сабою.

Ён крыху апамятаўся ля дзвярэй кабінета дырэктара, моцна прыціснуў сваю ношу праваю рукою да сцяны, леваю адчыніў дзверы ў прыёмны пакой, зноў ухапіў Яшкоўскага і шпурнуў таго ў адчыненыя дзверы. Дырэктар, на шчасце, быў на месцы, бо невядома чым магла б закончыцца распачатая расправа. Ён прыўзняўся з крэсла і толькі змог прагаварыць:

- Пётр Астапавіч, што з вамі? Што здарылася?

Яшкоўскі даляцеў амаль да дырэктарскага стала, але ўстаяў на нагах. Здавалася, што ён першы з трох зразумеў, што адбываецца, і сарваным голасам правіскатаў:

- Не маеце права! Я ўсё маме раскажу!..

Ён паглядзеў на дырэктара, скасіў вока, але не пасмеў глянуць на Бальшакова і выйшаў з кабінета.

- Што адбываецца, Пётр Астапавіч? Сядайце, раскажыце, - сказаў дырэктар.

Бальшакоў коратка і стрымана, не паглыбляючыся ў свае ўласныя перажыванні, расказаў пра ўсё, што адбылося.

- Так, так, шаноўны Пётр Астапавіч, пра маму ён не пажартаваў. Мама - гэта сур'ёзна. Хто-хто, а яна-то ўжо далася нам у знакі…

Дырэктар пацёр адною рукою сівую скронь, а другою нервова забарабаніў па паліраванай паверхні стала.

- У лепшым выпадку праз гадзіну яна будзе тут, у горшым - праз паўгадзіны ў загадчыка раённага аддзела адукацыі.

Мудры дырэктар не памыліўся з часам, а вось з месцам... Праз гадзіну ўзгаданая жанчына была са сваім атожылкам у раённай паліклініцы і стукала кулаком па стале намесніка галоўнага ўрача, даводзячы, што калі траўматолаг не накіруе сына на рэнтген, каб пераканацца, ці няма пераломаў касцей, і не падпіша даведку аб нанесеных яму цялесных пашкоджаннях, то яна зараз жа накіруецца ў Мінск і праб'ецца да самога міністра аховы здароўя, а бяздушным бюракратам у гэтай лякарні шмат каму не паздаровіцца...

Намеснік галоўнага ўрача цярпліва выслухаў і адказаў на яе словы, што ў грамадзянкі вельмі дзіўныя ўяўленні і клопаты аб здароўі, ды пажадаў ёй прыемнага падарожжа ў сталіцу.

У Мінск кабета не трапіла, але амаль паўдня штурмавала кабінеты райвыканкама ды райкама партыі. Урэшце яе запэўнілі, што заўтра ж у школу будзе накіраваны інструктар, які вывучыць гэтую справу і напіша дакладную на імя сакратара па ідэалогіі.

Інструктар сам паспеў пакаштаваць настаўніцкага хлеба, потым працаваў у камсамоле. Ён пагутарыў з дырэктарам, класным кіраўніком пакрыўджанага вучня, некалькімі настаўнікамі, тэхнічкаю, што апынулася сведкаю падзеі і сказала яму імёны дзяцей, якія ў той час стаялі ля дошкі аб'яваў. Чым далей ішоў разбор справы, тым глыбей інструктар пераконваўся ў тым, што яна не каштуе выедзенага яйка. Апошнюю кропку ён паставіў для сябе падчас гутаркі з "пакрыўджаным", падчас якой быў бясконца здзіўлены яго фанабэрыстасцю ды нахабствам.

"Што ён рукі распускае? Якое ён мае права?"

Аднаго гэтага "ён" хапіла інструктару зрабіць усё магчымае, каб не падставіць Бальшакова пад удар.

Але актыўнасць маці не зменшылася. Яна пачала пісаць у газеты ды розныя інстанцыі. Нарэшце на адным стале ў абласным аддзеле народнай адукацыі сышліся разам два пісьмы ад змагаркі за правы свайго дзіцяці: адно, дасланае непасрэдна з Міністэрства адукацыі, другое - з рэдакцыі "Настаўніцкай газеты". У выніку ў раённы аддзел прыйшло патрабаванне аб "неабходнасці прыняць меры з нагоды

непедагагічных дзеянняў". Пакрыўджаная маці атрымала-такі гаючы бальзам на сваё параненае сэрца ў выглядзе копіі загада па аддзелу народнай адукацыі аб строгай вымове настаўніку П.А.Бальшакову.

Калі на чарговым педсавеце завуч школы зачытала гэты загад, Пётр Астапавіч, які сядзеў ззаду і мог назіраць за ўсімі прысутнымі, быў здзіўлены іх поўнай абыякавасцю. Адна толькі настаўніца хіміі, маленькая ростам жанчына, не вытрымала, устала ды загаварыла, з цяжкасцю падбіраючы словы ад хвалявання:

- Паслухайце, ды як жа гэта... што ж гэта атрымліваецца? Гэты... будзе над намі ўсімі здзеквацца? А каб там апынулася я, а не Пётр Астапавіч, ці хто-небудзь з вас? Мяне б ён, напэўна, выкінуў на сметнік, каб я толькі адкрыла рот. А я ж магла б адкрыць...

Гэтае шчырае простае слова падзейнічала на калег з сілай, якая прымусіла кожнага апусціць галаву. Ніжэй за ўсіх схілілася сівая галава калегі Пятра Астапавіча, настаўніцы рускай мовы, якая збіралася ў наступным годзе ісці на пенсію. Злашчасны загад быў вынесены дырэктарам па прычыне таго, што падчас урока рускай літаратуры яна прыгразіла Яшкоўскаму паставіць "дрэнна" за чвэрць. У адказ той, нядоўга думаючы, сказаў: "А вось гэта бачыла?" - і выставіў дулю.

Усім крыху палягчэла, калі дырэктар сказаў, што гэты выпадак стаўся самым складаным і самым непрыемным у яго працы на пасадзе кіраўніка школы. У яго самога ніколі ў жыцці не паднялася б рука выносіць пакаранне настаўніку за такія дзеянні. Ён і надалей будзе паважаць Пятра Астапавіча як настаўніка і чалавека.

Ідучы дадому, Бальшакоў падумаў, як нечакана можа вяртацца жыццё на свае незразумелыя чалавеку кругі. Міжволі прыйшло на розум параўнанне таго колішняга паўночнага вагончыка з пасяджэннем педсавета. Зноў пачуўся крык заўсёды ціхмянага і зусім не багатырскага складу Лёні Маскалёва, які падараваў імгненне, што выратавала Пятру жыццё... Услед за гэтым пацяплела на сэрцы ад успаміна пра простыя, па-дзіцячы наіўныя словы настаўніцы хіміі.

Канчатковым вынікам гэтых думак стала тое, што чарговы навучальны год Пётр Астапавіч пачаў у новай школе.

* * *

Мне хочацца падкрэсліць, што нашыя з Пятром Астапавічам сустрэчы ды гутаркі на працягу многіх гадоў, у дачыненні якіх я цалкам падтрымліваю азначэнне "застойны перыяд", былі для мяне не проста прыемным баўленнем часу, а сапраўдным выратавальным кругам у моры шэрага існавання, вентыляцыйнай сістэмай у глыбокай шахце,

астраўком волі сярод архіпелага, дзе за нестандартную думку цябе могуць назваць, у лепшым выпадку, "надта разумным", а часам і "не нашым", далей "дысідэнтам", а там ужо і "ворагам", якога трэба гнаць з настаўніцкай працы ды адпраўляць з сахаром у калгас.

Сяброўства з Пятром Астапавічам прынесла мне вялікую карысць у тым сэнсе, што яго значна больш багаты жыццёвы вопыт пераконваў мяне ў тым, што трэба быць як мага больш асцярожным ў словах, асабліва ў дачыненні партыі, савецкай улады. Толькі застаючыся сам-насам, мы маглі весці дыскусіі па шырокіму спектры самых розных тэм. Колькі іх у нас было!

Чаму ў абутковых крамах альбо даўжэзныя чэргі, альбо адны кірзавыя боты летам ды сандалеты зімою? Чаму ў сродках масавай інфармацыі штодзённа распавядаюць пра працаўнікоў мясакамбінатаў, якія асвойваюць вытворчасць усё новай высакаякаснай прадукцыі, а ў крамах прадаюцца толькі два гатункі кілбасы, якія вырабляюцца спажывецкай кааперацыяй? Чаму тая, што па пяць рублёў, абавязкова напіхана жоўтым салам, а з той, што па тры, калі яе добра сціснуць, цячэ мутная вада?

Які твор - "Доктар Жывага" Пастэрнака ці "Паднятая цаліна" Шолахава - з'яўляецца больш антысавецкім? Абодва пісьменнікі - нобелеўскія лаўрэаты, але чаму першы ўшчэнт спляжаны партыйнай крытыкай, а другі ёю ж аблашчаны, як любаснае дзіця?...

... Аднойчы матэрыялы чарговага з'езда КПСС мы пачалі "вывучаць" з падлікаў, колькі разоў у газеце будзе ўспамянута прозвішча Леніна і колькі - Брэжнева. Закончыўшы "аналіз", Пётр Астапавіч усклікнуў:

- Глянь, і тут ачко, і там ачко! Што адзін, што другі - па дваццаць аднаму разу! Ну нехта ж, такі дасціпны, пра гэта паклапаціўся - сцяг яму ў рукі!

Наша "вывучэнне" матэрыялаў XXV з'езду КПСС закончылася тырадай Бальшакова:

- Нарэшце ў краіне спросціцца хоць адна праблема. Балбатня ўвесь час адна і тая ж, а цяпер застанецца толькі пасля кожнага чарговага з'езду дапісваць ці дамалёўваць адну палку.

Дамалёўваць палку на стэндах, лозунгах ды транспарантах давялося толькі аднойчы - пасля XXVI з'езду. Усе папярэднія з'езды дагэтуль абвяшчаліся гістарычнымі, а дваццаць шосты стаў выключна гістарычным - гэта значыць, апошнім, які ціха пагрузіўся ў мора Часу, акіян Вечнасці...

* * *

Прайшло роўна дзесяць гадоў, як Пётр Астапавіч пакінуў белы свет. Я не змог правесці яго ў апошні шлях, бо працаваў у далёкай Сірыі, на той час спакойнай і заможнай краіне. У краіне, дзе сёння адбываюцца неверагодна трагічныя падзеі, з якіх пачынаюцца стужкі сусветных навінаў.

Сказаць па шчырасці, не вельмі шкадую, што не пабачыў свайго сябра нерухомым у труне. Ён па-ранейшаму жыве ў маіх успамінах як вельмі салідны і прыстойны ва ўсіх дачыненнях чалавек, сапраўдны мужчына і руплівы гаспадар, вельмі крытычны, але ніколі не паспешлівы ў ацэнках інтэлігент і - бадай што, самае галоўнае асабіста для мяне - надзвычай цікавы суразмоўца.

Па вяртанні з Сірыі я папрасіў Дзіну паказаць мне магілу мужа. Ён быў пахаваны побач з бацькамі. З абодвух помнікаў на мяне глядзеў амаль адзін і той жа мужчынскі твар, аднолькавага, прыблізна шасці-дзесяцігадовага ўзросту - вельмі падобнымі выглядалі бацька і сын.

Я заплюшчыў вочы і пачаў маліцца, а калі закончыў, Дзіна сказала мне:

- Ты памятаеш, як Пётр быў незадаволены тым, што ты падаўся ў баптысты? А ці ты ведаеш, якая была галоўная прычына?

Я, не задумваючыся, адказаў:

- Што страціў прыяцеля, з якім можна было выпіць добрую чарку і пагутарыць на любую тэму. А для мяне адзіна цікавай тэмай стала ўсё тое, што звязана з Божым Словам, вераю, пытаннямі вечнага жыцця.

Дзіна крыху памаўчала і сказала:

- Падобна, што так… Але я заўважыла вось што: за некалькі дзён да смерці Пётр пачаў адчуваць сябе дрэнна і, калі вечарам клаўся на канапу, браў у рукі не газету, не кнігу ці часопіс, як звычайна, а Біблію. Чытаў нядоўга, а ўсё больш глядзеў перад сабою і пра нешта думаў…

- Дзякуй табе, Дзіна, - прагаварыў я, - ты мне паведаміла самую радасную навіну, якую я толькі мог пачуць пра ўсё жыццё Пятра. Каб зараз устаў з магілы яго бацька Астап Ігнатавіч, і ён разам са мною несумненна ўзрадаваўся б - для верніка няма нічога больш радаснага, як адчуваць, што малітвы да Госпада аб нашых родных і блізкіх не застаюцца пустым гукам. Слава Богу, у мяне ж цяпер да канца маіх дзён будзе надзея на яшчэ адну радасную сустрэчу ў новым жыцці…

*2014 г.*



# *Зоя Капуста*

*Зоя Капуста (Кулік Зоя Мікалаеўна) нарадзілася ў в. Грыцкавічы Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці ў сям'і сялян. Паступіла і скончыла сярэднюю школу імя Я. Коласа ў горадзе Нясвіжы, Менскі педагагічны інстытут па спецыяльнасці "Выкладчык педагогікі і псіхалогіі".*

*Працавала загадчыцай санаторнага дзіцячага садка ў горадзе Нясвіжы, намеснікам генеральнага дырэктара РУП "Нясвіжская ЖКГ" па сувязях з грамадскасцю і СМІ, экскурсаводам у рэзідэнцыі музеі-запаведніку кн. Радзівілаў. Жыве ў горадзе Нясвіжы.*

*Зоя Мікалаеўна праяўляла цікавасць да творчасці яшчэ са школьнай парты і часта свае вершы, нататкі друкавала ў насценным друку школы імя Я. Коласа г. Нясвіжа, нават спрабавала складаць кніжкі-малыя для аднакласнікаў. Першыя публікацыі былі надрукаваны ў Нясвіжскай раённай газеце "Чырвоны сцяг" у васьмідзесятыя гады на педагагічную тэматыку, а затым увесь час публікавала на працягу многіх гадоў у раённай, абласной, рэспубліканскай перыёдыцы артыкула і нататкі.*

*У сувязі з вытворчай неабходнасцю шмат запісаў рабіла для раённага і рэспубліканскага радыё, у прыватнасці, у супрацоўніцтве з карэспандэнтам рэспубліканскага радыё Святланай Башылавай.*

*У перыяд працы намесьнікам генеральнага дырэктара "Нясвіжскай ЖКГ" па сувязях з грамадскасцю і СМІ была ініцыятарам і арганізатарам мноства творчых вечароў, мерапрыемстваў, "Тэатра мініяцюр", вяла ўсю працу літаратурнага рэдактара і мастацкага кіраўніка ДК "Камунальнік", дзе складала мноства сцэнараў, тэкстаў для ранішнікаў, спектакляў, мерапрыемстваў, якія ў дадзеных момант рыхтуюцца да*

*выпуску асобнай кнігай.*

*Піша публіцыстыку, вершы, апавяданні.*

*Пасля 2010 года пачала друкаваць вершы і апавяданні ў міжнародных альманахах "Где-то во Вселенной", "Лестница надежды" літаратурнай садружнасці "МИР" (Літва).*

*У 2011 годзе апавяданне "Бацькоўскі скарб" апублікавала газета "Звязда".*

*Выпусціла чатыры кнігі :*

*"Перад табой стаю" - вершы і апавяданні ў 2016 годзе;*

*"Капыльская містэрыя" - аповесць на беларускай мове ў 2017 годзе;*

*"Ад Нясвіжа ды Грунвальда" - паэма на беларускай мове ў 2021 годзе;*

*"Венерыны слёзы" - апавяданні, эсэ ў 2021 годзе.*

*З'яўляецца членам МАПП (Міжнароднай Асацыяцыі пісьменнікаў і публіцыстаў) літоўскага аддзялення, афіцыйны прадстаўнік МАПП у Беларусі. Удзельнічае ў літаратурных аб'яднаннях "Полымя" г. Мінск, "Купальскія світанкі" Баранавічы, "Волошкі" г. Нясвіж, займаецца актыўнай грамадскай працай па прапагандзе творчасці пісьменнікаў, выхаванні моладзі.*

*Член Саюза пісьменнікаў Беларусі (Мінскае гарадское аддзяленне).*

*Аўтар і вядоўца літаратурна-публіцыстычнай праграмы "Вас вітае Беларусь" на міжнародным радыё "Краіна талентаў". У праграме выступае з публіцыстычнымі матэрыяламі пра культурнае жыццё краіны, пра яе гісторыю, звычаі.*

*Замужам. Муж - Кулік Пётр Дзмітрыевіч. Дачка - Бароўская Кацярына Пятроўна.*

# Кромань*

***(урывак з рамана)***

### Прадмова

Цячэ, плынню сыходзіць час, а з ім разам і жыццё зямное.

То марудзіць, то ціхенька плыве сярод роўнядзі змэнчаных чалавечых лёсаў, абрастае будыллём ды хмызняком, а часам цудоўным квеценнем пакаленняў, народаў, асоб з іх домысламі ды марамі, вынікамі дзейнасці ды розуму.

---

* *Кромань* - патаемнае месца

То скрыпне, паверне маці-зямля кола гісторыі і пабяжыць, забуркоча, наробіць паваротаў ды петляў, разбіваючыся аб патаемныя валуны трагічнасці, фатальнасці Боскай волі.

Гучыць чароўнай скрыпкай, плача невыноснай жалейкай зямны час лёсаў чалавечых і бяжыць, бяжыць сваёй нязведанай дарогай.

А ўладарыць над гэтым усім, холадна пазіраючы, высокае зорнае неба.

Клапатліва ловіць скрып зямнога кола, не дазваляе пакрывацца тванню рэчцы зямнога жыцця.

І ўсё новыя, і новыя крыніцы поўняць плынь рачную. Бягуць, плывуць хвалі, абмываючы і наталяючы час зямны.

Куды бягуць? Дзе тое мора лёсаў чалавечых жыцця зямнога?

Скрыпіць кола…

**Уступ**

Шчапіўшыся кіпцюрамі, з самага паднябесся, падалі, куляліся, абняўшыся белымі крыламі дзве чароўныя птушкі, задыхаючыся ў палюбоўным экстазе. І не існавала для іх ні неба, ні зямля, ні гонар, ні воля.

Усё падпарадкавалі глыбіні свайго кахання, магічнасці і велічнасці сваіх пачуццяў: і вечнае сіняе неба, і неўміручую чароўную зямлю. Толькі высачэзны стары вечназялёны дуб** ласкава і абярэжна прыняў іх у роднае гняздо, як прынімаў ужо шмат гадоў і звычна хаваў ад непагоды ды калыхаў іх нашчадкаў над святым капішчам Бога Сонца.

Чалавек са шкадаваннем апусціў лук. Змалку ён ведаў, што той, хто заб'е святую птушку, скончыць свой род, бо прападзе яго ўдача.

А арлан ізноў падняўся над зямлёй, даверыўшы святому дубу сваю сям'ю. Ён, магутны ўладар нязведанага неба, усім арланам арлан, чорны з белымі кончыкамі шырозных крылаў з вышыні палёту зорка і велічна азіраў свае ўладанні, плывучы, плывучы, а то і робячы кругі над тым месцам, што ўпала яму ў вока нейкім нязведаным краявідам. Арлан падняўся так высока, што літасцівы Ярыла прагрэў і высушыў кожнае яго перца, падпушыў магутныя крылы і наталіў яго сілай, надаў вастрату ўважліваму жорсткаму погляду.

Нямераныя пушчы, шырокія азёры, высокія пагоркі ды вольныя паляны раскрывалі прыгажосць і прыцягальнасць сваю перад ганарыстай цар-птушкай.

---

** *Вечназялёны дуб* - святы, рытуальны

Павольныя, шумнаводныя рэкі, то перакатваючы цяжкія стругі і бярвенні, то абмываючы велізарныя карчы векавых дрэў і зарослыя берагі свае, неслі і неслі недзе ў далёкія краі, адлюстроўваючы ў лапатлівых струменях прыгажосць чароўнага краю і гонар яго, уладара-арлана, што няўсыпным вокам зберагае спакой і векавы парадак у гэтай зямлі.

Нешта ўстрывожыла, прыцягнула ўвагу велічнай птушкі.

Унізе, па беразе шырокай паўнаводнай рэчкі, сярод забалочаных, зарослых густым маліннікам узгоркаў, прабіраўся невялікі аддзел чужых людзей. Падвешаныя за скураныя паясы кароткія шырокія мячы холадна паблісквалі на сонцы.

Белыя палатняныя зіпуны на мяккай бавоўне ды цягіллё з высокім стаячым каўнярoм хавалі ваяроў ад холаду ды пры неабходнасці стваралі дадатковую ахову ў час бойкі.

Да сёдлаў-ярчакоў кожнага пратарочаны авечыя зіпуны.

Калматыя ногі нізкарослых пад'ездкаў усё часцей правальваліся ў непралазную багну, якая падступіла да самага берага ракі.

Чужынцы пачувалі сябе вольна, асабліва не хаваліся, але не шумелі, аглядалі мясцовасць ды час ад часу раіліся аб нечым, насцярожана прыслухоўваючыся да голасу пушчы.

Арлан бачыў, што людзі кіруюцца прама да святых дубоў, туды, куды не павінна ступаць нага чужога.

Ён ведаў, што дарогі туды ім пакуль няма, багна балота надзейна трымае таемную сцежку, і сам Зюзя не можа самым жорсткім холадам ды ледзяной завеяй перамагчы матухну-зямлю, калі яна гэтага хоча.

Але, нахабства гэтых прышэльцаў было цяжка вытрываць. І ўстрывожаны арлан кінуўся да пярэдняга вершніка, што ехаў у бліскучым кальчастым кафтане з суконным плашчы на плячах.

Не чакаючы нападу зверху, ваяры спачатку знямелі, і раз'юшаная птушка такі скрыгатнула кіпцюрамі на жалезнаму каўпаку чужынца, мімаходам здзівіўшыся цвёрдасці яго галавы.

Устрапянуўшыся, ваяры схапіліся за лукі, і не адна страла паляцела наўздагон магутнай птушцы.

Ды, прама перад вершнікамі, вырасла постаць вялізнага мядзведзя, быццам з'явіўся дух - ахоўнік тутэйшай пушчы. Засланіў сабой гаспадар звяроў і птушынага цара, і дарогу да святых дубоў.

Спалоханыя коні застылі, не могучы выцягнуць загразлыя ногі.

І ваяры дасталі... Мячы…

Арлан зноў падняўся так высока, што нічым немагчыма было

яго дасягнуць гэтым мізэрным людзям унізе .

Пагардлівым і жорсткім поглядам правяла злыдняў птушка, разумеючы, што марна трацяць час гэтыя ліхія людзі.

Стаяла і стаяць будзе тутуэшая чароўная зямля, аберагаючы і наталяючы свой народ, як бы ні тупала і колькі б не тапталася па ёй нага чужынца.

Цяжка ёй, зямельцы, будзе!

А каму лёгка?! Жыць будзе!

Усё вымярае час. І час вымярае зямное жыццё…

**Раздзел 1**

Стары крыве драмаў. Цемень, што хавалася па вуглах яго будана, разбіваў невялічкі водбліск пячуркі. Цяпло ад яе ды мяккая авечая коўдра, клапатліва сшытая жанкамі радавога паселішча, зберагалі яго зношанае старое цела ад ранішняга холаду.

Сонца яшчэ недзе на паўдарозе да краю неба, бо не цвіркнула сініца ні разу, а верхавіна магутнага святога дуба ціха дрэмле, як і ён, перад ранішнім спакоем. Думкі, мроі, нейкія цені праплывалі абрыўчатымі снамі, вярэдзілі яшчэ больш і так змэнчаную душу крыве.

Кідалася душа, клубком звівалася ды ў роспачы церабіла розум, шукала выйсце, звыкла звяртаючыся да святых абярэгаў ды мудрых Багоў.

Адзін ён ды яшчэ некалькі чалавек з паселішча яго клана вешчуноў ведаюць сцежку да свяцілішча і капішча***. Нават князь прыходзіць сюды з праважатымі, а на святыя дні ў капішча людзей вядуць праваднікі-вайдалоты****. Неспакойна стала ў пушчы. Чужыя ўзброеныя людзі сталі дабірацца і сюды, на гэтыя атуленыя лясамі ды балотамі землі, дзе ўкладаюць жыццё па-свойму і людзі, і птушкі, і звяры, зберагаючы звычкі ды распарадак родзічаў-продкаў. А дарадца тут ён! Сам-насам застаўшыся з высокім небам, што выбрала яго аберагаць тутэйшых ад злых духаў людской непаслухмянасці ды няўдаласці сваёй мудрай сакральнасцю. А ён ужо адчувае апошнім часам, як слабее яго яшчэ жылістае цела, качанеюць і дранцвеюць ногі, рукі.

І толькі непахісны дух ды пачуццё адказнасці падымае старога з гэтага цёплага тапчана, каб падтрымаць святы агонь ды правесці чарговую раду з Богам.

*** *Капішча* - месца правядзення рытуалаў язычнікамі.

**** *Вайдалоты* - памочнікі крыве.

А цяпер яшчэ надыходзіць холад. Там-сям ужо Зюзя схапіўся ў абдымкі са змакрэлай ад ледзяных дажджоў зямлёю, і хоць Ярыла, падняўшы сваю зіхатлівую карону над краем лесу, перамагае час ад часу каварнага захопніка і адагравае згалелыя чорныя дрэвы, вечназялёны дуб ды пагорачкі, а ўсё ж коціцца, коціцца знямогла за небакрай на свой адпачынак усё хутчэй з кожным днём.

Хутка ўжо і гаспадар пушчы перастане сунуць свой нос у будан святара, аддана і шчыра, раз і назаўсёды выбраўшы яго сваім сябрам і суседам у гэтым патаемным месцы.

Прыстасаваў сабе бярлогу побач з капішчам і жыве сабе, ведаючы тое, што невядома людзям.

Мясцовы люд прызнаваў мядзведзя як свайго двайніка сярод звярынага свету, што трапіў у няміласць да Бога, бо захацеў яго напалохаць. Але ж Бог усё-такі ўзяў на неба вялікую мядзведзіцу, каб цягнула "нябесны воз".

Сам Велес паважае мядзведзя, бо паміраць і з таго свету варочацца ўмее кожную вясну ўладар пушчы.

Тутэйшыя лічылі мядзведзя царом звяроў у пушчы і задабрывалі, каб не шкодзіў людзям.

Стары крыве меў свае таямніцы і веды. Мядзведзяў ніколі не забівалі ў яго паселішчах.

Абдумваючы ўсё гэта, святар, злавіўшы на небе першы водбліск чырванаватай заранкі, выйшаў на каменны вал сустракаць прыход Ярылы.

Свяцілішча яго племя абсталявала сярод непралазных балот, каля берага рэчкі пры крыніцы.

На ўмацаваным мысе, за ровам, пасярэдзіне капішча рос магутны вечназялёны дуб. Выява Бога Сонца і касы крыж, два вогнішчы з гліянымі ахвярнікамі размяшчаліся ў коле, а налева і направа стаялі другасныя капы-ідалы.

Крыве звярнуўся са словамі ўдзячнасці да магутнага Бога Сонца і, толькі яму вядомымі, знакамі ўшанавання.

У вянку з жыта і каласоў побач знаходзіліся тры чарапы - чалавека, каня, каровы. Вешчуны ўмелі пранікнуць у ромава, сярэдзіну, успрымання існасці чалавека, жывёлы, дрэва і ўздзейнічаць на яе.

- Сёння будзе цяжкі дзень, - спахмурнеў крыве, - бо Ярыла нават не дачакаўся, каб святар ускурыў у яго гонар пахучыя зёлкі.

Схаваўшыся за палотны сярдзітага Бога Перуна Ярыла больш не паказваў свайго твару.

Цёмныя нізкія хмары нагнаў пранізлівы вецер-перадзімнік.

- Чакай ваўчыцу- мяцеліцу! - ямчэй падпяразаў цёплую світу стары святар. - Ранняя зіма ляжа ў пушчы. Зледзянее зямля, схавае корм казулям і аленям. Нават магутнаму зубру-туру цяжка прабіць ледзяны панцыр, каб падтрымаць гарэзаў-падлеткаў цялят. Не кожны перажыве.

Пасля магічнага рытуалу святар уважліва агледзеў круглую пляцоўку-капішча, абнесеную ровам, умацаваным камянямі.

Можа, злыя сілы падбіраюцца да святога дуба і свяцілішча і зрабілі недзе праход для сябе. Але ўмацаванні былі ў парадку. Аднак нейкая невядомая трывога не давала заспакоіцца мудраму крыве. Здавалася б, яго справы ў парадку і нязгасным полымем гарыць святы агонь. Удзень і ўночы падтрымлівае яго вечнае святло і жорсткі ачышчальны зніч сям'я вайдалотаў. Калі б агонь згас - вайдалотаў пакараюць смерцю. Такі закон роду і продкаў па зберажэнні жыватворнага агню.

Шуміць, мармыча альбо гудзе ў непагоду нязломны вечназялёны шаноўны дуб - волат над непрыступным рысталішчам чарадзейных багоў, аддаючы верхавіну сваю Сонцу і святлу, зберагаючы і ўвасабляючы сімвал вечнага жыцця зямнога.

Вяшчун наліў малака вужу, што жыў у накрытым жытнім снапом гаршчку пад каранямі святога дуба, падтрос яму воўну ў дупле, каб болей не турбаваць, бо той ужо павінен быў адысці на зімні спакой. І раптам зразумеў сваю трывогу!

Мядзведзь? Дзе ён? Сёння яму яшчэ рана сыходзіць у бярлогу, каб заснуць беспрабудным сном да самага цяпла.

Святар заспяшаўся ў дубовы гай, дзе пад старым дубам у мядзведзя, сярод нагандабуранага дзераўнога ламачча, была ўтульная схованка. Але бярлога была пустая, і стары крыве, супакойваючы сябе, што пабадзяецца Міха ды прыйдзе як заўсёды паласавацца да святога капішча, паплёўся за роў, бо сёння павінен быў прыбыць князь.

"Патрэбна парада", - прынёс вестку кнехт*****. І мудры крыве, у які раз даверыўшыся богу Велесу, заняўся падрыхтоўкай да свяшчэннага рытуалу, самаму шаноўнаму боству тутэйшай зямлі, яму - апякуну грамады і свету, распарадзіцелю рэк і плыняў, камянёў і хлеба - богу Велесу.

Дружына князя з'явілася раптоўна. Як ні быў гатовы да яе прыходу вяшчун, а здрыгануўся ад нейкага неспакою. І, аказалася, нездарма.

***** *Кнехт* - слуга.

Перад свяцілішчам кнехты разам з дружыннікамі палажылі тушу вялізнага мядзведзя.

Вяшчун у роспачы паспрабаваў падняць яго цяжкую калматую голаў, пацягаў за касматае вуха.

- Нежывы ён, бацька, нясвежы. Відаць, забілі ўжо некалькі дзён як. Бачыш, уся грудзіна разварочана.

Князь стомлена прысеў на тоўстую дзеравіну.

- Не нашы гэта. Нашы такога  не зробяць. Ды і няма за што. Мірна мы жывём з гаспадарамі пушчы, яны з намі. Відаць зусім блізка падабраліся чужынцы. Як  будзем жыць далей, ойча?

Пад святым дубам стары князь, апусціўшы галаву, слухаў валхаванне мудрага крыве, з надзеяй назіраў, як сквапна прыняло вогнішча яго дары і жыватворны агонь забірае ў нябыт разам з ахвяраю яго неспакой.

Шчодра ахвяраваў ён са сваёй дружынай святым багам: ахоўнікам, спакон веку аберагаючым яго радзіму, бяскрайнюю пушчу і зямлю.

Як навучылі яго дзяды, ён даглядаў свае ўладанні, абараняў спакой і жыццё людзей, дамаўляючыся з Багамі пакорліва - ахвярай, а з суседзямі - грозна, але памяркоўна.

І хоць усяго хапала і ў яго ўладаннях, але, хвала багам, беражэ яго магутны Велес  і наказ дзедзічаў. Ён паслухмяна  схіляецца перад векавечным святым дубам, прыносіць ахвяру багам, шануе духаў продкаў.

А з суседніх зямель усё нясуць весткі, што з'явіліся ліхія людзі ў пушчы і агнём ды мячом  нішчаць капішчы, сякуць святыя дубы ды заліваюць святыя агні.

І хоць ведаў ён, што шмат хто ўжо прыслухоўваецца да гэтай новай веры, якую нясуць чужынцы. Вось і ідзе ён, прыродны князь тутэйшага роду, на збор старэйшын да вужынага валуна, дзе склікаюць вешчуны вялікую раду плямён.

Сам ён у сваю душу прымаць новую веру не хацеў. Звычныя свае Богі здаваліся самымі надзейнымі.

- Будзь спакойны, князь! - стары крыве прысеў побач з князем і стомлена заплюшчыў вочы. - Яшчэ доўга будуць гарэць на гэтай зямлі святыя агні.

Глянуўшы на мядзведжую тушу, працягнуў:

- А мядзведзь стане ахоўваць наша свяцілішча, яго душа будзе жыць тут. З кіпцюроў і іклаў-клыкоў зраблю табе абярэгі. Увесь твой род, князь, зберажэ гэты амулет на вякі вечныя. Нашчадкм перадай, каб

мядзведзяў шанавалі.

Задумаўся ненадоўга і, гледзячы недзе ўдалячынь, сказаў:

- А месца гэтае, дзе знайшлі вы яго нясвежым, таксама для твайго роду абярэгам будзе.

- Але памятай, князь, - раптам вяшчун устаў, вочы яго блішчэлі полымем нязгаснага святлога вогнішча, а паднятыя ўверх, да вечнага сіняга неба рукі і стаўшая велічнай постаць, нібы птушка-арлан абдымалі позіркам далі і бачылі тое нязведанае, што не дадзена простым смяротным. Голас старога вешчуна гучаў, плыў над дрымучай пушчай, шумнаводнай ракой, нязведанымі балотамі і пагоркамі. - Праз попел і гром Перуна пройдзе гэтая зямля. Ліхія людзі і гнеў багоў будуць браць на пробу тутэйшых, але твой род заўсёды, нязменна, што б не сталася, павінен варочацца ў гэтую кромань жыцця, каб весці шнур свой і зберагчы Радзіму.Так наканаваў святы Велес. І будзе так!

Заспакойліва гуў над схіленымі галовамі згорбленых цяжкімі разважаннямі людзей магутны волат-дуб.

І толькі дубовыя ідалы-капы загадкава пазіралі пустымі вачніцамі на зямны тлум, ды белыя ручнікі-ахвяры на галінах святога дуба вяяліся напамінам жывым, што ніхто на зямлі ад чалавечай долі не схаваецца.

# *Валянціна Шчарбакова*

## КАБ МАРЫ ЗБЫВАЛІСЯ…

Здавалася, казка пра Папялушку - гэта сюжэт далёкай мінуўшчыны. А сённяшнія каралевы такімі былі заўсёды: разумнымі, прыгожымі, змястоўнымі і заўжды займалі добрае месца ў грамадстве, кіраўнічыя пасады і мелі людскую павагу. Але няма мяжы дасканаласці, як няма мяжы промыслу Божаму ў жыцці кожнага чалавека. Пацверджанне гэтых слоў - наступная гісторыя. Яе гераіня нарадзілася ў Расійскай Федэрацыі, але праз год сям'я пераязджае ў Беларусь. Бацьку накіроўваюць на новае месца службы - у горад Валожын. Там дзяўчынка пайшла ў першы клас. Акрамя здольнасцяў да вучэбных прадметаў, праявіла сябе актыўна і ў творчым жыцці школы: спявала на сцэне, была ўдзельніцай тэатральнага гуртка і вельмі палюбіла дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. І, канешне ж, марыла. Мары былі цудоўнымі: яна бачыла сябе навучэнкай тэатральнага вучылішча, а затым Акадэміі мастацтваў. І так хацелася на сапраўдную сцэну! Але…

Успамінаецца ўрок геаграфіі. Прыйшла настаўніца і прапанавала накіраванне ў Нясвіжскі педагагічны каледж. Сказала пра гэта маці і пачула катэгарычнае:

- Трэба.

А пасля былі выдатна здадзеныя экзамены і вялікія слёзы з прычыны паступлення. Але ўжо на другі год навучання, Людміла Трачук, так звалі нашу гераіню, зразумела, што мама мела рацыю. У каледжы яна сустрэла Сапраўдных педагогаў, якія не толькі цудоўна выкладалі свае прадметы, але дзяліліся жыццёвай мудрасцю. Па сёння памятае Людміла ўрокі Валянціны Мікалаеўны Усавай і Алены Міхайлаўны Глобаж, Зоі Канстанцінаўны Сасім і Людмілы Васільеўны Ганчарык, Алены Васільеўны Жураўлёвай, Чаславы Карлаўны Азарка, Наталлі Васільеўны Віценчык. Яніна Адамаўна Саковіч, якой сёння няма на гэтым свеце, навучыла ўдумліва чытаць літаратурныя творы, а пасля свае ўражанні выкладаць на паперу, хай сабе яшчэ і ў выглядзе вучэбных сачыненняў. Лілея Канстанцінаўна Карпач выкладала тэхніку мовы і вучыла тэатральнаму мастацтву.... Дарэчы, тэатральнае жыццё ў каледжы кіпела і выходзіла за берагі, што вельмі падабалася навучэнцам. Сцэна, з якой, здавалася, можна было развітацца, стаўшы на педагагічны шлях, сустрэла Людмілу прыхільна і падаравала радасныя хвіліны.

А яшчэ яна знайшла ў Нясвіжы свой лёс, выйшла замуж і займела даволі гучнае прозвішча - Вітко. Зразумела, у Валожын не вярнулася, узяла адмацавванне. А вось працы па асноўнай спецыяльнасці ў Нясвіжы не было. Уладкавалася па сумежнай - выкладчык дэкаратыўна-прыкладной творчасці ў СШ № 4 нашага горада. А крыху пазней трапіла ў раённы цэнтр культуры. Вучыла дзяцей таму, што добра ўмела рабіць сама - упрыгожваць жыццё другіх людзей падарункамі, зробленымі сваімі рукамі. А зусім побач з месцам заняткаў было дадатковае памяшканне, адкуль асвятлялася сцэна. І сучасная папялушка, як колішняя на баль, глядзела праз адтуліну на сцэну, дзе ішлі канцэрты, уважліва сачыла за працай вядоўцы - Таццяны Іванаўны Лук'янчык і ўяўляла, як бы яна выглядала ў гэтай ролі. Мастацкі кіраўнік Ганна Дзмітраўна Віннічак прапанавала неяк выступіць у канцэрце. Атрымалася. А ў хуткім часе яна ўжо спявала ў ансамблі "Млечны шлях" пад кіраўніцтвам Таццяны Казловай.

Наступны падарунак жыцця - шанец, які дала на той час дырэктар Таццяна Іванаўна Лук'янчык, месца рэжысёра ў раённым Цэнтры культуры пасля падрыхтоўкі сцэнарыя і правядзення Дня настаўніка.

А яшчэ Людміла не прапускала ніводнага выступлення Нясвіжскага тэатра імя Уршулі Радзівіл. Быць сярод артыстаў хацелася, але

рашучасці не хапала.

Праблему вырашыла Ганна Ігнатаўна Сарокіна:

- Людачка, прыехаў Валерый Пятровіч Мароз. У яго да Вас нейкія пытанні па сцэнарыі.

Паслухала, пайшла. За круглым сталом сядзелі ўсе тэатралы: Максім Курганскі, Андрэй Курганскі, Ала Антонаўна Ганецкая, Юля Кудзін, Таццяна Іванаўна Лук'янчык…

Ёй падаравалі ролю. І як не дзіўна, адразу галоўную - ролю Чорнай панны, якую раней так бліскуча выконвала Таццяна Лук'янчык. Пазней былі іншыя ролі, але гэтая пасёння - самая любімая. Неяк нясвіжскія тэатралы паказалі "Чорную панну" на сцэне Купалаўскага тэтра ў Мінску. На прыканцы спектакля да галоўнай гераіні падышла заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Марыя Захарэвіч:

- Я так расчулілася. Вы настолькі пражылі гэтую ролю…. Вы яе не сыгралі, Вы яе пражылі. У мяне было такое адчуванне, што я сама была ў гэтым спектаклі… .

Вось так. Але Людміла разумела, што толькі педагагічнай адукацыі мала. А, дарэчы, пасля каледжа ў яе жыцці быў яшчэ і факультэт пачатковых класаў і сацыяльнай педагогікі БДПУ імя М. Танка. Яна паступіла на рэжысёрскі факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры. А неўзабаве стала дырэктарам Нясвіжскай цэнтральнай раённай бібліятэкі, якая зараз носіць імя Паўлюка Пранузы.

Яшчэ будучы дзесяцігадовай дзяўчынкай, Людміла наведвала сваіх бабуль і дзядуль на Украіне. Бабуля па татавай лініі - Сафія Зотаўна - асабліва ёй падабалася. Нават яе імя - Сафія - мудрая, гаварыла само за сябе. Да бабулі прыходзілі аднавяскоўцы па парады, чым магла, яна дапамагала. Слова, сказанае ў час, нават жыцці і лёсы ўратаваць можа. Бабуля збірала лекавыя травы і дзялілася імі з аднавяскоўцамі.

- Мы нават пасля яе смерці працягвалі ездзіць на Украіну, пакуль было магчыма. Наведваліся на магілку бабулі Сафіі і слухалі добрыя словы пра яе ўдзячных аднавяскоўцаў - успамінае мая суразмоўца.

Жаданне дапамагаць людзям хутчэй за ўсё перадаецца чалавеку на генным узроўні. У 2018 годзе Людміла Вітко была абрана дэпутатам раённага Савета дэпутатаў.

- У кожнага чалавека свае праблемы, кожнага чалавека штосьці хвалюе. І просьбы, з якімі яны прыходзяць да мяне, як да дэпутата, вельмі важныя. Калі людзі звяртаюцца, па меры магчымасці я дапамагаю, але стараюся зрабіць усё, што ў маіх сілах, - гаворыць Людміла Іванаўна.

Не так даўно Людміла Вітко стала ўладальніцай тытула "Жанчына

года Міншчыны-2018" у намінацыі "Духоўнасць і культура", што дадало яшчэ больш адказнасці перад сабой і іншымі людзьмі, якія аказалі ёй давер.

Але самае галоўнае ў жыцці Людмілы Іванаўны, як і ў кожнай жанчыны, яе сям'я - любімы муж Алег і сын Дзмітрый. Дарэчы, у яго выхаванні яна кіруецца больш даверлівымі метадамі, чым настойлівасцю і падпарадкаванасцю бацькоускай волі. Паважае яго самастойны выбар, хаця без слушных парадаў не абыходзіцца.

Так вось.

- Мары збываюцца, - гаворыць шчаслівая матуля і жонка Людміла Вітко , - толькі адны людзі самі ідуць да гэтага моманту, другіх нехта падштурхоўвае. Але галоўнае марыць і верыць, што ўсё адбудзецца.

І мы з вамі, шаноўныя чытачы, не будзем губляць надзеі на новы цудоўны дзень, на шчаслівае заўтра разам з тымі, каго мы вельмі любім і шануем. Гэты дзень у Божых руках. І калі мець чыстае сэрца і шчырую душу, жыццё павернецца лепшым бокам. А маладым людзям, зрабіўшы вывад з усёй размовы, скажу: "Старайцеся слухацца бацькоў. Яны, аказваецца, ведаюць, пра што гавораць!".

*2019 г.*

## ПАДАРОЖЖА У МІНУЛАЕ: ПАЧНЁМ З МУЗЕЯ

Пабываць у Нясвіжы мараць многія жыхары Беларусі, а таксама госці з замежжа. Удзельнікі сумеснага праекта "Парады з вуснаў несвіжан" Нясвіжскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Паўлюка Пранузы, рэдакцыі газеты "Нясвіжскія навіны" і праграмы радыёвяшчання "Раніца Нясвіжчыны", СШ № 4 г. Нясвіжа, наведвальнікі гуртка "Юны журналіст" гэтай навучальнай установы лічаць, што знаёмства з горадам і яго гісторыяй неабходна пачаць з наведвання Нясвіжскага гістарычна-краязнаўчага музея.

Нядаўна яны пабывалі там на экскурсіі і на свае вочы пабачылі рэканструяваныя радзівілаўскія касцюмы пачатку XVII стагоддзя і слуцкі пояс, выявы пабудоў, якія не захаваліся да нашага часу, экспазіцыю сялянскай хаты канца XIX - пачатку XX стагоддзя і гаспадарчых памяшканняў з прыладамі працы, пабывалі ў кабінеце чыноўніка ратушы, даведаліся пра скарб, які быў знойдзены ў 1988 годзе ў былым манастыры Бенедзікцінак, калі там размяшчалася Нясвіжскае педвучылішча, пра ваенныя часы на тэрыторыі Нясвіжчыны.

Пабачылі і выставу старажытных абразоў, якія былі перададзены

з Брэсцкай і Гродзенскай мытняў. Пра ўсё гэта і многае іншае дзецям расказала старшы навуковы супрацоўнік музея Вольга Шкрабіна.

Юныя журналісты зацікавіліся лёсам і жыццёвым выбарам сваёй суразмоўцы. Яны даведаліся, што Вольга Уладзіміраўна нарадзілася ў вёсцы Майя Мегінакангаласкага раёна Якуцкай АССР. Яе дзяцінства прайшло ў невялічкім пасёлку Ніжні Бясцях, які стаяў на правым беразе вялікай сібірскай ракі Лены. У 1983 годзе бацькі Нэлі Сцяпанаўна і Уладзімір Антонавіч Сінішовы разам з дачкой пераехалі ў Нясвіж. Мама ўладкавалася на работу ў адну з нясвіжскіх крам, тата пачаў працаваць шафёрам. Вольга пайшла ў шосты клас СШ № 3. Пазней скончыла Нясвіжскае педвучылішча і гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага інстытута імя Максіма Горкага. Уладкавацца на працу па спецыяльнасці не атрымалася і таму, калі ёй прапанавалі месца навуковага супрацоўніка ў музеі, адразу згадзілася.

Вольга Уладзіміраўна працуе тут ужо крыху болей за чвэрць стагоддзя. У працы з самага пачатку ёй вельмі спатрэбілася гістарычная адукацыя, а таксама дапамога калег. Нягледзячы на тое, што кожны дзень даводзіцца дакранацца да даўніны, наша суразмоўца лічыць, што праца ў музеі заўсёды новая: гэта сустрэчы з цікавымі людзьмі - гісторыкамі, пісьменнікамі, калегамі, навуковымі супрацоўнікамі.

Вольга Уладзіміраўна прысучнічала падчас даследаванняў пахаванняў у Нясвіжскім касцёле. Было цікава даведацца, што яна і яе калегі адчувалі, спрабуючы адгарнуць гісторыю на колькі стагоддзяў назад?

- Гэта падзея адбылася ў рамках супрацоўніцтва Літвы і Беларусі. Было вельмі цікава, вельмі хвалююча спускацца ў крыпту Нясвіжскага касцёла, які быў пабудаваны больш за 400 год назад, бачыць парэшткі князёў Радзівілаў, якія будавалі горад, праслаўлялі яго. Я лічу, што нам вельмі пашанцавала папрацаваць там, таму што да гэтага моманту труны адчынялі толькі тройчы. Падчас нашых даследаванняў былі знойдзены многія артэфакты, якія зараз экспануюцца ў спецыяльна зробленых экспазіцыях у Нясвіжскім замку. Гэта, напрыклад, туфлі Уршулі Радзівіл, ордэн Белага арла, які належаў Пане Каханку.

Навуковы супрацоўнік расказала, што ў музеі пастаянна ладзяцца мастацкія выставы і, адпаведна, сустрэчы з аўтарамі карцін, прапанаваных для знаёмства. Вельмі цікава займацца зборам экспанатаў, будучых музейных прадметаў. Дарэчы, нават сам будынак, у якім месціцца музей, таксама з'яўляецца гістарычнай каштоўнасцю. Ён быў пабудаваны ў дзевяностых гадах XIX стагоддзя. А 90-м годзе XX-га была створана рабочая група, якая займалася рэканструкцыяй гэтага будынка

пад музей. З 14 студзеня 1995 года музей сустракае сваіх наведвальнікаў.

Экспазіцыя музея складаецца з пяці залаў. Усе выставы, змешчаныя ў іх, зацікавяць прафесійных гісторыкаў і аматараў, якія імкнуцца ведаць мінулае свайго краю. З 1996 года па вуліцы Садовай працуе кватэра-музей нашага земляка, мастака Міхаіла Канстанцінавіча Сеўрука. Юныя журналісты пабывалі і ў ганчарнай майстэрні, якая сёлета адзначае свой дваццацігадовы юбілей. Тут вырабляюць сувеніры, розныя ўпрыгожванні, падарункі, праводзяцца майстар-класы па лепцы з гліны. Пабываць на такім майстар-класе могуць усе ахвочыя - школьнікі, прадстаўнікі старэйшых пакаленняў. Каб правесці з карысцю час і атрымаць зроблены выраб на памяць, несвіжане сюды прыходзяць цэлымі сем'ямі. Адзінае абмежаванне - група павінна ўключаць не болей дзесяці чалавек.

З 2006 года на тэрыторыі музея працуе музейны абект "Кузня", дзе паказаны працэс кавальскага рамяства канца XIX пачатку XX стагоддзя.

Вольга Уладзіміраўна параіла дзецям чытаць болей гістарычнай літаратуры. Адна з кніг, якую яна прачытала яшчэ ў юнацкія гады - "Чорны замак Альшанскі" Уладзіміра Караткевіча - не страціла сваёй актуальнасці і зараз.

Дзеці даведаліся, што адна з устаноў, якая рыхтуе музейных работнікаў - гэта Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, факультэт "Музейная справа і ахова культурнай спадчыны". Але Вольга Уладзіміраўна адзначыла, што толькі адукацыі, ведання гісторыі  недастаткова, каб стаць супрацоўнікам музея:

- Гэтая праца вельмі творчая. Працаваць у музеі можа чалавек абсалютна любой прафесіі, трэба толькі вельмі гэтага захацець. Неабходна быць гатовым ахвяраваць сваім часам, быць апантаным тым, чым займаешся. Без гэтага будзе сумна і нецікава працаваць. Таму ўсім сваім будучым калегам жадаю цярплівасці і любові да сваёй працы.

Час бяжыць наперад, але неаднойчы ён нагадвае пра сябе весткамі з мінулага. Калі іх не абмінуць, пачуць іх і ўгледзець, падзяліцца сваімі адкрыццямі з іншымі, то ў сэрцы пасяляецца цішыня, адчуванне бясконцасці Сусвету, падзей, людскіх лёсаў, павучальных гісторый з іх глыбінным філасофскім зместам. Таму будзем уважлівымі.

## *Вольга Жэрка*

### ІХНІ ДРУГІ ДОМ

Споўнілася 35 гадоў з дня адкрыцця дзіцячага садка № 4 г. Нясвіжа. прымала сад і была яго загадчыцай Клаўдзія Ігнаццеўна Гундарава, якой ужо 90 гадоў. З удзячнасцю ўспамінаюцца былыя выхавальніцы Ларыса Макараўна Рудэня, Людміла Рыгораўна Дашко, Соф'я Аляксандраўна Азарка і многія іншыя. 35 гадоў - узрост яшчэ зусім малады, але колькі дзіцячых ножак прабегла па сцяжынках садка - не палічыць. А колькі было і змянялася супрацоўнікаў. З любоўю і вялікай адказнасцю працавалі загадчыцы Надзея Аляксандраўна Багуслаўская, Любоў Мікалаеўна Крукава, якой, на жаль, няма ўжо сярод нас.

З дня адкрыцця і па сённяшні дзень працуюць тут медсястра

Ірына Канстанцінаўна Матусевіч, повар Валянціна Канстанцінаўна Барко. Пачынала загадчыцай гаспадаркі, потым доўгі час працавала кладаўшчыком Марыя Пятроўна Рэмізовіч, якая і сёння тут. Усе яны добра памятаюць дзень адкрыцця, а Марыя Пятроўна помніць нават дзяўчынку, якая перaразала стужку пры адкрыцці. Гэта - Алачка Булат, якая цяпер жыве і працуе ўрачом у Мінску.

У гэты сад хадзілі два мае сыны. З яго пайшлі ў школу дзве ўнучкі. З удзячнасцю хочацца адзначыць іх выхавальніцу Алену Вячаславаўну Худую і яе памочніцу Таццяну Мікалаеўну Раўковіч. Дзеці з радасцю хадзілі ў гэтую старэйшую групу, бо ведалі: іх сустрэнуць ласкава. Яшчэ адна мая ўнучка наведвае гэтую ўстанову і цяпер. Так што для нашай сям'і (упэўнена, што не толькі для нашай) дзіцячы сад стаў другім домам.

Ён рос разам з дзецьмі і прыгажэў. Цяпер гэта прасторная, утульная ўстанова, дзе выхоўваецца 245 дзяцей, як паведаміла яе загадчыца Аксана Віктараўна Падольская. Абаяльная, энергічная, яна шмат увагі ўдзяляе развіццю і паляпшэнню работы.

Прыемна бачыць, з якой любоўю адносяцца да дзяцей выхавальніца Д.В. Секержыцкая і яе памочніца В.І. Мяленька, Г.А. Чыркун, В.А. Бахур, Н.П. Кавалеўская і іх памочніцы В.Я. Мачула, Н.В. Гардзіенка, Л.М. Лук'янчык, Л.М. Гесь, Т.М. Еднацэвіч, іх памочніцы А.М. Аршанская, Т.Т. Кальчыцкая.

Яны ўмеюць заняць справай цэлы дзень маленькіх, няўрымслівых фантазёраў, накарміць, знайсці да кожнага асабісты падыход, суцешыць.

**Дзіцячы садок**

Ты вельмі змяніўся, дзіцячы садок,
Быў невялічкі і рос, як грыбок.
Цяпер тут утульна, багата,
Для дзетак ты - родная хата.

Многа сцяжынак стаптана
Дзіцячымі ножкамі тут.
Цяперашнім мамам і татам
Знаёмы ў садку кожны кут.

І ў іхнім дзяцінстве праходзілі святы,
Прыгожа спявалі старэйшыя дзеці,
А ім падпявалі малыя заўзята,
Былі тыя святы найлепшыя ў свеце.

Дзякуй вам, выхавацелі,
Шчырыя прачкі, кухаркі,
Што глядзелі дзяцей, як сваіх цэлы дзень,
А гэта далёка не жарты.

Дай Бог вам здароўя на доўгія годы,
Няхай абмінуць вас нягоды,
Шчаслівымі будуць і будні, і святы,
Гэта наша жыццё, і мы гэтым багаты.

*2002 г.*

## ШЧАСЛІВЫ ДЗЕНЬ

1 верасня прайшлі ўрачыстыя лінейкі ў школах раёна. Загучала звонкімі галасамі адпачыўшая, але і засумаваўшая па іх Нясвіжская беларуская гімназія. Мне пашчасціла бываць там у гэты дзень не толькі на лінейцы, якая прайшла арганізавана і ўрачыста, але і на першым уроку ведаў у 6 "А" класе. Мяне запрасіла класны кіраўнік Наталля Васільеўна Шчурская, з якой дагэтуль я афіцыйна не была знаёмая.

Перад урокам я хвалявалася, аб гэтым і дзецям сказала. Але маё хваляванне прайшло, калі ўвайшла ў клас. Такія прыгожыя, шчаслівыя, неяк па-асобаму ўсхваляваныя, цудоўныя дзяўчынкі і хлопчыкі сустрэлі мяне.

Я павіншавала іх з днём ведаў, пажадала моцнага здароўя, поспехаў у вучобе, сяброўства паміж сабой і з настаўнікамі. Расказала пра сваё жыццё, працу, добрых людзей, з якімі мне давялося працаваць, чытала свае вершы. Мяне вельмі парадавала тое, што яны вывучылі некаторыя, якія друкаваліся ў "Нясвіжскіх навінах" і чыталі іх.

Таксама ўзрушыла і парадавала тое, што ў першы дзень заняткаў пасля школьных канікулаў, з якімі яны яшчэ і не развіталіся, дзеці так уважліва, з цікавасцю слухалі настаўніцу і мяне. Я думаю, што Наталля Васільеўна карыстаецца вялікай павагай і любоўю у сваіх вучняў. Поспехаў вам, Наталля Васільеўна! Так трымаць!

Я думаю, што многім вучням яна прывіла любоў да прыроды, да ўсяго жывога і некаторыя, як і яна, будуць біёлагамі, ці эколагамі, ці аграномамі. І калі я ім пра гэта сказала, яны заўсміхаліся і мне падалося, што адгадала іх думкі, а перад тым мы з ім гаварылі, што ўжо цяпер трэба вырашаць для сябе, кім быць. І пра тое, што чалавек не можа жыць толькі працай ці вучобай, але павінен прымаць актыўны ўдзел у гра-

мадскім жыцці, быць годным грамадзянінам сваёй Радзімы.

Напрыканцы я падзякавала Наталлі Васільеўне і дзецям за запрашэнне, а яны мне за тое, што згадзілася прыйсці да іх на першы ўрок, уручылі мне кветкі і падарунак - вышыўку вучаніцы Юліі Лазюк. Вышыўка мне вельмі спадабалася.

Закончыўся ўрок, хлопчыкі праводзілі мяне да ганка і яшчэ раз падзякавалі за сустрэчу. А кажуць, што дзеці цяпер не выхаваныя. Безумоўна, ёсць, але большасць - цудоўныя, выхаваныя дзеці.

І вось я шчаслівая, вясёлая і, нават нейкая памаладзеўшая, з кветкамі, разам са сваёй унучкай Ірынай, якая займаецца ў 3 "А" класе гімназіі, таксама ўзрушанай і радаснай, вяртаюся дадому.

Яшчэ раз дзякую вам за сустрэчу, за яшчэ адзін шчаслівы дзень у маім жыцці.

*2004 г.*

# МУЖНАСЦЬ

Адпачываючы ў рэспубліканскім інтэрнаце ветэранаў вайны і працы "Ждановічы", я сустрэла жанчыну з цяжкім жыццёвым лёсам. Завуць яе Алена. Прозвішча я не ведаю, але не гэта галоўнае. Тое, што я ўбачыла і пачула пра яе, закранула душу.

Расказвалі пра яе і супрацоўнікі. А больш за ўсіх распавяла мне Марыя Васільеўна, якая некаторы час жыла з ёю ў адным блоку, а потым перайшла ў блок, дзе жылі мы з мужам. Яна мінчанка. Мы вельмі пасябравалі і потым зрэдку перазвоньваліся. Прыемная, прыгожай душы чалавек, таксама з нялёгкім, цікавым лёсам. У той час сюды можна было прыехаць адпачыць і крыху паправіць здароўе і іншым пенсіянерам па пуцёўцы райсабеса. Наогул, у інтэрнаце жыве пастаянна многа цудоўных, заслужаных людзей , нават сем'ямі ( муж з жонкай), знаёмства з якімі дае многае для душы, для роздуму пра жыццё. Ім адведзены цэлы блок, які яны абсталёўвалі на свой лад, прывозячы ўсё неабходнае з дому. У інтэрнаце створаны добрыя ўмовы, нібы ў санаторыях. Мне вельмі спадабалася.

В Белоруссии есть интернат,
Он прекрасен и даже богат.
Богат он уютом, но прежде людьми,
Здесь живут ветераны труда и войны.
Поклон вам, родные, до самой земли,
Вы - наши герои, мы вами горды.

Поверьте и знайте, ваш подвиг и труд,
Будут в памяти вечно, никогда не умрут.

Дык вось, пра Алену. Алена - інвалід дзяцінства. Такой яна нарадзілася: без рук і без ног. Яшчэ ў роддоме маці ад яе адмовілася. Алена ёй не даравала і па сённяшні дзень. У яе сям'і нарадзілася яшчэ адна сястра, таксама інвалід, і два браты, паўнавартасныя, здаровыя хлопцы. У самой Алены ёсць сын, якому 14 гадоў, здаровы, нармальны хлопчык.

Алена ў асноўным усё робіць сама: есць без чужой дапамогі, мыецца, прыбірае за сабой. На інваліднай калясцы ёй хто-небудзь дапамагае перамяшчацца, а на другой - гэта дошка на чатырох калёсіках - яна "ездзіць" сама на працэдуры, у сталоўку, на вуліцу. Такое я бачыла толькі ў кіно, а тут - сваімі вачыма.

Але самае дзіўнае тое, што яна вельмі прыгожа вышывае крыжыкам. У гэта цяжка паверыць, але я сама бачыла яе вышыўкі і тое, як яна вышывае: аказалася, канцом рукі, падобным на палец.

Аднойчы з Марыяй Васільеўнай мы зайшлі да яе і папрасілі паказаць вышыўкі. У асноўным, гэта карцінкі з розных казак, палацы, царква, красуні, дрэвы, кветкі, звяры і іншае.

У той час яна вышывала нейкую карцінку і запытала мяне: “Каго я вышываю?". Я паглядзела і адказала, што гэта коцік. На самай справе гэта быў воўк. "Воўк?" - здзівілася ўжо я, - але ж ён такі добры". Алена ўсміхнулася. Я сказала: "Вы, мусіць, вельмі добры чалавек, бо ўсе вашы персанажы на вышыўках такія добрыя. "Не ведаю", - адказала яна. І яшчэ раз я ўпэўнілася, што свет не без добрых людзей, у яе знайшліся спонсары, якія дапамагаюць вазіць работы па выстаўках. Калі яна вышывае, заўсёды гучыць музыка - побач магнітафон.

Безумоўна, у Алены, як і ў кожнага чалавека, ёсць недахопы, але такой мужнасці і любові да жыцця хапае не кожнаму. І мне падумалася: як часта мы крыўдзімся на лёс і лічым сябе няшчаснымі пры найменшых непрыемнасцях. А што гаварыць такім, як Алена?

Людзям з такім лёсам хочацца сказаць вялікі дзякуй за мужнасць і вялікую любоў да жыцця і пажадаць ім здароўя. А інтэрнату пажадаць далейшага росквіту.

*2003 г.*

## МАЯ РАЁНКА

Газету "Нясвіжскія навіны" выпісваю даўно. Я нават не магу

сказаць, колькі гадоў. Я вельмі люблю "раёнку". Калі чытаеш яе, то здаецца, што размаўляеш з цудоўным, эрудыраваным чалавекам, які цікава расказвае пра поспехі працоўных калектываў, пра цікавых і заслужаных людзей, пра недахопы і парушэнні. Газеты адказвае на многія пытанні. І праграму тэлебачання не трэба купляць.

Люблю разглядваць здымкі і чытаць пра наш цудоўны, старажытны Нясвіж, пра яго былое, цяперашняе і асабліва будучае. Дзякуй тым, хто праслаўляе Нясвіж у вершах і гімнах.

Я таксама калі-нікалі пішу ў газету. І ў мяне ёсць верш пра Нясвіж, пад назвай "Мой горад". Вельмі люблю чытаць пра прыроду, гістарычныя помнікі, пра іх ахову. Некалькі разоў чытала і са слязьмі на вачах перачытвала сачыненне вучаніцы Сноўскай сярэдняй школы К. Крайновай пра раку Сноўку.

Наогул, люблю чытаць пра дзяцей, моладзь, пра іх справы, захапленні, мары. І радуюся за іх.

З цікавасцю сачу за вынікамі працы "сваіх" прадпраемстваў, размешчаных на тэрыторыі Нясвіжскага сельсавета, дзе я працавала 25 гадоў. Ганаруся іх поспехамі, перажываю за няўдачы. І ўсё чакаю, калі ж у першых радках спаборніцтва ўбачу э/б "Ганусава".

А калі б не "раёнка", як бы пра ўсё я даведалася?

Чытаю "Нясвіжскія навіны" вельмі ўважліва, ад пачатку да канца. І не магу выдзеліць, што мне больш за ўсё падабаецца на старонках газеты. Я яе проста люблю і называю ласкава "несвіжаначка". І калі хто яшчэ не выпісаў "раёнку", паспяшайцеся, і вы не пашкадуеце!

Гэта мая замалёўка ў газету "Нясвіжскія навіны" ў час правядзення конкурсу “Мабільны і фотаапарат - за падпіску". І самае прыемнае, што ў гэтым конкурсе мне пашанцавала. Галоўны прыз конкурсу - тэлефон "Motarola" дастаўся мне. Было вельмі прыемна. Гэта быў мой першы ў жыцці мабільны тэлефон, які доўгі час служыў мне і быў маім сябрам. Я яго захоўваю і па сённяшні дзень як добрую памяць.

*Люты, 2005 год.*

## СУСТРЭЧА ПАКАЛЕННЯЎ

Другога снежня 2007 года я са сваёй аднакласніцай Валянцінай Громавай пабывала ў Нясвіжскай гімназіі, дзе прайшло святкаванне 70-гадовага юбілею школы і 15-годдзя гімназіі.

Утульная, па-святочнаму ўпрыгожаная зала. Усхваляваныя, прыгожа апранутыя настаўнікі і навучэнцы.

На свяце прысутнічалі і выступалі прадстаўнікі райвыканкама: Аляксандр Іванавіч Майсеня, намеснік старшыні раённага райвыканкама, Т.І. Каспер, старшыня райсавета дэпутатаў, А.А. Лях, загадчык аддзела народнай адукацыі, Людміла Уладзіміраўна Крупец, старшыня прафсаюза работнікаў адукацыі, таксама настаўнікі школы № 2 Г.А. Паторская, Е.Ю. Грыднева, Р.У. Дзішук, Г.І. Ярмалінская, былая піянерская важатая В.Н. Шарова, якія цяпер на заслужаным адпачынку. Некаторыя з іх дзяліліся ўспамінамі. У пачатку ўрачыста гучыць гімн Беларусі. Гэтае свята можна назваць сустрэчай пакаленняў, бо на ім прысутнічалі мы, нашы настаўнікі, нашы дзеці, унукі і іх настаўнікі.

Змяняюцца навучэнцы школы (цяпер гімназіі), яе настаўнікі, а школа стаіць, як і стаяла, і ўсіх ветліва сустракае. З году ў год нешта змяняецца ў ёй у лепшы бок.

Усіх прысутных у зале да сэрца кранула і выклікала слёзы на вачах пранікнёныя словы дырэктара гімназіі Таццяны Уладзіміраўны Юрэвіч.

Яна ўспомніла і падзякавала сваім былым настаўнікам, расказала пра поспехі навучэнцаў, намаганні і дасягненні ўсяго працоўнага калектыву гімназіі. Многа цёплых, удзячных слоў прагучала з вуснаў вучняў, асабліва тых, хто ў гэтым навучальным годзе пакіне сцены школы. Усіх усхвалявала сачыненне выпускніцы гімназіі Аліны Самко пра сваю школу, настаўнікаў, якое прачытала вядоўца ўрачыстага свята Вольга Сячко, а таксама верш шасцікласніка гімназіі Яўгена Чарнюка.

Цікавы канцэрт, цёплыя апладысменты ў зале стваралі добры настрой. Мне было вельмі прыемна, што адной з вядоўцаў канцэрту была мая ўнучка Ірына, гімназістка пятага класа, выдатніца. Я ганаруся табой, унучачка.

Па магчымасці я стараюся бываць на ўсіх урачыстасцях гэтай школы, таму што тут вучыліся мае дзеці (два сыны), а цяпер вучацца дзве ўнучкі. Тут вучыўся мой муж (тады ў Нясвіжскай беларускай школе). І ў гэтай школе, але ў сярэдняй рускай тры гады правучылася і я, дзе закончыла дзесяць класаў у 1957 годзе.

Радуе тое, што ў гімназіі працуюць таленавітыя, адданыя сваёй справе выкладчыкі. А якія, дзякуючы ім, вучацца тут дзеці: пераможцы многіх конкурсаў, алімпіяд, аглядаў, спартакіяд. Пра ўсё гэта гаварылі настаўнікі, вучні, госці свята. І ў кожнага прысутнага, безумоўна, узнікалі ўспаміны пра свае школьныя гады.

- Віват, гімназія! Віват! - гучала неаднаразова ў зале.

Свята заканчваецца. Зноў гучыць дзяржаўны гімн.

Мы, старэйшае пакаленне, таксама гаворым табе: "Віват, гімназія!

Расці і квітней!". Поспехаў вам, паважаныя настаўнікі і вам, нашы любыя ўнукі. Моцнага ўсім здароўя і ўсяго самага найлепшага ў жыцці. Дзякуй за свята.

*2006 г.*

## ЦІКАВА МЕЦЬ СТАСУНКІ З ЦІКАВЫМІ ЛЮДЗЬМІ

*(Да 75-годдзя раённай газеты "Нясвіжскія навіны")*

Заўсёды прыемна чытаць у друку пра знаёмых людзей. Я ўпэўнена, што на старонках "Нясвіжскіх навін" з'явяцца новыя цікавыя аповеды пра былых і цяперашніх журналістаў і іншых працаўнікоў рэдакцыі газеты. І напішуць іх тыя, хто разам працаваў ці працуе, бо гэта ж - адзіная сям'я, і кожнаму ёсць што расказаць.

Далучаюся да гэтага і я, як няштатны карэспандэнт і проста пастаянны чытач газеты.

Журналісты - гэта сапраўды летапісцы. Яны расказваюць пра ўсё і пра ўсіх. А чаму ж не расказаць пра іх саміх, пра іх асаблівую прафесію?! Трэба, абявязкова трэба, і не толькі да нейкіх дат, а проста так, як аб людзях па прафесіі "журналіст". Менавіта журналісты праз слова дапамагаюць многім людзям арыентавацца ў жыцці, у пошуках праўды. Журналісцкія расследаванні, разнастайнасць артыкулаў, інтэрв'ю дапамагаюць часам разабрацца у цяжкіх сітуацыях. Журналіст, магчыма, як ніхто іншы, павінен быць высокаадукаваным, камунікабельным і дзесьці, у чымсьці - напорыстым. Жыццё наогул - пастаянны ланцуг сустрэч і расставанняў, а ў журналістаў - тым больш, з новымі людзьмі, новымі падзеямі. І таму ім, можа, лягчэй, чым звычайнаму чалавеку, разабрацца ў жыццёвай кругаверці.

Пра журналістаў нашай раённай газеты можна расказваць шмат. Я ведала і ведаю амаль усіх яе прадстаўнікоў. Няштатным карэспандэнтам газеты з'яўляюся з 2002 года, калі вырашыла напісаць нататку пра нашу сустрэчу выпускнікоў Нясвіжскай сярэдняй рускай школы праз 45 гадоў. З пытаннем, як лепш гэта зрабіць, я звярнулася да Тамары Пятроўны Ярмоленкі, якая тады працавала карэспандэнтам. І можа, з яе, як кажуць, лёгкай рукі я пачала пісаць у газету свае вершы, заметкі, артыкулы і нават кулінарныя рэцэпты. Тамару Пятроўну любілі і паважалі, бо было за што. Пражыла яна нялёгкае жыццё, але заўсёды была вясёлай і жыццярадаснай. Мы з ёю сустракаліся і разам рыхтавалі сустрэчы ўдзельнікаў клуба "Ясь і Яніна". Вельмі шчыры аповед Тамары Праль-Гуль пра гэтага цікавага чалавека, якога хапала на ўсё, прыемна

было прачытаць у "Нясвіжскіх навінах" за 25 ліпеня гэтага года. Дзякуй!

Часта па дапамогу ці параду, як правільна напісаць ці перакласці на беларускую мову словы, я звярталася да Раісы Нікадзімаўны Хвір, якая шмат адпрацавала ў рэдакцыі. Яна ўмее правільна падказаць і нават угаварыць на які-небудзь добры ўчынак. Так здарылася, калі яна ў 2005 годзе ўгаварыла мяне прыняць удзел у конкурсе "Мабільнік і фотаапарат - за падпіску". І я ёй удзячна, бо менавіта мне са 153 удзельнікаў пашанцавала выйграць галоўны прыз - тэлефон "Матарола". Дарэчы, я і цяпер яшчэ карыстаюся ім. А Раіса Нікадзімаўна і цяпер - актыўны ўдзельнік многіх мерапрыемстваў, і ў яе гэта атрымліваецца.

Некалькі слоў хачу сказаць і пра цяперашніх супрацоўнікаў, з кім даводзіцца сустракацца, размаўляць.

З Соф’яй Уладзіміраўнай Любанец нас блізка пазнаёмілі і аб'ядналі сустрэчы ў раённым літаратурна-музычным аб'яднанні "Валошкі". Сустракаліся мы часта. Я выступала на раённым радыё, калі яна там працавала. Гэта цікавы, таленавіты чалавек. Яе вершы кранаюць сэрца.

З кабінета Тамары Анатольеўны Праль-Гуль заўсёды выходзіш у добрым настроі, бо яна, як бы ні была занятая, сустрэне добрым словам і ўсмешкаю, пагутарыць, нешта падкажа ці прапануе. Я вельмі люблю чытаць яе інтэрв'ю, артыкулы. Стыль яе такі даступны.

Няпростая, але вельмі патрэбная прафесія фотакарэспандэнта. Мы часта назіраем, як на розных мерапрыемствах робіць здымкі Святлана Міхайлаўна Польская. Потым выбірае для газеты самыя лепшыя, расказваючы ў іх чытачам пра справы на Нясвіжчыне.

Добрым словам хочацца ўспомніць Вольгу Яўгенаўну Марчанку, якая зараз гадуе маленькую дачушку. "Цудоўны і добры настаўнік", - сказала пра яе мая ўнучка Галіна, якая займалася ў школе юнкораў, што вяла ў рэдакцыі Вольга Яўгенаўна.

Акрамя творчых работнікаў, вялікі ўклад у агульную справу ўносяць і іншыя аддзелы рэдакцыі. Шмат работы, як бачым па газеце, у аддзеле рэкламы і бухгалтэрыі, у аддзеле дызайну і сакратарыяце. Кожны выконвае сваю справу, каб чытачы своечасова атрымлівалі свежы нумар "раёнкі".

*10.10.2014 г.*

## СА СВЯТАМ!

Раёнку сваю я віншую са святам!
Хай на падпісчыкаў будзе багатай!

Хай шлюць у рэдакцыю пісьмы і вершы,
Заўсёды ва ўсім яна будзе хай лепшай!
Ідуць да яе юнакі і дзяўчаты,
Як да добрага сябра ці ў родную хату.
А таксама заўжды, з пачуццём цеплыні,
Ідуць ветэраны працы, вайны.
Агеньчыкі творчасці зноўку гараць.
Яе слова ярчэй разгараецца.
Няхай кожны заўзяты чытач
Юбілею ў 100 год дачакаецца!

*2014 г.*

## *Барыс Вятлугін*

### ЛЕБЯДЗІНАЯ ВЕРНАСЦЬ

Так атрымалася, што я палюбіў беларускую прыроду. Вырас я на Украіне, у Данбасе, адтуль пайшоў у армію. Там падчас вайны жыў з маці ў акупацыі. Бацька з вайны не вярнуўся. У Данбасе прырода бяднейшая. На Новы год замест ёлкі прыбіралі хвою. Адчувалі недахоп кіслароду. Тэрыконы з вугольнай пароды гарэлі, распаўсюджваючы чад. Па-гэтаму я адразу закахаўся ў беларускую прыроду, з яе рэкамі, азёрамі і зялёнымі шатрамі дрэў.

Люблю пабываць у лесе, пасядзець з вудачкай на возеры. Гэтай вясной я вырашыў з'ездзіць у лес, у раён вёскі Вайнілавічы, наведаць знаёмыя мясціны. Цвілі суніцы і маліны. На зваротным шляху, на ровары, пад'ехаў да цэнтральнага канала на месцы былога балота. Побач знаходзілася закінутае, зарошшае травой возера. У галаве круцілася адна думка: як бы было добра, каб мы яго пачысцілі, тым больш, што яно напаўняецца вадой з каналаў.

Закінуць вудачку я не змог, вады з-за травы стала мала. Затое

камароў і мошак было з лішкам. Маю ўвагу прыцягнуў лебедзь, які, напыжыўшыся, адзінока плаваў па возеры. Вызваліўшы вуду ад зачэпу, для чаго прыйшлося зняць абутак, я пачаў збірацца дадому.

Прысеў на лавачку, некім зробленую пад дрэвам. І тут адбылося тое, што я запомніў на ўсё жыццё. З боку горада з'явіліся пяцёра лебядзяў, ляцелі высока. Ля Карцоўскага лесу яны развярнуліся і паляцелі назад у бок, дзе плаваў адзінокі лебедзь. Адна з птушак аддзялілася ад чарады і села побач. Праплылі крыху разам і ўзляцелі. Праляцеў метраў пяцьдзесят, адзін лебедзь цяжка сеў на ваду, - не мог падняцца. Чарада паляцела, каб заўтра зноў вярнуцца па свайго таварыша. Нездарма ходзяць легенды аб лебядзінай вернасці. Бачыў я там і чалавека з ружжом. У чэрвені я зноў пабываў у тых месцах, але лебедзя ўжо не было. Хутчэй за ўсё, падлячыўся і паляцеў з чарадой. Лебядзіная вернасць творыць цуды. Гэта жывы прыклад для кожнага з нас.

## ПАДАБЕНСТВА

Быў звычайны веснавы дзень, запоўнены клопатамі па падрыхтоўцы градак на пасадку. Трэба было зрабіць абрэзку дрэў і кустоўя. Як заўсёды ўсе чакалі дажджу. Нездарма кажуць, што калі ў траўні будуць два дажджы і гром - не патрэбен аграном.

Іду ад альтанкі да дома і бачу каля будынка твар малодша сына. "Як жа так", - думаю. Ён жа ж зараз павінен быць на рабоце. Падыйшоў бліжэй і пабачыў у люстэрку свой жа твар. Так, часам, сярод працы і клопатаў аб сям'і мы не заўважаем, як нашы дзеці становяцца падобнымі на нас. Падобнымі тварам і характарам. У дадзеным выпадку важна, каб паміж старэйшымі і малодшымі пакаленнямі было поўнае паразуменне, без ханжанства і хамства малодшых.

Малодшае пакаленне павінна паважаць старэйшых ужо за тое, што бацькі далі ім жыццё, выгадавалі і паставілі на ногі, вывучылі. Тым больш, што яны самі становяцца бацькамі.

Прызнаюся, што я быў прыемна здзіўлены, пабачыўшы ў сваім адлюстраванні у люстэрку твар сына. Значыць, не дарма пражыта жыццё!

## ЯК БЫЦЬ?

Ці задумваліся вы, паважаныя таварышы, аб тых зручнасцях, а дакладней, нязручнасцях, якія падпільноўваюць нас на вуліцах роднага горада?

Проста дзіву даешся той абыякавасці людзей да свайго лёсу і лёсу сваіх дзяцей. Па прыклады не трэба далёка ісці. Не ўсе інваліды маюць аўтамабілі, многія перамяшчаюцца на калясках. А паспрабуйце з'ехаць на інваліднай калясцы з праезджай часткі дарогі на тратуар. Зрабіць гэта немагчыма, бо не прадугледжана нашай мясцовай архітэктурай. Бардзюры пастаянна аднаўляюцца, маюць тэндэнцыю да росту ўверх, але з'езды не робяцца.

Гавораць, што ў капіталістычных краінах інвалід можа на калясцы заехаць усюды, нават у туалет. У нас жа ён не ў стане нават пераехаць з тратуара на тратуар па цэнтральнай вуліцы горада без рызыкі для жыцця. А паспрабуйце пераадолець перакрыжаванне з дзіцем у калясцы. Пры пераадоленні перашкоды ў выглядзе бардзюра дзіцячая каляска ператвараецца ў "крокавы" экскаватар.

Узнікае пытанне: хто ж будзе вырашаць гэтыя праблемы?

Мы не паважаем самі сябе. Чаму? Таму што ўсё робім абы як, не думаючы ні аб карысці справы, ні аб уласных зручнасцях. Час зразумець, што не нас павінны перабудоўваць, а што мы павінны перабудоўваць сваё жыццё, быт, горад, сваю вуліцу, нашу дзяржаву. Толькі так можна прыйсці да прагрэсу, да лепшага жыцця.

*21 ліпеня, 1990 г., "Чырвоны сцяг".*

## ВОСЬ ПРЫДУЦЬ ХАЛАДЫ

На дварэ - кастрычнік. Не за гарамі зіма, якая схавае пад сваім пакрывалам не толькі клумбы і газоны, але і месцы больш непрыглядныя ў нашым горадзе. Як, скажам, канаву, запоўненую вадой у цэнтры аўтастанцыі.

Зусім нядаўна праводзілі ў Нясвіжы тыдзень чысціні. Узрадаваўся: вось, думаю, пачысцяць гэты водаканал. Але спадзяванні аказаліся марнымі - начальніцкае вока, відаць, палічыла, што ён яшчэ не зусім завалены смеццем. "Вось калі праз яго можна будзе прайсці пешшу, тады можа і пачысцім яго…"

Чакае марозу і рукатворнае возера, што каля будынка хімчысткі. Замерзне - і будзе дзе катацца дзятве на каньках. А там, глядзіш, знікне і вада з падвалаў, што з'явілася з утварэннем гэтага вадаёма. Старыя пенсіянеры гавораць, што раней вады ў падвалах не было…

А стварылася возера на месцы былога дома так. Сыпанулі сюды зямлі, ды аказалася, што мала. А на другі раз ці то зямлі не хапіла, ці то жадання нешта зрабіць.

- Пераб'юцца, - вырашылі "бацькі" горада, вось наступіць зіма,

выпадзе снег, усё пакрые і будзе ў лепшым выглядзе". Вялікая справа - зіма!

Хутка занясе снегам, замарозіць і нашы жамчужыны - азёры. А гаварылі ж мінскія таварышы з праектнага інстытута, што маўляў, у кастрычніку бягучага года ваду з возера "Дзікае" будуць спускаць, а возера ачышчаць - выцягваць са дна ўвесь будаўнічы хлам: кускі бетону, арматуры, каменне, старыя буксірныя тросы і г.д., абяцалі заліць бетонам усе небяспечныя месцы ля сцен, дзе тырчыць арматура. Гаварылі. Аднак лёгка казка гаворыцца, ды не скора справа робіцца.

Сам галоўны архітэктар праекта тав. Жлабо гнеўна кляйміў бракаробаў. Пісаў у газету, што калі возера не спусцяць і не зробяць як след, - ён такой работы не прыме. Але калі тое было. Наступіў кастрычнік, а возера даводзіць да ладу ніхто не збіраецца. Зноў усе надзеі на зіму.

А ў свой час па праекце было задумана выкапаць перад возерам адстойнік, каб торф, глей не траплялі ў возера. Цяпер і праект гатовы, але справа не робіцца. "Калі зацягне возера глеем, зноў пачысцім, - гавораць некаторыя, - ну што там нейкая пара мільёнаў грошай - дробязь!"

Вельмі прывабна на чарцяжах глядзелася ахоўная зона рэк і азёр - прыгожа было намалявана. А што на справе няма - не бяда. Вось прыйдзе матухна зіма, вырашыць усе праблемы і спрэчкі, ахалодзіць гарачыя галовы і … дамарозіць халодныя сэрцы.

Таты і мамы! Дзядулі і бабулі! Пакуль яшчэ не прыйшла зіма, паспрабуйце разбудзіць сумленне ў тых таварышаў, ад якіх залежыць ачыстка азёраў ад хламу і будаўнічага смецця. Памятайце, што жыццё вашых дзяцей і ўнукаў у небяспецы. Свае эмоцыі выкажу вершаваным радком:

*Потомки нас за Дикий пруд*
*Недобрым словом помянут.*
*А предки нас за Дикий пруд,*
*Как бракоделов - в ад попрут.*

Вось настане доўгачаканая зіма. Накрые снегам усе смеццевыя звалкі ў горадзе, а разам - і металалом. Як, напрыклад, на хлебазаводзе лінію па разліву безалкагольных напіткаў, якая захоўваецца пад адкрытым небам. Лінія гэта, гавораць, даўно павінна была працаваць… так, відаць, некім запланавана, падпісана, загадана, даведзена да ведама… уся надзея на сняжок.

Гавораць і пішуць, што жывём мы ў час перабудовы. Яшчэ

гавораць, што ў нашым раёне высокія паказчыкі ў сельскай гаспадарцы і жывёлагадоўлі (што непрыкметна па магазінах). А калі так, то і ніякага застою няма, і перабудова не патрэбна.

Але давайце больш уважліва паглядзім вакол, ці ўсё так цудоўна і багата для ўсіх?

Зіма - з'ява часовая. Скончыцца і зіма, а вясной заўважаеш, як усё непрыглядна навокал, калі своечасова не навесці парадак у горадзе, парку, на двары, каля дома. Ці не лепш ухіліць усе недаробкі яшчэ да пачатку зімы? А вы як думаеце?

## І СМЕХ, І ГОРА

У магазіне "Дружба" райспажыўтаварыства змянілі назву аддзела "Для малазабяспечаных" на "Рытуальны". Чым кіраваліся тут - цяжка сказаць. Верагодна, палічылі так: прасцей і лягчэй адзець чалавека адзін раз пасля смерці, чым апранаць яго ўсё жыццё.

І смех, і гора. Па-першае, у гэтым аддзеле прадаецца ўсё: абутак і паліто, касцюмы і боты гумовыя. А ці бачылі вы, каб каго-небудзь хавалі ў паліто і гумовых ботах?

У гутарцы з некаторымі пакупнікамі я зразумеў, што гэты аддзел з'ўляецца ўдалым і зручным месцам для набыцця дэфіцытных тавараў без "візітак". Згадзіцеся, што нажывацца на смерці свайго ці чужога родзіча - амаральна.

Ёсць прапанова. Напэўна, лепш было б выдзеліць для гэтых мэт асобнае памяшканне ў горадзе.

## ПОГЛЯД З ЗАЦІКАЎЛЕНАГА БОКУ

Мне таксама давялося прысутнічаць на пасяджэнні горадабудаўнічага савета і сказаць некалькі слоў у абарону Паповай горкі. Да таго ж, літаральна праз дарогу ёсць свабоднае месца, на якім можна будаваць новы санаторый.

Можа ўзнікнуць пытанне: а ці варта наогул будаваць яго? У сувязі з сувернітэтам Беларусь засталася небагатай на месцы адпачынку для працаўнікоў, а хіба яны не заслужылі? Вядома, што ў нас вялікі запас радонавых вод, ёсць і мінеральныя. У перспектыве плануецца будаўніцтва яшчэ аднаго санаторыя, прафсаюзнага - каля вёскі Фальваркоўцы. Значыць, санаторыям быць. У новым з трохсот месц пяцьдзесят будуць займаць жыхары Чарнобыльскай зоны. На самым версе Паповай горкі

плануецца пабудаваць капліцу. Такі варыянт прымальны, бо гістарычнае месца павінна быць даступна турыстам і насельніцтву.

Ішла размова і пра будаўніцтва адстойніка перад сажалкай "Дзікая". Неабходнасць яго зразумелая, але, кажуць, няма грошай. Аднак эканомія тут недарэчы. Трэба вырашаць пытанне і з ахоўнай зонай уздоўж рэк, іх прытокаў і азёр. Што летам наступным будзе, калі вада ў антысанітарным стане? Настаў час дабіцца, каб нашы вадаёмы не забруджваліся, для чаго, калі трэба, неабходна і ўладу прымяніць.

Варта падумаць, што пры будаўніцтве новага санаторыя спатрэбіцца і аб'язная дарога на Заазер'е, і пра стаянку для аўтамашын нельга забываць.

А яшчэ я прапаную выступіць у раённай газеце кіраўнікам горада, сказаць аб яго будучыні ў цэлым.

*"Чырвоны сцяг", 12 кастрычніка 1991 г.*

## ІДУЦЬ СЮДЫ ЛЮДЗІ

Напэўна, не ўсе ведаюць, што аддзел сацыяльнага забеспячэння райвыканкама ўзначальвае новы чалавек - Ірына Антонаўна Серая. Нядаўна, з дазволу гаспадыні кабінета, пасядзеў і паслухаў, з чым сюды прыходзяць людзі, што іх трывожыць і хвалюе у наш няпросты час.

Цікава было назіраць, як Ірына Антонаўна прымала наведвальнікаў. Вяла сябе яна стрымана і тактоўна, як шчыры суразмоўца. Умее выслухаць чалавека, устанавіць з ім дзелавы кантакт.

Зразумела, не ўсе пытанні ўдаецца адразу станоўча вырашыць. Але абавязкова абнадзеіць, падкажа, куды і да каго звярнуцца. Бо просьбы бываюць розныя. Асабліва шмат зваротаў па набыцці будаўнічых матэрыялаў. Людзі паважанага ўзросту крыўдзяцца, што іх у гэтых адносінах абыходзяць увагай. У той час, як многія кіраўнікі-дэпутаты, маючы добраўпарадкаваныя кватэры, будуюць сабе двухпавярховыя катэджы. І за бясцэнак прыватызуюць.

У раёне налічваецца 14600 пенсіянераў. Амаль кожны з іх па некалькі разоў бывае ў аддзеле сацыяльнага забеспячэння. Працаваць цяпер, гаворыць Ірына Антонаўна, стала намнога цяжэй. Даводзіцца рабіць пераразлік пенсій з улікам кампенсацый, індэксацый і іншых даплат. Але ў іх такая справа, і ёй яны застаюцца верныя. Людзі пакідаюць аддзел у добрым настроі.

*"Чырвоны сцяг", 17 снежня 1991 г.*

# "КАЗАЧНЫ" МОСЦІК

Жыхары Заазер'я, асабліва тыя, чые дзеці ходзяць у школу-гімназію, хочуць, каб "казачны" мосцік пераўтварыўся ў звычайны мост. А той, што ёсць, і сапраўды "казачны", бо стаіць на курынай ножцы ды канцамі ўпіраецца на тарфяную падушку - практычна трымаецца на паветры. Сапраўдны паветраны мосцік на курынай ножцы або наадварот.

Што думаюць дзеці і іх бацькі аб такіх мостабудаўніках, здагадацца не цяжка. А што думаюць будаўнікі і іх натхняльнікі? Відаць, нічога. Бо чым растлумачыць, што адразу пасля ўводу ў эксплуатацыю апошні заваліўся на бок. На яго аднаўленне быў кінуты інжынерна-тэхнічны персанал з двух чалавек. Аўтакранам мосцік паставілі на падпору, а пад канцы паклалі па палену дроў. А драўніна, як вядома, матэрыял нявечны, і хутка мост зноў апынуўся на баку. А трэба было б замест тых дроў пакласці бетонныя пліты або бетонныя апоры, як сцвярджаюць спецыялісты.

Мост будавала ПМК-23, а эксплуатуе МУААС. Мінулай зімой начальнік МУААС абяцаў адрамантаваць яго, як толькі размерзне зямля. Зямля замерзла, потым растала, хутка зіма, а мост так і не адрамантаваны.

Два тыдні таму напомніў начальніку МУААС пра яго абяцанкі. У адказ пачуў, што мост гэты яны рамантаваць не збіраюцца. Бо дарага. Што рабіць? Няма ж каму прымусіць віноўных ліквідаваць яўны брак. Застаецца спадзявацца на Бога, бо надвор'е восенню псуецца, а школьнікі нават і ў гумавых ботах не пройдуць, спатрэбіцца верталёт.

Для яснасці застаецца сказаць аб месцазнаходжанні гэтага мосціка. Калі ісці ў горадзе па вуліцы К. Маркса ў бок вёскі Заазер'е, то выйдзеце ў канцы вуліцы на перакрыжаванне. Тут будзьце асцярожны, бо нічыйная тырыторыя моцна зарасла чартапалохам. Калі ж пераадолееце гэтыя заросікі, то па казлінаму мосціку трапіце на сцяжынку, якая вядзе ў в. Заазер'е. Сцяжынка і вывядзе на "казачны" аб'ект, на перакрыжаванні варта паставіць памятны знак. На ім напісаць: "Направа пойдзеш - у санаторый трапіш, налева - у саўгас трапіш, прама пойдзеш - у балота звалішся!". Вось і казцы канец.

Казка казкай, але ж жыць трэба?

*"Чырвоны сцяг", 31 кастрычніка 1992 г.*



# *Святлана Ціхонка*

*Ціхонка Святлана Арсенцьеўна нарадзілася 10 студзеня 1953 г. у в. Аношкі Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці ў сям'і сялян. У 1969 годзе скончыла Казлоўскую сярэднюю школу з Пахвальнай Граматай за асаблівыя поспехі ў вывучэнні матэматыкі, фізікі, рускай мовы і літаратуры. У 1973 годзе скончыла Мінскі радыётэхнічны тэхнікум па спецыяльнасці "Радыёапаратабудаванне". З 1973 г. па 1977 г. працавала ў НДІЭВМ (г. Мінск) тэхнікам, старэйшым тэхнікам у канструктарска-тэхналагічным аддзяленні. У 1977 г. скончыла на "выдатна" 1-ы курс вячэрняга факультэта Мінскага радыётэхнічнага інстытута па спецыяльнасці "Канструяванне і тэхналогія вытворчасці электронных вылічальных машын". Па сямейных абставінах у 1977 г. перавялася на другі курс Беларускага дзяржаўнага інстытута народнай гаспадаркі імя В В. Куйбышава на завочнае аддзяленне планава-эканамічнага факультэта па спецыяльнасці "Планаванне сельскай гаспадаркі", які паспяхова скончыла ў 1981 годзе. З 1977 г. па 2011 г. працавала ў калгасе (пасля ААТ) "НОВАЕ ЖЫЦЦЁ" Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці эканамістам, старэйшым эканамістам па працы, галоўным эканамістам, намеснікам дырэктара.З 2004 г. па 2011г. з'яўлялася старшынёй прафсаюзнага камітэта ААТ "НОВАЕ ЖЫЦЦЁ" на грамадскіх пачатках.*

*У 1990, 1991гг.працавала на выбарнай пасадзе сакратара Казлоўскага сельскага Савета Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці.*

*Замужам. Мае сына і дзвюх дачок.*

*Мае дарагія, любыя! Я прызнаюся вам у сваёй любові да вас. Учора, 20 кастрычніка, быў дзень памяці мамы. Была на магіле мамы і таты. Абняла помнік... А пеорад гэтым прыснілася мне бацькоўская хата. І так у ёй чыста, утульна, як было заўсёды пры іх жыцці. Яны прывучылі нас да парадку, да працы, да любові да роднай зямлі і людзей, заўсёды гаварылі нам, што трэба з удзхячнасцю прымаць усё, што выпадзе нам у жыцці. В ўжо як яны любілі нас...*

*Надышоў такі час у жыцці, што хочацца падзяліцца сваімі ўспамінамі пра бацькоў, выказаць ім сваю бязмежную любоў за ўсё і за тон, што гадавалі, вучылі, замуж аддавалі, унукаў дапамагалі гадаваць, за іх парады. Мне заўсёды здавалася, што тое, што мама параіць, тое і будзе правільным.*

Мама была з вёскі Ліхасельцы, цяпер гэта вёска ў Баранавіцкім раёне. Я чула, як дзед Павел і баба Алена пазнаёміліся: яна працавала буфетчыцай на вакзале ў Мінску, а дзед працаваў машыністам на чыгунцы. Яны ў нас амаль ніколі не бывалі ў Аношках. Мы ўсе разам туды ездзілі. Бацька мяне і Лілю пасадзіць на ровар і паехалі. Гэта было на яблычны Спас, кожны год. Памятаю, аднаго разу ездзілі на аўтобусе да Друцкаўшчызны, а затым пешшу да Ліхасельцаў. Я, мама, тата, Ліля і маленькая Лена. Пабылі тады ў гасцях у Друцкаўшчызне ў бацькавай стрыечнай сястры Гэлькі. Яна там была замужам. Яе дачка Галя нас праводзіла з Дурыцькаўцаў (так у народзе называлі вёску Друцкаўшчызна тады) у Ліхасельцы. Гэта блізка, мо з кіламетры два. Нас заўсёды дзед з бабай добра частавалі, накрывалі шыкоўны стол. Баба Алена была добрая гаспадыня, яна ўмела гатаваць смачныя стравы. На Спаса да дзядулі і бабулі прыязджала маміна сястра Маня з мужам Сяргеем, яе два сыны Саша і Віця, а таксама мамін брат Міша з жонкай Лідай і з дачкой Галяй і сынам Юрам. Было весела, мне вельмі падабаліся мая стрыечная сястра Галя і мае браты. Саша, Віця і Галя былі старэйшыя за мяне. І гарадскія. Цёця Маня жыла ў гарадскім пасёлку Гарадзішча каля Баранавіч, а дзядзька Міша - у Баранавічах. Дзядзька Міша вельмі прыгожа спяваў. Як зацягне... Голас быў як у Шаляпіна, толькі вышэйшы, гэта барытон быў. Ой, як мне падабаліся гэтыя госці! А мама адна то часта хадзіла ў Ліхасельцы пешшу. Нават зімой. І зімой прыносіла ад

дзеда з бабай гасцінец - свежыя яблыкі. Дзед умеў іх зберагчы. Якія яны былі смачныя, пахучыя! Тады ж у крамах на вёсцы яблык не прадавалі. Пра апельсіны і мандарыны ніхто нават не чуў. І вось зімой гэткія пахучыя яблыкі, антонаўкі, нам дзед перадаваў! Вось гэта я і памятаю пра маміных бацькоў. Баба Алена памерла, калі я вучылася ў восьмым класе, ёй было 64 гады. Памерла ад сэрца. Я была на яе пахаванні. Мама вельмі перажывала, у яе пасля бабулінай смерці валасы вылазілі прама пасмамі. Ад нуды... Дзед памёр у 1970 годзе. Я засталася за гаспадыню тады дома, бо была зіма, а дома гаспадарка: карова, свінні, куры, цяля. Баба Анця, якая жыла з намі, не справілася б.

Мне мама расказвала, што пры Польшчы бабы Алены брат і сястра, якія жылі ў Амерыцы, у Нью-Ёрку, прысылалі ёй грошы, а ім, малым, на святы - падарункі. Дзед Павел купіў за гэтыя грошы шэсць гектараў зямлі. Мама мне паказвала, дзе была іх зямля. Слалі і лекі бабе Алене. А калі пачалася "халодная вайна" ў Савецкага Саюза і ЗША, то дзеда выклікалі ў Баранавічы, у КДБ, і загадалі напісаць родным бабы Алены, што ў нас у краіне ўсяго хапае, прысылаць нічога не трэба. "Бо будуць непрыемнасці", - папярэдзілі яго. Дзед спалохаўся. І напісаў, каб яны зусім не пісалі ім. Так і перарвалася нітачка, якая звязвала бабу Алену з яе раднёй. А ў анкетах усе мы пісалі, што радні за граніцай у нас няма. І толькі ў 2006 годзе майго стрыечнага брата Віктара, сына мамінай сястры Мані, прафесара Ваеннай акадэміі імя Ю.А. Гагарына, дачка Даша знайшла ў Брукліне радню. Я бачыла фотаздымак, я думаю, ужо маёй траюраднай сястры з сям'ёй. А Даша была ў іх у гасцях. Не ведаю, можа, і цяпер яны маюць зносіны паміж сабой, бо Даша жыве ў ЗША, у горадзе Сіэтл.

Мая мама была з 1930 года нараджэння, а бацька з 1923 года. Пажаніліся яны ў 1952 годзе ў лютым. Пасля вайны аношкаўскія хлопцы на раварах ездзілі ў Ліхасельцы на танцы. Гэта мой бацька, Валодзік Ільючкоў, Коля Маляжанчын, яго брат Дзям'ян, Коля Сянькевічаў, Міхал Сенькевічаў, Язэп Антановіч...

Узяў сабе жонку з Ліхасельцаў толькі мой бацька. Мама была прыгожая. Гэта ўсе казалі. Акрамя таго, мама была краўчыха. Яна вельмі прыгожа шыла. Вучылася за краўчыху ў Роцькавічах, на даму. Дзед за гэта заплаціў 16 пудоў зерня. А закончыла яна 5 класаў, далей дзед і баба аддалі вучыцца за швачку. Бацька маму называў "прафесар". Яна, і праўда, разумніца была, любую сітуацыю разруліць. У хаце камандавала яна, але заўсёды да толку. Бацька яе слухаў. Камандзір была. Бацька казаў: "Ой, каб нашай матцы ды яшчэ навукі, сама мала была б прафесарам". Вельмі высока ён яе цаніў і паважаў. Любіў моцна. Ніколі на яе

голасу не павысіў. За вочы казаў на яе: "Мая Паўлаўна".

Мама многа шыла, нас усіх абшывала. Мы з Ліляй заўсёды ў абноўках былі на святы. У нас было чацвёра дзяцей, але ў нас усё было: і скварка, і каўбаска сушаная, і паляндвіца, і селядзец, белы хлеб, масла, смятана. Добра жылі па тых мерках. Але нашы бацькі, колькі я памятаю, ніколі без работы не сядзелі і нам не давалі. Работа была пастаянна. Мама працавала на будоўлі ў калгасе, на свінаферме свінаркай. Ды яшчэ пасля работы шыла. А бацька ўсё ўмеў рабіць. Працаваў токарам, кавалём у калгасе, памочнікам камбайнера з Акулікам Аляксандрам Міхайлавічам. А людзі з хаты не вылазілі. Парнікі для варкі бульбы ці буракоў для свіней, плугі, сошкі, бораны, гачкі для людзей рабіў. Страху крыў і чорнай бляхай, і цынкавай. Залатыя рукі былі. І нікому ніколі не адмовіў. Мама, бывала, што і зазлуе. Бо ж свае работы было шмат. "Усім не пераробіш", - гаварыла яна. І за работу ён браў мала. Калі я ўжо працавала эканамістам, узяла яго работу на даму за месяц і расцаніла па калгасных расцэнках. У мяне атрымалася ў пяць разоў даражэй, чым бацька ўзяў з людзей за сваю працу. Я яму і кажу: "Тата, ты болей бяры за сваю працу, цэлымі вечарамі ты ў кузні клеплеш, ніколі не пасядзіш, тэлевізар няма калі паглядзець". То ён махнуў рукой ды кажа: "Ат, Света, нічога ты не разумееш. Ну як я вазьму многа з адзінокай кабеты?". Мне і цяпер Бабок Вера Мікалаеўна кажа пра бацьку: "Што ўжо за чалавек быў! Колькі ён мне памог у жыцці, ніколі не адмовіў у просьбе".

Брацісе многа памагаў, удаве Віталя. Ён памёр малады, пакінуў малых сыночкаў. Аднаму было 4 гады, другому - 2. То чаравічкі купіць, то зернем дапаможа кароўку яе падтрымаць. Мама шыла хлопчыкам то штонікі, то кашулькі. Дапамагалі цётцы Мані.

Мама была строгая. У яе не падурэеш. Калі яна бывала ў Ліхасельцах у сваіх, от мы ўжо адводзілі душу. Бацька пасмейваўся і казаў: "Ну зараз на вас Мароз прыйдзе".

Помніцца, зімою вечарам. У хаце чыста, патрэсквае агонь у пліце каля печы. Мы сядзім каля бацькі, а ён чытае нам "Рабінзон Круза". А яшчэ ён нам расказваў казкі пра крэсіва, як салдат з сякеры зварыў кашу.

Мы з сястрой Ліляй не гулялі, як іншыя дзеці. Мы, можна сказаць, зусім мала былі прадастаўлены сабе. Увесь час нам мама штосьці даручала: то падлогу памыць, то бялізну на пасцелях памяняць, то адпрасаваць бялізну, то вокны памыць, то надворак падмясці, то карове буракоў нарэзаць, то бурачніку свінням нарваць. Ой, работы было процьма. Летам у суботу мама дазваляла пакатацца на бацькавым ровары, так у

нас на веласіпед казалі. Вельмі мне падабалася пракаціцца на бацькавым "баране". А называлі яго так таму, што руль у яго быў, як у барана рогі. Ён быў цяжкі, не па мне. Але ўсяроўна, гэта для мяне было вялікай асалодай. І я так прывыкла, што трэба ўвесь час штосьці рабіць, што і цяпер не магу сядзець склаўшы рукі. Трэба хоць чытаць, штосьці спазнаваць. Калі вучылася ў тэхнікуме, то летам можна было паехаць у турыстычную паездку ці ў дом адпачынку, у прафілакторый. Я не брала ніякіх пуцёвак, бо мне трэба было дапамагаць бацькам палоць калгасныя буракі, церабіць лён, дома шчыраваць на агародзе, адпасваць калейкі кароў... У сяле жыццё было нялёгкім, ох, нялёгкім

Я і цяпер чую смак каўбасы і паляндвіцы сушанай, па кавалачку якіх давала мама, калі мы ішлі вечарам сустракаць кароў. Я больш нічога смачнейшага не ела за ўсё сваё жыццё. Куды там цяперашнія каўбасы ды вэнджаныя паляндвіцы, што навалам прадаюцца ў крамах. Не той смак, не той. Мама ўмела рабіць і каўбасу, і мяска. Наогул, яна была такая запаслівая. Калі б ні з'явіліся знянацку госці, у яе заўсёды было чым пачаставаць. Уміг накрываўся стол, ды не абы-якія закускі выстаўляліся. От, умела яна і стол накрыць, і запрасіць. Добрая была, апошнім падзеліцца. Я ў яе пайшла, ніколі не шкадую нічога. Наадварот, як каму што аддам, то радасна становіцца на душы, што нешта добрае зрабіла. Да нас любілі прыязджаць мамін брат Міша з Баранавіч з жонкай Лідай, маміна сястра Маня з мужам Сяргеем з Гарадзішча. Часта да нас прыходзіла цётка Лёня, бацькава сястра з Казлоў. Мама з ёй жыла душа ў душу. Цётка Саша з дзядзькам Лявонам прыязджалі з Вужанкі, куды цётка пайшла замуж. Гэта мама і бацька павыдавалі бацькавых сясцёр замуж, і пасаг сабралі для іх.

Часта да нас у госці прыязджаў сын цёткі Мані Віктар з жонкай і дачкой Дашай. Яны жылі ў Моніна пад Масквой, дзе Віктар працаваў прафесарам. Ён быў лётчык, палкоўнік. Мама вельмі любіла яго, яго жонку Вольгу, сына Сашу і дачку Дашу. Яна ж іх ніколі не адправіць, каб чаго не даць з сабой: ці сала кавалак з колцам каўбасы, ці мяса сушанага. А што даць, у мамы і бацькі было заўсёды. Яны былі добрыя гаспадары і працаўнікі, як у нас кажуць.

Помню, прыехаў быў з жонкай Аняй мамін брат Віктар з Горкага. Цэлы тыдзень яны ў нас гасцявалі. Мама так была рада гэтай сустрэчы! На развітанне мама палажыла ім у дарогу ўсяго, што можна было даць і яшчэ цётцы, сваёй брацісе, адрэз на сукенку. Прыгожая была тканіна, яна сабе купляла, а не пашкадавала. Цётка Аня нават заплакала пасля такога падарунка. І цётка Соня с мужам Іванам частыя госці былі ў нас. Яны жылі бедна, бо на палявыя работы хадзілі ў саўгасе. Дзядзька любіў

выпіць, цётка за ім гаравала. То мама іх дачцэ Волі справіла белую вясельную сукенку і на другі дзень сама пашыла сукеначку, каб не горай Вольга выглядала за іншых маладых на сваім вяселлі. Усім дапамагала. І бацька ніколі слова не сказаў. Трэба, значыць трэба.

А ўжо заступалася за цётку Лёню з Казлоў! Выйшла яна замуж за Геніка Пракарыну, Керанскія на іх казалі. Ну, у вёсцы ж у кожнага яшчэ ёсць і другое імя, па-вулічнаму. Бацька яго Мікалай быў малога росту, як Керанскі, кіраўнік Часовага ўраду пасля Лютаўскай рэвалюцыі ў Расіі ў 1917 годзе. Дык вось гэты дзядзька Генік быў майстар таксама добры, каваль. Але як вып'е, а піў ён многа, то цётцы месца ў хаце не было. Мы ж і бабу Анцю, бацькаву маці, па гэтай прычыне забралі да нас. Ну, вось цётка Лёня заўсёды ўцякала да нас, у Аношкі. Дзядзька ж прыбягаў за ёй, бо гарэлка ў яго галаве бурліла, рабіла яго проста дурным, а як цвярозы, то ён быў лепшы чалавек, якога пашукаць. То мы малыя з мамай дядзьку Керанскага звязвалі вяроўкамі, пакуль не выветрыцца гарэлка ў яго з галавы, пакуль не супакоіцца. Ён пасля не крыўдаваў, разумеў, што нельга яму піць, але так да апошніх дзён сваіх і не ўзяўся за розум. Памёр праз год пасля смерці цёткі Лёні, ужо не было каму на яго крычаць за гэтае пітво.

А бабуля пражыла з нявесткай каля дваццаці гадоў.

І добра яны жылі паміж сабой. Адно, бывае, за нас пасварацца. Бо мама была гарачая, як што якое, то яна хапала бацькаву папругу, ды за намі. А баба разапнецца перад намі і кажа: "Бі мяне, а дзяцей не дам". Мама і супакойвалася. Казала: "От, матка, дабалуеш ты іх...".

Бацькі для мяне вельмі многа значылі. Ужо дарослай я заўсёды радзілася з імі. І заўсёды яны правільна радзілі. Мама доўга не старэла, у яе сівых валасоў, лічы, зусім не было. Ніколі ніякай касметыкі, ніякіх крэмаў лассёнаў, а твар заўсёды быў малады і прыгожы. Я пра дабрыню яе ўжо казала. Нядаўна з сяброўкай Галінай Хоміч, Іванчыкавай, гутарылі пра маму, дык яна ўспомніла, як ёй мама дала вязаную кофтачку маю адзець на школьны вечар, бо ў мяне было дзве, а ў Галіны не было ніякай. Яна гаварыла, а ў яе вачах круціліся слёзы. Так яна запомніла маміну дабрыню.

Я дзякую Богу за маіх бацькоў. Яны паважалі адзін аднаго, мая мама мне казала: "От, Света, каб табе Бог даў такога мужа, як твой бацька". У добры час гэтыя словы яна сказала. З вялікай любоўю да мяне. Бо Гасподзь Бог іх пачуў. Мой Валодзя - гэта сама дабрыня, спагада, чыстая, як крышталь, душа. А як ён любіць дзяцей, унукаў! Мае дочкі мераюць і сваіх мужоў гэтай бацькавай мерай. Я ім гавару заўсёды, што такіх, як ваш бацька, прырода нараджае аднаго на дзесяць тысяч

мужчын. Я шчаслівая ў Бога. Колькі мне яшчэ прыйдзецца пражыць на гэтым свеце, не ведаю. Але тыя 44 гады сумеснага жыцця, што мы пражылі з ім, былі вельмі шчаслівымі і радаснымі.

Ужо позна, я сёння яшчэ і вечарам успамінала. Перабрала бацькаў архіў. Паплакала... Знайшла бацькавы канспекты, дзённікі. Бацька вучыўся з 15 студзеня 1951 года па 15 чэрвеня 1951 года ў Дзятлаўскай школе механізацыі сельскай гаспадаркі Баранавіцкай вобласці. На падставе пастановы кваліфікацыйнай камісіі ад 15.06.1951 г. яму прысвоілі кваліфікацыю механіка-камбайнёра. Экзамены ён здаў на "добра" і "выдатна". Гэта ўказана ў пасведчанні № КБ 19735 Дзятлаўскай школы. Мяне ўразілі яго канспекты па асновах агратэхнікі, па канструкцыі камбайна СК-4 і яго вузлоў, па тэхналогіі рамонту камбайна СК-4. Напісаны яны каліграфічным почыркам на рускай мове, граматна, без памылак. І яны такія змястоўныя! Татка скончыў перад вайной, у 1941 годзе, сем класаў Сноўскай школы. А да верасня 1939 года вучыўся ў Снове ў польскай школе. Добра ведаў польскую мову. Ну, я ніяк не думала, што ён так ведаў рускую. Добра знаў творы Адама Міцкевіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа і Генрыка Сянкевіча.

У студзені 1961 года вучыўся на курсах па комплекснай механізацыі вырошчвання кукурузы і іншых абганяльных культур пры Беларускім інстытуце сельскай гаспадаркі. Працаваў у калгасе трактарыстам, камбайнёрам, памочнікам камбайнёра, кавалём, токарам. Ён і назву даў калгасу "Новае жыццё" пры яго арганізацыі. Працаваў ён добра. Я так мяркую таму, што знайшлося пасведчанне аб прысваенні яму звання Ганаровага калгасніка калгаса "Новае жыццё". Яно выдадзена рашэннем агульнага сходу ўпаўнаважаных ад 17 лютага 1981 года. Ганароваму калгасніку надаваліся наступныя палёгкі:

1. Бясплатнае карыстанне радыёкропкай.
2. Бясплатнае карыстанне электраэнергіяй.
3. Бясплатнае карыстанне транспартам у межах раёна для дастаўкі кармоў.
4. Бясплатнае прадстаўленне транспарту для прывозу паліва.
5. Прадстаўленне бясплатнага паліва з разліку 3 тоны ў год.

Колькі я памятаю, у бацькі ніколі не было выхадных, нават у нядзельку. Абавязкова што-небудзь у калгасе здарыцца, выйдзе з ладу якая машына, ці механізм. Без бацькі не зробяць. Бо ён і токар, і каваль. Прыходзіць галоўны аграном Борыс Міхаіл Аляксандравіч: "Сцяпанавіч, выручай". Мама: "Ну, вось, Арсень, думалі ж...". Бацька кажа: "Ну, як жа я не паслухаю галоўнага агранома". Заўсёды слухаў, бо разумеў,

што работа не чакае, трэба сеяць, касіць, жаць. Гэта ж сельская гаспадарка. Як пагода, то і старайся, круціся. А як задажджыцца на тыдзень, што ж тады рабіць...

Кавальскай справе бацька вучыўся ў Часновіча ў Нясвіжы. Я не ведаю, у якім узросце ён там вучыўся, але гэта было пры паляках. Бо ў 1939 годзе, калі Чырвоная Армія вызваліла Заходнюю Беларусь ад палякаў, Часновіч паехаў у Польшчу і вельмі клікаў з сабой бацьку. Сваіх дзяцей у яго не было. А бацька, я думаю, яму падабаўся. Ён быў кемлівы хлопчык і працавіты. Я ўжо вучылася, можа, у класе восьмым, калі прыйшоў ліст з Польшчы ад гэтага пана Часновіча. Ён прасіў бацьку пераехаць да яго з сям'ёй і абяцаў усё, што ў яго ёсць, перапісаць на бацьку. Праз столькі гадоў не забыўся! Але бацька яму адмовіў у просьбе. Нікуды са сваёй зямлі, з роднага краю бацька не паехаў бы. Ніколі. Пасля вайны яго запрашалі паступіць у вайсковае вучылішча, быць афіцэрам. Адмовіўся. Цягнула зямля, бацькі, сёстры, брат. У нас жа ў Заходняй Беларусі была ж яшчэ прыватная ўласнасць на зямлю. Трэба было дапамагаць бацькам яе апрацоўваць. Бацька адзін з першых уступіў у калгас. Але многа несправядлівасці бачыў ён у калгасным жыцці. Перажываў.

У 1981 годзе его ўзнагародзілі Ганаровай грамотай Нясвіжскага райкама КП Беларусі за шматгадовую працоўную і грамадскую дзейнасць і ў сувязі з трыдцаціголдзем з дня ўтварэння калгаса "Новае жыццё". Грамата падпісана першым сакратаром Нясвіжскага райкама КП Беларусі А. Бычакам.

Бацька не быў выскачкай. Ён роўна, сумленна працаваў, дзяліўся сваімі ведамі, вопытам з малодшымі таварышамі, ніколі не зазнаваўся, быў простым і бескарысным чалавекам. Так усё выразна стаіць перад вачыма: наша новая хата, чыста вымытая падлога, пасланыя дарожкі, мама і бацька глядзяць тэлевізар. Я забегла пасля работы да іх. І бацька пытае: "Што новага ў калгасе?" Ен заўсёды цікавіўся пра калгасныя справы, бо ўсё яго жыццё, маладое і сталае прайшло ў гэтай гаспадарцы. Многа, многа яго працы ўкладзена тут...

Капалася ў бацькавым архіве і знайшла фота, дзе бацька сфатаграфаваны з Колем Антановічам (Маляжанчыным). Там яны маладыя, яшчэ да жаніцьбы. Можа, сфатаграфаваліся перад паездкай у Ліхасельцы на танцы. У фрэнчах, у галіфэ, хромавых ботах. Я памятаю гэты фрэнч, галіфэ і боты. Гэта ў бацькі быў такі выхадны гардэроб. У той час гэта было модна. На фота яны маладыя, статныя, прыгожыя. Мой пляменнік Саша, Сеняў сын, вельмі падобны на свайго дзеда, што на гэтай

фатаграфіі.

Мы з Ліляй, сястрой, на печы, а мужчыны сядзяць на лаўцы і размаўляюць пра вайну. Колькі сябе памятаю, то ў нядзелю ў нас збіраліся бацькавы сябры і лілася гутарка. Усе размовы пра вайну. Пра Варшаву, Берлін, пра Віслу і Одэр. Гарэлкі не пілі. Курылі і расказвалі. Гаціла Мікалай Вячаслававіч прыходзіў, Коля Антановіч (Маляжанчын), Дзямян (Іван Антановіч), Міхал (Сянькевіч Міхаіл), Коля Сянькевіч, Базыль (Васіль Сянькевіч), Язэп (Антановіч Іосіф), Шорнік (Антановіч Аляксандр Фадзеевіч), Валодзік Ільючкоў (Хоміч Уладзімір Ільіч), Матус Уладзімір Нікадзімавіч, Антановіч Аляксандр Ігнацьевіч з Малаедаў, бацькаў лепшы сябар Пракарына Міхаіл Васільевіч, з якім быў на вайне ў адным гарматным разліку. Часта ўспаміналі Георгія Канстанцінавіча Жукава, Маршала Савецкага Саюза, які каардынаваў у 1944 годзе дзеянні Першага і Другога Беларускіх франтоў у ходзе аперацыі "Баграціён". У 1945 годзе ён, узначальваючы 1-ы Беларускі фронт, разам з Коневым, пад камандаваннем якога быў 1-ы Украінскі фронт, распрацаваў і правёў Вісла-Одэрскую аперацыю. А бацька служыў на 1-м Беларускім фронце, удзельнічаў у вызваленні Варшавы. І ўсе яго таварышы служылі на 1-м Беларускім фронце. Аўтарытэт Жукава ў іх быў велізарны. Ды што аўтарытэт, гэта была любоў радавых салдат да вялікага военачальніка, Маршала Перамогі. Бацька бачыў яго на фронце, ён часта бываў у войсках. Я памятаю, з якім захапленнем чытаў бацька яго мемуары "Воспоминания и размышления", якія выйшлі з друку ў 1969 годзе. Я не памятаю, каб бацьку куды запрашалі на Дзень Перамогі 9 мая, ці ўручалі які падарунак на гэтае свята. Проста да яго хто-небудзь з франтавых сяброў прыходзіў, і яны выпівалі за тых, хто не вярнуўся з той жудаснай вайны, за сваіх загінуўшых землякоў. Дзень Перамогі быў аб'яўлены нерабочым святочным днём толькі з 1965 года.

Перада мной ляжаць бацькавы дзённікі. Ён вёў іх кожны дзень. Запісваў, якое было надвор'е, тэмпературу паветра, куды хадзіў, што рабіў. А ён рабіў і рабіў. І так кожны дзень. Вось, напрыклад, 4 лістапада 1982 года тачыў з 9 да 6 гадзін вечара. Гэта ў калгаснай майстэрні. Вечарам ён рамантаваў дома сячкарню. Ці ўзяць 7 лістапада 1982 года. Гэта была нядзеля. Ён цэлы дзень насіў з хлява на гарышча ў хаце яблыкі, укрыў іх. А 11 лістапада 1982 года ён напісаў: "Сёння памёр Л. Брэжнеў". Я люблю чытаць яго дзённікі. Яго праца - гэта яго жыццё. Ён без работы не мог жыць.



# *Сяргей Чыгрын*

*Сяргей Чыгрын нарадзіўся 24 верасня 1958 года ў вёсцы Хадзявічы Слонімскага раёна. Скончыў тэатральнае аддзяленне Магілёўскага культасветвучылішча і філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Жыве ў Слоніме.*

*Выдаў зборнікі паэзіі "Шчырая Шчара" (1993), "Горад без цябе" (1999), "Лірыка" (2007), "Камень Міндоўга" (2009), кнігі гістарычна-краязнаўчых і літаратурных артыкулаў "Янка Купала і Слонімшчына" (1993), "Родам са Слонімшчыны" (2003), "Пакліканыя на родны парог" (2005), "Чамяры і чамяроўцы" (2006), "У пошуках слонімскіх скарбаў" (2007), "Беларуская Беласточчына" (2008), "З беластоцкай зямлі" (2008), "Тэатр у Слоніме" (2008), "Мастак Антон Карніцкі" (2009), "Жыў роднай песняй" (2010), "Альбярцін" (2011), "Такі іх лёс" (2012), "Па слядах Купалы і Коласа" (2012), "Слонімскія падмуркі" (2012), "Сярод сваіх людзей" (2012), "Краязнаўчымі сцежкамі Зэльвеншчыны" (2013), "Слонімскі буквар" (2013), "Легенды і паданні Слонімшчыны" (2013) "Іншых шляхоў не было" (2013), "Гісторыя Слоніма на старых фотаздымках і паштоўках" (2014), "Хочацца дахаты" (2014), "Слонім і ваколіца" (2014) "Шляхамі Беласточчыны" (2015), "Мора Віктара Шведа" (2015), "На радзіме Ігната Дварчаніна" (2016), "Гісторыя перыядычнага друку Слонімшчыны" (разам з Сяргеем Яршом, 2016), "Гістарычная мазаіка Слонімшчыны" (2019) і іншыя.*

*Уклаў і выдаў у Беластоку літаратурную спадчыну С. Грынкевіча, Ф. Грышкевіча, У. Казлоўшчыка ("Вяртанне да сваіх", 1999), а таксама гістарычныя нарысы Міколы Шкялёнка ("Беларусь і суседзі", 2003). Сабраў і выдаў літаратурную спадчыну Сяргея Хмары "Рабінавы хмель" (2009), Леаніда Трубача "Паміж песняй і болем" (2010), Юрыя Весялкоўскага "Я веру" (2009), кнігу артыкулаў "Музей у Гудзевічах" Алеся Белакоза (2012) і інш.*

*Узнагароджаны ганаровым знакам Беларускага фонду культуры “Руплівцу. Стваральніку” (2023). Лаўрэат лідскай літаратурнай прэміі імя Веры Навіцкай 2022 года.*

# "Надзея святая таёмна крадзецца…"

### *Да 115-годдзя паэта, драматурга, празаіка, выдаўца і грамадскага дзеяча Сяргея Новіка-Пеюна (1906-1994)*



**Бацькі Еўдакія Пятроўна і Міхаіл Сцяпанавіч Новікі з маленькім Сяргеем. Пачатак XX стагоддзя**

Нядаўна яшчэ раз перачытаў, пераглядзеў, успомніў мужнага, цярплівага, таленавітага і сціплага чалавека, пісьменніка Сяргея Міхайлавіча Новіка-Пеюна. Лісты Сяргей Міхайлавіч пісаў вялікія, шчырыя, сур'ёзныя. У пісьмах заўсёды мяне называў па-бацьку і на "вы", а пры сустрэчах - на "ты" і проста па імені. На лістах абавязкова ставіў тры пячаткі: адна была з адваротным адрасам, на другой было напісана *"Сяргей Міхайлавіч Новік-Пяюн, г. Менск"*, а на трэцяй - былі словы *"Сяргей Новік-Пяюн"*. Вось некалькі радкоў з яго пісем: *"25-га лістапада 1943 года па даносе правакатара мяне арыштавалі гестапаўцы і асудзілі на смерць за антыфашысцкую дзейнасць. Са слонімскага музея, дзе я працаваў і жыў, рабаўнікі пазабіралі ўсе мае рэчы і ў тым ліку маю мандаліну. Чакаючы смерці ў адзіночцы слонімскага астрогу, я стварыў песню "Мандалінaчка" і "запісаў" яе ў памяці…"* (з пісьма ад 18 жніўня 1988 года); *"Я некалькі разоў званіў у рэдакцыю тыднёвіка "Беларускае тэлебачанне і радыё", каб звярталіся да чытачоў па-беларуску "добры дзень", а не па-польску "дзень добры"! Па-беларуску спярша стаіць прыметнік, а пасля імя, а па-польску наадварот: спярша - імя, а пасля - прыметнік. А рэдакцыя, хоць абяцала выправіць памылку, працягвае далей яе друкаваць. Яшчэ пішуць "раніцой", хаця*

*па-беларуску трэба "раніцай". Ужываюць польскае слова "мажліва" замест беларускага "магчыма", "па крайняй меры" замест беларускага слова "прынамсі". Шмат памылак робяць і тыя, што выкладаюць на філфаку, псуюць беларускую мову..."* (з пісьма ад 20 лістапада 1988 года).



***Сяргей Новік, 1925 г.***



***Сяргей Новік, 1929 г.***

Сябраваў я з Сяргеем Міхайлавічам шмат гадоў. Ён часта наведваў Слонім, дзе жыла яго сястра, заходзіў да мяне ў рэдакцыю раённай газеты, дзе я працаваў. А калі я бываў у Менску - забягаў да яго ў маленькую аднапакаёўку на вуліцы Купрыянава. Пра што толькі ён мне не расказаў!.. Але найбольш любіў распавядаць пра Слонім, пра мастака Антона Карніцкага, 180 карцін якога вывезлі немцы ў Германію падчас Другой сусветнай вайны, пра гісторыка і краязнаўца Язэпа Стаброўскага, пра генерала Яўгена Леашэню і пра іншых землякоў. Часта паэт згадваў пра сустрэчу з Янкам Купалам у Слоніме ў 1939 годзе, калі пясняр вяртаўся з Беластока з народнага сходу. Тады Сяргей Новік-Пяюн працаваў у Слоніме інспектарам павятовага аддзела народнай асветы. 12 лістапада 1939 года да яго ў аддзел народнай асветы зайшоў чалавек, павітаўся, а пасля спытаў, дзе жыве Гальяш Леўчык. Сяргей Новік-Пяюн адразу пазнаў у госцю Янку Купалу. Яны разам паехалі ў хатку да Гальяша Леўчыка, там пагутарылі, а пасля машына, на якой прыехаў Янка Купала, прывезла іх у цэнтр горада. На развітанне Янка Купала ў блакноце Сяргея Новіка-Пеюна напісаў пару слоў: *"Міламу Сяргею Пеюну падчас сустрэчы ў*



***Сястра Кацярына Новік выходзіць замуж. Сядзіць другі злева Сяргей Новік-Пяюн, сядзіць другая справа яго жонка Людміла Новік, 1930-я гады***

*Слоніме. Янка Купала. 14.11.1939 г.".* Пра гэты выпадак Сяргей Міхайлавіч згадваў мне часта. Ён вельмі ганарыўся, што хоць раз у жыцці меў сустрэчу з песняром беларускага народа. Яшчэ ў 1938 годзе ў Слоніме Сяргей Новік-Пяюн разам са сваёй жонкаю Людмілай пачалі выдаваць на польскай мове (на беларускай мове польскія ўлады не дазволілі) "Газету Слонімскую". Гэта быў тыднёвік і выходзіў ён да верасня 1939 года…



***Сяргей Новік-Пяюн (крайні справа) з жонкай Людмілай, Марыя і Антон Лойкі (крайнія злева), Слонім, 1936 г.***

Аднойчы я пры-

ехаў да Сяргея Новіка-Пеюна ў Менск, а ён адчыняе дзверы ў лагернай куфайцы з нумарам на плячах. "Гэта мой сталінскі касцюм", - сказаў Сяргей Міхайлавіч. А пасля сеў на табурэтку і ціха заспяваў свае славутыя "Зорачкі":

*Дні праходзяць, дні адходзяць, дні лятуць,*
*Быццам рэк бурлівых хвалі ўдаль бягуць.*
*Трэці год як на выгнанні ў чужыне*
*Трэба мучыцца душой і сэрцам мне…*

З вачэй у паэта пакаціліся слёзы. Гэты выпадак памятаецца мне да сённяшніх дзён. Не верыцца, як змог выжыць Сяргей Новік-Пяюн у тых жыццёвых сітуацыях, у якіх ён бываў. Бо лёс яго не песціў. Пры Польшчы сядзеў у турме ў Баранавічах, у чэрвені 1941 года быў паранены, у 1943 годзе арыштаваны слонімскім СД і асуджаны да пакарання смерцю. У турме захварэў на тыф. Хворага паэта немцы кінулі ў канцлагер Калдычэва… 4 ліпеня 1944 года немцы вялі вязняў на расстрэл. Сярод усіх быў і беларускі паэт. У час расстрэлу яго паранілі. Прыкінуўся мёртвым, а пасля схаваўся ў бліжэйшым лесе. Так застаўся жыць. А калі 10 ліпеня 1944 года савецкія войскі вызвалілі Слонім, Сяргей Новік-




***Сяргей Новік-Пяюн у Якуціі, 1955 г.***

Пяюн пачаў працаваць тут дырэктарам мясцовага краязнаўчага музея. Але і гэта шчасце было нядоўгім. Вясною 1945 года без прад'яўлення яму ніякіх афіцыйных абвінавачванняў, паэт быў зноў арыштаваны органамі НКВД на 10 гадоў пазбаўлення волі. Этапам яго адправілі ў пасёлак Нэлькан у Якуцію:

*Плывуць дні за днямі, як шэрыя хвалі.*
*Нам сніцца радзімага неба блакіт.*
*Пад сопкай мы многа сяброў пахавалі.*
*Тут снег нашай цёплай крывёю заліт.*

*Праз краты нам свецяць паўночныя зоры,*
*Бы шлюць прывітанне ад роднай зямлі.*
*Сярэбраны месяц схаваўся за горы,*
*І чорныя цені вакол заляглі…*




***Аўтограф паэта са сталінскіх лагераў***

У Беларусь Сяргей Новік-Пяюн вярнуўся ажно ў 1959 годзе. За плячыма ўжо былі 53 пражытыя гады, але трэба было пачынаць усё спачатку. Яго рэабілітавалі, а ў якасці "кампенсацыі" за гады, праведзеныя без віны ў турме, яму выдзелілі аднапакаёвую кватэру ў пяціпавярховым доме ў Менску на вуліцы Купрыянава, 9 і датэрмінова прызначылі пенсію, залічыўшы год Калымы за два…

Сяргей Новік-Пяюн нарадзіўся ў вёсцы Лявонавічы Нясвіжскага раёна 27 жніўня 1906 года. Скончыў мясцовую рускую гімназію і беларускія настаўніцкія курсы ў Вільні. У 1926 годзе ў роднай вёсцы стварыў беларускі народны хор, які існуе да сённяшніх дзён. Як сказаў Алег Лойка ва ўступным слове да зборніка вершаў паэта "Заўсёды з песняй" (Мн., 1984. С. 4): *"Душа юнака рвалася да песень, а песню глушылі"*. Але заглушыць не змаглі. Бо паэт Сяргей Новік-Пяюн пісаў, спяваў і жыў. Жыў словам, песняй, любоўю да Бацькаўшчыны. Друкавацца ён пачаў ажно ў 1924 годзе ў заходнебеларускіх выданнях "Сын беларуса", "Студэнцкая думка", "Маланка", "Сялянская ніва", "Шлях моладзі", "Беларуская крыніца", "Заранка" і іншых. З друку асобнымі кніжкамі пачалі выходіць яго драматычныя і вершаваныя творы "Ёлка Дзеда Мароза" (Вільня, 1927), "Пакой у наймы" (Вільня, 1927), "Цудоўная ноч" (Вільня, 1927), "Прадка пад крыжам" (Вільня, 1939), "Заўсёды з песняй" (Мн., 1984), "Зорачкі ясныя" (Мн., 1986), "Песні з-за кратаў" (Мн., 1993). У сваіх паэтычных кнігах Сяргей Новік-Пяюн пісаў пра тое, пра што сам перажыў у астрогах, лагерах і ссылках. Паэтычныя радкі яго прасякнуты пяшчотай да Бацькаўшчыны, верай у заўтрашні дзень:



***Сяргей Новік-Пяюн пасля Якуціі***





***Сяргей Новік-Пяюн з сястрой Кацярынай і пляменнікамі, 1965 г.***

*Быць можа ў халоднай памру Калыме,*
*Сям'ю не пабачыўшы ў роднай больш хаце,*
*Я веру, мяне, песняра, ўспамяне*
*Не раз Беларусь - мая Маці.*

*Але ў маім сэрцы наяве і ў сне*
*Надзея святая таёмна крадзецца:*
*Да роднае Бацькаўшчыны, усё-ткі мне*
*Вярнуцца яшчэ давядзецца!*

У 1966 годзе Сяргей Новік-Пяюн наладзіў цесныя літаратурныя сувязі з беларускім тыднёвікам "Ніва" у Беластоку, якія працягваліся аж да самай смерці паэта (памёр у 1994 годзе). У студзені і ліпені гэтага года ён друкуе вершы для дзяцей "Дзед Мароз", "Вожык", "Верабейчыкі" і апавяданне "Цешка". Асабліва шмат паэтычных радкоў Сяргей Новік-Пяюн апублікаваў у "Ніве" ў 1980-х гадах. Найперш гэта былі вершы пра родную прыроду, лясных і хатніх жывёл, а таксама ўспаміны пра гісторыка Язэпа Стаброўскага, паэта Гальяша Леўчыка і пра Ядвісю - гераіню Якуба Коласа, якая жыла ў Слоніме.

***Сяргей Чыгрын.*** *Фота з архіва аўтара.*

# *Сяргей Чыгрын*

# "Сярэбраны месяц схаваўся за горы..."

Часта дастаю з паліц свайго хатняга архіва тэчку з прозвішчам паэта Сяргея Новіка-Пеюна (1906-1994). У ёй захоўваюцца пісьмы, здымкі, кніжкі, паштоўкі, вершы паэта. Нядаўна яшчэ раз усё перачытаў, пераглядзеў, успомніў гэтага мужнага, цярплівага, таленавітага, цікавага і сціплага чалавека. Лісты Сяргей Міхайлавіч пісаў розныя: і вялікія, і невялікія, але шчырыя і сур'ёзныя. У пісьмах заўсёды мяне называў пабацьку і на "Вы", а пры сустрэчах - на "Ты", ці проста па імені. На лістах абавязкова ставіў тры пячаткі: адна была з адваротным адрасам, на другой было напісана "Сяргей Міхайлавіч Новік-Пяюн, г. Мінск", а на трэцяй - прозвішча "Сяргей Новік-Пяюн".

Прапаную некалькі лістоў Сяргея Новіка-Пеюна, адрасаваныя мне ў канцы 1980-х гадоў і напачатку 1990-х. А таксама фотаздымкі, некаторыя з іх публікуюцца ўпершыню.

## Лісты Сяргея Новіка-Пеюна

*Мінск, 18 жніўня 1988 г.*

*Дарагі Сяргей Мікалаевіч!*

*25 лістапада 1943 года, па даносе правакатара, мяне арыштавалі гестапаўцы і асудзілі на смерць за антыфашысцкую дзейнасць. Са Слонімскага музея, дзе я пррацаваў і жыў, рабаўнікі пазабіралі ўсе мае рэчы і ў тым ліку маю мандаліну.*

*Чакаючы смерці ў адзіночцы слонімскага астрогу, я стварыў песню "Мандалінaчка" і "запісаў" яе ў памяці. Дасылаю Вам.*

*27 жніўня 1988 года мне ўжо спаўняецца 82 гады.*

*Сяргей Новік-Пяюн, паэт,*
*член Саюза пісьменнікаў СССР і БССР,*
*былы дырэктар Слонімскага*
*гістарычна-краязнаўчага музея.*

**Мандаліначка**

Ў Вільні на рыначку
На самай "Маслянай"
Дарма я працы колькі дзён шукаў, -
Адну карціначку
Я фарбай маслянай
На палатне тады намаляваў.
Не меў я грошыкаў.
Сваю карціначку
За грошы пану можнаму прадаў
І сорак злоцікаў,
О, мандаліначка,
У Вільні за цябе тады аддаў.
Ішоў я горкаю,
Ішоў далінаю,
Усцяж па свеце шчасця я шукаў,
І долю горкую
Я з мандалінаю
Ў супольнай песні часта забываў.
Амаль не згінуў я
З смяротнай ранаю,
Што "сябра" ў сэрца ўпотай мне задаў, -
А з мандалінаю,
Маёй каханаю,
Яшчэ сардэчней я пасябраваў.
Ў маю хаціначку,
Нават без словачка,
Ўвайшоў ціхутка хтось, нібы ліса,
І мандаліначку,
Маю  сябровачку,
Забраў, - а хто, не ведаю я сам.
Знайду мо згубу я.
Ў маёй хаціначцы
З сяброўкай зноў шчасліва зажывем.
З табою, любая,
О, мандаліначка,
Мы разам волі песню запяем.

* * *

*Мінск, 8 верасня 1988 г.*

*Дарагі Сяргей Мікалаевіч!*

*З майго асабістага архіва дасылаю вам наступныя 44 матэрыялы, звязаныя са Слонімшчынай.*

*Гэта толькі частка майго слонімскага архіва. А калі я падрыхтую яшчэ, то паведамлю Вам, дарагі Сяргей Мікалаевіч, каб прыехалі на машыне, бо пасылаць праз пошту нельга, бо шмат.*

*Успамін Яўгена Леашэні*[1] *пра Якуба Коласа варта было б надрукаваць у раённай газеце, бо невядома, ці хто чытаў гэтыя ўспаміны.*

*Вельмі Вас прашу, калі ласка. Прысылайце мне па некалькі экземпляраў тых нумароў, калі будуць надрукаваныя Вашыя і мае, а таксама цікавыя матэрыялы. Напішыце, ці спадабаліся Вам матэрыялы, якія я Вам дасылаю.*

*З сардэчным прывітаннем і пашанай -*
*Сяргей Новік-Пяюн.*

* * *

*Мінск, 20 лістапада 1988 г.*

*Добры дзень, дарагі Сяргей Мікалаевіч!*

*18 лістапада 1988 года тэлефонная сувязь перарывалася некалькі разоў і пагутарыць з Вамі не ўдалося. Добра, што я пачуў аб тэрміновай патрэбе маіх успамінаў пра мастака Антона Карніцкага*[2]*. Праз усю ноч я перапісваў гэтыя ўспаміны, раніцай адаслаў іх да Вас з 6 фотакопіямі карцін мастака і газетай "Звязда" з артыкулам Алеся Шлега*[3]*. Забыўся я напісаць, што раніцай 19 лістапада 1988 года я атрымаў Ваш ліст, за які шчыры дзякуй.*

*Калі будзеце друкаваць мае ўспаміны, калі ласка, нічога не выкрэслівайце, няхай усё будзе, як я напісаў. Шкада, што ў газетах друкуюць слова расійскае* ***"историко-краеведческий"*** *"гісторыка-…", лянуюцца глянуць у руска-беларускі слоўнік: историко - гістарычна-краязнаўчы.*

*У Рышчыцах, былой слонімскай вёсцы, а зараз у Слоніме, ёсць мураваны дом аднапавярховы з чырвонай цэглы. А ў суседнім з ім доме жывуць грамадзяне з прозвішчам Залажук, якія былі суседзямі Антона Карніцкага. І яны маглі б расказаць пра яго і паказаць ягоную магілу на Ружанскіх могілках. Калі б Вам удалося б адшукаць каго-*

*небудзь з Залажукоў і даведацца, дзе ягоная магіла, калі ласка, паведамце мне, буду Вам шчыра ўдзячны. Калі надрукуеце матэрыял пра Антона Карніцкага, вельмі прашу прыслаць мне 10 экзем-пляраў газеты. У рэдакцыі столькі не будзе, дык, калі ласка, купіце ў кіёску, я грошы Вам прышлю.*

*Я некалькі разоў тэлефанаваў у рэдакцыю тыднёвіка "Беларускае тэлебачанне і радыё", каб звярталіся да чытачоў па-беларуску: добры дзень. А не па-польску: дзень добры. Па-беларуску спярша стаіць прыметнік, а пасля імя, а па-польску на-адварот: спярша - імя, а пасля - прыметнік. А рэдакцыя, хоць абяцала выправіць памылку, працягвае далей яе друкаваць. Яшчэ пішуць: раніц**о**й, хаця па-беларуску трэба: раніц**а**й. Ужываюць польскае слова "мажліва" замест беларускага слова "магчыма", "па крайняй меры", замест беларускага "прынамсі". Шмат памылак робяць і тыя, што выкладаюць на філфаку, псуюць беларускую мову.*

*Дарагі Сяргей Мікалаевіч! Бяда з маімі вачыма - з кожным днём горш, асабліва з правым вокам. Давядзецца, мабыць, трапіць у клініку.*

*Калі рэдакцыя Слонімскай райгазеты пераедзе ў новае памяшканне? Перадавайце, калі ласка, маё прывітанне паважаным Марыі Уладзіміраўне Данюк - адказнаму сакратару і Сяргею Аляксандравічу Прасняку - рэдактару. Матэрыялы да Вас дасылаю ў двух канвертах, каб не былі лісты надта цяжкія.*

*З сардэчным прывітаннем,*
*глыбокай пашанай і ўдзячнасцю -*
*Сяргей Новік-Пяюн.*

* * *

*Мінск, 29 лістапада 1988 года*

*Глыбокапаважаны Сяргей Мікалаевіч!*

*Дасылаю Вам свой фотаздымак. Гэтак я выглядаў у верасні 1939 года, калі Чырвоная Армія 17 верасня вызваліла мяне з Баранавіцкай турмы. Гэткім я сустрэў у Слоніме 14 лістапада 1939 года народнага паэта Беларусі Янку Купалу, з якім наведаў паэта Гальяша Леўчыка[4]. Ад Гальяша Леўчыка мы паехалі ў "Першы беларускі рэстаран", які знаходзіўся тады ў будынку цяперашняга Слонімскага райвыканкама.*

*У хуткім часе нам падалі абед. Глянуўшы на мой бледны твар, Янка Купала спачувальна сказаў: "Ой, Сяргей, Сяргей, і благі ж ты!*

*Вось што зрабілі з табою паны!.. Фатаграфію сваю маеш?".*

*"Маю!" - адказаў я.*

*"Падпішы мне", - папрасіў Янка Купала.*

*Сваю фатаграфію, копію якой Вам дасылаю, я падпісаў так:* ***"Дарагому, любімаму народнаму паэту Беларусі Янку Купалу на шчыры ўспамін. Удзячны Сяргей Новік (Сяргей Пяюн). Слонім. 14.11.1939 г.".***



***Такі здымак Сяргей Новік-Пяюн падараваў Янку Купалу ў 1939 годзе***

У маім блакноце Янка Купала напісаў: ***"Міламу Сяргею Пяюну падчас сустрэчы ў Слоніме. Янка Купала. 14.11.1939 г.".***

Расказвала мне Марыя Канстанцінаўна Хайноўская[5], што, калі Янка Купала ўвечары 14 лістапада 1939 года вярнуўся са Слоніма ў Мінск, паклаў на стол Вашу фатаграфію і кніжкі і сказаў: "Цікавага хлопца я сустрэў у Слоніме".

Дарэчы, мае ўспаміны пра Янку Купалу былі апублікаваны ў кнізе "Народны паэт Беларусі" (Мінск, 1962).

*Усяго Вам найлепшага!*
*З сардэчным прывітаннем і пашанай -*
*Сяргей Новік-Пяюн.*

* * *

*Мінск, 1 снежня 1988 г.*

*Дарагі Сяргей Мікалаевіч!*

*Пасылаю Вам газету з партрэтам Антона Валынчыка і артыкул пра яго.*

*Тэлефанаваў 28 і 29 лістапада 1988 года, але Вас не было. Сёння, 1 снежня, еду да прафесара, відаць, будуць рабіць аперацыю вачэй.*

*Прывітанне ўсім.*

*З сардэчным паклонам - Сяргей Новік-Пяюн.*

* * *

*Нядзеля, 15 студзеня 1989 г.*

*Добры дзень, глыбокапаважаны, дарагі Сяргей Мікалаевіч!*

*Як я Вам ужо казаў, сёння а гадзін 23.07. маю паехаць у Маскву па накіраванні Міністэрства аховы здароўя БССР і Саюза пісьменнікаў БССР у Інстытут вочных захворванняў, магчыма будзе аперацыя на маім правым воку.*

*Вашых лістоў я пакуль не атрымаў. Калі будзеце друкаваць нарыс Яраслава Пархуты*[7]*, калі ласка, прышліце мне некалькі асобнікаў газеты.*

*Не ведаю, як надоўга я затрымаюся ў Маскве, а калі вярнуся - паведамлю Вам.*

*З сардэчным прывітаннем,*
*глыбокай пашанай і ўдзячнасцю -*
*Сяргей Новік-Пяюн.*

* * *

*Мінск, 1 снежня 1989 г.*

*Глыбокапаважаны і дарагі Сяргей Мікалаевіч!*

*Дасылаю Вам вальс "Краска шчасця" і ноты. Гэты вальс я стварыў і "запісаў" у памяці (не было ані алавіка, ані паперы) 25 чэрвеня 1945 года на станцыі Курган у вагоне НКУС на этапе на катаргу на Калыму.*

**Краска шчасця**
***Вальс***

*Музыка і верш Сяргея Новіка-Пеюна*

1.

Кажуць: на Купалле
У глухім бары
Краскаю караляў
Папараць гарыць.
Ды дарма шукаюць
Людзі краску-чар,
Сіл знайсці не маюць -
Сцяражэ вядзьмар.

А я шчасця краску
Ў лесе не шукаў,
Бо яе як ласку,
Добры лёс мне даў.
Стаўся з той часіны
Ў міг шчаслівым я
Праз цябе, дзяўчына,
Любая мая!
Любая - мне неба дар!
Любая - душы няктар!
Любая - кахання жар!
Любая - мой скарб!

2.

Не шукайце краску
Папараць дарма,
Яна толькі ў казках,
Сапраўды ж няма!
Добра разглядайцесь
Ля сябе наўкруг,
Ды згадаць старайцесь,
Хто ваш шчыры друг!
Не дае багацця
Папараці чар -
Шчырае ж каханне
Найвялікшы скарб!
Золата, хоць вабіць,
К шчасцю не вядзе,
Верны ж друг не здрадзіць,
Нават, у бядзе.
Любая - мне неба дар!
Любая - душы няктар!
Любая - кахання жар!
Любая - мой скарб!

* * *

*Мінск, 5 снежня 1989 г.*
*Глыбокапаважаны і дарагі Сяргей Мікалаевіч!*

*Дасылаю Вам на шчыры ўспамін мае "Зорачкі" і ноты. Яны былі напісаны ў горадзе Свеце над Віслай у Польшчы ў 1929 годзе падчас польскай ссылкі.*




***Сяргей Новік-Пяюн***

**Зорачкі**

Дні прыходзяць, дні адходзяць, дні лятуць,
Быццам рэк бурлівых хвалі ўдаль плывуць.
Трэці год як на выгнанні ў чужыне
Трэба мучыцца душой і сэрцам мне.
Навакол нідзе не ўгледзіш родных хат,
Не працягне рук зычліва родны брат,
Не падзеліш нават думак з нікім тут,
Не прыгорне ў адзіноцтве родны кут.
Ўночы зорачкі прыветліва мігцяць,
Быццам з неба на мяне яны глядзяць…
Што чуваць, скажыце, зорачкі, вы мне
Ў маёй роднай - ды далёкай - старане?
Ці татулька мой і матанька ўжо спяць?
Ці таксама на іх зорачкі глядзяць?..

Мо й яны пытаюць зорак аба мне,
Што раблю цяпер ў далёкай чужыне? -
Калі толькі яны, родныя, не спяць,
Калі йшчэ цяпер на зорачкі глядзяць,
Занясеце ім, пакуль не бліснуў свет,
Зоркі мілыя, сыноўскі мой прывет!
І скажэце, каб не плакаў ні адзін,
Што ў выгнанні мусіць мучыцца іх сын!
Прыйдзе, прыйдзе да нас хутка ясны май,
Прыляту тады, як птушка, ў родны край.
З новай верай, з новай сілай зажывём,
Беларускі гімн свой родны запяём,
Беларускай песні роднае пад тон
Заарэм мы і засеем свой загон.
Ўночы будзем мы на зоркі паглядаць
Што, як сёння, будуць ў небе зіхатаць… -
Занясеце ж вы, пакуль не бліснуў свет,
Зоркі мілыя, бацькам маім прывет!



**Песня аб Нясвіжы**
***Музыка і вершы Сяргея Новіка-Пяюна***

*Майму роднаму гораду прысвячаю*

Шумяць нада мной залацістыя клёны,
Пажоўклыя кружаць лісты над зямлёй,
Успомніў я блізкія сэрцу імёны,
І дні, што прайшлі на радзіме маёй.

Іду я паволі алеяй прыгожай,
У парку старым палымнее ўсход,
На возеры ветрык ваду ледзь трывожа,
Паціху шапоча аб нечым чарот.

Блукаў я па свеце, бо лёс так прымусіў,
Нямала чужых перамераў дарог, -
А ўсё ж да цябе, мой Нясвіж, я вярнуўся,
Прыйшоў на твой ціхі, гасцінны парог.

Знікаюць сляды ран, заданых вайною,
На пустках тваіх вырастаюць сады.
О, родны Нясвіж, ганаруся табою,
Мой горад стары і такі малады!

Шумяць нада мной залацістыя клёны,
Шнуром жураўлі падняліся ўвыш
Мне хочацца славіць Радзіму натхнёна
І песню спяваць аб табе, мой Нясвіж!

* * *

*Мінск, 27 лістапада 1991 г.*

*Добры дзень, Сяргей Мікалаевіч!*

*Ад 1989 года дагэтуль я з'яўляюся сталым наведвальнікам лякарняў. Лечаць мне вочы, якія мне сапсавалі гестапаўцы падчас вайны. Вось і сёння я толькі што вярнуўся з лякарні, адкуль мяне адпусцілі на некалькі тыдняў. У лякарню мне прынеслі Ваш ліст, у*

*якім Вы пішаце, што да майго 85-годдзя напішаце нарыс. Дзякуй! Калі ласка, прышліце мне тры экземпляры "Слонімскага весніка" з вашым нарысам пра мяне.*

*Да 85-годдзя пра мяне надрукавалі матэрыялы "ЛіМ", "Чырвоная змена", "Наша слова", "Народная газета", "Пінскі веснік", "Чырвоны сцяг" (Нясвіж). Не ведаю, ці прачытаеце Вы мой ліст, бо пішу наўздагон.*

*З прывітаннем -*
*Сяргей Новік-Пяюн.*



***Сяргей Новік-Пяюн у апошнія гады жыцця***

---

[1] Яўген Леашэня (1900-1981) - генерал-лейтэнант інжынерных войск, краязнавец.

[2] Антон Карніцкі (1912-1944) - слонімскі мастак.

[3] Алесь Шлег (1936-1998) - беларускі пісьменнік, журналіст, публіцыст.

[4] Гальяш Леўчык (1880-1944) - беларускі паэт, калекцыянер, мастак, перакладчык.

[5] Марыя Хайноўская (1903-?) - загадчыца бібліятэкі Саюза пісьменнікаў БССР.

[6] Антон Валынчык (1896-1985) - беларускі кампазітар, харавы дырыжор, педагог, заслужаны работнік культуры Беларусі.

[7] Ярослаў Пархута (1930-1996) - беларускі пісьменнік.

# Памяці Алеся Стадуба



8 чэрвеня 2020 года пасля доўгай хваробы пайшоў у Нябесную Беларусь сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў, паэт **Алесь Стадуб**.

Стадуб Алесь (Аляксандр Дзям'янавіч) нарадзіўся 24.04. 1938 г. у в. Юшавічы Нясвіжскага раёна Менскай вобл. Скончыў 10 класаў у Нясвіжы. Пасля службы ў войску закончыў Усесаюзны інстытут імя Крупскай (музыка, клас гармоніі). Узначальваў маладзёжны хор у Яраслаўлі. Там закончыў філфак педінстытута. Выкладаў у школе, працаваў у мясцовых газетах. У 1972 г. пераехаў у Ліду, дзе быў намеснікам старшыні таварыства «Веды». Друкаваўся ў абласных і рэспубліканскіх выданнях. Аўтар звыш 10 кніг: “Тваё вочы”, “Вузел (трыялеты)”, “Споведзь натхненнем”, “Летапіс пачуццяў”, “Калінавыя гроны”, “Шэпты крыл”,“Сюжэт на фоне адвячорку”, “Водгук ісціны”, “Скрыжалі”, “Мільянерка” і інш.

Сябар СБП з 2007 года.

Пахаваны ў Лідзе.

***Алесь Стадуб***

**ЮШАВІЧЫ**

Раслі ў бяссмерце Юшавічы,
Але ўсё ж век свой аджылі.
Раслі тут Коласы, да Вінчы,
Свае гісторыі былі.

Няма ў паміне сельсавета
І школы, крылаў ветракоў.
Няўмольны час закрэсліў гэта
І крумкачоў-бальшавікоў.

Спакусы ў сад чужы вадзілі,
Спакусны сад, хоць і не рай.
А дзе ж сяброў цяпер магілы?
Яны даўней лілі праз край.

Дамашнія малых не лічаць,
А што лічыць, калі адно.
Бацькі мяне нястомна клічуць:
“Прыедзь. Наведваў нас даўно”.

**ЗАСТОЛЛЕ**

Зязюля тут гадоў не лічыць
Між жытоў, паміж аўсоў,

Праз Слаўкава і Ракавічы -
Дарога хуткай паласой.
Мяне тут добрым днём вітаюць,
Не па прывычцы - ад душы.
Пра кніжку новую спытаюць,
Як сам свае гады гартаю,
Аўтограф, просяць, напішы.
Былыя дзеўкі ў добрым целе,
Іх дзеці ўспелі ў людзі ўжо:
Хто за рулём, хто за мяжой,
Хто хваліцца: маладажон,
Хто прадпрымальнікам
крунеліць.
Усе свае, як сосны ў лесе,
Усе, як у бары дубы, -
Сцяпанавы і Стадубы,
І Кавалёвы, і Алесіны -
Радня ўся і не абы.
Умеюць тут пабаяць казку.
Галоўнае - яе пачаць.
Пра старшыню, пра ізбача,
Успомняць, як на Багача
Набраліся ўсе пад завязку.
Пахваляцца пра ўраджаі,
Нібы ў грашавіты час.
Наскардзяцца, што сёння джаліць,
Хоць і на джалы не зважаюць,
Цярпення маючы запас.
Пасля на моцны стол паклічуць,
Ва ўсіх, што трэба, пачуццё,
Дух маладосці ўзвялічаць.
Зязюля хай гадоў не лічыць -
Усё наперадзе жыццё.

## НЕМАГЧЫМА

Падлетак шукаў ідэал:
Краіну? Паехаць? Біць лынды?
Пытанняў нахлынуўся вал,
І ён да мужчыны з-пад Ліды:
- Парайце вы мне, чалавек!
І той адказаў:
- Эй, хлапчына,
Без нас Беларусь пражыве,
Ды нам без яе немагчыма!

## ДУБ

Ля акна я студжу кіпень-чай,
Хай астыне мой чай нетаропкі,
Паглядаю на дуб неўзначай,
Жалуды ля ствала, нібы кропкі.

У юнацтве яго вецер гнуў,
Ды і бура заўжды нахіляла,
Ён маланкі прыцэл абмінуў,
Калі тая ад хмары страляла.

На дварэ ўсё дажджыць
і дажджыць,
Лістапад гоніць мокрыя хмары,
Гэты дуб можа нас пераджыць:
Мае вершы і вашыя мары.

## СПАКУСЫ

Раздумваю на рубяжы
Дабра і зла, святла і ценяў.
Мяне, анёл мой, сцеражы
Ад памылковых летуценняў.

Спакуслівa і ўмець, і мець,
І мару ў сутнасць перайначыць.
Прашу, набытаму ўзамен
Дай пару крыл скупой удачы.

Так хочацца разгон набраць,
Так вабіць новая арбіта.
На рубяжы дабра і зла
Дарога ў вечнасць зноў адкрыта.

*  *  *

Шукалі мы сябе
Уброд.
Пашкодзіла нязгода.
“Не наракаю на народ,
Які не стаў народам”.

Ды гэта не мае радкі -
Алеся Пісьмянкова.
Да нашых дзён
Ён не глухі,
А мо сказаў да слова?

Абразіў вартых “смельчакоў”,
Змаўчала крыўда нацыі.
Няўжо сур’ёзна?
Між вякоў
Людзьмі ці будзем звацца?

На подзвіг кожны не гатоў.
Гатоў мо выпадковы.
Сказала Праўда:
- Вы ніхто
Без гонару,
Без мовы.

*  *  *

Баліць душа нячуццем Бога.
Як перайсці б у веры стан?
Гадоў мінулых чэрствы бохан
Мне муляць горб не перастаў.
Зліняе скроняў ціхі верас,
І гляне ўпарта ў твар зіма;
Падкажа мне шматтэмны вечар:
Для ходу ўдаль дарог няма.
Калі жыцця даспее яблык,
Калі надыдзе мне пара,
Рашаць дваім - Яму і д'яблу,
Каму з іх рукі паціраць.
Каму дастанецца нятленне,
Калі закончыцца імша...
А мо не вечнае насенне -
Так званая, мая душа?

## ЭПІТАФІЯ

Адстаўкі,
Баюся трагічнай адстаўкі,
Ад мовы гаючай,
Ад дачы,
Ад кніг.
У "лодцы" апошняй падымуць
З падстаўкі;
Мне ў вочы б зірнуць беларусам
На міг.
На міг паглядзець маладым
І нямоглым,
Хто край павядзе
У святла далячынь.
Натоўп са спагадай пакіне
На могілках.
Мой ложак настрашыць кагосьці
Ў начы.
Баюся адстаўкі
Ад клопатаў дзённых,
Не ўсё пераганіў,
Не ўсё дахваліў.
Я рад:
Эстафеце ідэй непакорных
Бяссмертна ісці
Па радзімай зямлі.
Наўкола прастор разрывае
Зяленіва,
Гадзіннік
У збытнасць хвіліны жане.
Нятленныя думкі,
І дух мой нятленны,
Пакуль новы час не зацэніць
Мяне.

## ЗМЕСТ



**Кніга**. *Малая скульптурная форма перад Нясвіжскай раённай бібліятэкай імя Паўлюка Пранузы*